# ДАЛЁКА НА ПОЎНАЧЫ

## ПРЫЛЯЦЕЛІ

Вось мы нарэшце на магаданскім аэрадроме. Гэта наш апошні прыпынак.

Цяпер ужо хутка, вельмі хутка мы будзем у таты! Як даўно мы не бачыліся з ім: цэлыя тры гады! Ён паехаў на Поўнач, калі я толькі збіраўся пайсці ў школу.

Самалёт наш задрыжаў, шпарка пабег па зямлі, адарваўся ад яе і пачаў узнімацца ў неба.

Я гляджу ў акно. Пад намі ў сонечных праменнях праплывае горад Магадан. Гэты горад, што раскінуўся на ўзбярэжжы Ахоцкага мора, зусім яшчэ малады: ён пачаў будавацца пасля Вялікага Кастрычніка.

Адсюль, зверху, горад выглядае нібы цацачны: такое ўсё маленькае.

Хутка дамы застаюцца недзе далёка ззаду, і наш самалёт пачынае набіраць вышыню.

Калі казаць праўду, дык наша паветранае падарожжа цікавіла мяне ўжо менш, чым у першыя дні. Самалёт наш я вывучыў дэталёва; у акно глядзець надакучыла, бо зямля згубілася недзе вельмі далёка і на ёй цяжка што-небудзь убачыць.

Згуляўшы з мамай некалькі партый у даміно, я зручней усеўся ў мяккім крэсле і задрамаў.

Калі прачнуўся, дык заўважыў, што мы ляцім ужо над белымі шапкамі сопак, над бясконцымі снегавымі прасторамі.

— Хутка і Чукотка,— сказаў адзін з нашых спадарожнікаў, які сеў у Магадане і, відаць, ужо не ўпершыню ляцеў гэтым маршрутам.

— Нават не верыцца! — сказала мама.— Толькі тры дні, як мы развіталіся з Масквой, а ўжо апынуліся аж на Чукотцы.

І сапраўды! Ці ж даўно я сказаў «да пабачэння!» сваёй школе, сябрам, настаўнікам — і мы ўжо далёка на Поўначы. А ўсё самалёт! І прыдумалі ж людзі такую цудоўную машыну!

— Вам пашанцавала,— абазваўся зноў наш сусед.— А я вось два тыдні ў Магадане сядзеў. То Чукотка не прымае, то ў Магадане нялётнае надвор'е.

— Нам трэба толькі лётнае надвор'е,— ласкава пазіраючы на мяне, гаворыць мама.— Мы спяшаемся ў школу.

— Прызямляемся! — абвяшчаю я, адчуўшы ўжо знаёмае мне за час палёту ўражанне, калі ўвесь раптам нібы адрываешся ад падлогі і падаешся ўверх.

Лёгкі штуршок...

— Вось і прыляцелі! — узрадавана гаворыць мама, і мы ідзём да выхада.

Нарэшце зямля! Бегай, хадзі па ёй, колькі хочаш.

На аэрадроме гарэлі кастры, стаяла многа самалётаў. Да нашага самалёта спяшаліся людзі. І хоць было цемнавата, я адразу пазнаў сярод іх свайго тату. Ён бег наперадзе ўсіх. Падбегшы да самалёта, тата працягнуў да мяне рукі, і я кінуўся ў абдымкі.

— Татачка, дарагі мой, гэта ты?

— Я, Славачка, я! — усміхаючыся і тулячы мяне да грудзей, казаў ён.

Апусціўшы мяне на зямлю, тата дапамог сысці маме. Калі яны віталіся, у мамы на вачах чамусьці блішчалі слёзы. Зняўшы чамаданы і пакункі, мы ўсе накіраваліся да машыны, якая стаяла непадалёк ад самалёта. На ёй мы прыехалі ў пасёлак, дзе жыў тата.

Памыўшыся, мы з вялікай прыемнасцю селі за стол. Тут было шмат смачных страў, а я, сказаць праўду, моцна прагаладаўся. Калі на стале з'явіліся мае любімыя калдуны, я быў у захапленні. А калі тата сказаў, што яны зроблены з аленевага мяса, калдуны здаліся мне яшчэ смачнейшымі. Тата нам прапанаваў пакаштаваць струганіну. Струганіна — гэта дробна наструганая мёрзлая сырая рыба або аленіна, прыпраўленая соллю і перцам. Яе на Поўначы ядуць для таго, каб не захварэць цынгой. Мне гэтая страва не вельмі спадабалася, але я ў гэтым не прызнаўся.

Мама расказвала тату, як мы падарожнічалі, як спяшаліся да яго на Чукотку.

— Заўтра Новы год. Як добра, што мы будзем сустракаць яго разам!

Тата з мамай яшчэ доўга гаварылі, а я, прымасціўшыся каля іх на канапе, заснуў.

## ЁЛКА

Раніцай я прачнуўся і ўсё чакаў, калі развіднее. А дня ўсё не было, хоць стрэлкі гадзінніка ўжо сышліся на дванаццаці.

— Чаму ўсё яшчэ цёмна? Калі ж будзе дзень? — запытаў я ў таты.

— Узімку на Чукотцы дня не бывае, сынок.

Я ўспомніў, што чытаў пра гэта ў кніжцы, але ўсё адно здзівіўся.

Мы паснедалі, і тата сказаў, што пойдзе па ёлку. Мама пачала прыбіраць у пакоі, а я маляваў каляровымі алоўкамі самалёт і нашага лётчыка з залатой зорачкай і ордэнамі на грудзях.

Хутка вярнуўся тата і прынёс ёлку. Такой ёлкі я ніколі не бачыў. Яна была зроблена з фанеры і пафарбавана ў зялёны колер. Я здзіўлена запытаў:

— А чаму ты не купіў сапраўдную ёлку?

Тата сказаў, што на Чукотцы няма не толькі дрэў, але нават кустоў.

— У нас вельмі холадна, і зямля заўсёды мёрзлая,— сказаў тата.— Дрэвы на лёдзе расці не могуць. Ды і вятры тут такія моцныя, што ніводнае дрэва не ўстаіць супроць іх. Вось сам убачыш, якія ў нас вятры.

Мы дасталі скрынку з ёлачнымі цацкамі, цукеркі, пячэнне, вату, «сняжок» і пачалі ўпрыгожваць сваю незвычайную ёлку.

Фанерныя галіны, каб яны былі падобны да яловых, мы абклеілі махрамі, зробленымі з зялёнай паперы.

Калі мы прыбралі ёлку ў навагодні ўбор і паставілі ў кутку на тумбачцы, у пакоі зрабілася па-святочнаму ўтульна і весела.

— Ну, як вам падабаецца наша чукоцкая ёлка? — запытаў тата, усміхаючыся.

— Прыгожая ёлачка! — адказала мама.

Я быў згодны з ёй.

Потым мы сустракалі Новы год.

— У нас, на Чукотцы, Новы год ужо настаў,— сказаў тата,— а ў Маскве яго будуць сустракаць праз дзевяць гадзін. У дзевяць гадзін раніцы мы прывітаем яго зноў разам з усёй нашай Радзімай, з Масквой. А потым пойдзем на ёлку ў школу.

## У ШКОЛЕ

Калі я на другі дзень прачнуўся, дык адразу ж пачаў хутчэй мыцца і апранацца. Я баяўся, каб не спазніцца ў школу на ёлку. І ўсё прыспешваў тату і маму.

Мне здавалася, што час ідзе вельмі марудна. Я часта паглядаў на гадзіннік і не мог дачакацца, калі гэта будзе адзінаццаць і мы пойдзем у школу.

Нарэшце мы выйшлі з дому. Было цемнавата. Месцамі па баках тратуара стаялі высачэзныя снегавыя сцены. Моцныя

чукоцкія вятры наносяць цэлыя горы снегу, у якіх прыходзіцца капаць калідоры. Тата сказаў, што гэтыя вятры называюцца «южакамі», таму што дзьмуць з паўднёвага боку.

У школе таксама стаяла фанерная ёлка, такая, як і наша, толькі яна была значна большая. Хутка прыйшоў і Дзед Мароз. Ён раздаваў дзецям падарункі. Было вельмі весела. Дзеці спявалі, смяяліся, танцавалі, бегалі.

Я заўважыў, што тут многа хлопчыкаў і дзяўчынак, вельмі падобных паміж сабой. У іх ва ўсіх былі шырокія твары, вузкія чорныя вочы і чорныя, чорныя валасы. Я запытаў у таты:

— Тата, гэта ўсё браты і сёстры?

Тата ў адказ засмяяўся:

— Не, Слава. Гэта чукчы, карэнныя жыхары нашай Чукоткі. Іх бацькі жывуць далёка ад пасёлка, у тундры, а дзеці жывуць тут, у інтэрнаце, і вучацца ў школе.

Сярод дзяцей-чукчаў мне асабліва спадабаўся адзін хлопчык. Ён быў вельмі жвавы, рухавы. Звалі яго Тынэлькут. Даведаўшыся, што я нядаўна прыехаў з Масквы, ён смела падышоў да мяне і пачаў распытваць пра метро, пра Крэмль, пра Маўзалей і пра многае іншае. Вучыўся ён у трэцім класе.

— Зімой я вучуся ў школе, а ў час канікул хаджу з бацькам на паляванне,— расказваў Тынэлькут.

«Ого! — падумаў я.— Такі малы, а ўжо паляўнічы!»

— Прыходзь хутчэй у школу! Будзем сябраваць з табой. У нас тут вельмі цікава,— сказаў ён мне на развітанне.

## ВАДУ ПРЫВЕЗЛІ

У дзверы зазірнула жанчына, якая жыла ў суседнім з намі пакоі, і сказала:

— Ваду прывезлі!

Мама хутчэй узяла вядро і пабегла. Па калідоры беглі і другія жанчыны. У некаторых з іх у руках былі кошыкі, міскі. А дзядзька Фёдар, які з раніцы да вечара паліў на кухні

ў вялізнай пліце і прыбіраў калідор, пабег па ваду з мехам.

Я вельмі здзівіўся: чаму бягуць па ваду з кошыкамі, мяхамі, і кінуўся глядзець, якая там вада. Выбегшы на ганак, я ўбачыў, што ля кацельнай, побач з нашым домам, стаіць грузавік, а з яго скідаюць лёд. Усе жанчыны, і мама, і дзядзька Фёдар пачалі насіць гэты празрысты лёд у вялізныя жалезныя бочкі, якія стаялі тут жа на кухні, ля пліты.

— Чаму лёд, а не вада? — запытаў я ў дзядзькі Фёдара.

— Прэсная вада ў нашым пасёлку ёсць толькі ў возеры, а яно прамярзае да самага дна, вось і прыходзіцца лёд калоць, а пасля з лёду рабіць ваду,— адказаў ён.

Цяпер я зразумеў, чаму ля кацельнай, ля бальніцы, ля лазні, ля сталовай ляжыць так многа лёду.

— Гэта наша чукоцкая вадзіца. Добрая, чыстая вадзіца! Тут ужо ніякіх табе мікробаў няма! Усе павымярзалі,— кажа дзядзька Фёдар, высыпаючы лёд з меха ў жалезную бочку.

## ТАТА

На узбярэжжы мора, скаванага моцным лёдам, стаіць бальніца.

Тут працуе мой тата. Ён хірург і галоўны ўрач бальніцы.

— Чаму ты паехаў працаваць так далёка на Поўнач? — запытаўся я неяк у таты.

Вось што ён мне адказаў:

— Юнаком я заўсёды марыў аб далёкіх падарожжах, аб невядомых краінах. І калі пасля заканчэння інстытута мне прапанавалі паехаць на Чукотку, я з радасцю згадзіўся і прыехаў вось сюды, дзе цяпер стаіць наш вялікі пасёлак.

— А тады хіба яго не было тут?

— Ды не! На месцы пасёлка стаяла некалькі палатак, у якіх жылі людзі, што прыехалі сюды з розных канцоў Радзімы, каб будаваць новую Чукотку. Каго толькі тут не было: настаўнікі, урачы, геолагі, будаўнікі, шафёры, механікі — адным словам, людзі самых розных прафесій.

Мне было вельмі цікава слухаць тату.

— У адной з такіх палатак арганізавалі тады амбулаторыю, у якой я і пачаў працаваць. Пасля прывезлі сюды гатовыя дамы, будаўнічыя матэрыялы, і пачалося будаўніцтва нашага пасёлка. Пабудавалі і бальніцу. І вось стаіць яна, светлая, прыгожая, а хворых няма. Не хацелі чукчы ісці лячыцца да ўрача, баяліся яго.

— А чаму баяліся? — здзівіўся я.

— Раней яны былі вельмі цёмныя. Усё новае іх страшэнна палохала. Самалёт, машына, радыё, лазня — усё ім здавалася справай злых духаў. Ды, акрамя таго, чукоцкія кулакі і шаманы навучалі іх не верыць рускім, не сябраваць з імі.

— І чукчы слухалі гэтых людзей?

— Спачатку слухалі, але з часам пачалі пераконвацца, што памыляюцца. Яны ўбачылі, што рускія людзі жадаюць ім толькі дабра, што яны дапамагаюць чукчам будаваць лепшае жыццё.

— І тады яны пачалі прыходзіць да цябе ў бальніцу?

— Ну, вядома. Спачатку прыходзілі больш смелыя, а пасля, пераканаўшыся ў тым, што бальніца пабудавана для іх карысці, да нас пачалі ісці не толькі хворыя, але і цікаўныя. Іх вельмі здзіўляла тое, што ўрачы не бралі ў хворых платы, у той час, як чукоцкія шаманы абіралі іх страшэнна, гаворачы людзям, што чым большая плата, тым лепшымі будуць вынікі замоў.

— Вось ашуканцы! — з абурэннем усклікнуў я.

— Аднойчы ўвосень,— расказваў далей тата,— чукча-аленявод з далёкага стойбішча прыгнаў мне цэлы статак аленяў, каб аддзякаваць за лячэнне свайго ўнука. Калі я пачаў адмаўляцца ад платы і тлумачыць, што за работу мне плоціць дзяржава, стары і слухаць мяне не хацеў. Скончылася ўсё гэта тым, што мне прыйшлося, каб не пакрыўдзіць старога, адправіць некалькі аленяў на кухню бальніцы, а рэшту прымусіць гнаць назад у тундру...

Тата праводзіў у бальніцы ўсе дні, а часамі хадзіў туды

і ноччу, каб даведацца, як адчувае сябе хворы пасля аперацыі.

Чукчы вельмі паважалі бацьку, глядзелі на яго, як на свайго лепшага сябра. Тата часта выязджаў у далёкія стойбішчы, аглядаў там хворых, вучыў чукчаў жыць у чыстаце, не верыць у забабоны.

Тата мой не толькі ўрач, але і мастак. У вольны ад работы час ён малюе. Я вельмі люблю сядзець тады побач з ім і назіраць за яго работай.

Малюючы, ён звычайна расказвае нам розныя прыгоды з свайго жыцця на Чукотцы.

У таты ёсць фельчар — чукча. Завуць яго Эйнес. Некалькі год таму назад Эйнес цяжка захварэў і лёг у бальніцу. Знаходзячыся там, ён вельмі цікавіўся ўсім, што рабілася вакол яго, пра ўсё пытаўся, усё разглядаў і запамінаў. Самыя нязначныя дробязі прыводзілі яго ў захапленне.

Бацьку гэты юнак вельмі спадабаўся, і калі прыйшоў час выпісваць яго з бальніцы, тата прапанаваў Эйнесу пайсці на медкурсы, якія ў той час адкрываліся ў пасёлку. Эйнес з радасцю згадзіўся. Вучыўся ён вельмі старанна. Пасля таго як Эйнес закончыў курсы, тата ўзяў яго да сябе, у хірургічнае аддзяленне.

Тата цаніў Эйнеса яшчэ і таму, што, працуючы разам з ім, лягчэй было гаварыць з чукчамі, з якіх тады мала хто яшчэ ведаў рускую мову.

Эйнес марыць стаць у будучым хірургам, і тата гаворыць, што ён будзе ім.

## ПАЎНОЧНАЕ ЗЗЯННЕ

Неяк увечары прыйшоў тата і сказаў:

— Хутчэй апранайцеся і пойдзем глядзець паўночнае ззянне. Сёння яно вельмі яркае.

Мы выйшлі з дому. Усё неба палала агнямі. Мне здавалася, што мы трапілі ў чароўную казку. Неба было зусім нізка

над намі і такое яркае, прыгожае. На ім звіваліся вялізныя агністыя змеі, дзівосныя волаты-птахі луналі над зямлёй, узмахваючы сваімі пурпуровымі крыламі. І якіх тут толькі не было агнёў! Зялёныя, аранжавыя, ружовыя, жоўтыя, блакітныя — ды ўсіх і не пералічыш. То ўсе яны збіраліся ў каляровы букет, то адзін з іх вырываўся і з канца ў канец перасякаў усё неба, то ўсе разам яны раскрывалі над намі свой шматкаляровы агністы парасон, то ўтваралі раптам гіганцкую заслону, якая злёгку калыхалася.

А навокал ляжалі белыя снегавыя прасторы, па якіх палахліва прабягалі фантастычныя цені. І так было ціха-ціха, нібы ўся зямля раптам заснула.

Мы, як зачараваныя, не маглі адарваць вачэй ад расквечанага жывымі фарбамі неба. І нават тады, калі агні цудоўнага ззяння зніклі і на цёмным небе зноў засталіся толькі яркія зоркі, мы ўсё яшчэ пазіралі ўгору, ахопленыя незабыўным хвалюючым уражаннем.

У той вечар мы доўга блукалі пад гэтым зорным небам, і перад маімі вачыма ўсё яшчэ, здавалася, гарэлі агні казачнага паўночнага ззяння.

## «ЮЖАК»

Аднойчы я пайшоў сустракаць тату. Калі выходзіў з дому, надвор'е было ціхае. Але не паспеў я прайсці і паловы дарогі, як раптам узняўся моцны вецер. Пакуль я ішоў паміж дамоў і снегавых сцен вуліцы, было яшчэ паўбяды, але як толькі трапіў на адкрытае месца, вецер наляцеў на мяне з такой шалёнай сілай, што я не ўстаяў на нагах і ўпаў у снег. Я спрабаваў падняцца, але адразу падаў пад ударамі страшэннага ветру.

«Южак»,— прамільгнула ў маёй галаве. Я ўспомніў усё, што расказваў пра «южакі» тата, і крыху спалохаўся. Гэты вецер можа падхапіць чалавека і занесці далёка ў бухту, у сопкі, кінуць там і засыпаць снегам.

Я парашыў не ўставаць больш на ногі, а прабірацца праз адкрытае месца паўзком. Снег калоў мне вочы, шчокі, набіваўся за каўнер, у рукавы, у валёнкі. А я ўсё поўз наперад.

— Слава?! Як ты сюды трапіў? — пачуў я раптам над сабой голас таты.

Як я ўзрадаваўся! Тата ішоў з другімі мужчынамі. Усе яны моцна трымаліся адзін за аднаго. Я схапіўся за тату, і мы, падаючы і падымаючыся, пачалі прабірацца дамоў. Было і цяжка, і весела змагацца з гэтым асілкам-ветрам. Ён кідаўся на нас, як звер, роў, свістаў, рагатаў. У паветры ляцелі скрынкі, дошкі, каціліся, з тарахценнем падскокваючы, жалезныя бочкі.

У адной жанчыны, якая таксама ішла з намі, вецер сарваў з галавы шапачку, і яна паляцела хутка-хутка і знікла ў снежнай завірусе.

А жанчына крычала:

— Ой, ой, лавіце!

Але хто там будзе лавіць яе, калі на нагах устаяць нельга!

Нарэшце мы дабраліся дадому. Тата ледзьве адчыніў дзверы. Мы не ўвайшлі, а ўляцелі ў дом: так моцна нас упіхнуў туды вецер. Абодва мы былі заснежаныя, як Дзяды Марозы, і адразу не маглі вымавіць і слова.

Мама вельмі ўзрадавалася, што мы прыйшлі. Яна дапамагла нам распрануцца і ўсё баялася, што я застудзіўся і захварэю.

А мне было вельмі весела, і я смяяўся, успамінаючы, як нападаў на нас вецер, як усё навокал нас імчалася і танцавала ў паветры.

За вячэрай тата расказаў нам, як аднойчы ён сам ледзь не зрабіўся ахвярай «южака», калі апынуўся ў непагоду сярод тундры.

— Было гэта ў першую маю зіму на Чукотцы,— расказваў тата.— Аднойчы прыйшлі па мяне нарты: трэба было неадкладна паехаць у стойбішча да цяжкахворага пастуха. Я апрануўся, сеў на нарты, і каюр — паганяты запрэжкі —

пагнаў сабак. Толькі з вачэй нашых знік пасёлак, як пачаў кружыцца снег і падзьмуў вецер. Я глыбей нацягнуў шапку, наставіў каўнер. Вецер мацнеў з кожнай хвілінай, і хутка за два крокі нічога не стала відаць. Сабакі пачалі прыпыняцца. Мы саскоквалі з нартаў і, трымаючыся за іх, ішлі побач, правальваючыся ў снег, задыхаючыся ад моцнага ветру. Хутка і мы, і сабакі канчаткова выбіліся з сілы.

— Прыйдзецца заначаваць! — сказаў каюр.

— Што мы тут будзем рабіць сярод тундры? — устрывожана запытаў я.

— Спаць,— спакойна адказаў мой спадарожнік.

І перш чым я паспеў што-небудзь адказаць яму, ён спыніў сабак і дастаў з нартаў спальныя мяхі.

— Лезь у мех і кладзіся вось тут,— загадаў каюр, залазячы і сам у мех.

Мы ляглі, забраўшыся з галавой у мяхі з аленевай шкуры. Сабакі палеглі навокал, прытуліўшыся да нас, а над намі шумела, скавытала бура. Хутка, аднак, усё гэта нібы абарвалася: я заснуў.

Пад раніцу стала ціха, і калі мы выбраліся з снегавых гурбаў, у вочы нам ударыла яркае красавіцкае сонца. Мы запрэглі сабак і рушылі далей.

— Нямала бяды прыносяць гэтыя шалёныя паўночныя буры. Навічку можна вельмі лёгка стаць іх ахвярай,— закончыў сваё апавяданне тата.

Усю ноч дом дрыжаў пад ударамі моцнага ветру, і я доўга не мог заснуць. А калі засынаў, мне ўсё здавалася, што мяне засыпае снег, я хачу вылезці з яго і ніяк не магу.

## Я ІДУ Ў ШКОЛУ

Пасля зімовых канікул я пайшоў у школу.

Настаўніца Ніна Мікалаеўна пасадзіла мяне з Тынэлькутам. Мы былі ўжо знаёмыя і вельмі абрадаваліся адзін аднаму.

На ўроку ён уважліва слухаў тлумачэнні настаўніцы, сачыў за кожным яе словам і рухам. Яго вузкія чорныя вочы блішчалі і ўсміхаліся.

Пасля званка мы выйшлі з класа і, узяўшыся за рукі, пачалі хадзіць па калідоры.

— Дзе ты жывеш? — запытаўся я.

— Тут, у інтэрнаце. А бацькі жывуць далёка адгэтуль, у тундры. Мой бацька — паляўнічы. Ёсць у мяне і брат. Зараз ён вучыцца ў Хабараўску,— з гонарам паведаміў Тынэлькут.

— Я быў у Хабараўску, калі ехаў сюды, на Чукотку,— сказаў я.

— Праўда! — узрадаваўся Тынэлькут.— Ну, раскажы, раскажы мне, які ён, гэты горад.

Я расказаў Тынэлькуту пра ўсё, што паспеў убачыць у Хабараўску, дзе мы з мамай прабылі ўсяго адзін дзень.

— Я таксама паеду вучыцца да брата, як скончу сямігодку. Ведаеш, я мару стаць лётчыкам! Гэта ж так цікава, лётаць над зямлёй высока, высока!

Калі Тынэлькут даведаўся, што з самай Масквы на Чукотку я ляцеў на самалёце, дык ён аж запляскаў у далоні.

— Анкат, Расхына! — закрычаў ён на ўвесь калідор.— Слава прыляцеў да нас на самалёце. Ён раскажа нам, як ляцеў над зямлёй.

Празвінеў званок, і мы пайшлі ў клас.

На ўроку чыталі апавяданне пра Мічурына. Калі настаўніца прачытала аб тым, што амерыканцы давалі Мічурыну вялікія грошы, каб ён паехаў працаваць у Амерыку, Тынэлькут гнеўна прашаптаў:

— У-у, праклятыя!

А калі ён даведаўся далей аб тым, што Мічурын не паехаў у Амерыку, бо моцна любіў сваю Радзіму і свой народ, Тынэлькут ледзь не танцаваў ад радасці.

— Правільна зрабіў Мічурын! — уголас сказаў ён.— Мічурын разумны чалавек.

Да канца дня мы з Тынэлькутам былі ўжо сапраўднымі сябрамі, і я запрасіў яго прыходзіць да мяне. Тынэлькут з падзякай прыняў маё запрашэнне.

## СОНЦА

Неяк раніцай я прачнуўся ад таго, што на калідоры было вельмі шумна. Стукалі дзверы, бегалі людзі, голасна размаўлялі, смяяліся. Нехта, перакрываючы ўсе галасы, весела гукнуў:

— Таварышы, сонца! Сонца!

Мы ўсхапіліся з пасцелі, хутка апрануліся і выбеглі з дому. На вуліцы сабралася многа людзей, і твары ва ўсіх былі светлыя, узрадаваныя. Усе позіркі былі звернуты на ўсход. А там, на спакойным снегавым гарызонце, ледзь-ледзь, адным краёчкам, выглядвала яркае сонца.

Як усе насумаваліся па ім за доўгую палярную ноч!

З самай восені не было сонца, не было дня.

Тата мне сказаў, што з'яўленне сонца ў Запаляр'і — вялікае радаснае свята. У гэты дзень у кожным доме, у кожнай яранзе звіняць песні, смех.

— Хутка сонца зусім не будзе пакідаць нас, будзе і ўдзень і ўночы свяціць нам,— сказаў тата.

Як я хацеў, каб хутчэй надышла гэтая цікавая пара!

## СХОД

Неяк перад апошнім урокам да нас у клас зайшоў Чыні, наш піянерважаты, і паведаміў:

— Рабяты, пасля ўрокаў класны сход.

Усе мы засталіся паслухаць, што будуць гаварыць на сходзе.

— Вось што, рабяты,— пачаў Чыні,— хутка канец трэцяй чвэрці. Усе мы павінны закончыць яе з добрымі адзнакамі, каб парадаваць нашых бацькоў, настаўнікаў, нашу любімую

Айчыну. На жаль, яшчэ не ўсе добра разумеюць, як трэба вучыцца, як трэба паводзіць сябе ў школе і дома.

— Хто не разумее? Хто? — пачулася з усіх бакоў.

— Возьмем, напрыклад, Віцю Андрэева. У яго з вучобай усё добра, а вось паводзіны зусім дрэнныя. Віця заўсёды крыўдзіць дзяўчынак. Вось і ўчора ён падставіў ножку Асі, і яна да крыві разбіла нос. Навошта ты так зрабіў? — звярнуўся да Віці Чыні.

Віця ўстаў, пачырванеў, як рак, і прабурчаў:

— Хай не задзіраецца.

— Яна не задзіралася з табой, няпраўда! — заўважыў нехта з рабят.

— Не люблю я дзяўчынак. Задавакі, пляткаркі...

— Ды ён і сястру сваю, што ў другім класе, таксама крыўдзіць,— сказала Ніна Казлова.

— А табе што за справа да маёй сястры? Абы цябе не чапаў.

— Ніна дасць табе здачы, таму ты яе не чапаеш.

— Ён толькі тых крыўдзіць, хто слабейшы за яго! — сказала Галя.

— Бач, які герой! З дзяўчынкамі ваюе! — засмяяўся Толя.

Віця паказаў яму з-пад парты кулак.

— Ён і звеннявую не слухае. Кажа, што трэба зрабіць для хлопчыкаў і дзяўчынак асобныя звенні,— сказала Галя.

— Як усё гэта непрыгожа! І завошта ты так не любіш дзяўчынак? — запытаў Чыні.

— Я люблю смелых, адважных. А дзяўчынкі што? Піскухі. Ды ну іх!

— Ты вельмі памыляешся! — сказаў Чыні і пачаў расказваць пра Зою Касмадзям'янскую, пра дзяўчат з «Маладой гвардыі». Ён прывёў шмат прыкладаў, калі ў гады Айчыннай вайны савецкія дзяўчаты дапамаглі змагацца з ворагам. А ў канцы звярнуўся да Віці:

— Ну што ты цяпер скажаш?

Віця маўчаў, яму не было чаго гаварыць.

— Мы спадзяемся, што ты не будзеш больш крыўдзіць дзяўчынак, будзеш жыць з імі дружна.

— Пастараюся,— апусціўшы галаву, адказаў Віця.

— Далей у нас ідзе Эльхына. Яна робіць шмат памылак па рускай мове. У яе двойка. Трэба падумаць, рабяты, як ёй дапамагчы.

Эльхына ўстала, вочы яе напоўніліся слязьмі.

— Эльхына вельмі стараецца. Але ёй, вядома, цяжэй, як нам, рускім, даецца гэты прадмет. Ды і хварэла яна больш за тыдзень,— сказала звеннявая Ніна Казлова.

— Ты не плач, Эльхына,— звярнуўся да яе Чыні, калі заўважыў, што з вачэй дзяўчынкі часта закапалі слёзы.— Мы табе дапаможам выправіць двойку.

— Трэба, каб хто-небудзь, у каго па рускай мове выдатна, узяўся ёй дапамагчы,— сказала Галя.

— Гэта трэба даручыць Віцю. Ён лепш за ўсіх ведае рускую мову,— сказала Ніна.

— Яшчэ што прыдумала! — абурыўся Віця.— Ты звеннявая — ты і дапамагай. Ды і наогул, дзяўчынкам хай дапамагаюць дзяўчынкі.

— Ты зноў за сваё! — дакорліва кінула Галя.

— Ніна сказала правільна. Віця дапаможа Эльхыне выправіць двойку і тым самым давядзе, што ён нічога не мае супраць дзяўчынак. Згода, Віця? — звяртаючыся да Андрэева, запытаў Чыні.

— Правільна! Правільна! — падтрымалі вучні.

— Толькі хай слухаецца мяне і стараецца, а то...— не дакончыў Віця.

— Слабавата з рускім пісьмом і ў Тынэлькута. Па ўсіх прадметах пяцёркі, а па рускай мове тройкі ды двойкі,— гаварыў далей Чыні.— Трэба і Тынэлькуту дапамагчы. Ён хлопец старанны, сур'ёзны.

Я ўстаў і сказаў, што буду дапамагаць Тынэлькуту, што мы будзем разам рыхтаваць гэты прадмет.

— Вось і добра! — сказаў Чыні.— А самая дрэнная пас-

пяховасць у нас у класе ў Мары Розава,— гаварыў далей важаты.— У яго шмат пропускаў і дзве двойкі: па арыфметыцы і па рускай мове. Ды і па астатніх прадметах усё толькі тройкі. Мара лянуецца вучыцца.

Мара ўстаў. Твар яго пачырванеў, але ён глядзеў на ўсіх весела і ўсміхаўся. Убачыўшы, што ён смяецца, я не вытрымаў:

— Мара страшэнны гультай. Я жыву разам з ім у доме і добра ведаю, чым ён займаецца. Ён цэлы дзень важдаецца ля клеткі з лісамі, а ўвечары, калі трэба класціся спаць, садзіцца рабіць урокі. А як іх рабіць, калі ўжо галава нічога не варыць?

— Ён ніколі не прыходзіць на кантрольныя работы. Ніна Мікалаеўна ўчора сказала: «Трэба будзе праверыць, чаму гэта ты, Мара, перад кожнай кантрольнай работай хварэеш»,— сказала Галя.

— Давайце паслухаем самога Мару, што ён думае рабіць далей са сваімі двойкамі. Ну, гавары, Мара,— звярнуўся да яго Чыні.

— Буду вучыцца на пяць! — усміхаючыся, заявіў Мара.

Ажно злосць бярэ, які ён несур'ёзны.

— Ого! Адразу і на пяць! — засмяяліся з усіх бакоў вучні.

Твар Мары таксама расплываецца ва ўсмешцы.

— Чаго ты смяешся? — абурана кідае Толя.— Герой! Нахапаў двоек ды пасмейваецца сабе!

— А яшчэ заўсёды хваліцца: «У нас у Маскве. Я — масквіч».

Усе мы пачалі сароміць Мару, і ён перастаў ужо ўсміхацца і глядзеў не на рабят, а кудысьці ў акно. Відаць-такі, непрыемна зрабілася.

— Гультай, пустасмех! — ляцелі з усіх бакоў калючыя, як шпількі, словы.

— Ну досыць, рабяты! Што вы ўсе напалі на яго, як тыя чукоцкія камары? Гэтак справе не дапаможаш. Я думаю, што

пасля сённяшняга сходу Мара возьмецца за вучобу як належыць і выправіць свае двойкі,— сказаў Чыні.

— Хай Слава дапамагае яму па рускай мове, а Тынэлькут — па арыфметыцы,— сказала Ніна.

— А мне здаецца, што яму ніхто не дапаможа, калі ён сам не захоча,— заўважыў Толя.— А Славу даволі таго, што ён афармляе нашу атрадную насценгазету ды Тынэлькуту будзе дапамагаць.

— Я буду разам займацца і з Тынэлькутам і з Марам. Паглядзім, хто з іх лепш будзе паспяваць па гэтаму прадмету,— сказаў я.

— Хай Мара дасць чэснае піянерскае, што ён будзе старацца вучыцца як след, калі хоча быць піянерам,— прапанавала Галя.

— Ну, Мара, адказвай рабятам. Ты перад класам вельмі правініўся. У цябе самая горшая паспяховасць,— сказаў Чыні.

— Ну, абяцаю! — сказаў, нахмурыўшыся, Мара.

— А ты не нукай, ты сур'ёзна! — крыкнуў нехта з рабят.

— Я сур'ёзна,— цішэй, чым заўсёды, сказаў Мара.

— На гэтым можна і скончыць наш сённяшні сход. А цяпер — за справу, рабяты! Жадаю вам поспехаў! — сказаў Чыні і, абкружаны з усіх бакоў рабятамі, пайшоў з класа.

## ПРА ШАМАНА

Мы вельмі любілі свайго піянерважатага Чыні. Чыні — чукча. Калі ён скончыў сямігодку, камсамол накіраваў яго старшым піянерважатым у школу нашага пасёлка. Чыні ведае шмат цікавага аб сваім краі і аб яго людзях. А як хораша ён умее расказваць! Мама гаворыць, што ён сапраўдны артыст.

Аднойчы мы папрасілі Чыні расказаць нам пра шамана. Слова гэта мы чулі даволі часта, але не зусім ясна разумелі, што яно азначае.

— Добра, рабяты! Збяромся ў нядзелю вечарам, я вам пакажу шамана,— адказаў Чыні.

— Ого, нават пакажаце! А дзе вы яго возьмеце? — дапытваліся мы, але Чыні ў адказ толькі ўсміхаўся.

Гэта было ў сераду, і мы з нецярплівасцю чакалі нядзелі.

Нарэшце прыйшла і нядзеля. Усе мы рана сабраліся каля школы, чакаючы важатага.

І вось ён ідзе, як звычайна, вясёлы, а ў руках нясе чамадан.

— Што там у вас у чамадане? — запытаў Толя.

— Шамана злавіў, каб вам паказаць! — жартуе важаты.

— Дык адчыніце, пакажыце! — просім мы, абступіўшы яго навокал.

— Пачакайце, пачакайце! Гэта не так проста,— сур'ёзна адказвае ён.

І мы ідзём у школу.

— Рабяты, вы пачакайце крыху ў сваім класе, а калі Анкат пакліча вас, ідзіце ў залу і ціха сядайце на лаўках. Толькі каб парадак быў, а то шамана не ўбачыце! Ніна, глядзі за парадкам! — выходзячы, загадаў Чыні.

Мы засталіся ў класе.

Праз некаторы час убег да нас Анкат і сказаў, панізіўшы голас:

— Пайшлі. Толькі не шумець.

Ціха ступаючы, мы накіраваліся ў залу.

Толькі мы паселі на лаўках, як святло ў зале пагасла, і на сцэне за заслонай пачуліся нейкія дзіўныя гукі: не то песня, не то завыванне і ўдары ў бубен. Мы сядзелі, стаіўшы дыханне. Нарэшце заслона ўстрапянулася і пачала рассоўвацца. На сцэне гарэла вогнішча, ля вогнішча на шкурах нехта ляжаў і стагнаў, а вакол яго скакаў і бегаў чалавек. Ён быў без кашулі, у адных аленевых портках. На галаве ўзвышалася нейкая дзівосная рагатая шапка. Твар яго быў размаляваны. З пояса гэтага дзіўнага чалавека звешваліся чырвоныя стужкі, раменьчыкі і розныя бразгаўкі. Ён моцна біў

у бубен, спяваў, завываў, балбатаў і скакаў, як звар'яцелы. Нам было і смешна, і крыху страшнавата.

— Анкат, гэта і ёсць шаман? — запытаў я ціха.

— Шаман, шаман.

— А што ён робіць?

— Шаманіць, з духамі гаворыць, хворага лечыць.

У гэты час і ў зале, і на сцэне загарэлася святло, шаман кінуў аб падлогу свой бубен, сарваў з галавы шапку і весела засмяяўся.

— Чыні, Чыні! — узрадавана закрычалі мы і кінуліся да яго на сцэну.

— Ну вось, я паказаў вам, рабяты, як выглядае шаман і як ён шаманіць. А цяпер слухайце!

Чыні сеў тут жа на шкуру, а навокал яго паселі і мы.

— Да савецкай улады чукчы былі вельмі цёмнымі людзьмі,— пачаў Чыні.— Яны не ўмелі растлумачыць самай простай з'явы прыроды. Чукчы лічылі, што існуюць духі, якія ў любы час могуць пакрыўдзіць людзей. Захварэе чалавек — гэта злы дух усяліўся ў яго. Загінулі паляўнічыя ў ільдах, паляванне не ўдалося — злыя духі так зрабілі. Бура шалее — злыя духі яе паслалі на людзей. Галодны год настаў — і гэта іх справа. Злых духаў трэба было заўсёды задобрываць, упрошваць, прыносіць ім ахвяры. Знайшліся сярод чукчаў хітрыя людзі, якія выкарысталі гэтую людскую цемру ў сваіх мэтах. Яны заявілі, што ўмеюць гаварыць з духамі, умеюць улагоджваць іх. Так з'явіліся шаманы. Захварэе хто-небудзь — клічуць шамана. Той бярэ бубен і пачынае шаманіць. Бегае, скача вакол хворага, б'е ў бубен — хворага лечыць. За шаманства ён, вядома, браў плату.

— А калі памрэ хворы, што тады? — запытаў Толя.

— Шаман тады скажа, што мала падарункаў далі і злы дух Келе не адступіўся ад хворага,— адказаў Чыні.

— Вось хітрун які! — заўважыў нехта з рабят.

— Шаману аддавалі ўсё, што ён пажадае. Яго не толькі слухалі, але і баяліся: ён жа можа злых духаў наклікаць на

чалавека,— расказваў далей Чыні.— Збіраюцца паляўнічыя на паляванне — зноў ідуць да шамана, каб той упрасіў злых духаў не перашкаджаць ім. Шаман патрабуе прынесці яму шкуркі пясцоў, лісаў, тушу аленя. Нясуць паляўнічыя. Чым лепшымі будуць падарункі, тым большай будзе здабыча на паляванні. Так ім гаварыў шаман.

— Вось брахун! — не ўтрымаўся Толя.

— А дзе яны цяпер? Як жывуць? — запытала Ніна.

— Цяпер іх амаль няма, перавяліся яны,— адказаў Чыні.

— Хто іх цяпер будзе слухаць? Няма дурных! — горача заявіў Тынэлькут.— У нас у стойбішчы таксама быў шаман. А калі захварэў яго сын, дык ён хутчэй да доктара ў пасёлак пабег.

— І пра бубен свой забыўся! — жартуе нехта.

— Шаманства адышло ў нябыт,— гаворыць Чыні.

Мы смяёмся...

## ПЕРШЫЯ ЗАНЯТКІ

— Э! Дык ты ж зусім не ведаеш табліцы множання,— заўважыў Тынэлькут, звяртаючыся да Мары, калі мы пачалі рашаць прыклады.— Бачыш, колькі памылак нарабіў?

— Я ніяк не магу яе вывучыць, вельмі ж яна доўгая,— адказаў збянтэжаны Мара.

— А хіба ты яе не вучыў у другім класе? — сказаў я.

— Ты, відаць, яе ніколі як след не вучыў. Праўда, Мара? — запытаў Тынэлькут.

— Мне яна не давалася, таму я яе не ведаю.

— Не вучыў, таму і не давалася. Вось бярыся цяпер і вучы кожны дзень адзін слупок.

Мы пачалі рашаць задачу. Я і Тынэлькут ужо даўно рашылі яе, а Мара ўсё яшчэ нешта вылічаў, закрэсліваў, злаваўся і нарэшце заявіў:

— Не выходзіць! Не дзеліцца лічба!

Мы пачалі правяраць, як ён рашаў, і адразу знайшлі памылку.

— Ну вось, бачыш, зноў цябе табліца падвяла! — сказаў Тынэлькут.— Хіба, калі сем памножыць на восем, будзе шэсцьдзесят чатыры?

— Бярыся, браток, за табліцу,— яшчэ раз параіў я.— Табе ж і Ніна Мікалаеўна казала вывучыць табліцу...

Пасля арыфметыкі мы ўзяліся за рускую мову. Мара быў вельмі няўважлівы і нават пры спісванні з кнігі рабіў шмат памылак.

— Ну дзе твае вочы? — злаваўся Тынэлькут.— Што ты пішаш?

— Я не прывык усе ўрокі рабіць адразу. Трэба зрабіць арыфметыку, а пасля, праз гадзіны дзве-тры, рускую мову, а яшчэ праз гадзіны дзве — чытанне. І так усе ўрокі.

— О-го-го! Так табе і часу не хопіць. Сутак будзе мала, калі ты пасля кожнага ўрока будзеш адпачываць па тры гадзіны,— засмяяўся Тынэлькут.

— А я не магу ўсе ўрокі падрад вучыць. У мяне не ўмяшчаецца ўсё адразу ў галаве, разумееце? — сур'ёзна зазначыў Мара, аднак пісаць не пакінуў.

Нарэшце і заданне па рускай мове было выканана. Праўда, прыйшлося загадаць Мару два разы перапісваць практыкаванне. Ён вельмі злаваўся, але стараўся быць больш уважлівым і зрабіў цяпер толькі тры памылкі.

— Ну, як сабе хочаце, а я больш займацца не буду. Астатнія ўрокі будзем рыхтаваць увечары,— катэгарычна заявіў Мара.

— Не ўвечары, а цяпер! — не менш катэгарычна сказаў я.— Даю на адпачынак дваццаць мінут.

Мара ўзрадавана ўсхапіўся з месца і пабег дамоў. Прайшло ўжо больш чым паўгадзіны, а ён усё не з'яўляўся. Мы пайшлі да яго самі. Мара, як звычайна, быў ля клеткі з лісамі.

— Ну, пайшлі, ужо адпачылі,— сказаў я.

— Я, мабыць, захварэю, калі буду так многа займацца,—

уздыхнуў Мара.— Мама гаворыць, што ў мяне слабая галава і дрэнная памяць.

— «Слабая, слабая»! Нармальная ў цябе галава. Ты проста лянуешся,— абураецца Тынэлькут...

Мы чытаем апавяданне з хрэстаматыі.

— Ну, Мара, цяпер пераказвай змест,— кажу я.

Мара пачынае расказваць, але хутка збіваецца і заяўляе:

— Няхай перш Тынэлькут расказвае, а пасля я.

— Не, браток! Ты варон лавіў, калі мы чыталі, дык чытай яшчэ раз і тады раскажаш змест,— гаворыць Тынэлькут.

Мара незадаволена пазірае на яго, але рабіць няма чаго,— прыходзіцца слухацца.

— Вось бачыш? Галоўнае, трэба быць уважлівым, тады ўсё пойдзе як па масле,— гавару я, калі ён досыць складна пераказвае змест апавядання.

Заняткі скончаны. Мара глянуў на гадзіннік і ўсклікнуў:

— Амаль дзве гадзіны займаліся! Ды я і паўгадзіны б не ўседзеў, каб адзін вучыў урокі.

— Ну, а цяпер на свежае паветра! — прапануе мама.

Мы прыводзім у парадак кніжкі, апранаемся і выходзім з дому.

Тры дні бушаваў «южак». Ён пананосіў цэлыя горы снегу. Сярод іх добра пагуляць у снежкі.

У адзін момант сабралася многа жадаючых прыняць удзел у гульні. Над намі ясна гараць зоры. Марозны ветрык пашчыпвае шчокі і нос, снежкі часамі б'юць балюча, але ніхто не звяртае на гэта ўвагі.

Калі мы разыходзімся, Мара кажа:

— Як добра, што ўсе ўрокі ўжо зроблены! А то, бывала, гуляеш, а як успомніш, што ўрокі яшчэ не зрабіў, дык увесь настрой псуецца.

— Толькі пра табліцу не забудзься. Перад сном падвучы адзін слупок, а раніцай паўтары яго на свежую галаву,— прапануе на развітанне Тынэлькут.

## ПРАГУЛКА

Сёння мы хадзілі з татам на прагулку.

Спачатку мы паблукалі каля волатаў-торосаў, а потым нам захацелася падняцца на сопку. Снег быў моцна спрасаваны вятрамі, і здавалася, што ідзеш па асфальту. Дабраўшыся да самай верхавіны, мы паглядзелі навакол. Увесь пасёлак ляжаў цяпер перад намі, як на далоні.

Сярод дамоў, якія адсюль здаваліся зусім маленькімі, я ледзь-ледзь адшукаў свой дом.

— Глядзіш, і не верыцца, што яшчэ зусім нядаўна гэтага пасёлка тут не было,— сказаў тата.

Спускаючыся з сопкі, я спатыкнуўся, сеў і паехаў уніз. Мне вельмі спадабалася ехаць такім спосабам, і я некалькі разоў падымаўся ўгару, а потым садзіўся і з'язджаў з сопкі ўніз.

— Трэба з лыжамі прыйсці сюды,— сказаў я.

Толькі мы вярнуліся дамоў, як да нас прыбег Тынэлькут. Ён расчырванеўся і задыхаўся.

— Тата прыехаў здаваць пушніну. Хочаш паглядзець нашых сабак і пакатацца на нартах?

Я запляскаў у далоні ад радасці і пачаў апранацца. Мама таксама апранулася, і разам з Тынэлькутам мы накіраваліся да факторыі.

Факторыя — гэта вялікі магазін, куды паляўнічыя прывозяць пушніну і дзе атрымліваюць за яе розныя тавары і грошы.

Каля факторыі стаяла некалькі нартаў. Нарты, да якіх мы падышлі, былі запрэжаны чатырма парамі сабак на чале з сабакам-важаком.

Сабакі адразу пазналі Тынэлькута і пачалі віляць хвастамі, радасна вішчаць, скакаць на яго. Усе яны былі калматыя, густашэрстныя. Сабака-важак быў большы за ўсіх. Тынэлькут узяў з нартаў мёрзлую рыбу і пачаў частаваць сваіх чацвераногіх сяброў.

Неўзабаве да нартаў падышоў і бацька Тынэлькута — дзядзька Гэмаль.

На ім была вопратка з аленевых шкур; ён курыў люльку і ветліва ўсміхаўся.

Мы прывіталіся з ім, а мама сказала:

— Прыйшлі пазнаёміцца з вамі.

— Добра, вельмі добра! — адказаў дзядзька Гэмаль.

Ён паказаў нам шкуркі пясцоў і лісаў. Якія яны былі прыгожыя, пушыстыя!

Калі бацька Тынэлькута пайшоў здаваць пушніну, я запытаў свайго сябра:

— Чаму ў твайго таты і другіх паляўнічых уся вопратка з аленевых шкур?

— Вопратка з аленевых шкур вельмі цёплая і лёгкая,— адказаў ён.— У нас з аленевых шкур робяць не толькі вопратку. З аленевых шкур робяць жыллё, а з аленевых сухажылляў — ніткі. Ну, а мяса і малако аленяў ядуць. Ды і ў нарты запрагаюць аленяў.

— А чым жа іх узімку кормяць? — запытаў я.

— Яны самі кормяцца,— адказаў Тынэлькут.— Адкопваюць з-пад снегу капытамі мох-ягель і ядуць яго. Для іх не трэба, як для сабак, назапашваць на зіму харчы.

Нарэшце дзядзька Гэмаль выйшаў з факторыі, і мы селі на нарты. Тынэлькут узяў астол — кій з вострым, акаваным жалезам канцом, якім у дарозе тармозіць пагоншчык сабак,— і ўсеўся наперадзе. А затым гукнуў на сабак, і нарты рушылі.

Мне вельмі падабалася ехаць на нартах. Я хацеў імчацца на іх бясконца, але мама сказала, што сёння далёка ехаць нельга.

Дзядзька Гэмаль запрасіў нас у госці, і мама паабяцала, што мы абавязкова прыедзем да яго, як толькі трапіцца зручны выпадак.

Нарты спыніліся. Мы развіталіся з бацькам Тынэлькута і пайшлі дамоў.

## У ЯРАНЗЕ

Неяк у нядзелю раніцай да нас прыбег Тынэлькут і паведаміў:

— Тата прыехаў! Запрашае вас у госці! Я таксама паеду. Праз паўгадзіны нарты будуць каля дома.

Мы не паспелі яшчэ як след апрануцца, калі да ганка стралой падкаціла двое нартаў.

Я, Тынэлькут і дзядзька Гэмаль селі на першыя нарты, а мама з татам — на другія. Калі мы ўселіся, дзядзька Гэмаль абышоў і па-гаспадарску агледзеў абедзве запрэжкі. Потым ён ускочыў на нарты і гукнуў на сабак. Спачатку нарты ішлі не вельмі хутка, але, як толькі мы выехалі за пасёлак, дзядзька Гэмаль зноў крыкнуў на сабак, Тынэлькут сказаў мне «трымайся», і мы памчаліся...

Сонечны яркі дзень. На небе ніводнага воблачка. Снегавы іскрысты пыл ахутвае нарты. Гельмі хораша ехаць на сабаках. Навокал снег, лёд, сонца, а мы ляцім па неабсяжных белых прасторах, як на казачным дыване-самалёце...

Праз некалькі гадзін мы пад'ехалі да ярангі Тынэлькута.

Яранга — гэта жыллё круглай формы. Робіцца яно са шкур маржоў ці аленяў, нацягнутых на жэрдкі або на маржовыя косці.

Калі нашы нарты спыніліся, з ярангі выйшла маці Тынэлькута. Яна прывіталася з намі і запрасіла ў ярангу.

Яранга была падзелена на дзве палавіны. У першай, халоднай, палавіне жылі сабакі і ляжалі розныя рэчы. Другая палавіна — цёплая і большая за першую — уся была заслана аленевымі шкурамі. Пасярод яе быў зроблен ачаг для агню.

Ля агню сядзеў, падкурчыўшы пад сябе ногі, дзед Тынэлькута і курыў доўгую люльку. Ён быў ужо зусім старэнькі.

Дзед гасцінна запрасіў нас прысесці ля ачага. Мы распрануліся і селі на мяккія пушыстыя шкуры. Над ачагом вісеў чайнік, а з жароўні прыемна пахла смажанай аленінай.

Упарадкаваўшы сабак, у ярангу ўвайшоў бацька Тынэль-

кута. Ён распрануўся і прысеў да нас. Неўзабаве пачалося частаванне. Елі смачную аленіну, струганіну, пілі пахучы моцны чай з цукеркамі і пячэннем.

Бацькі Тынэлькута былі вельмі гасцінныя людзі і частавалі нас наперабой. Пасля чаю мама пачала прасіць дзядулю расказаць нам аб яго мінулым жыцці.

Дзед закурыў люльку, памаўчаў. Твар яго зрабіўся сур'ёзны і сумны.

— Дрэнна, вельмі дрэнна было нам да савецкай улады. Я і сыны мае былі добрымі паляўнічымі, здабывалі шмат пушніны, а жылі вельмі бедна... Мне ўжо восемдзесят зім. Было ў мяне шмат дзяцей, а засталіся жывымі толькі два сыны. Астатнія ўсе памерлі ад розных хвароб і голаду. Бальніц не было, урача не было, чукчы хварэлі і паміралі як мухі...

— А каму ж вы прадавалі сваю пушніну? — запытаў я.

— О, на пушніну гаспадароў хапала! Мы былі сляпыя, цёмныя, як наша доўгая чукоцкая ноч. Нас ашуквалі і царскія чыноўнікі, і нашы багацеі, і шаманы, і амерыканскія купцы. Купцы прыязджалі да нас у тундру па пушніну, паілі нас гарэлкай і амаль задарма забіралі дарагія шкуркі пясцоў, лісаў, гарнастаяў, мядзведзяў...

Дзядуля памаўчаў, пазіраючы на агонь, і цёплая ўсмешка прабегла па яго зморшчаным твары:

— Пасля прыйшлі рускія, бальшавікі. Мы іх спачатку баяліся. Шаманы ды багацеі ненавідзелі рускіх, казалі, што яны ворагі нашы. Толькі хутка мы пераканаліся, што рускія людзі да нас з добрым сэрцам прыйшлі, з добрай душой. Цяпер чукчы багата жывуць. За пушніну грошай шмат атрымліваюць, і ўсё ў нас ёсць. Дзеці нашы ў школе вучацца, кніжкі чытаюць цікавыя. Старэйшы мой сын у саўгасе жыве, аленяў гадуе. Там вялікія светлыя дамы. Ён брыгадзір, яму за працу ордэн далі,— з гонарам скончыў расказваць дзядуля.

Пагутарыўшы яшчэ крыху з бацькамі Тынэлькута, мы пачалі збірацца дамоў.

## ПАЛЯВАННЕ НА ПЯСЦОЎ

Неяк у час веснавых канікул да мяне прыехаў Тынэлькут.

— З'ездзім да нас. Паглядзіш, як ловяць пясцоў,— прапанаваў ён.

Я пачаў прасіць маму, каб яна дазволіла мне паехаць да Тынэлькута.

Мама ніяк не згаджалася пускаць мяне аднаго, але, на маё шчасце, прыйшоў тата.

— Праз тры дні Слава вернецца! — запэўніваў мой сябар.

— Калі так — хай сабе едзе! — дазволіў тата.

Ад радасці я кінуўся абдымаць Тынэлькута.

Мама наклала мне поўны чамаданчык рознай ежы, апранула мяне як мага цяплей, і мы пайшлі да факторыі, дзе чакаў нас дзядзька Гэмаль.

Неўзабаве мы ўжо выязджалі з пасёлка.

Неба зіхацела казачнымі агнямі паўночнага ззяння. Сабакі беглі хутка, і нарты імчаліся, падскокваючы на застругах.

— Ведаеш, як нашы людзі даўней тлумачылі паўночнае ззянне? — запытаў у мяне Тынэлькут.

— Як? — зацікавіўся я.

— Лічылі, што гэта душы памёршых гуляюць у небе.

І не паспеў я нічога адказаць на гэта, як нарты раптам з ходу спыніліся, і мы абодва паляцелі ў снег. Адначасова грымнуў стрэл.

— Курапаткі! — смеючыся з нас, сказаў бацька Тынэлькута.— А ну, бяжыце! Вунь за тым узгоркам упалі.

Мы імчымся навыперадкі па курапатак.

— Смачная вячэра будзе,— усміхнуўся дзядзька Гэмаль, хаваючы курапатак у торбу з нерпавай шкуры.

Мы садзімся на нарты, дзядзька Гэмаль выхоплівае са снегу астол, і зноў чуецца яго вясёлае, крыху хрыплаватае «Поць-поць!». Сабакі стараюцца з усіх сіл.

2 Зак. 1159

Пасля язды прыемна было апынуцца ў цёплай яранзе. Смажаныя курапаткі здаваліся смачнейшымі за ўсе на свеце прысмакі.

Павячэраўшы, мы ляглі на мяккую мядзведжую шкуру, якую сцелюць звычайна для гасцей, і заснулі салодкім сном.

Раніцай, пасля снедання, мы зноў імчаліся на нартах па прасторах снегавой чукоцкай тундры.

— Здаецца, тут? — сказаў дзядзька Гэмаль, спыняючы астолам нарты.

— Глядзі, колькі слядоў нарабілі! — звярнуўся да мяне Тынэлькут, паказваючы на снег.— Гэта яны да нерпы ў госці хадзілі,— жартуе мой сябар.

— Як гэта ў госці? — не разумею я.

— Вельмі проста. Паляўнічыя кладуць нерпу, а навокал стаўляюць пасткі. Пясцы бягуць грызці нерпу, ды і трапляюць у пасткі.

— А я думаў, пясцоў са стрэльбы б'юць,— сказаў я.

— Ды не! Вось убачыш, як гэта робіцца.

Тым часам дзядзька Гэмаль перавярнуў нарты ўгору палазамі, убіў між капылоў астол і ўлажыў сабак.

— Ціха,— прыглушаным голасам сказаў Тынэлькут, адкідаючы з галавы малахай і прыслухоўваючыся. Я зрабіў тое ж самае.

Недзе зусім блізка пачуўся брэх.

— Ёсць адзін! — узрадавана ўсклікнуў мой сябар і заспяшаўся наперад да невялікага снегавога ўзгорка. Я таксама прыбавіў кроку.

На ўзгорку мы спыніліся. За некалькі метраў ад нас кідаўся цудоўны белы пясец і брахаў, зусім як сабака. Лапка яго была заціснута ў пастцы.

Твар Тынэлькута ззяў шчасцем, ён хваліў здабычу і смяяўся.

Выняўшы дабітага пясца з пасткі, бацька Тынэлькута сказаў:

— А цяпер паставім пастку зноў.

— Дай я,— папрасіў Тынэлькут і, звярнуўшыся да мяне, дадаў: — Глядзі, як гэта робіцца.

Ён паставіў пастку на снег, абвёў вакол яе нажом, выняў цвёрды камяк снегу. Атрымалася ямка. Наведзеную пастку Тынэлькут асцярожна апусціў у гэтую ямку. Пасля ён узяў цвёрды камяк снегу і зрабіў з яго нажом тонкую пласцінку. Гэтай пласцінкай ён закрыў ямку, у якой ляжала пастка.

— Вось і ўсё! Калі ласка! — весела сказаў ён.

— Цікава! — зазначыў я, здзіўлены спрытам Тынэлькута.

А дзядзька Гэмаль любоўна пазіраў на сына, пыхкаючы сваёй люлькай.

Калі мы вярталіся з палявання, пачалася пазёмка.

— Вось і добра! Усе нашы сляды прысыпле снегам,— сказаў дзядзька Гэмаль.

У гэты дзень мы прывезлі з палявання трох пясцоў.

Усе ў яранзе былі задаволены здабычай, разглядалі, хвалілі пясцоў...

Тры дні мінулі непрыкметна.

— Цяпер я і сам магу ставіць пасткі,— хваліўся я, калі мама сцягвала з мяне аленевыя нагавіцы і тарбасы.— Я дзве пасткі сам паставіў, і дзядзька Гэмаль сказаў, што пясцы, якія трапяць у іх,— мае!

— Ну, раз ён сказаў, значыць, так яно і будзе! — адгукнуўся бацька.— Чукчы — народ вельмі сумленны і слоў сваіх на вецер не кідаюць.

## КРАСАВІК

У красавіку на Чукотцы вельмі многа сонца. Яно ўжо зусім не сыходзіць з неба і свеціць так ярка, што ўся заснежаная зямля ззяе, іскрыцца тысячамі агнёў.

— Вось табе веснавы падарунак,— сказаў аднойчы тата, падаючы чорную скрыначку.

Я адчыніў яе. Там былі... акуляры. Здзіўлена паглядзеўшы на тату, я запытаў:

— Навошта мне акуляры? Мае вочы і без акуляраў бачаць вельмі добра.

— Цяпер, сынок, на прагулку без гэтых цёмных акуляраў не выходзь. Бачыш, якое яркае сонца, як ззяюць ільды і снягі.

...Мара не захацеў насіць акуляраў. Ён усё хваліўся, што вочы яго не баяцца сонца. Пахадзіўшы цэлы дзень на сонцы, увечары ён ужо не мог глядзець. Маці яго вельмі спалохалася і прыбегла да таты за парадай. Тата сказаў, каб Мару пасадзілі ў цёмны пакой, і праз некалькі дзён хлопчык будзе зноў добра бачыць.

Сядзіць Мара ў пакоі з завешанымі шторамі і сумуе. Вось і дастукаўся! Цяпер некалькі дзён не будзе хадзіць у школу ды зноў адстане, а хутка кантрольная работа па пісьму. Прыйдзецца неяк займацца з ім, бо атрымае двойку, і тады ўся работа марна згіне.

— Што рабіць цяпер? Не магу ні пісаць, ні чытаць. Вочы нібы пяском засыпаны: рэжа, баліць, слёзы цякуць.

— Затое пахадзіў без акуляраў, пафасоніў,— адказваю я.— А займацца ўсё роўна трэба, а то зноў будзе бяда.

— Ну як, як займацца? — у роспачы ўскліквае Мара.

— Пісаць і чытаць ты, вядома, не можаш. Давай будзем выконваць заданні вусна, вучыць разам правілы, паўтараць. Сляпыя ж таксама вучацца, ды яшчэ як вучацца!

— Ну добра, паспрабуем,— згаджаецца Мара.

Мы пачынаем займацца. Я чытаю правілы, і мы разам завучваем іх, прыдумваем прыклады. Выходзіць зусім нядрэнна, і мы абодва вельмі задаволены.

— А ведаеш, мне нават падабаецца займацца вось так, з заплюшчанымі вачыма,— кажа Мара.

Я чытаю ўрывак з хрэстаматыі, а Мара ўважліва слухае. Потым мы пачынаем пераказваць змест урыўка.

— Ну вось і ўсё! Зараз я з Тынэлькутам пайду загараць,— кажу я.

— Эх, як шкада, што баляць вочы і я павінен сядзець у цёмным пакоі!

Прыходзіць Тынэлькут, і мы ідзём у сопкі. Мой сябар не носіць акуляраў: ён нарадзіўся і вырас у гэтым краі, і яго вочы не баяцца красавіцкага сонца.

Мы паднімаемся на сопку, выбіраем зацішнае месца. Тынэлькут сцеле сваю кухлянку, мы распранаемся і пачынаем загараць.

Навокал нас снягі, ільды, а ўсё ж пахне вясной.

— Люблю я красавік,— кажа мой сябар,— у красавіку на Чукотцы многа сонца і многа самалётаў.

Нібы пацвярджаючы яго словы, нашу гутарку абрывае гул самалёта. Ён ляціць зусім нізка над сопкамі. Мы ўсхопліваемся, узрадавана махаем звонкакрылай птушцы і доўга сочым за яе палётам. Вочы Тынэлькута гараць ад захаплення.

— Абавязкова буду лётчыкам! — горача заяўляе ён.— Усю зямлю нашу аблятаю. Пабываю і ў Хабараўску, і ў Маскве!..

Мы доўга песцімся ў праменнях красавіцкага сонца. Я расказваю Тынэлькуту пра нашу вясну з пахучымі лісцікамі, сінімі пралескамі, маладой шаўковай траўкай, звонкімі песнямі жаваранкаў. Мой сябар зачаравана слухае, і толькі час ад часу з вуснаў яго злятае: «Какомэй!» — слова, якое на мове чукчаў азначае здзіўленне.

## ПЕРШЫЯ ЧАЦВЁРКІ

Празвінеў званок, і неўзабаве ў клас увайшла Ніна Мікалаеўна. У руках у яе быў стосік нашых сшыткаў.

Сёння мы яе асабліва чакалі: нас вельмі цікавілі вынікі апошняй кантрольнай дыктоўкі.

— Цікава, што атрымае Эльхына? Яна ж амаль тыдзень хварэла! Я так баюся за яе! — хваляваўся Віця Андрэеў.

Нарэшце ў руках Ніны Мікалаеўны сшытак Эльхыны.

— Малайчына, Эльхына! — кажа настаўніца,— зрабіла толькі дзве памылкі. Я паставіла табе чацвёрку. Пастаралася, папрацавала, і вось вынік.

— Гэта ж Віця дапамог,— прамовіла, пачырванеўшы, Эльхына.

— Ды што там Віця, Віця...— прабурчаў Андрэеў і разам з Эльхынай пачаў разглядаць яе сшытак. Праз хвіліну пачуўся яго незадаволены голас:

— Ну як гэта ты ў слове лёд напісала «т»? Ты ж і правіла гэтае добра ведаеш... Ніна Мікалаеўна! — звярнуўся да настаўніцы Віця,— гэта ж нейкая недарэчнасць. Эльхына добра ведае правілы, вось запытайце яе.

— Добра, добра, Віця, я запытаю, але не зараз,— адказвае настаўніца.

А Віця ўсё не можа супакоіцца і гаворыць Эльхыне:

— Вось сёння на гэтае правіла будзеш мне дыктоўку пісаць!

— Я ведаю, Віця, гэтае правіла і больш ніколі не зраблю такой памылкі,— вінавата адказвае Эльхына.

— Не зраблю, не зраблю...— бурчыць Віця.

— Што ты на яе злуеш? Яна пісала дыктоўкі амаль заўсёды на двойку, а цяпер атрымала чацвёрку. Малайчына Эльхына! — умешваецца Ніна.

А Мара зноў атрымаў тройку. І ўсё гэта праз сваю няўважлівасць. Замест «горы» напісаў «роры», замест «клас» — «квас», замест «горад» — «гораб».

— Вось варона! — злосна гаворыць Тынэлькут.— І аб чым ён толькі думае ў час дыктоўкі?.. Эх, Мара, Мара! Ну як табе не сорамна?

— Мне галава вельмі балела. Другі раз я напішу на пяць,— апраўдваецца Мара.

— Ты ўсё толькі абяцаеш, а як прыйдзецца да справы, дык выходзіць дрэнна,— кажу я.

Мне вельмі крыўдна, што Мара атрымаў тройку. Я ве-

даю, што ён можа атрымаць і пяцёрку, калі будзе больш уважлівы.

— Што ты на мяне злуеш? Вось даю табе чэснае піянерскае, што ў наступны раз не падвяду,— запэўнівае мяне Мара.

— Ну глядзі! А то зусім не буду з табой займацца,— адказваю я.

Звініць званок, і мы выходзім з класа...

На ўроку арыфметыкі настаўніца выклікала да дошкі Мару. Ён правільна рашыў задачу, толькі адзін раз крыху памыліўся.

Ніна Мікалаеўна пахваліла яго і паставіла чацвёрку. Румяны, пухлы твар Мары заззяў шчаслівай усмешкай, а Тынэлькут ад радасці так штурхнуў мяне ў бок, што я ледзь не зваліўся з парты. Увесь клас быў задаволены поспехамі Мары.

— Дзеці! Заўтра кантрольная па арыфметыцы. Я спадзяюся, Мара, што ты цяпер не захварэеш? — жартуе Ніна Мікалаеўна.

— Не, цяпер не захварэю! — бойка адказвае Мара.

— Яго Слава з Тынэлькутам вылечылі ад гэтай таямнічай хваробы,— смеючыся, кажа Толя.

— Сёння паўтару ўсю табліцу і заўтра кантрольную напішу на пяць,— шэпча Мара.

— Калі не будзеш варон лавіць,— адказваю я.

Заняткі скончаны, і мы выходзім са школы.

— Які сёння харошы дзень! — кажа Тынэлькут.

— Паўтары правапіс назоўнікаў, увечары будзеш пісаць дыктоўку!

Гэта Віця Андрэеў крычыць услед Эльхыне, якая бяжыць у інтэрнат.

Насустрач нам ідзе Чыні.

— Чыні, Чыні! У нас сёння радасны дзень. Мара атрымаў чацвёрку па арыфметыцы, Эльхына і Тынэлькут — па дыктоўцы,— дакладвае Галя.

Чыні падыходзіць да нас, і мы абкружаем яго шчыльным і шумным колам.

— У мяне таксама для вас падарунак: сёння ўвечары будзем глядзець кіно. Прывезлі «Аповесць аб сапраўдным чалавеку»,— кажа Чыні.

Ад радасці ўсе мы пляскаем у далоні. Мы даўно чакалі гэтага фільма.

Які цудоўны сёння дзень!

## НЕПРЫЕМНАСЦЬ

— Што з табой? Ты нечым усхваляваны? — запытала ў мяне мама.

Вось якая яна: адразу ўсё заўважыць.

— Галава крыху баліць,— паспрабаваў схітрыць я.

— Нешта не верыцца. Ты ўжо другі дзень ходзіш засмучаны. Лепш раскажы мне ўсю праўду. Можа, я табе і дапамагу чым.

— Непрыемнасць здарылася,— сказаў я, не могучы больш хаваць ад мамы сваёй таямніцы.

— Якая непрыемнасць? — запытала мама, прысеўшы побач са мной.

І я расказаў маме ўсю праўду.

А справа была вось у чым. Ніна Мікалаеўна папярэдзіла нас, што праз два дні будзе кантрольная работа па скланенню назоўнікаў.

І трэба ж так здарыцца,— у Мары напярэдадні кантрольнай быў якраз дзень нараджэння. Ён, вядома, увесь дзень прагуляў і за граматыку не браўся.

Раніцай, перад самай кантрольнай, ён, задыхаўшыся, убег у клас, падняў угору рукі і, зрабіўшы трагічную міну, закрычаў:

— Ратуйце, людзі добрыя! Нічога не паўтараў.

Пачалася кантрольная. Я ўжо заканчваў сваю работу, калі на парту ўпала запіска. «Пагражае двойка, ратуй!» — пісаў Мара.

Не падумаўшы ні хвіліны, я раз — і перакслаў Мару свой сшытак з работай, а перад сабой на парце паклаў другі, яшчэ не пачаты. Гэта каб Ніна Мікалаеўна не заўважыла, што ў мяне няма сшытка з работай.

Празвінеў званок. Настаўніца сабрала сшыткі. Мара падбег, схапіў мяне ў абдымкі і сказаў:

— Вось гэта сапраўдны сябар. Выратаваў мяне ад бяды. Дзякую!

Назаўтра Ніна Мікалаеўна раздавала правераныя сшыткі. Калі чарга дайшла да Мары, настаўніца ўважліва паглядзела на яго і запытала:

— Скажы, Розаў, ты сам выконваў работу?

— Ну вядома, сам, Ніна Мікалаеўна,— сказаў Мара і так пачырванеў, што нават рабацінне на яго твары знікла.

— Ідзі да дошкі,— сказала настаўніца.

Стоячы ля дошкі, Мара за плячыма настаўніцы пачаў строіць такія грымасы, што ўсе зразумелі: зараз ён абавязкова схопіць двойку.

Напісаўшы пад дыктоўку Ніны Мікалаеўны сказ, ён пачаў разбіраць яго і заблытаўся.

Настаўніца пасадзіла яго на месца, а ў класным журнале супраць прозвішча Мары паставіла зграбную двоечку. Зрабіўшы гэта, яна акінула клас строгім позіркам і сказала:

— Цікава, хто гэта з вучняў патурае гультаям і разам з імі спрабуе ашукаць настаўніцу?

І раптам сэрца маё абарвалася, кроў прыліла да твару. Я адчуў, што зрабіў вельмі і вельмі нядобра. З гэтай хвіліны я пачаў пакутаваць...

— Ну як, як цяпер выправіць гэтую памылку? — у роспачы запытаўся я ў мамы і дадаў раззлавана: — А ўсё гэты гультай Мара. Не мог ён нарадзіцца ў які-небудзь іншы дзень, абавязкова напярэдадні кантрольнай.

— Мара тут ні пры чым. Ніколі не звальвай сваёй віны на другога. Гэта вельмі нядобра,— сказала мама і, памаўчаўшы крыху, дадала: — Ну, а выправіць усё гэта можна вельмі проста.

— Як?

— Трэба вам абодвум пайсці да настаўніцы, шчыра ва ўсім прызнацца і папрасіць прабачэння.

— Не, гэта немагчыма! Гэта ж так сорамна!

— А ашукваць настаўніцу хіба не сорамна? — дакорліва запытала мама.

— Мамачка, ну ўяві сабе ўсю гэтую справу. Ды пасля майго прызнання настаўніца будзе глядзець на мяне, як на самага апошняга чалавека.

— Не, не будзе,— сказала мама.— Той, хто памыліўся і меў мужнасць прызнаць сваю памылку, варты не толькі прабачэння, а нават і павагі.

Мы доўга яшчэ сядзелі з мамай і гутарылі. Скончылася ўсё тым, што я пайшоў да Мары.

— Ні ў якім разе не пайду! — катэгарычна заявіў Мара, нават не выслухаўшы мяне да канца.— Разумны які знайшоўся! Ідзі сабе, прызнавайся, а я не хачу.

— Ну што ж, і пайду, толькі табе ад гэтага будзе горш. Хадзем лепш разам. Чаго ты так спалохаўся?

— І зусім не спалохаўся, а проста я не згодзен з табой прынцыпова,— адказаў Мара.

— Ды ты не гарачыся, а падумай добра. Што будзе, калі Ніна Мікалаеўна даведаецца пра гэта сама? Што тады? Ды і наогул я не хачу больш маўчаць, разумееш? Мы ж піянеры...

— Ну добра, я пайду. Толькі расказваць пра ўсё будзеш ты сам,— згадзіўся нарэшце Мара.

Нясмела пастукалі мы ў дзверы Ніны Мікалаеўны, а калі пачулі «ўваходзьце!», нашы ногі нібы прыраслі да падлогі.

Выслухаўшы наша блытанае прызнанне, Ніна Мікалаеўна сказала:

— Будзьце заўсёды такімі сумленнымі і мужнымі. Я веру, што вы ніколі больш не будзеце так памыляцца. Я дарую вам.

Выйшлі мы ад настаўніцы самымі шчаслівымі на свеце людзьмі.

## ПЕРШАЕ МАЯ

Навокал снягі, зіма. Мора яшчэ закавана льдамі. Але ўсё ярчэй і ярчэй свеціць сонца.

У пасёлку ідзе падрыхтоўка да свята. На будынках ужо чырванеюць сцягі, палотнішчы лозунгаў і плакатаў.

На дошцы Гонару перад будынкам Упраўлення вісяць фатаграфіі лепшых людзей Чукоткі.

У нашым доме таксама ідзе падрыхтоўка да свята: прыбіраюць, пякуць, вараць. Мітусня на кухні стаіць ад ранку і да ночы. А Ольга Сцяпанаўна, якая працуе загадчыцай бібліятэкі, цэлы дзень спявае песні: яна ўдзельнічае ў самадзейнасці і рэпеціруе нават на кухні ля пліты. Часам яна так захапляецца спевамі, што страва прыгарае.

Заўтра пойдзем на дэманстрацыю. Вельмі цікава, якая тут дэманстрацыя?

Увечары тата з мамай пайшлі на ўрачыстае пасяджэнне, а я з Вовам — сынам нашага суседа-геолага — гуляў у даміно і шашкі. Потым я захацеў спаць. Вова таксама пайшоў спаць. Так і не чуў, калі прыйшлі дамоў мама з татам.

Раніцай, калі мы ішлі на дэманстрацыю, тата паглядзеў на сопкі і сказаў:

— Мабыць, «южак» перашкодзіць нам: сопкі пачынаюць курыцца.

Я таксама глянуў на сопкі і ўбачыў, што над імі сапраўды нібы курыцца белы дымок.

На пляцоўцы перад двухпавярховым будынкам Упраўлення сабраліся амаль усе жыхары нашага пасёлка са сцягамі, з плакатамі, з лозунгамі і партрэтамі правадыроў. Іграў

аркестр. На трыбуну ўзышоў начальнік Упраўлення, і першамайскі мітынг пачаўся.

Раптам з сопак наляцеў на пасёлак «южак». Але людзі, сабраўшыся шчыльней, стаялі вакол трыбуны, і ніхто не падумаў ісці дамоў. Вецер ірваў сцягі, сыпаў у твары прыгаршчамі снегу, свістаў, скуголіў. Бура люта кідалася на людзей, нібы злавалася на іх за тое, што яны не звярталі на яе ніякай увагі.

Грымнула шматгалосае «ўра!», аркестр выканаў «Гімн Савецкага Саюза», і толькі тады ўсе пачалі разыходзіцца.

Вецер шалеў. За два крокі нічога не было відаць. Мы паціху, перамагаючы вецер, прабіраліся дамоў.

А ўвечары мы слухалі Маскву. Там была сонечная майская раніца. Над Краснай плошчай у ясным веснавым небе плылі эскадрыллі самалётаў. Па вуліцах пад гукі аркестра бясконцым патокам праходзілі войскі, калоны працоўных, моладзь, школьнікі, фізкультурнікі...

## МЕДЗВЕДЗЯНЯ

Аднойчы прыехаў бацька Тынэлькута і прывёз мне маленькае медзведзяня. Якое яно мілае! Бялюткае, як снег, тоўсценькае, пушыстае, а вочкі, нібы чорныя пацеркі. І вельмі, вельмі пацешнае.

Тата даў яму бляшанку са згушчоным малаком. Медзведзяня пахадзіла вакол яе, а пасля згрэбла бляшанку ў тоўсценькія пушыстыя лапкі і прагна пачало лізаць малако ружовым язычком.

Мама хацела пагладзіць медзведзяня, але яно павярнулася, забурчала і вышчарыла белыя вострыя зубкі.

— Ого, якое ты злоснае! — сказала мама.

— Я буду называць яго Сняжок! — сказаў я.

Медзведзяня пад'ела, пахадзіла па пакоі, а потым прымасцілася на татавых мяккіх туфлях і соладка заснула.

Дні ішлі, і мой Сняжок рос. Часта мы бралі яго на прагулку. На неабсяжным лёдавым прасторы бухты было многа вялізных таросаў. Наш Сняжок любіў узбірацца на іх і з'язджаць на жывоціку ўніз. Ён дурэў, хапаў нас за пяткі, калі мы ішлі ўперадзе. Я вельмі любіў вясёлыя прагулкі з маім калматым сябрам.

Мой Сняжок таксама быў у захапленні ад гэтых прагулак. Ён ужо ведаў, калі я гаварыў яму:

— Сняжок, гайда на прагулку!

Медзведзяня садзілася ля дзвярэй, нецярпліва бурчала, пазіраючы на мяне бліскучымі вачанятамі, нібы хацела сказаць мне: «Хутчэй, хутчэй!»

З кожным днём Сняжок рабіўся ўсё больш неспакойным. Ён быў вельмі цікаўны, забіраўся ўсюды і ўсё, што яму траплялася, грыз сваімі вострымі зубамі. Уночы ён сцягваў з мяне коўдру і ўкладваўся на ёй тут жа, каля канапы.

Ён вельмі любіў салодкае, і калі бачыў у руках у мяне цукар, дык не адыходзіў датуль, пакуль не атрымліваў пачастунак. У доме ён папсаваў нямала рэчаў, і мама ўсё часцей выказвала сваё незадавальненне. А галоўнае, ён рабіўся злосным і спрабаваў кусацца ўсур'ёз, асабліва тады, калі быў не ў гуморы.

Неяк да нас зайшоў знаёмы лётчык. Ён збіраўся ляцець у Маскву, і мама прапанавала яму завезці ў заапарк майго Сняжка.

Мне вельмі не хацелася расставацца са Сняжком, але я і сам бачыў, што ён ужо вялікі і дома далей трымаць яго нельга.

Раніцай мы накіраваліся ў аэрапорт. Надвор'е было прыгожае: весела свяціла сонейка, пад нагамі звонка хрупалі веснавыя льдзінкі, высока над галавой у чыстым блакіце неба пераклікаліся птушкі.

Сняжок быў у самым найлепшым настроі і весела бег побач са мной. А мне было вельмі сумна.

Вось і аэрадром. Сняжок спыняецца і асцярожна прыслу-

хоўваецца да шуму матораў. Я падбадзёрваю яго, і ён асцярожна ідзе побач.

Праз хвіліну мы ўжо ў самалёце. Сняжок цікаўна заглядае ў кожны куток. Вакол яго збіраецца ўвесь экіпаж самалёта, а ён нездаволена бурчыць і агрызаецца, калі хто-небудзь хоча пагладзіць яго, пагуляць з ім.

Усе смяюцца, жартуюць, а ў мяне слёзы падступаюць да вачэй.

— Бывай, мой Сняжок! — шапчу я, абдымаю свайго калматага выхаванца і выходжу з самалёта, хаваючы слёзы.

Яшчэ хвіліна, другая, і самалёт адрываецца ад зямлі. Я гляджу яму ўслед да таго часу, пакуль ён не знікае за белымі шапкамі сопак.

— Даруй, мой сябар! Калі-небудзь я прыеду пабачыцца з табой! Не сумуй!

## АБ ЧЫМ РАСКАЗАЛА ЛЮЛЬКА

Чарговы збор атрада вырашана было прысвяціць мінуламу Чукоткі. Яшчэ за паўгадзіны да пачатку мы ўсе ўжо сабраліся ў класе.

Эльхына, наш «звеннявы санінспектар», як мы, жартуючы, называлі яе, крытычным вокам акідвае рабят і робіць свае заўвагі:

— Розаў, папраў гальштук. Галя, прыгладзь крыху валасы. Толя, зашпілі кашулю.

«Санінспектар» наш строгі: усё заўважыць. У нас ужо ў прывычку ўвайшло: як убачым Эльхыну, дык адразу наводзім парадак.

Роўна ў вызначаны час у клас увайшоў Чыні. Ён такі: ва ўсім любіць парадак, дакладнасць і патрабуе гэтага ад кожнага піянера. Слова яго цвёрдае, як сталь: сказаў — і скончана.

Прывітаўшыся з намі, Чыні палажыў на стол доўгі футарал, абцягнуты нерпавай шкурай, потым выняў з яго вялікую, зробленую з маржовай косці, люльку і сказаў:

— Я раскажу вам гісторыю гэтай цудоўнай люлькі. Сядайце бліжэй.

Мы здзіўлена глянулі адзін на аднаго, хуценька расселіся і прыціхлі.

— Гэтай люльцы больш як сто гадоў. Яна дасталася ў спадчыну майму дзеду яшчэ ад яго бацькі.

Род наш славіўся мастакамі-кастарэзамі. Нямала цудоўных рэчаў, зробленых маімі продкамі, амаль задарма забіралі амерыканскія купцы, якія да савецкай улады гаспадарылі тут як хацелі.

Мой прадзед пражыў доўгае і вельмі цяжкае жыццё.

Я ніколі не бачыў свайго прадзеда, але бацька расказваў мне, як ён паміраў, і ўсе падрабязнасці гэтай смерці нібы стаяць перад маімі вачыма.

Цёмная, пракураная яранга. На аленевых шкурах ляжыць мой прадзед. Пасінелымі губамі ён ловіць паветра, рукі яго сутаргава скрабуць аленевую шкуру, што ўсцілае полаг.

Вакол хворага скача, як ашалелы, шаман, б'е ў бубен, скуголіць.

Урэшце шаман загадвае дапамагчы хвораму перасяліцца на той свет. На шыю старому накідваюць пятлю, якая сціскае яму горла і кладзе канец перадсмяротным пакутам.

— А хто ж гэта дазволіў задушыць старога? — з гневам гаворыць Віця.

— Такі быў звычай, народжаны цяжкім жыццём.

— Ой, як страшна! — ускліквае нехта з дзяўчынак.

— Бабулькі апранаюць нябожчыка, прывязваюць яму «ў дарогу» торбачку з тытунём, люльку, некалькі разьбярскіх інструментаў, запалкі, кавалачак мяса. Пасля выразаюць у сцяне яранґі дзірку і выносяць праз яе нябожчыка...

Чыні маўчыць з хвіліну, а потым расказвае далей:

— Дык вось, прадзед мой быў выдатным мастаком-каста-

рэзам. Гэтая люлька — яго апошняя работа. Тады яна была толькі яшчэ пачата. На ёй былі выразаны гэтыя вось няшчасныя паляўнічыя, якіх нясе на адарванай ільдзіне далёка ў мора, ды вунь тыя ўбогія ярангі пад сопкай.

За некалькі дзён да смерці прадзед паклікаў сына і ўнукаў і сказаў ім:

«Гэтую люльку беражыце. Хай кожны з нашага роду пакіне пасля сябе на ёй памяць. Гэта будзе наша родавая люлька...»

Дзеду майму ўжо давялося крыху пажыць пры савецкай уладзе, і вось яго след на люльцы: яснае сонца, што ўзыходзіць над тундрай, алені, параход, які паказваецца на гарызонце.

Мы з цікавасцю разглядаем люльку. Якая яна цудоўная! Усё на ёй нібы жывое.

— А вось гэта ўжо работа майго бацькі і яго старэйшага брата. Над прасторамі тундры плывуць самалёты. Ідуць людзі са сцягамі. А там, на ўзбярэжжы, ужо стаяць новыя дамы, высокая радыёмачта. Гэта на Чукотку прыйшло новае шчаслівае жыццё.

А вось гэтая разгорнутая кніжка, глобус, камсамольскі значок — гэта ўжо работа... мая,— заканчвае Чыні.

Цудоўная белая люлька пераходзіць з рук у рукі, і мы не можам на яе наглядзецца.



## ЗАЎСЁДЫ РАЗАМ

— Чаму гэта не прыйшоў у школу Віця? — запытала Ніна пасля першага ўрока.— І сястрычкі яго таксама няма ў школе,— заклапочана дадала яна.

— Будзем ісці са школы, абавязкова зойдзем да яго,— сказаў я.

Пасля ўрокаў я, Мара, Галя і Ніна пайшлі да Віці.

Калі мы ўвайшлі ў пакой, Віця стаяў ля электрычнай

пліткі і нешта мяшаў у каструлі. Побач на крэсле сядзела яго сястрычка Аня. Твар яе быў заплаканы. У пакоі панаваў непарадак: ложкі былі незасланы, на стале стаяў непамыты посуд, усюды было параскідана адзенне.

Віця глянуў на нас, нявесела ўсміхнуўся і прыглушаным голасам сказаў:

— Гаспадару вось...

— А дзе ж мама? — запытала Ніна.

— Маму на досвітку завезлі ў бальніцу,— сказаў, апусціўшы галаву, Віця, і з яго вачэй пасыпаліся слёзы. Зірнуўшы на брата, Аня таксама залілася слязьмі.

Усе мы прыціхлі, засмучаныя горам свайго таварыша.

— А што з мамай? — запытала Галя.

— Не ведаю. Кажуць, патрэбна неадкладная аперацыя.

— Не хвалюйся! Я зараз збегаю ў бальніцу да таты. Ён яшчэ павінен быць там,— сказаў я, зірнуўшы на гадзіннік і кладучы на крэсла свой партфель.

— А мы хуценька паабедаем і прыйдзем да цябе,— паабяцала Ніна.

Задыхаўшыся, я падбег да бальніцы. На ганку стаяла санітарка Тэюнэ і пыхкала сваёй маленькай люлькай.

— Тата яшчэ ў бальніцы? — запытаў я.

— У бальніцы, у бальніцы,— ветліва ўсміхнулася Тэюнэ,— толькі зараз ён на аперацыі.

— А каму робяць аперацыю? — устрывожана запытаў я.— Не ведаеце?

— Жанчыне, што прывезлі раніцай, пасялковай,— адказала Тэюнэ.

Выцершы добра ногі, я пайшоў у татаў кабінет і пачаў чакаць. На сэрцы было вельмі трывожна, а час, здавалася, ішоў вельмі, вельмі марудна.

Нарэшце да маіх вушэй даляцеў голас таты. Я ўсхапіўся з крэсла і выбег на калідор.

Тата выходзіў з аперацыйнай, сястра здымала з яго халат і маску. Следам за татам неслі на насілках Віцеву маму. Якая

яна белая! Я заплюшчыў ад страху вочы, сэрца маё застукала часцей.

Глянуўшы на спакойны, крыху стомлены твар таты, я адразу зразумеў, што ўсё ў парадку, і супакоіўся.

— Чаму ты не дома, а тут? — здзіўлена запытаў тата, заўважыўшы мяне.— Што здарылася?

— Татачка, я да цябе па важнай справе. Што з Віцевай мамай? Ты зараз зрабіў ёй аперацыю?

— Ах, вось яно што! Значыць, ты хочаш супакоіць свайго таварыша? — Тата ўзяў у свае мяккія, крыху халаднаватыя далоні мае шчокі і ласкава паглядзеў на мяне.— Скажы Віцю, што дзён праз пяць мама будзе дома. Хай не хвалюецца і даглядае сястрычку.

— Татачка, дазволь тады Віцю і Ані зараз прыйсці пабачыцца з іх мамай,— папрасіў я.

— Не, зараз, сынок, нельга. Заўтра, калі ласка! А сёння хворая павінна адпачываць.

— Тады скажы ёй, хай яна не хвалюецца і хутчэй папраўляецца. Наша звяно будзе ўвесь час з Віцем,— сказаў я і выбег за дзверы.

Я імчаўся так, што на ганку ледзь не збіў з ног Тэюнэ, якая несла дровы. Мне хацелася хутчэй супакоіць сваіх засмучаных сяброў.

— Усё ў парадку! Праз пяць дзён ваша мама вернецца. А заўтра тата дазволіў вам яе наведаць,— адным духам выпаліў я, ускокваючы ў кватэру Віці.

— Дзякую табе, Слава! — сказаў Віця, пазіраючы на мяне з удзячнасцю. А Аня абхапіла мяне рукамі за шыю і весела засмяялася.

— Ну, я абедаць. Пасля прыйду і будзем вучыць урокі,— сказаў я і пабег дамоў.

За абедам мама падала мне смачныя румяныя піражкі з мясам.

— Мама, а што, калі я некалькі піражкоў занясу Віцю з Аняй?

Мама выбрала самыя лепшыя піражкі, паклала іх у місачку, загарнула паперай і сказала:

— Прашу! Трымай!

Узяўшы місачку, я пабег да Віці.

Тут цяпер кіпела работа. Віця прыбіраў пасцелі. Ніна завіхалася ля пліткі, Галя мыла посуд, Эльхына заплятала коскі Ані, а Мара старанна падмятаў пакой.

Я паставіў місачку на стол, разгарнуў паперу і сказаў:

— Калі ласка! Гарачыя піражкі з мясам. Віця, Аня, ешце! А то пакуль зварыцца ваша каша, дык жываты да спіны прысохнуць.

— Навошта гэта, Слава! Хіба ў нас няма чаго есці? Гось зараз зварыцца,— збянтэжана сказаў Віця.

— Правільна, Слава! — усклікнула Ніна і, бразнуўшы дзвярыма, выбегла з пакоя.

Ніна вярнулася даволі хутка і паставіла на стол каструлю з супам і слоік з кісялём.

— А вось першае і трэцяе! — сказала яна.

— Ну навошта, рабяты! Не трэба,— пратэставаў Віця, але ўсё ж сеў разам з сястрой за стол і з апетытам паабедаў.

Калі ў пакоі быў наведзены парадак, мы ўзяліся за ўрокі.

З гэтага дня мы штодзённа пасля абеду збіраліся ў Віці. А некаторыя з членаў звяна нават начавалі ў яго.

Віця з сястрой хадзілі ў школу, наведвалі сваю маму, і ўсе былі задаволены.

Калі Віцева мама вярнулася з бальніцы, яна застала дома поўны парадак.

## ЗАЎТРА ЛЕТНІЯ КАНІКУЛЫ

Сёння ў класе пануе асаблівае ажыўленне. Настрой ва ўсіх узняты.

Ды яно і зразумела: заўтра пачынаюцца летнія канікулы.

Пасля трэцяга ўрока — класны сход. Прыходзіць Чыні.

— Ну, рабяты, віншую вас з адпачынкам! — гаворыць ён.— Папрацавалі вы нядрэнна: у класе няма ніводнага другагодніка. Асабліва пастаралася звяно Ніны Казловай. У гэтым звяне ў табелях — ніводнай тройкі... Некаторыя з вас цяпер паедуць да бацькоў у тундру, некаторыя застануцца тут, у пасёлку. Адпачываць прыемна. Але я хацеў бы, рабяты, каб вы ў час адпачынку не забываліся пра кніжку і не цураліся працы. Хутка і да нас на Чукотку прыйдзе лета. Лета наша вельмі кароценькае, а зрабіць на працягу яго трэба вельмі многа. Вы ў меру сваіх сіл дапамагайце дарослым. Часу хопіць і на гульню, і на працу. А папрацаваўшы, і адпачываць весялей. Дык давайце, рабяты, дамовімся, што кожны з вас хоць чым-небудзь — ці то дома, ці ў калгасе, ці тут, у пасёлку,— будзе дапамагаць у працы дарослым.

— Згода, згода! — адгукнуліся на гэту прапанову рабяты.

— Я буду дапамагаць вяліць юколу! — абазваўся Анкат.— Я па вешалах, як акрабат, хаджу.

— А я з бацькам буду пасвіць аленяў. У нашым калгасе аленяў многа,— сказала Эльхына.

— А чым будзем займацца мы, пасялковыя? — запытаў Толя.

— Будзем рамантаваць школу, інтэрнат,— сказаў Чыні.

— Вось гэта работа! — узрадаваўся Мара.

— Работы ўсім хопіць, абы толькі ахвота была,— сказаў Чыні.

— Я да пачатку навучальнага года вырашчу для школы многа кветак. Іх будзе поўна і ў класах, і ў калідорах,— запэўніла Ніна.

Піянеры доўга яшчэ абмяркоўвалі прапанову важатага. Ніхто не хацеў стаяць у баку ад гэтай важнай справы.

— Чыні, а дзе будзеш адпачываць ты? — запытала Ніна.

— Усюды! — усміхнуўся Чыні.— І ў пасёлку, і ў тундры. Мы будзем бачыцца часта.

— Вось гэта добра! — весела выгукнуў Толя.

— Ну і летнія канікулы! Навокал снягі ды льды! — сказаў я, калі мы ішлі дамоў.

— А ў Маскве зараз футбольны сезон у самым разгары,— уздыхнуў Мара — заўзяты балельшчык каманды «Дынама».

— А ў нас у Адэсе ўсё ў кветках, у зяляніне. Людзей на пляжы поўна. Загарай, купайся колькі хочаш! — уздыхнуў Віця.

— Не сумуйце, рабяты! І на Чукотку хутка прыйдзе лета,— падбадзёрваючы нас, абазваўся Тынэлькут.

— Ды якое тут лета? У мінулым годзе без паліто ніводнага дня не хадзілі,— незадаволена сказаў Віця.

— А камары! Я ніколі не думаў, што дзе-небудзь іх столькі бывае. Іншы дзень як наляцяць, ну хоць рукамі разграбай іх ідучы,— падтрымаў яго Мара.

— Ну вось і насы павесілі! — сказала Ніна.— Чукоцкае лета не такое благое. У ім таксама ёсць свая прыгажосць... Давайце лепш заспяваем песню, што вучылі на апошнім зборы атрада. Ну, пачынай! — звяртаецца яна да Толі, нашага звеннявога запявалы.

І вясёлая дружная песня ляціць наперагонкі з ветрам у сонечныя далі.

## ПАРАХОД ПРЫЙШОЎ

Сонца цяпер ужо зусім не сыходзіла з неба. Яно свяціла дзень і ноч, нібы хацела ўзнагародзіць нас за доўгае чаканне. Надышоў палярны дзень.

Снег пачарнеў і пад паўднёвымі вятрамі пачаў хутка асядаць і раставаць.

Лёдавая паверхня мора пакалолася і была падобна на панцыр гіганцкай чарапахі. Вецер адносіў ад берагоў вялізныя льдзіны, ачышчаючы бяскрайнія прасторы мора.

Нарэшце і да нас на Чукотку прыйшла кароткая бурная вясна, а за ёй адразу ж і лета.

Аднойчы ў сонечны ліпеньскі дзень над пасёлкам гучна загуў параходны гудок.

Увесь пасёлак высыпаў на бераг, каб прывітаць першы ў гэтым годзе параход. Людзі махалі яму хусцінкамі, шапкамі, рукамі, радасна крычалі, смяяліся.

За акіянскім параходам плылі катэры, вельботы і звычайныя байдары, зробленыя з маржовых шкур. Гэта жыхары чукоцкага ўзбярэжжа, якія жылі за дзесяткі кіламетраў ад пасёлка, віталі далёкага падарожніка.

У пасёлку панавала ажыўленне. Порт быў прыбраны пасвяточнаму. Начальнік порта — высокі шыракаплечы марак, якога мы называлі «дзядзя Сцёпа», апрануты ў парадную марскую форму, хадзіў шчаслівы, нібы імяніннік...

З гэтага дня мора ажыло. Па яго бязмежных прасторах ішлі параходы, цягнуліся баржы, бясконцай стужкай плылі плыты.

Я з сябрамі цяпер увесь свой вольны час праводзіў на беразе, сустракаючы і праводзячы параходы...

— Бачыў, раніцай прыйшоў параход «Мікаян»? Сёння пойдзем у госці да капітана Грыневіча,— сказаў аднойчы тата.

І мы пайшлі.

Трапілі мы якраз на абед, і капітан парахода — даўні знаёмы таты — запрасіў нас да стала.

З якім апетытам я еў кіслую капусту і сапраўдную смажаную бульбу з маласольнымі агуркамі!

На Чукотцы гародніна не расце. Яе прывозяць сюды ў сухім выглядзе або ў кансервах. Сушаная бульба, капуста, морква, буракі, цыбуля — усё гэта далёка не тое, што свежая гародніна...

Капітан расказваў, як ім прыйшлося змагацца з шалёным штормам у Баранцавым моры, як на хаду рамантавалі прабоіну, трапіўшы ў лёдавае акружэнне.

Пасядзеўшы крыху ў кают-кампаніі, мы выйшлі на палубу і падняліся разам з капітанам на капітанскі масцік.

На параходзе і вакол яго кіпела работа. Высачэзныя стрэлы лябёдак то апускалі свае доўгія хобаты ў трум парахода, то падымаліся адтуль з грузам і ныралі за борт, на прыстань.

На прыстані ўвачавідкі раслі высокія горы розных тавараў.

І чаго толькі не было тут! Будаўнічыя матэрыялы, машыны, розныя кансервы, мука, масла, цукар, кнігі, прамтавары, медыкаменты і нават дзіцячыя цацкі.

У паветры чулася «Віра!», «Майна!», гулі сірэны аўтамашын, звінеў смех.

— Праз тры дні адчальваем! — сказаў капітан, калі мы спускаліся з масціка.

— А выгрузіць і нагрузіць паспеюць? — запытаў тата.

— Трэба паспець, а то зазімуем тут, чаго добрага, як два гады таму назад. Памятаеце? — запытаў капітан Грыневіч.

— Ды як не памятаць. У той год лета ў нас амаль не было,— адказаў тата.

— Ты, мабыць, любіш кіно? — запытаў у мяне капітан.— Прыходзь увечары — паглядзіш новы фільм.

— А можна з усім звяном? — папрасіў я.

Тата і капітан Грыневіч усміхнуліся.

— Ну што ж, прыходзь са сваім звяном. Усім месца хопіць.

— Дзякую! — узрадавана адказаў я.

Увечары я, Ніна, Мара, Віця і іншыя члены нашага звяна, што адпачывалі ў пасёлку, сядзелі ў кают-кампаніі і глядзелі мастацкі фільм «Сталінградская бітва».

Праз тры дні параход «Мікаян» адыходзіў ад нашых берагоў. Мы глядзелі яму ўслед, пакуль ён не схаваўся ў тумане, што лёгкай белай заслонай апусціўся над хвалямі Усходне-Сібірскага мора.

## ЛЕТА

Усё навокал прачнулася, ажыло, загаманіла на розныя галасы. Нерпы высоўваюць над халоднай паверхняй вады свае тупыя морды. З'явіліся белакрылыя чайкі, якія пакінулі апошнімі нашы суровыя берагі. А за чайкамі прыляцелі з поўдня кайры, гагі, гусі, лебедзі, качкі ды іншыя крылатыя госці. Над пасёлкам стаіць шматгалосы птушыны гоман...

Паляўнічыя прыводзілі ў парадак сваю паляўнічую амуніцыю, ішлі ў тундру, у сопкі, на вялізныя «птушыныя кірмашы» і вярталіся адтуль з багатай здабычай.

Гарбатыя сопкі скінулі свой цяжкі снегавы кажух і зазелянелі пад шчодрым сонцам.

Жоўтыя, ружовыя, чырвоныя, сівыя імхі заслалі квяцістым дыванам прасторы тундры. Сям-там блішчалі срэбраныя люстэркі азёр.

Мы часта хадзілі цяпер гуляць да мора, у сопкі.

Я любіў узбірацца на сопку і аглядаць адтуль наваколле.

Унізе, ля самых сопак, вілася дарога на руднікі і капальні. Па ёй беглі грузавікі, нагружаныя лесам, машынамі, прадуктамі. А ля дарогі, яшчэ ніжэй, шумела неспакойнае халоднае Усходне-Сібірскае мора.

Я вельмі палюбіў мора, якога раней ніколі не бачыў, і гатоў быў сядзець ля яго цэлымі днямі.

Жыццё тут цяпер бурліла. Рыбакі закідалі і выбіралі напоўненыя рыбай сеткі; у паветры час ад часу чуўся працяглы моцны гудок прыбываючага ў порт парахода; рассякаючы з шумам белагрывыя хвалі, прабягаў катэр. Часамі за параходам цягнуліся доўгія стужкі плытоў.

Вяртаючыся дамоў, я збіраў сціплыя паўночныя кветкі: маленькія рамонкі, незабудкі і яшчэ нейкія жоўтыя і белыя кветкі, назвы якіх мне былі невядомы.

Назад мы звычайна ішлі берагам, які ўвесь быў усеяны прыгожымі, адшліфаванымі прыбоем каменьчыкамі і ракавінкамі, доўгімі гірляндамі марской капусты.

## ЛІПЕНЬСКІЯ СНЕЖКІ

Стаяў прыгожы ліпеньскі вечар. Было ціха і сонечна.

— Шкада, што такіх ціхіх, ласкавых вечароў у нас мала. Вятры не расстаюцца з намі ні ўзімку, ні ўлетку,— гаворыць тата.

Ціха. Толькі ўсплёскваюць хвалі ды шамаціць прыбярэжная галька. Я кідаю ў ваду каменьчыкі, капаю на беразе каналы, будую масты, раблю запруды ды пускаю на ваду лодачкі, змайстраваныя з кары.

— Вось калі б мора было не такое халоднае, ледзяное, я купаўся б, бегаў па вадзе,— кажу я.

— У гэтым моры льды — вечныя госці. Сёння іх няма, а заўтра ўся бухта можа быць забіта льдамі, сынок... Ну, мусіць, пойдзем дамоў,— кажа тата.— Зараз палова дванаццатай, пара спаць.

А сонца свеціць ярка і не збіраецца заходзіць. Яно толькі апусціцца над гарызонтам ды зноў пачынае падымацца. Вось ён, палярны дзень, якога ўзімку я ніяк сабе не мог уявіць.

Мы прыходзім дамоў, вячэраем. Мама «робіць ноч», апускаючы на вокнах цёмныя шторы, і мы кладзёмся спаць.

Назаўтра раніцай, як толькі я прачнуўся, мама сказала мне:

— Слава, паглядзі ў акно.

Я глянуў і анямеў ад здзіўлення: за акном была зіма. Усё навокал засыпаў снег. Вялізныя гурбы месцамі дасягалі дахаў.

— Што гэта, мама? Адкуль узяўся снег? — здзіўлена запытаў я.

— Усю ноч шалела пурга, дзьмуў паўночны вецер,— адказала мама.— Відаць, зіма прытаілася недзе блізка і вырашыла зазірнуць да нас у госці.

Прыйшоў тата.

— Што ж цяпер будзе? — запытаўся я ў яго.— Хіба лета ўжо скончылася?

— Не, сынок,— з усмешкай адказаў тата.— Лета вернецца. Гэта зіма жартуе з намі. Вось падзьме паўднёвы вецер і з'есць гэты снег.

Я хуценька паснедаў і выбег на вуліцу.

— Слава, Слава, хадзем гуляць у снежкі! — кліча Толя.

— Ліпеньскія снежкі! Ну дзе яшчэ бывае такое? — смяецца Віця.

На вуліцы ўжо кіпіць гульня, і я далучаюся да рабят. Нагуляўшыся ў снежкі, мы пачынаем ляпіць снежную бабу. Зноў, як і ўзімку, робім у снежных гарах тунелі, пячоры, крэпасці, гуляем у адважных паляўнічых і падарожнікаў...

Апоўдні падзьмуў цёплы паўднёвы вецер, і ад яго подыхаў снег пачаў хутка асядаць. Увечары ад нашых снежных збудаванняў не засталося і следу.

Толькі іскрыстыя ручайкі спявалі сваю вясёлую песню.

## У САЎГАСЕ

Неяк прыйшоў тата і сказаў, што ён разам з Эйнесам едзе на катэры ў саўгас. Там здарыўся няшчасны выпадак, і выклікаюць хірурга.

Я пачаў прасіць тату ўзяць мяне з сабой. Тата хвіліну падумаў і згадзіўся. Праз паўгадзіны мы ўжо адплывалі. Дзень выдаўся ціхі, сонечны, і на моры было асабліва прыгожа. Катэр хутка імчаўся, разразаючы халодныя, пазалочаныя сонцам хвалі. Спачатку мы плылі ля падножжа высокіх сопак, а потым перад вачыма раскінулася шырокая тундра. На яе бязмежных прасторах пасвіліся статкі. Дзе-нідзе трапляліся ярангі і цэлыя стойбішчы. Неўзабаве паказаліся будынкі саўгаса. Катэр наш, прабегшы яшчэ крыху, прычаліў да берага. Мы саскочылі на сырую прыбярэжную гальку і накіраваліся ў прыёмную амбулаторыі. Тата сказаў, каб я пасядзеў тут, пакуль ён агледзіць хворага, і пайшоў у другі пакой.

Амбулаторыя была чысценькая і зусім новая. Ад яе сцен пахла сасновым лесам.

Праз некаторы час тата вярнуўся ў прыёмную, даў некалькі парад фельчару амбулаторыі і мы выйшлі на вуліцу.

Ішлі мы шырокай вуліцай саўгаснага пасёлка ў суправаджэнні Эйнеса. Усе будынкі ў саўгасе былі яшчэ зусім новыя. У цэнтры стаяў вялікі светлы клуб. Крыху далей — магазін, дзіцячы сад, лазня і шматкватэрныя дамы для рабочых саўгаса.

Хутка мы апынуліся ля дома, у якім жылі бацькі Эйнеса. Нас сустрэлі, як самых дарагіх гасцей.

Бацька Эйнеса — брыгадзір аленяводчага саўгаса. Жывуць яны ўтраіх: бацька, маці і старэйшы брат Эйнеса — Ілюль.

Ілюль быў выдатным мастаком-кастарэзам. З маржовых іклаў ён вельмі добра выразаў птушак, звяроў, людзей, паўночныя пейзажы. Мы доўга любаваліся цудоўнымі работамі мастака-самавучкі. Мне асабліва спадабалася аленевая запрэжка. Алені былі як жывыя. Ілюль падарыў мне гэтую сваю работу.

Потым мы абедалі. Каб было весялей, маці Эйнеса ўключыла радыё. Калі яна вярнулася да стала, Эйнес, усміхаючыся, паглядзеў на яе і сказаў:

— А ну, маці, раскажы, як ты рэпрадуктар разбірала!

Маці пачырванела, збянтэжана ўсміхнулася і замахала на яго рукамі. Тата папрасіў Эйнеса расказць, аб чым гаворка. І Эйнес пачаў расказваць:

— Калі сям'я наша пераехала ў саўгас, вось у гэты дом, усё для нас, асабліва для маці, было тут новым. Замест цёмнай і цеснай ярангі ў яе цяпер быў прасторны, светлы пакой, замест дымнага ачага — вялікая пліта, у якой ярка гарэў чорны камень — вугаль. А калі аднойчы ўвечары загарэліся ў доме электрычныя лямпачкі, радасці не было канца. Але самы цікавы выпадак здарыўся ў маці з рэпрадуктарам.

Аднойчы бацька прыехаў з пасёлка і прывёз рэпрадуктар. Калі яго ўключылі і пачуліся галасы і музыка, мая маці спалохалася і нават адбегла да дзвярэй. Але пераканаўшыся,

што радыё — рэч бяскрыўдная, яна асцярожна падышла да рэпрадуктара і пачала яго аглядаць, кратаць рукамі.

Калі маці засталася дома адна, яна захацела паглядзець, хто сядзіць у гэтай невялікай скрынцы і так хораша спявае. Яна зняла заднюю сценку рэпрадуктара, але, на яе вялікае здзіўленне, у скрынцы нікога не было. Рэпрадуктар змоўк, таму што вілка выпала з разеткі. Маці вельмі спалохалася. Яна падумала, што са скрынкі нехта ўцёк. Так і застаў я яе ўстрывожаную ля рэпрадуктара. Прымацавалі мы сценку, я ўставіў вілку, і скрынка зноў загаварыла, зайграла.

Маці Эйнеса сарамліва апраўдвалася:

— Што ж мы бачылі ў сваіх цёмных ярангах? Дурныя мы былі, сляпыя. Я сапраўды думала, што ў скрынцы нехта ёсць, і хацела ўбачыць яго...

Тата гутарыў з бацькам Эйнеса пра саўгас, пра яго поспехі, пра рабочых.

— Заданне ўрада мы даўно перавыканалі. Людзі нашы працуюць вельмі старанна. Ну і жывём мы добра: і грошай, і мяса ў нас многа.

Бацька Эйнеса — добры паляўнічы. У гады Вялікай Айчыннай вайны ён першы пачаў здаваць пушніну ў фонд абароны. Ад яго не адставала і жонка. Яна арганізавала жанчын, і тыя пачалі шыць футраныя шапкі, рукавіцы для франтавікоў. І бацька, і маці Эйнеса ўзнагароджаны за гэта медалямі «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне».

## ПА БЫЧКОЎ

Выдаўся цёплы і ціхі дзянёк, якіх на Чукотцы трапляецца вельмі мала. Я, Віця і Мара вырашылі пайсці лавіць бычкоў.

— Пойдзем пасля абеду. Пад вечар рыба асабліва добра ловіцца! — сказаў Віця.

Пасля абеду Мара забег па мяне, і мы пайшлі да Віці.

Падышоўшы да дзвярэй Віцевай кватэры, мы пастукалі. Замест адказу з пакоя пачулася:

— Ну, смялей, смялей! Геолаг павінен быць смелым, рашучым чалавекам.

— Ой, я звалюся зараз! — дрыжачым голасам адказвала Аня, сястра Віці.

Мы пастукалі мацней. Галасы сціхлі, нешта бразнула аб падлогу, і на парозе з'явіўся Віця, а з-за яго пляча высунулася ўскудлачаная галава Ані.

Мы ўвайшлі.

У пакоі на стале стаяла крэсла, з шафы спускаўся вяровачны трап, праз увесь пакой была працягнута тоўстая вяроўка, на падлозе ляжала драўляная рэйка.

— Што вы тут робіце? — здзіўлена запытаў я, аглядаючыся навокал.

— Займаемся! Кожны дзень з трох да чатырох гадзін мы трэніруемся,— адказаў Віця.

— Для чаго такая трэніроўка? — пацікавіўся я.

— Я і Аня парашылі стаць геолагамі. А геолаг павінен быць смелым і спрытным чалавекам. Вось мы і займаемся, каб загартаваць сябе.

— Цікава паглядзець, як вы трэніруецеся,— сказаў Мара.

— Калі ласка. Нам засталося займацца яшчэ пятнаццаць хвілін. Сядайце на канапе і глядзіце. А пасля пойдзем лавіць бычкоў,— сказаў Віця.— Увага! — звярнуўся ён да сястры.— На нашым шляху глыбокая горная расколіна. Недзе ўнізе бурліць вада. Нам трэба перабрацца на той бок.

З гэтымі словамі Віця ўскочыў на крэсла і, схапіўшыся рукамі за вяроўку, павіс на ёй, а пасля пачаў перасоўвацца з аднаго канца пакоя ў другі. Потым ён загадаў рабіць гэта і сваёй сястрычцы.

— А цяпер мы лезем на скалістую сопку,— паведаміў Віця і так спрытна палез па вяроўцы, якая звісала са столі, што я замёр ад здзіўлення. Следам за ім паслухмяна лезла яго сястра.

— Вы сапраўдныя акрабаты! — усклікнуў я, не стрымліваючы больш свайго захаплення.

— А што ж ты думаеш? Сапраўдны геолаг павінен быць і добрым фізкультурнікам, і паляўнічым,— сур'ёзна прамовіў Віця, здымаючы са стала крэсла.— А цяпер будзем скакаць.

З гэтымі словамі ён умацаваў пасярэдзіне пакоя драўляную рэйку. Аня лёгка пераскочыла цераз яе. Тады Віця падняў рэйку вышэй. Дзяўчынка ўзяла і гэтую вышыню.

— Давай я паспрабую,— сказаў Мара.

Віця апусціў рэйку ніжэй. Мара адышоў да дзвярэй, потым разбегся і скочыў. Першы раз усё абышлося добра, але за другім разам, калі Віця крыху вышэй паставіў рэйку, Мара скочыў, зачапіўся і бразнуўся на падлогу. Аня пачала пляскаць у далоні і смяяцца.

— Чаго ты смяешся? Я ж ніколі не трэніраваўся,— пакрыўдзіўся Мара, паціраючы збітыя калені.

Роўна ў чатыры, узяўшы свае рыбацкія прылады, мы весела рушылі ў бухту. Нашы чукоцкія вудачкі былі нечым іншым, як метровымі кіямі, да якіх былі прымацаваны доўгія лёскі. Прынадай служылі стужачкі кумачу.

На моры было зусім ціха. Над вадой лёталі белакрылыя чайкі.

Прымасціўшыся на плытах непадалёку адзін ад аднаго, мы пачалі рыбачыць. Нашы чырвоныя паплаўкі мерна гойдаліся на вадзе, а мы пільна сачылі за імі.

— Ёсць! — узрадавана ўсклікнуў Віця і спрытна выхапіў з вады лёску. На кручку трапятаўся вялікі галавасты бычок.

— Бярэ! Бярэ! — радасна закрычаў Мара.

— Не крычы! Усіх бычкоў разгоніш,— раззлаваўся я, пазіраючы на свой паплавок, які спакойна пагойдваўся на вадзе.

— Другі! — смеючыся, усклікнуў Віця.— Ды які вялізны, глядзіце!

Я бокам глянуў на Віцевага бычка і спахмурнеў.

— Злавіў! Папаўся! — закрычаў Мара і, зняўшы з кручка вялікага бычка, падбег да мяне.

— І чаго ты крычыш? Бычка не бачыў, ці што? — узлаваўся я.

— Хлопцы! Глядзіце! Не бычок, а сапраўдны бык папаўся! Ледзь лёску не абарваў,— зноў пачуўся ўзрадаваны вокліч Віці.

Я быў у роспачы: мой праклятьі паплавок, як зачараваны, нават і не кратаўся. «Мо перайсці на другое месца?» — падумаў я. І раптам мой паплавок здрыгануўся раз, другі. Сэрца заскакала ад радасці. Я выхапіў лёску і зняў бычка.

Рыба лавілася добра. Каля кожнага з нас ужо ляжала па нізцы бычкоў, але нікому не хацелася ісці дамоў.

Між тым настаў вечар,— сонца лягло на мора. Свежы ветрык дыхнуў нам у твары.

— Ну, яшчэ па адным зловім і дамоў! — прапанаваў Віця.

Мы згадзіліся з ім і ў апошні раз закінулі лёскі.

— Ой! Ай! — закрычаў раптам на ўсю моц Мара.— Схапіла! Панесла!

Мы кінуліся да яго і ў адзін голас запыталі:

— Што з табой? Хто каго схапіў?

— Бычкоў чайка схапіла. Што цяпер рабіць? Няўжо без рыбы вяртацца дамоў.

Мы паспачувалі таварышу, але не ведалі, як дапамагчы яго бядзе.

— Я прыдумаў! — сказаў праз хвіліну Віця.— Зараз мы ўсе разам наловім табе бычкоў. І наогул усіх бычкоў падзелім пароўну. Ты згодзен, Слава?

— Ну, вядома, згодзен!

Твар Мары заззяў шчаслівай усмешкай, і мы зноў узяліся за лоўлю.

Сонца, паляжаўшы крыху на хвалях мора, зноў пачало падымацца. Надыходзіла наша летняя чукоцкая «ноч».

З жартоўнай песняй пра вясёлага рыбалова мы вярталіся ў пасёлак.

## АГУРОЧКІ

У нашым пасёлку была доследная цяпліца, у якой вырошчвалі зялёную цыбулю, радыску, салату, агуркі. Невялікі ўраджай гэтай цяпліцы аддавалі ў дзіцячы сад і бальніцу. Мама таксама пасадзіла два калівы агуркоў у скрынцы на акне.

Мы з мамай старанна даглядалі іх. Я сачыў, каб яны былі заўсёды паліты, і нават апырскваў іх з пульверызатара.

Расліны цягнуліся ўгару, але мама ўсё гаварыла, што ім нечага не хапае.

Нарэшце сярод лістоў агурочніку з'явіліся жоўтыя кветачкі. Іх было даволі многа. Мама зрабіла штучнае апыленне. Кветкі адцвілі, на іх месцы з'явіліся маленькія агурочкі. Але яны чамусьці жаўцелі і адпадалі, што вельмі засмучала і маму, і мяне.

Аднойчы я прыйшоў і ўбачыў цуд: на агурочніку сярод лісця зелянелі два ладныя агурочкі.

«Як гэта мы не заўважылі іх?» — падумаў я.

Не чакаючы ні хвіліны, я пабег клікаць маму і тату. І вось усе мы стаім і глядзім на свае агурочкі, а ў мяне слінка цячэ: так і хочацца з'есці свежы, зялёны агурок з соллю і хлебам.

Тата гаворыць:

— Ну што ж, здымай свой ураджай. Мама якраз смажыць рыбу на вячэру, з агурочкамі будзе вельмі добра.

Пачаў я здымаць агурочкі і бачу: яны ледзь прыкметна прычэплены да агурочніку рыбалоўнымі кручкамі.

Гэта тата пажартаваў з нас: яго пачаставалі агуркамі, а ён прынёс іх дамоў і цішком ад мяне з мамай прычапіў да агурочніку.

Я быў крыху расчараваны, але агурочкі былі такія смачныя, пахучыя, што я хутка забыўся на сваё расчараванне.

# У ЗВЕРАБОЯЎ

Аднойчы раніцай тату выклікалі ў зверабойны калгас да хворага. Гэта было ў жніўні, калі якраз ішло паляванне на маржоў. Тата вырашыў узяць мяне з сабой, каб я паглядзеў, як працуюць адважныя чукоцкія зверабоі. Было толькі пяць гадзін раніцы. Спаў я ў гэты час моцна, але як толькі тата сказаў мне аб паляванні, я адразу ж усхапіўся з ложка...

На ўзбярэжжы, у зверабойным калгасе, куды мы неўзабаве прыехалі на катэры, было весела і шумна. Тут гаманілі паляўнічыя, аддаваў нейкія распараджэнні старшыня калгаса, смяяліся і крычалі дзеці, трашчалі маторы катэраў, вельботаў і шхун.

Тату акружылі зверабоі, аднаму з якіх ён і даручыў мяне, а сам падаўся ў калгасны медпункт.

Мой апякун павёў мяне на шхуну. Але не паспеў я яшчэ ступіць на палубу, як пачуў узрадаваны вокліч:

— Слава, Слава! Сюды, да мяне!

Насустрач мне па палубе бег вучань нашага класа — Рынтын.

— Гэта мой тата. Ён капітан шхуны,— не без гонару прамовіў мой сябар, кіўнуўшы ў бок чалавека, які прывёў мяне на судна.

Капітан аддаў каманду, і наша шхуна, разразаючы хвалі, пайшла насустрач шырокім прасторам мора. Лёгкі ранішні ветрык кідаў нам у твар салёныя пырскі. Раптам усе на палубе забегалі, і Рынтын, паказаўшы рукой уперад, сказаў:

— Вунь, бачыш?

Я глянуў у той бок, куды паказваў Рынтын, і ўбачыў вялікі статак маржоў. Да іх і плыла наша шхуна. Маржы, узмахваючы ластамі, то знікалі ў хвалях, то зноў паказваліся на вадзе ў другім месцы. Капітан не драмаў. Ён, відаць, добра ведаў усе звычкі гэтых звяроў і цяпер пільна сачыў за важаком статка.

3 Зак. 1159

Раптам грымнулі стрэлы, усе замерлі на месцах, шхуна прыцішыла свой бег. Недалёка ад нашага борта паказалася вялізная галава маржа з белымі магутнымі ікламі. Вада навокал яго рабілася чырвонай.

— Чаму не страляюць? Ён жа яшчэ жывы? — устрывожана запытаў я ў свайго сябра.

— Насмерць забіваць нельга: патоне адразу. Зараз трэба гарпуніць.

І не паспеў Рынтын дагаварыць, як адзін са зверабояў спрытна кінуў у шырачэзную цёмную спіну маржа гарпун. Гарпун — гэта моцнае кап'ё з вострым кручком на канцы, да другога канца яго прывязаны доўгі рэмень, прымацаваны да напоўненага паветрам цюленевага меха. Калі гарпуншчык кідае гарпун, кручок упіваецца ў цела маржа, рэмень разматваецца і спаўзае з палубы ў мора. Разам з ім падае ў ваду і мех-паплавок. Морж цяпер загарпунены, і, куды б ён ні падаўся, мех-паплавок будзе скрозь ісці за ім. Вось звер усплыў, але тут жа прагучаў стрэл, і морж знік з вачэй разам з паплаўком. Праз момант мех-паплавок зноў усплыў на паверхню і стаяў цяпер нерухома.

— Ну, цяпер усё! — узрадавана сказаў Рынтын.

Пакінуўшы забітага маржа, шхуна памчалася ў пагоню за другімі.

Калі на паверхні мора плавала ўжо некалькі такіх паплаўкоў, наша шхуна падплыла да аднаго з іх. Рэмень з паплаўком прымацавалі да лябёдкі і пачалі выцягваць здабычу. Неўзабаве велічэзны марскі звер быў ужо на палубе.

— Які волат! — здзіўлена ўсклікнуў я.

— Тоны тры будзе! — тонам знаўцы адказаў Рынтын.

Тут жа на палубе зверабоі пачалі спрытна разбіраць тушу на часткі і грузіць у трум.

Вылавіўшы і разабраўшы ўсіх забітых маржоў, шхуна накіравалася да берага. Яшчэ здалёк я ўбачыў наш катэр. Тата махаў мне хусцінкай. Развітаўшыся з Рынтынам і яго бацькам, я пабег да таты...

Увечары, калі мы прыехалі дамоў, да нас прыйшоў Эйнес.

Я расказаў яму пра тое, што бачыў у зверабойным калгасе.

— Любяць нашы паляўнічыя маржовы промысел,— гаворыць Эйнес.— Ды як яго не любіць, гэтае паляванне, цяпер, калі да паслуг паляўнічых ёсць і катэры, і вельботы, і шхуны, абсталяваныя добрымі маторамі і ўсім патрэбным для палявання.

— А як раней было? — пытаюся я ў Эйнеса.

— Як было? Ішлі паляўнічыя ў мора на малых байдарках, зробленых з маржовай шкуры. Трэба і паляваць, і веславаць, і звера асцерагацца. Далёка заходзіць у мора на байдарках нельга было, бо як узнімецца вецер, дык назад не вернешся. Каля берага ці многа маржоў заб'еш, калі лета такое караткае? А каб пракарміць сям'ю ды абагрэць, асвяціць ярангу праз усю доўгую зіму, трэба здабыць маржы тры, бо інакш з голаду прыйдзецца загінуць. Нялёгка было паляваць на маржоў ды і небяспечна.

— А чаму небяспечна? — дапытваўся я.

— Байдарка — невялікае, кволае судна, а маржы, бачыў, якія вялізныя ды дужыя. Ледзь недагледзеў, не разлічыў паляўнічы,— і морж байдарку тую разам з паляўнічымі перакуліць. Быў у нас такі выпадак. На вачах у мяне байдарка і пяць паляўнічых затанулі. Морж трапіўся вельмі буйны і не хацеў паддавацца паляўнічым. Паранены, ён кінуўся на байдарку, і раней чым паляўнічыя паспелі даць яму адпор, байдарка перавярнулася, і людзі загінулі.

— А чаму ж яны не плылі да вас? — запытаў я.

— Чукчы плаваць не ўмеюць. Дзе ім вучыцца плаваць? Вада ў нашым моры і азёрах халодная, як лёд.

Мы доўга яшчэ гаварылі аб паляванні. Эйнес расказаў мне шмат цікавага аб чукоцкіх зверабоях.

## СЯБРЫ ПРЫЕХАЛІ

Заўтра першае верасня. Як хутка праляцелі летнія канікулы!

У пасёлку з самай раніцы шумна. Адзін за адным прычальваюць вельботы, садзяцца на ваду гідрасамалёты, бягуць машыны. Гэта з усіх куткоў неабсяжнай тундры з'язджаюцца ў школу вучні.

За лета яны адпачылі, падраслі, набраліся новых сіл і цяпер з радасцю спяшаюцца ў школу.

Я, Віця, Мара ўвесь час на беразе. Мы чакаем сваіх сяброў: Тынэлькута, Эльхыну, Айвана, Рынтына.

— Як добра, што сёння няма туману і ветру,— кажа Мара.

— Ну што там? Не нашы? — пытаюся я ў Віці, які пільна глядзіць у бінокль.

— Пачакай, пачакай! Здаецца... Нашы! Нашы!..— усклікае Віця.

Вельбот бяжыць па хвалях, набліжаючыся да берага. Мы вітаем яго, размахваем шапкамі.

— Слава, Слава! — далятае да мяне голас Тынэлькута.

Ён стаіць на вельбоце і, склаўшы рупарам далоні, крычыць.

Зашаргацела прыбярэжная галька, белагрывыя хвалі з шумам узляцелі на бераг, кідаючы ў твар халоднымі пырскамі вады.

Рабяты адзін за адным жвава саскочылі на бераг і весела прывіталіся з намі.

— Я табе ўсе падручнікі купіў. Вось яны! — кажу я, падаючы Тынэлькуту кніжкі, загорнутыя ў газету.— Тут і геаграфія, і гісторыя.

— Ой, як добра! Дзякую табе, Слава,— гаворыць Тынэлькут.— Ведаеш, як я засумаваў па школе.

— А ў гэтым годзе будзе яшчэ цікавей: будзем вывучаць новыя прадметы,— кажу я.

— Хутчэй бы было заўтра,— усміхаецца Тынэлькут.

— Рабяты, гляньце, як вырасла Эльхына! — кажа Віця.— А кнігі, што я табе даў, усе прачытала? — звяртаецца ён да дзяўчынкі.

— Усе, усе! Якія яны цікавыя! Вельмі цікавыя! — горача гаворыць Эльхына.

— А якая спадабалася найбольш? — не сунімаецца Віця.

— Гайдара. Асабліва пра Чука і Гека,— адказвае Эльхына.

— Чыні! Чыні! — усклікваюць хорам прыехаўшыя, калі на беразе з'яўляецца наш важаты.

Усе акружаюць яго шумным, вясёлым натоўпам, пытанні сыплюцца адно за другім.

Чыні смяецца, затульвае вушы і гаворыць:

— Рабяты, усе за мной! Вас даўно ўжо чакае смачны абед, лазня, настаўнікі і доктар.

Ён ветліва вітаецца з бацькамі, жартуе і падбадзёрвае навічкоў.

Усе мы накіроўваемся да будынка школы.

Школа наша сягоння выглядае па-святочнаму. Гірлянды чырвоных сцяжкоў і электрычных лямпачак, заклікі, плакаты ўпрыгожваюць прышкольную пляцоўку і будынкі школы і інтэрната. Гэта пастараліся пасялковыя піянеры і камсамольцы, каб як належыць сустрэць нашых сяброў.

Увечары да мяне прыйшлі Тынэлькут і Мара.

— Ведаеце, хлопцы, у нашым стойбішчы будуюць дамы. Адзін ужо гатовы зусім, а ў другім засталося толькі шыбы ўставіць,— радасна паведамляе Тынэлькут, сядаючы на падлогу. Ён любіць пасядзець часам па-чукоцку, скрыжаваўшы ногі.

Мы таксама садзімся па прыкладу Тынэлькута на падлогу. Ён весела смяецца.

— А якія дамы, каб вы бачылі! Бярвенні — во, не абхапіць, такія таўшчэзныя. А зараз я вам нешта пакажу,— таямніча падміргваючы, гаворыць Тынэлькут.

З-пад сваёй новай кухлянкі ён дастае паперку і, асцярожна разгарнуўшы, падае мне.

— Ого! — кажу я, прачытаўшы паперку, і з павагай гляджу на свайго сябра.

— Ды ты ўголас прачытай! — просіць Мара.

Я чытаю:

*«Гэтым паведамляем піянерскую арганізацыю школы, што вучань Тынэлькут добра працаваў на будаўніцтве дамоў стойбішча. Выказваем падзяку школе і піянерскай арганізацыі, якая выхавала добрага піянера.*

*Брыгадзір будаўнічай брыгады Іваноў».*

— Вось гэта я разумею! — сказаў Мара.— Цяпер ты будзеш знатным піянерам нашай школы! — не без зайздрасці дадаў ён.

— А ведаеце, адкуль гэтыя будаўнікі да нас прыехалі? Ажно з горада Архангельска! Усё стойбішча наша дапамагала будаваць. Цяпер бацькі мае зімаваць будуць у цёплым светлым доме.

— А як твой дзядуля? Можа, не захацеў пераходзіць з ярангі? — запытаў Мара.

— Куды там! — усміхнуўся Тынэлькут.— Дзед мой цэлыя дні прападаў на будаўніцтве. Як дзіця малое, радаваўся, калі перайшлі ў дом.

— Правільны ў цябе дзед, перадавы! — кажу я.

— Вось толькі спаць на ложку адмовіўся. Паслаў новую аленевую шкуру ля печы, і нічога на свеце яму не трэба. Сядзіць, папыхквае сваёй люлькай ды гаворыць: «Цяпер, мабыць, яшчэ зім сто буду жыць. Які дурань цяпер паміраць захоча?»

Мы смяёмся, слухаючы расказ Тынэлькута, перасыпаны вясёлымі жартамі.

— І яшчэ ў мяне ёсць навіна,— памаўчаўшы, гаворыць Тынэлькут.

— Якая?

— Бацька падарыў мне стрэльбу. Прывезлі сёлета на параходзе «Мікаян». Стрэльба — цудоўная. Цяпер я не абы-хто, а сапраўдны паляўнічы,— важна гаворыць наш сябар.

Мы ў сваю чаргу расказваем пра пасялковыя навіны. Пра тое, як мы дапамагалі рамантаваць школу. Пра тое, як сустракалі вялікія акіянскія параходы. Пра тое, як былі ў гасцях у маракоў «Мікаяна».

Зірнуўшы на гадзіннік, Тынэлькут раптам заспяшаўся:

— Ой, ледзь пра сваіх «падшэфных» не забыўся! Пяцёра іх прыехала сёлета ў першы клас з нашага стойбішча. Трэба дапамагчы ім павячэраць і легчы спаць, а то будзе, як некалі са мной.

— А што з табой было? — пытае Мара.

— Чаго толькі не было са мной, калі я ўпершыню трапіў у школу. Памятаю, лёг я спаць на ложак, як мне паказалі. Круціўся, круціўся — усё неяк нязручна. Калі ўсе сцішыліся, злез я з таго ложка, разаслаў на падлозе сваю кухлянку, лёг на яе і адразу ж заснуў.

— З непрывычкі яно ўсё цяжка,— заўважае Мара.

— Ну, да заўтра! — кажа Тынэлькут і бяжыць у інтэрнат.

## ПЕРШАЕ ВЕРАСНЯ

— Вось і зіма прыйшла,— сказала мама, пабудзіўшы мяне раніцай і павіншаваўшы з пачаткам новага навучальнага года.

Я ўсхапіўся з ложка і глянуў у акно. Навакол было бела. Па халодным небе плылі цяжкія калматыя хмары. Паміж іх час ад часу выглядала невясёлае восеньскае сонца.

За паўгадзіны да пачатку заняткаў па мяне забег Мара, і мы разам пайшлі ў школу.

Паўночны вецер дыхаў холадам. Вочы мімаволі заплюшчваліся ад яркай белізны снегу.

— Глядзі, як пачарнела мора! — здзівіўся Мара, калі мы

завярнулі за вугал свайго дома і перад намі раскінулася бухта.

І сапраўды, сярод белых чыстых снягоў мора выглядала амаль зусім чорным. На буйнай адшліфаванай гальцы замярзала пена. З сумным крыкам над хвалямі ляталі белакрылыя чайкі.

«Поць-поць!» — даносіліся здалёк знаёмыя выгукі. Гэта каюр весела пакрыкваў на сваю запрэжку.

— І лета амаль не было, а ўжо зноў зіма,— расчаравана гаворыць Мара.

— А памятаеш наш верасень? Сонца, сады ў восеньскай пазалоце, тонкія павуцінкі, кветкі, цяпло, яблыкі,— успамінаю я.

Успаміны заносяць нас туды, на шумныя вуліцы роднага горада. Якімі святочнымі і вясёлымі бываюць яны ў гэты першы дзень навучальнага года.

А вось і наша школа. Ля яе сёння таксама весела і людна. Стаяць запрэжкі сабак, мітусяцца дарослыя і дзеці. Твары ва ўсіх радасныя, шчаслівыя. Толькі першакласнікі, нібы ўстрывожаныя маленькія алені, усё яшчэ горнуцца да бацькоў і падазрона пазіраюць навокал.

Каля навічкоў завіхаюцца вучні старэйшых класаў. На рукавах у іх чырвоныя павязкі. Гэта шэфы першакласнікаў. Яны дапамагаюць настаўнікам знаёміць малых з парадкам іх новага школьнага жыцця.

Школа сустрэла нас пахам свежай фарбы і крэйды. Падлога, сцены, парты, дошкі — усё навокал зіхацела і нібы ўсміхалася.

— А гэта нашы юннаты пастараліся! — паказваючы на скрынкі з астрамі, настуркамі ды іншымі кветкамі, растлумачыў Віця.

Калі на двор увайшла Ніна Мікалаеўна, мы ўсе кінуліся да яе.

— Добры дзень, Ніна Мікалаеўна! — загуло з усіх бакоў.

Прывітаўшыся з намі, настаўніца сказала:

— Дайце я пагляджу на вас, рабяткі!

Яна акінула нас сваімі добрымі вясёлымі вачыма:

— Выраслі, падужэлі, пахарашэлі!

— Ніна Мікалаеўна, а мы і адпачываючы не забывалі аб школе,— сказала Ніна Казлова.— Падрыхтавалі для яе шмат падарункаў. Гурток юннатаў сабраў гербарый «Нашы чукоцкія расліны». Прыгожы гербарый атрымаўся. Вось убачыце самі.

— А я зрабіў у падарунак школе чучала палярнай савы,— паведаміў Тынэлькут.— Яна зусім як жывая.

— А Слава аформіў дошку для атраднай насценгазеты. Заўтра прынясём яе ў школу,— сказаў Віця.

— А Мара сваіх лісаў падарыў юннатам,— сказаў я.

— Вось гэта правільна! А то гэтыя лісічкі ледзь яго на другі год не пакінулі,— пажартаваў Толя.

Прагучаў горн. Ён клікаў нас на першую ў гэтым годзе лінейку. Шум і гамонка сціхлі.

На першым уроку Ніна Мікалаеўна сказала нам:

— Апрача тых прадметаў, што былі ў вас у трэцім класе, мы цяпер будзем вывучаць геаграфію, гісторыю, прыроду. Усё гэта вельмі цікавыя прадметы, і я ўпэўнена, што вы будзеце добра іх ведаць.

Яна пазнаёміла нас з раскладам урокаў і яшчэ раз напомніла, які павінен быць правільны рэжым дня.

Першы ўрок прайшоў так хутка, што мы нават здзівіліся, калі празвінеў званок.

Хутка прайшлі і астатнія ўрокі.

А пасля заняткаў Ніна Казлова сабрала наша звяно і сказала:

— Заўтра нядзеля. Давайце правядзём першы збор звяна ў сопках. Згода?

— Вядома, згода! — дружна адказалі рабяты.

— Збяромся а дзесятай гадзіне каля школы і адтуль — у сопкі! — сказала Ніна.

## ЛЯ КАСТРА

Раніца была невясёлая. Над самымі вяршынямі сопак віселі шэрыя хмары. Прасторы мора хаваліся ў восеньскім тумане.

Але мы не звярталі ўвагі на надвор'е: нам было весела.

Ідучы паўз лесапільню, мы прыпыніліся, каб паглядзець, як ідзе тут работа.

Уся бухта была забіта доўгімі плытамі. Рыпела лябёдка, выцягваючы з вады тоўстыя бярвенні.

Іх тут жа распілоўвалі на дошкі, складалі ў штабелі, грузілі на грузавікі.

Зірнуўшы на цэлыя горы абрэзкаў, я падумаў: «А што, каб узяць нам на сопку дроў і раскласці там касцёр?»

Я выказаў сваю думку рабятам.

— Вось гэта ідэя! — падхапіў Віця.

— Зараз! — сказала Ніна і пабегла.

Пагутарыўшы аб нечым з высокім чалавекам, што трымаў у руках палявую сумку, яна паклікала нас:

— Рабяты! Гайда за мной!

Мы кінуліся навыперадкі па дровы.

— Бярыце толькі сухія! — крыкнула Ніна.

Набраўшы дроў, мы весела рушылі далей.

Падняўшыся ў сопкі і выбраўшы зацішнае месца, мы пачалі распальваць касцёр. Неўзабаве вясёлыя агеньчыкі забегалі па дровах. Ад кастра пацягнула прыемным цяплом.

Мы цесным колам абселі вогнішча і дружна заспявалі нашу любімую песню:

Эх, хорошо в стране Советской жить!
Эх, хорошо страной любимым быть!

Ля кастра было весела і ўтульна. Твары ва ўсіх расчырванеліся, позіркі пасвятлелі.

— Рабяты! — сказала Ніна.— Мінулы навучальны год мы закончылі нядрэнна. Мы добра дружылі і дапамагалі адзін

аднаму. Давайце ў гэтым навучальным годзе вучыцца і дружыць яшчэ лепш!

— Мне нават не верыцца, што я ўжо ў чацвёртым класе,— сказала Галя.— Здаецца, яшчэ зусім нядаўна была ў першым.

— Так не заўважым, як і школу скончым. А пасля паедзем усе разам вучыцца туды, на Вялікую зямлю,— задуменна прамовіў Тынэлькут.

— Я паеду вучыцца ў марское вучылішча. Скончу яго і буду вадзіць сюды, на Чукотку, вялікія акіянскія караблі. Буду капітанам далёкага плавання,— сказаў я.

— А мастаком? — хітра пазіраючы на рабят, запытаў Мара.

— І мастаком! У вольны ад работы час.

— Рабяты, давайце расказваць пра свае мары! — прапанавала Ніна.

— І сапраўды! Давайце марыць! — усклікнуў узрадавана Тынэлькут, пляснуўшы ў далоні.

— Пачынай, Ніна! Ты звеннявая. Табе і першае слова,— сказаў Віця.

— Ну што ж! Я магу! — усміхнулася Ніна.— Я мару быць мічурынцам. Скончу школу, паеду вучыцца далей, а пасля абавязкова вярнуся на Чукотку, вось сюды, у наш пасёлак.

— О! Тады тут ужо будзе не пасёлак, а горад з вялікімі дамамі, як у кіно! — сказаў Рынтын.

— Ну вядома, горад! Тут будуць шматпавярховыя дамы, заасфальтаваныя вуліцы, трамваі, тэатры... А я прыеду азеляняць наш горад! — сказала Ніна.

— Ого! А пра вечную мерзлату ды пра вятры ты хіба забылася? — падміргнуў сябрам Віця.

— Не, не забылася! І ведаеце, што я прыдумала!

— Што, што? — пачулася з усіх бакоў.

— А вось што! Пад плошчамі, дзе мы разаб'ём нашы скверы, будуць пракладзены трубы паравога ацяплення. Круглы год яны будуць саграваць зямлю.

— Вось гэта цікава!

— На скверах мы зробім вялізныя прыгожыя клумбы,— гаварыла далей Ніна,— з дэкаратыўных кустоў і дзікай ружы. Пабудуем фантаны, з якіх будзе біць цёплая вада...

— А мяне ты возьмеш да сябе ў памочніцы? — запытала Эльхына.— Я вельмі люблю кветкі.

— Калі ласка! — весела адказала Ніна.

— Цікава, Ніна, прыдумала! У нашым краі — ружы, многа кветак! — з захапленнем прамовіў Тынэлькут.

— А я,— пачаў Віця,— мару быць геолагам, як тата. Тата мой быў смелым чалавекам, і, каб не загінуў на вайне, ён адшукаў бы ў чукоцкай зямлі незлічоныя багацці. Я абавязкова паеду вучыцца на геолага. Я знайду ў гэтых сопках такія скарбы, якіх няма ва ўсім свеце. Вось толькі б хутчэй скончыць школу!

— А я,— сказаў Тынэлькут, да якога дайшла чарга,— буду лётчыкам. Я аблячу ўсю нашу вялікую Радзіму! У льдах буду паказваць шлях караблям, буду вартаваць нашы граніцы ад ворага, лятаць у Маскву.

— А я хачу працаваць у зверабойнай флатыліі. Вельмі ж люблю паляванне,— сказаў Рынтын.

— А я ветурачом буду,— заявіў Мара.— Мне падабаецца даглядаць звяроў і птушак і лячыць іх.

— Баюся, каб ты праз сваю няўважлівасць не пераблытаў часам лякарствы ды не нарабіў бяды,— пажартаваў Віця.

— Не бойся! Гэта я цяпер такі, а падрасту, дык убачыш, які буду сур'ёзны,— адказаў Мара.

— А ты аб чым марыш? — звярнулася Ніна да Айвана.— Цяпер твая чарга.

Айван пачырванеў і збянтэжана адказаў:

— Коо [1].

— Як гэта не ведаеш? — здзівілася Ніна.— Кожны чалавек абавязкова аб чым-небудзь марыць.

---

[1] К о о — па-чукоцку «не ведаю».

— Я вельмі люблю спяваць і танцаваць. Я люблю музыку. Не ведаю, кім мне быць,— сумна закончыў Айван.

— Вось дзівак! — усклікнула Ніна.— Ты арганізуеш чукоцкі ансамбль песні і танцаў. Будзеш сам складаць песні.

— Яшчэ і ў Маскву паедзеш са сваім ансамблем! — дадаў Віця.

— Коо! — усміхнуўся Айван.

Мы яшчэ доўга сядзелі ля кастра і марылі аб будучым нашага чукоцкага пасёлка, і толькі тады, калі пасыпаў часты халодны дождж з ліпкім мокрым снегам, пайшлі дамоў.

Калі ўваходзілі ў пасёлак, Ніна зноў заспявала.

Мы весела падхапілі песню, і яна палящела, нібы птушка, у дажджліва-туманныя прасторы.

## МЫ АД'ЯЗДЖАЕМ

У той вечар тата прыйшоў дадому вельмі ўсхваляваны і ўзрадаваны.

— Едзем! — весела сказаў ён, схапіўшы мяне ў абдымкі.

— Куды едзем? — здзіўлена запытала мама.

— Едзем у Маскву! Атрымаў адпачынак за ўсе чатыры гады працы.

— Вось гэта здорава! Колькі ж ты будзеш адпачываць? — запытаў я.

— Амаль цэлы год!

— А калі ад'язджаем? — запытала мама.

— Праз тыдзень,— адказаў тата і дадаў, звяртаючыся да мяне: — І ведаеш, хто з намі едзе?

— Хто? Мабыць, Эйнес?

— Чыні. Вучыцца едзе. У Ленінград. Настаўнікам хоча быць.

— Гэта яго сапраўднае прызванне. Я вельмі рада за яго,— сказала мама.

З гэтага дня мы пачалі збірацца ў дарогу.

Нас чакала вялікае і вельмі цікавае падарожжа па Вялікім Паўночна-Марскім шляху. І ўсё ж мне было сумна, калі я думаў, што хутка трэба ад'язджаць. Шкада было раставацца са сваімі сябрамі, са сваёй школай.

Я палюбіў гэты суровы край на ўзбярэжжы Усходне-Сібірскага мора, яго заснежаныя сопкі, велічныя скалістыя горы, бязмежную тундру. Я пачынаў разумець тату, які часта гаварыў:

— Хто хоць раз пабывае ў Арктыцы, таго заўсёды будзе цягнуць сюды.

У доме цяпер быў непарадак, мітусня. Складалі рэчы, рыхтаваліся ў далёкую дарогу.

Нарэшце надышоў дзень нашага ад'езду. Гэта было дзесятага верасня. Надвор'е сапсавалася: сыпаў мокры снег, дзьмуў халодны паўночны вецер.

З самай раніцы да нас пачалі прыходзіць знаёмыя. Эйнес і Тынэлькут прыйшлі яшчэ на досвітку. Яны былі вельмі засмучаны, што прыходзіцца раставацца з намі.

— Не сумуй! — сказаў тата, паляпваючы па плячы Эйнеса.— Хутка ўбачымся! Зноў будзем працаваць разам.

Калі да ганка пад'ышла машына, на вачах Тынэлькута заблішчалі слёзы. Мы абняліся і пацалаваліся.

Сеўшы ў машыну, я яшчэ раз напомніў яму:

— Глядзі ж, пішы мне!

Мы развіталіся з усімі, і машына ўжо кранулася з месца, як да мяне даляцеў голас Ніны Казловай. Яна бегла ад школы, размахваючы сваёй васільковай шапачкай, і крычала:

— Пачакайце! Спыніцеся!

Разам з Нінай беглі ўсе піянеры нашага звяна. Яны, відаць, хацелі яшчэ раз развітацца са мной.

Машына спыняецца. Рабяты падыходзяць да яе. Паціскаючы на развітанне руку, яны жадаюць мне ўсяго найлепшага.

— Прыязджай зноў сюды! Будзем разам вучыцца далей,— гаворыць Анкат.

— Прывітай ад мяне Маскву і стадыён «Дынама»! — просіць Мара.

— Пішы нам, не забывай звяно! — гаворыць Ніна.

— Шчаслівага падарожжа! — крычыць наўздагон Віця, калі машына зноў кранаецца з месца.

Сябры доўга махаюць мне шапкамі, рукамі...

Неўзабаве мы прыехалі ў порт і ўбачылі вялізны акіянскі параход. Я прачытаў яго назву. Яна была прыгожая і гордая — «Арол».

Па бясконца доўгаму трапу мы пачалі ўзыходзіць на борт волата-парахода, а нашы рэчы, падхопленыя стралой лябёдкі, праплылі над галовамі і плаўна апусціліся на палубу.

— Віра! Майна! — чуліся воклічы матросаў. Навокал стаяў гоман, мітусня.

Калі мы апынуліся ў цёплай каюце, за ілюмінатарам было ўжо зусім цёмна. Я так стаміўся за апошнія дні, што адразу лёг і заснуў.

Мяне пабудзіла мама:

— Уставай, Слава, адплываем.

Мы выйшлі на палубу. У порце гулі ўсе параходы і катэры, развітваючыся з нашым «Арлом». Ён павольна адыходзіў ад берага.

Мы стаялі на палубе, аж пакуль не зніклі з вачэй апошнія агні нашага пасёлка.

— Поўны наперад! — пачулася з масціка каманда капітана.

«Арол» смела выходзіў на шырокія прасторы Усходне-Сібірскага мора. Хвалі з шумам біліся аб магутныя грудзі нашага карабля. Вільготны вецер дыхаў холадам. Пастаяўшы яшчэ крыху на палубе, мы пайшлі ў сваю цёплую ўтульную каюту.

## НА ПАРАХОДЗЕ

Раніцай мы выйшлі на палубу. Дзень быў хмарны. Навокал аж да самага небасхілу неспакойна хвалявалася свінцовае мора. За кармой цягнулася шырокая паласа, акаймаваная пенай.

Мы прайшлі на нос карабля. Тата крыху прыўзняў мяне, і я паглядзеў уніз, за борт парахода.

Параход сваім магутным носам урэзваўся ў высокія хвалі, і яны з шумам рассыпаліся зеленавата-жамчужнымі пырскамі, даючы дарогу нашаму волату. Хвалі так моцна шумелі, што мне не чуваць было, што гаворыць тата.

Пабывалі мы і на капітанскім мосціку. Адсюль, як на далоні, відаць было ўсё, што рабілася на палубе і далёка ў моры.

Пасля снедання мы пайшлі аглядаць карабель.

Абапал доўгага калідора цягнуліся дзверы светлых кают.

Усё тут зіхацела чысцінёй, усюды быў узорны парадак.

Мы зайшлі ў душ, у амбулаторыю. З цікавасцю пастаяў я ля крацістай сцяны камбуза, дзе ля вялізнай пліты завіхаліся два кокі. Абодва яны былі ў бялюткіх куртках, фартухах і каўпаках.

Зазірнулі мы і ў сталовую, дзе снедалі маракі, якія вярнуліся з начной вахты.

Потым мы спусціліся паверхам ніжэй. Тут знаходзіліся склады, халадзільнікі ды іншыя службовыя каюты.

Але самае вялікае ўражанне зрабіла на мяне вялізная машынная зала. Тут не было замурзаных качагараў і машыністаў. Людзі, якія працавалі ў машыннай зале, былі ў чысценькіх спяцоўках і спакойна сачылі за работай розных механізмаў і прылад.

Сваё падарожжа па караблі мы закончылі ў кают-кампаніі. Гэта быў прасторны, светлы пакой. Ля сцен стаялі мяккія канапы, а перад імі — вялікія сталы, накрытыя белымі абрусамі.

Пазней я бываў у кают-кампаніі амаль штодня, бо тата маляваў з натуры партрэты маракоў. Вечарамі тут часта праводзіліся кінасеансы, якія я акуратна наведваў.

Бывалі мы часта і ў чырвоным кутку, слухалі радыё, чыталі часопісы, гулялі ў даміно, шашкі і шахматы.

## У КАРСКІМ МОРЫ

Амаль кожную раніцу пасля снедання мы выходзілі на палубу. Часам мама брала з сабой кавалачкі хлеба і кідала іх чайкам, якія суправаджалі наш параход, калі дзе-небудзь недалёка была зямля. Чайкі на ляту хапалі хлеб, а калі не паспявалі схапіць яго ў паветры, то кідаліся за ім у ваду.

Я любіў назіраць за гэтымі птушкамі. Асабліва мне падабалася, калі яны сядзелі на хвалях і разам з імі то падымаліся ўверх, то апускаліся ўніз, нібы гойдаліся на гушкалках.

Калі на небасхіле з'яўляўся параход, на палубу падымаліся амаль усе пасажыры. Прывітаўшы адзін аднаго гудкамі, караблі разыходзіліся. Але часам параходы кідалі якары. Тады на ваду апускалася шлюпка, і некалькі чалавек з каманды сыходзілі ўніз па вяровачнаму трапу, садзіліся ў шлюпку і плылі да сваіх таварышаў.

Караблі абменьваліся кінафільмамі, пласцінкамі, апошнімі навінамі.

Аднойчы раніцай я выйшаў на палубу і ўбачыў, што ўсё мора пакрыта нібы рыбнай луской. Гэта быў малады, зусім дробны лядок, які на мове маракоў называецца «салам».

— Хутка пачнуцца сапраўдныя льды,— сказаў тата.— Карскае мора амаль на працягу ўсяго года пакрыта льдамі.

І сапраўды, на другі дзень на моры пачалі з'яўляцца льдзіны — то па адной, то цэлымі групамі.

Ільдзіны былі вялізныя, асляпляльна белыя ўверсе і светла-зялёныя ўнізе, ля вады. Калі свяціла сонца, плывучыя ледзяны скалы — айсбергі — ззялі, як люстэркі. «Арол» ішоў

наперад, абыходзячы вялікія льдзіны і рассоўваючы сваім магутным носам меншыя.

Каманда парахода была цяпер увесь час напагатове, а капітан амаль зусім не сыходзіў з мосціка.

Пачалі сустракацца маржы. Яны спакойна ляжалі на льдзінах па аднаму, па два, а то і цэлымі статкамі.

Вялізныя марскія жывёліны не звярталі ніякай увагі на наш параход. Яны не падымаліся з месца нават тады, калі параход рассоўваў носам ільдзіны. Усе пасажыры з цікавасцю глядзелі на маржоў.

— У гэтых месцах, відаць, іх ніколі ніхто не турбаваў, таму яны такія смелыя,— сказаў нехта з пасажыраў.

Параход наш параўняўся з вялізнай ільдзінай. Тут было столькі маржоў, што, здавалася, іх нехта знарок сагнаў на гэтае ледзяное поле. Адчувалі яны сябе зусім спакойна, нібы ні нас, ні нашага волата-парахода тут і не было.

Некаторыя з маржоў клалі свае ікластыя морды на суседзяў, каб зручней было адпачываць.

— Логвішча! — усхвалявана ўсклікнуў Чыні, які выйшаў і стаў побач з намі на палубе.

— Што, душа гарыць? Папаляваць ахвота? — звярнуўся да яго тата.

— Ой, як хочацца! — адказаў Чыні і ўвесь падаўся ўперад, нібы хацеў скочыць уніз, на лёд.

## ЛЯ КАРСКІХ ВАРОТ

Ільды з кожным днём усё шчыльней і шчыльней абступалі наш карабель. Цяпер ужо па паверхні мора плылі не асобныя льдзіны, а цэлыя лёдавыя палі. Параход ішоў павольна, асцярожна прабіраючыся сярод ільдоў.

Чым бліжэй мы падыходзілі да Карскіх варот, тым больш сур'ёзнымі рабіліся твары маракоў. Не чуваць было цяпер ні жартаў, ні смеху, ні баяна.

Увечары мора ахутаў туман. За некалькі метраў ад парахода нічога не было відаць. «Арол» пасылаў частыя гудкі ў лёдавыя прасторы мора, і ад іх рабілася сумна і трывожна.

Позна ўвечары мы ляглі спаць. Я ўжо зусім засынаў, як раптам нешта страшэнна заскрыгатала, загрымела. Параход здрыгануўся ўсім сваім целам і спыніўся. Усе ўстрывожана выбеглі з кают і кінуліся на палубу. З масціка пачуўся строгі голас капітана.

— Таварышы, спакойна! Не падымаць панікі! Разысціся па каютах!

Тата пайшоў даведацца, у чым справа.

— На гэты раз абышлося,— сказаў ён, вярнуўшыся ў каюту.

У тую трывожную ноч ніхто ўжо не клаўся спаць. Капітан загадаў падрыхтавацца да магчымай высадкі на лёд. Гаварыў ён аб гэтым зусім спакойна, нібы трэба было перасесці з цягніка на цягнік. Мама вельмі хвалявалася за мяне. А я зусім не баяўся і нават хацеў, каб мы высадзіліся на льдзіну, як чалюскінцы, і каб нас пасля ратавалі.

Але раніцай падзьмуў вецер, разагнаў туман, і ля Карскіх варот мора амаль зусім ачысцілася ад ільдоў. Капітан аддаў загад:

— Поўны наперад!

Наш «Арол» рушыў наперад, з шумам рассякаючы высокія хвалі.

І вось Карскія вароты засталіся ззаду. З прычыны шчаслівага выхаду з іх, на параходзе была прыгатавана святочная вячэра. У кают-кампаніі наладзілі танцы і гульні.

Я таксама танцаваў. Спачатку з радыстам парахода я станцаваў «Яблычка», а пасля, ужо адзін,— «Кабардзінку». Мне вельмі апладзіравалі і падкідалі ледзь не пад самую столь кают-кампаніі.

## ПРА МАЛЕНЬКІХ НЕГРАЎ

У час нашага плавання я моцна пасябраваў з некаторымі маракамі. Ад іх я даведаўся многа цікавага: яны ж бывалі ў шмат якіх краінах свету, плавалі амаль па ўсіх морах і акіянах.

Перад тым як ісці на Чукотку, «Арол» пабываў у адным з амерыканскіх портаў. Капітан парахода паказваў нам здымкі, зробленыя ў Амерыцы, і расказваў, у якіх умовах жывуць працоўныя ў гэтай краіне. Асабліва цяжка там жывецца неграм.

Амерыканцы не лічаць неграў за людзей і ўсяляк здзекуюцца з іх. Шмат неграў-падлеткаў працуюць грузчыкамі ў портах. Іх прымушаюць насіць цяжкія скрынкі, мяхі і ўсялякі іншы груз.

Хлопчыкі-негры працуюць аднолькава з дарослымі, а атрымліваюць за сваю работу значна менш. Неграў абражаюць і нават б'юць.

— Аднойчы наш параход разгружаўся ў амерыканскім порце,— расказваў боцман.— Сярод грузчыкаў было шмат хлопчыкаў ва ўзросце ад 14 да 16 год. І вось адзін з іх спатыкнуўся і разам з грузам паляцеў з трапа ўніз. Ніхто не спяшаўся да яго на дапамогу, а наглядчык, стоячы на трапе, моцна лаяўся. Тады да хлопчыка падбеглі нашы матросы. Яны паднялі яго і аднеслі ў сваю амбулаторыю. Рука ў хлопчыка была зламана. Наш карабельны ўрач зрабіў перавязку. Маракі накармілі яго, сабралі грошай і далі яму. Ад радасці і здзіўлення хлопчык амаль забыўся пра боль. Да яго, чорнага хлопчыка, ніколі не адносіліся так сардэчна белыя людзі.

Ён расказаў, што яму чатырнаццаць год. Дома ў яго хворая маці і маленькая сястрычка. Бацька загінуў на вайне, і сям'я засталася без карміўца. А цяпер вось і яго праганяць з работы. Ды і рука, мабыць, доўга будзе балець. Прыйдзецца шукаць работы ў іншым месцы, але дзе яе шукаць? У Амерыцы так многа беспрацоўных!

Ён не ведаў, як і дзякаваць нашым матросам за сабраныя грошы.

Нямала беспрацоўных маракоў і сярод партовых грузчыкаў. Тут можна сустрэць былых капітанаў, механікаў, штурманаў, матросаў. Усе яны жывуць вельмі бедна і не маюць ніякай надзеі працаваць па сваёй спецыяльнасці.

Слухаючы гэтыя расказы, я думаў: «Як добра, што я нарадзіўся ў Савецкім Саюзе!»

Мне шкада было хлопчыкаў-неграў, у якіх не было ні хлеба, ні дома, ні школы, якія не ведалі ў сваім жыцці ніякай радасці. Я яшчэ больш узненавідзеў амерыканскіх багацеяў.

## У БАРАНЦАВЫМ МОРЫ

Мы шчасліва мінулі тры паўночныя моры: Усходне-Сібірскае, мора Лапцевых і Карскае. Перад намі былі яшчэ Баранцава і Белае моры.

Баранцава мора вельмі неспакойнае, асабліва цяпер, увосень. Як толькі наш параход увайшоў у яго воды, пачалася гайданка. Наш вялізны «Арол» перавальваўся з боку на бок. Стукалі дзверы, бразгацеў недзе посуд, падалі са сталоў і паліц розныя рэчы. А ў камбузе быў сапраўдны шумавы аркестр: падскаквалі каструлі, патэльні, вёдры, тазы. Мы выйшлі на палубу, і я ўбачыў, як высока падымаецца то адзін, то другі борт нашага «Арла».

Матросы пад камандай боцмана ўмацоўвалі снасці, прыбіралі з палубы ўсё, што нельга было замацаваць.

Шмат хто з пасажыраў адчуваў сябе вельмі дрэнна. Мама мая ўсё храбрылася, але потым пайшла ў каюту і лягла.

Ноччу шторм узмацніўся, і наш параход пайшоў ратаваць нейкае судна, якое пацярпела аварыю.

Раніцай шторм спыніўся. Ярка свяціла сонца, і мора было зусім спакойнае.

На параходзе кіпела работа. Матросы са шлангаў лілі ваду, мылі палубу. Зноў чуліся песні, жарты, смех.

За нашым параходам на буксіры ішоў карабель, які пацярпеў уночы аварыю. У параўнанні з нашым «Арлом» ён быў зусім маленькі.

Па палубе хадзілі маладыя маракі ў форме ваенна-марскога вучылішча.

— Адкуль яны ўзяліся? Іх жа не было на «Арле»? — запытаў я ў таты.

— Яны перайшлі да нас вунь з таго пацярпеўшага судна, на якім праходзілі марскую практыку. А вучацца яны ў Ленінградзе ў марскім афіцэрскім вучылішчы,— адказаў тата.

Усе курсанты былі загарэлыя, статныя і вясёлыя.

Вырасту і таксама пайду вучыцца ў марское вучылішча і абавязкова буду плаваць на ледаколе. Я ў бінокль бачыў яго, калі стаяў на капітанскім мосціку. І буду плаваць толькі ў Арктыцы, таму што тут хоць і небяспечна, але вельмі цікава.

## АРХАНГЕЛЬСК

Мы падыходзілі да апошняга на нашым шляху вострава і порта Дзіксан. Праз лёгкі туман відаць скалістыя абрысы вострава. Механік, які стаяў з намі на палубе, расказваў, што ў час Вялікай Айчыннай вайны ён плаваў тут на лінкоры. Яго сябар — другі механік лінкора — страціў у баях руку і цяпер жыве ў Архангельску і вельмі сумуе па Арктыцы, дзе ён праплаваў амаль дванаццаць год.

У порт Дзіксан мы не заходзілі, таму што наш карабель меў у запасе і ваду, і паліва, і прадукты. Мы сталі на рэйдзе. Хутка з Дзіксана да нас падышло буксірнае судна і пацягнула за сабой карабель, выратаваны «Арлом» у час шторму ў Баранцавым моры.

Вакол вострава Дзіксан многа маякоў і бакенаў. Дно мора тут вельмі скалістае, і плаваць у гэтых месцах трэба асцярожна.

Нарэшце наш параход даў тры гудкі і рушыў далей.

Заўтра Архангельск! Заўтра канец нашай марской дарозе!..

Раніцай мяне разбудзіла мама:

— Слава, уставай! Мы ўжо ў Архангельску.

Я хутчэй апрануўся і пабег на палубу. Наш «Арол» стаяў у вялікім порце. Нягледзячы на вельмі ранні час, у порце кіпела работа. Тут стаяла многа параходаў, катэраў, барж. На прыстані мітусіліся маракі, грузчыкі, гулі маторы машын.

Велічэзныя пад'ёмныя краны перасоўваліся ўздоўж берага па рэйках, разгружалі і нагружалі судны.

То тут, то там на беразе ўзвышаліся высокія штабелі бярвенняў. Пахла рыбай, смалой, пілавіннем, морам.

Развітаўшыся з маракамі, мы сышлі на бераг. Над нашымі галовамі, як і ў дзень ад'езду з Чукоткі, праплылі і плаўна апусціліся на зямлю нашы рэчы.

Тата пайшоў заказваць таксі, а мы з мамай засталіся чакаць яго.

Абвёўшы позіркам усе караблі, што стаялі ў порце, я не без гонару сказаў:

— Паглядзі, мама, наш «Арол» большы за ўсіх.

Праз некалькі хвілін мы ўжо імчаліся па горадзе.

А ноччу мы селі на цягнік, які ішоў на Маскву.

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ, МАСКВА!

Раніцай мы з татам занялі месца ля акна і амаль да позняга вечара не адыходзілі ад яго.

За акном праплывалі лясы, апранутыя ў маляўнічы восеньскі ўбор, мільгалі серабрыстыя стужкі рэк, масты, пожні, статкі на паплавах, сады, агароды.

Тата, як зачараваны, не мог адарваць вачэй ад гэтых краявідаў. На твары яго блукала шчаслівая ўсмешка.

Але вось за акном з'явіліся руіны — сляды нядаўняй вайны, і твар таты спахмурнеў, сурова ссунуліся бровы.

Звяртаючыся да мяне, ён сказаў:

— Ты, сынок, добра запомні гэтыя руіны! На ўсё жыццё запомні, каб ненавідзець усім сэрцам ворага і вайну.

На другі дзень раніцай у сонечным бляску перад нашымі вачыма раскінулася Падмаскоўе.

Спачатку за акном прабягалі дачныя месцы з утульнымі дамамі, верандамі, альтанкі ў залатых бярозавых гаях, а неўзабаве задымілі фабрыкі, заводы.

Зіма, снег, ільды, бураны — усё гэта засталося далёка. Насустрач нам плыве красуня Масква, дарагая Масква, з яе велічнымі высотнымі дамамі, школамі, паркамі, музеямі, тэатрамі, метро, Маўзалеем і зубчастымі сценамі старога Крамля.

— Добры дзень, Масква! — у захапленні вітаю я сталіцу нашай цудоўнай неабсяжнай Радзімы.

# СУСТРЭЧА З МОРАМ

## МОРА

Дык вось яно якое — мора! Паўлік стаіць на высокім крутым беразе і зачаравана глядзіць на шырокі марскі прастор.

А яно і зусім не чорнае, гэтае мора. Яно рознае. Ля самага берага зеленавата-шэрае, крыху далей — ліловае, а на сярэдзіне і аж да самага гарызонта — серабрыста-сіняе.

А хвалі! Яны пачынаюцца далёка-далёка, там, дзе мора зліваецца з небам, і спяшаюцца, бягуць адна за адной сюды, да падножжа гэтых высокіх гор, каб з шумам разбіцца аб камяністы бераг і закончыць нарэшце свой доўгі неспакойны шлях.

Паўлік гатоў увесь дзень стаяць на беразе і любавацца морам.

Колькі прастору навокал, колькі сонца! На нейкі момант хлопчыку здаецца, што за плячыма ў яго раптам выраслі вялікія дужыя крылы, і ён стрымгалоў кідаецца ўніз па вузкай камяністай сцежцы. Сэрца яго моцна калоціцца. Паўліку крыху страшнавата і ад гэтай вышыні, і ад бегу. Кожную хвіліну ён можа спатыкнуцца і паляцець уніз з камяністай кручы.

І вось ён ужо ўнізе, на мокрай, адшліфаванай прыбоем гальцы. Ногі злёгку дрыжаць, галава кружыцца. Але затое як радасна, як прыемна адчуваць сваю сілу і смеласць! Шчаслівая ўсмешка — усмешка пераможцы свеціцца на яго ўсхваляваным твары, калі ён, закінуўшы назад галаву, глядзіць на высокую камяністую кручу.

Паўлік стомлена апускаецца ля самай вады, так, каб хва-

лі, набягаючы на бераг, абмывалі яго падрапаныя да крыві ногі, і падстаўляе разгарачаны твар салёным пырскам. І здаецца хлопчыку, што, апрача яго і мора, нічога не існуе зараз на зямлі.

— Мама, глядзі, які прыгожы каменьчык! — раптам чуе ён нечы радасны воклiч.

Паўлік аглядаецца. Непадалёк ад яго стаіць дзяўчынка, а побач з ёю жанчына пад вялікім стракатым парасонам.

— А вось яшчэ адзін! А вунь яшчэ! — радуючыся сваім знаходкам, весела ўсклiквае дзяўчынка.

— Тут іх багата, дачушка. На ўсім Чарнаморскім узбярэжжы не знойдзеш такіх прыгожых каменьчыкаў, як тут,— гаворыць жанчына.— І ўсё гэта дары магутнага Карадага.

— А хто такі Карадаг, мама? — пытае дзяўчынка.

— Бачыш злева над морам вунь тую вялізную гару, што падобна на галаву каменнага асілка? Гэта і ёсць Карадаг.

З хвіліну яны стаяць моўчкі і пазіраюць на дзівосныя абрысы скал, што ўзняліся з мора магутнымі цёмнымі воламі.

А каменьчыкі і сапраўды прыгожыя. Такіх Паўлік яшчэ ніколі не бачыў. Нібы нейкі казачны чараўнік размаляваў іх сваімі яркімі дзівоснымі фарбамі. Белыя як снег, зялёныя, карычневыя, нібы каштаны, празрыстыя, як кроплі расы, сінія з чырвонымі паяскамі, чорныя з белымі разводамі і кропачкамі...

«Назбіраю і завязу дадому»,— падумаў Паўлік і паволі пакрочыў берагам мора, прыглядаючыся да каменьчыкаў і падбіраючы тыя, якія найбольш падабаліся яму.

— Далей ні кроку! Тут мой бераг, тут я збіраю каменьчыкі! — прагучаў раптам чыйсьці голас.

Паўлік выпрастаўся. Перад ім стаяў тоўсты ружовашчокі хлапчук у белай панаме. Зеленаватыя прыжмураныя вочы яго глядзелі варожа і пагардліва.

— А табе што — каменьчыкаў мала? — здзіўлена спытаў Паўлік.— Паглядзі, колькі іх навокал.

— Ну адчальвай, адчальвай, пакуль не пазнаёміўся з маімі кулакамі! Тут мой бераг, чуеш? Адным словам, поўны назад! — падступаючы да Паўліка, сказаў хлапчук.

Паўлік хацеў быў ужо выканаць яго загад, як нечакана пачуўся другі, на дзіва спакойны і цвёрды голас:

— Гэй ты, белая панама, схавай свае кулакі! Я ўжо даўно да цябе дабіраюся, даўно сачу за табою.

Паўлік азірнуўся. На камені, што вытыркаўся каля берага з вады, стаяў чарнявы хлапчук. Ён, відаць, толькі што пакупаўся, бо яго карычневая, загарэлая скура блішчала на сонцы як адпаліраваная, а з мокрага чорнага чуба, які звісаў на самыя вочы, сцякала струменьчыкамі вада. Хлапчук лёгка саскочыў з каменя і, адкінуўшы назад валасы, звярнуўся да таўстуна ў белай панаме:

— «Мой бераг!», «Мае каменьчыкі!». Ды адкуль ты такі ўзяўся?

— З Масквы,— ганарыста адказаў той. Аднак, глянуўшы на каржакаватую, нібы адлітую з бронзы, постаць чарнявага, на ўсякі выпадак зрабіў крок назад.

— Можа, і Масква твая, і мора тваё, і неба? Ну, чаго маўчыш?

Таўстун надзьмуўся і пачаў корпаць нагой мокрыя каменьчыкі.

— Эх ты, перажытак капіталізму! — зняважліва прамовіў чарнявы і, паклаўшы далонь на плячо Паўліка, сказаў: — Хадзем купацца! А гэты «скупы рыцар» няхай сядзіць тут ды сцеражэ свае камені... Як цябе завуць? — запытаў ён праз хвіліну.

— Паўлік.

— А мяне Міколка. Я жыву пад тымі таполямі,— паказаў ён рукой на маленькі белы домік, што тануў у засені высокіх дрэў.

— А я на гары. Бачыш вунь той чырвоны чарапічны дах? Гэта дзедаў дом,— паведаміў у сваю чаргу Паўлік.

— Ды ты ўнук Антона Паўлавіча Залужнага?!

— Унук.

— Ну, тады давай знаёміцца па-сапраўднаму! — весела ўсклікнуў Міколка і з усяго маху пляснуў сваёй загарэлай рукой па даверліва працягнутай далоні Паўліка.— Мы цябе даўно чакаем. Мой атрад з дзядулем тваім моцна сябруе.

— А што гэта за атрад? — пацікавіўся Паўлік.

— Ну, як табе сказаць, каб карацей...— усміхнуўся Міколка.— Адным словам, было гэта ўвесну. Прыходзіць з работы мая сястра — яна на вінаградніку працуе — і такая вясёлая, усхваляваная. Нешта напявае, усміхаецца. Гляджу я на яе, дзіўлюся, а пасля і пытаю, з чаго гэта на яе такая весялосць раптам найшла. А яна схапіла мяне за чуб і кажа:

— Ой, Міколка, што ў нас сёння на вінаградніку было! Камсамольцы нашы вырашылі змагацца за званне брыгады камуністычнай працы, а мяне брыгадзірам сваім абралі.

Тут яна мне і расказала, што гэта за брыгада такая, для чаго яна створана і як павінны жыць і працаваць у ёй людзі. Паслухаў я яе, ды і думаю сам сабе: «А што, калі і мы ў сваім атрадзе такую брыгаду створым? Чым мы горшыя за камсамольцаў? Нам жа таксама трэба прывыкаць жыць і працаваць па-камуністычнаму». Расказаў я пра ўсё старшыні савета нашага атрада Марынцы Арэшка, і пабеглі мы разам з ёю да твайго дзядулі. Мы, як што якое, заўсёды да яго бяжым. Спадабалася яму наша задума. Доўга сядзелі мы ў той вечар, усё чыста абдумалі, абмеркавалі, а калі ўсё перагаварылі, пачалі думаць, як назваць сваю брыгаду. І Антон Паўлавіч параіў нам назваць яе атрадам дружных... Ну, а як мы жывём і чым займаемся, сам убачыш.

— А ў гэтым пасёлку ты даўно жывеш? — пацікавіўся Паўлік.

— Усе трынаццаць год,— сказаў Міколка.— А ты адкуль прыехаў?

— Я здалёку, з Беларусі. Чуў, можа, пра горад Салігорск? Не чуў? Салігорску нашаму ўсяго некалькі год. Гэта першы ў нашай рэспубліцы горад шахцёраў. Там соль калійную зда-

бываюць. Мой татка таксама шахцёр. Я з ім ужо два разы ў шахту спускаўся,— пахваліўся Паўлік.

— А я далей свайго пасёлка ды Феадосіі яшчэ нідзе не быў,— уздыхнуў Міколка.

— Затое ў вас тут мора, горы вунь якія высачэзныя, вінаград расце,— заўважыў Паўлік.— Мой дзядуля кажа, што прыгажэйшай мясціны, як ваша, нідзе не знойдзеш. А ён, ведаеш, колькі свету аб'ездзіў, колькі гарадоў розных бачыў!

— Ды я што? Я люблю свой пасёлак, а толькі хочацца мне пабываць на будоўлях, на цаліне, на шахтах,— сказаў Міколка.— Ну, гайда купацца, а то ад спякоты ажно скура гарыць! — і ён кінуўся з разгону ў набягаўшую на бераг белагрывую хвалю.

Карычневая спіна Міколкі на момант знікла з вачэй, а праз хвіліну хлопчык вынырнуў ужо далёка ад берага. Падхоплены новай хваляй, ён весела закрычаў:

— Паўлік, даганяй!

Паўлік з зайздрасцю глядзеў на Міколку, дзівіўся яго спрыту і смеласці. Яму да слёз было крыўдна, што ён не ўмее плаваць, не ўмее так адважна барукацца з хвалямі.

— Гэй ты, белагаловы, давай мірыцца,— пачуўся ў яго за спіной знаёмы голас.

Паўлік азірнуўся і ўбачыў хлопчыка ў шыракаполай панаме.

— На, вазьмі, гэта табе не абы-што, а сардалік, самы міравецкі камень,— гаварыў той, працягваючы на далоні ружова-залацісты каменьчык.

Паўлік хацеў быў узяць яго, такі ён быў прыгожы, але ўспомніў пра непрыемную стычку з таўстуном і адвёў руку.

— Не трэба мне твайго каменьчыка. Яшчэ заплачаш пасля.— Паўлік нават зрабіў некалькі крокаў назад.

Хлопчык пачырванеў і сярдзіта прыжмурыў на Паўліка свае зялёныя вочы. Так яны стаялі з хвіліну адзін перад адным, надзьмутыя, насцярожаныя.

— Ах так! Ну дык глядзі, які я «скупы рыцар»! — усклік-

нуў раптам хлопчык у панаме і, размахнуўшыся, шпурнуў каменьчык у мора.— Я зусім...

Але Паўлік не пачуў слоў хлопчыка. Нешта цяжкае навалілася раптам на яго плечы, збіла з ног і пацягнула за сабой у мора. Паўлік спалохана закрычаў, замахаў рукамі і знік у вадзе.

— Ратуйце! — закрычаў хлопчык у белай панаме і кінуўся следам за Паўлікам у мора.

Ён паспеў схапіць Паўліка за руку, і новая хваля панесла іх да берага.

— Бяжым! Хутчэй! — цягнуў за сабой амаль непрытомнага ад жаху Паўліка хлопчык.

У гэты момант вынырнуў непадалёк ад берага Міколка. Ён схапіў Паўліка за другую руку.

Неўзабаве яны ўсе трое разам ляжалі на цёплай гальцы, і Паўлік вінавата ўсміхаўся сваім выратавальнікам.

— Каб не ён, я ніколі не выбраўся б з мора. Я ж зусім не ўмею плаваць,— нібы апраўдваўся Паўлік.

— Цяпер ты сапраўдны марак,— падміргнуў Міколка.— Салёнай вады наглытаўся! А плаваць ты ў мяне будзеш як міленькі... Ну, «тваё-маё»,— павярнуўся ён да хлопчыка ў панаме,— давай руку, будзем мірыцца. Ты, бачу я, не такі ўжо благі хлопец, як мне здалося.

— Не «тваё-маё», а Андрэйка,— паправіў хлопчык, падаючы Міколку руку.

— Міколка-а! — пачуўся з высокага берага звонкі голас.

— Іду-у! — склаўшы рупарам далоні, гукнуў Міколка.— Гэта наша Марынка,— растлумачыў ён сваім новым знаёмым.— Сёння мы ідзём на птушкаферму дапамагаць птушніцам.— І, лёгка падхапіўшыся, ён пабег у пасёлак.

А Паўлік з Андрэйкам яшчэ доўга сядзелі ля мора і гутарылі аб розных хлапечых справах.

# ДЗЯДУЛЯ

Белы домік дзядулі прыляпіўся да схілу крутой гары, якая нібы шчаціннем парасла рыжай калючай травой. Домік стаіць на высокім, складзеным з каменняў падмурку і зухавата пазірае да бляску прамытымі акенцамі на пасёлак, на зялёныя калгасныя вінаграднікі, на шэрую стужку шашы, на шырокі прастор шумлівага мора.

Вакол доміка зелянее невялічкі садок, у якім растуць абрыкосы, чарэшні і вінаград.

Доўгія галіны вінаграду з густым разложыстым лісцем паўзуць па высокіх драўляных рэйках, утвараючы цяністы калідор, у якім добра хавацца ад летняй спякоты.

Гаспадарыць у садку дзядуля. Ён даглядае дрэўцы, абразае сухія галінкі, падвязвае маладыя парасткі вінаграду, сочыць, каб не завяліся ў садзе якія шкоднікі.

Вось і цяпер ён пахаджвае сярод вінаградных лоз і абразае лішняе голле, каб даць больш прастору і сонца тым галінкам, якія застануцца.

— А што, калі іх не абразаць, дзеду? — пытае Паўлік.— Чым больш галінак, тым больш вырасце вінаграду.

— Лепш менш, ды лепш,— адказвае дзядуля.— Калі мы не абрэжам лішнія галінкі, дык вінаград будзе дробны, нікуды не варты.

Працуючы ў садку, дзядуля звычайна размаўляе з раслінамі. Вось і зараз, аглядаючы вінаградныя лозы і падвязваючы маладыя парасткі, ён ласкава прыгаворвае:

— Цеснавата вам было, праўда? А цяпер будзе прастарней. Расціце сабе, налівайце салодкім сокам гронкі.

Паўліку дзіўна і весела ад гэтай дзедавай гамонкі. Ён усміхаецца і пытае:

— Дзеду, ты з імі, як з дзецьмі малымі, гаворыш. Хіба яны разумеюць цябе?

Дзядуля нейкую хвіліну маўчыць, глядзіць на Паўліка блакітнымі, нібы палінялымі ад сонца вачыма, а пасля кажа:

— Добрае, спагадлівае слова кожнага радуе. Яго ўсё жывое на зямлі разумее, унучак. І чым часцей ты будзеш дарыць яго людзям, тым радасней і табе самому будзе жыць на свеце. Вялікую сілу яно мае. «Добрае слова і жалезную браму адчыніць» — гаворыць прыказка.

Паўлік задумваецца і прыходзіць да пераканання, што дзядуля мае рацыю. Колькі разоў яму даводзілася на сваім уласным вопыце ўпэўніцца, што добрым ветлівым словам можна зрабіць куды больш, чым злосцю.

— Дзядуля, дай і я таксама буду галінкі абразаць,— прапануе ён дзеду.

— Абразаць галінкі трэба ўмеючы. Адкуль жа ты будзеш ведаць, якую галінку пакінуць, а якую абрэзаць. Для гэтага, унучак, практыка патрэбна,— гаворыць дзядуля.— Ты лепш вазьмі вядзерца ды прынясі вады.

Паўлік з радасцю згаджаецца і, схапіўшы вядро, бяжыць да калодзежа.

Цяжка ў пасёлку з вадой. Калодзежаў тут небагата, ды і ў тых часта ў спякотнае лета вада перасыхае.

Набраўшы вады, Паўлік ідзе па камяністай сцяжынцы. Насустрач яму спяшаецца дзядуля.

— Ну давай цяпер я панясу,— гаворыць дзед.— Стаміўся, нябось?

— Не, дзядуля, я сам данясу,— кажа Паўлік, хоць адчувае, як дрыжаць з непрывычкі калені, як самлела рука.

— Ну, сам дык сам. Толькі перадыхні хвілінку ля гэтага каменя. Тут якраз палова дарогі ад нашых веснічак да калодзежа.

Паўлік стаўляе вядро і садзіцца на вялікі шэры камень.

— А чаму, дзядуля, ты не пабудаваў свой дом унізе, ля калодзежа? — пытае ён.— Не трэба было б так далёка ваду насіць.

— Унізе нецікава,— тлумачыць дзед.— Ад шашы пылу не абярэшся, прастору ніякага вачам няма. А тут, на гары, я сябе арлом адчуваю. Выйду на ганак, а перада мной мора

плюскоча, ні яму ні канца ні краю, паветра — дыхай не надыхаешся. А што вада далекавата, дык гэта не вялікае гора. Старым касцям фізкультура на карысць... Ну як, адпачыў крыху?

Паўлік падхоплівае вядро. Цяпер яно ўжо не здаецца хлопчыку такім цяжкім, і ногі перасталі дрыжаць.

— Давай перш-наперш градкі нашы напоім,— гаворыць дзядуля, пераліваючы ваду ў палівачку.

Вось і градкі. Іх тут небагата. Гародніна на гэтай высушанай сонцам і салёнымі вятрамі зямлі не вельмі што расце. Крыху цыбулі, салаты, радыскі, бурачкоў на халаднічок, кропу ды пятрушкі для прыправы — вось і ўсё. Паўлік нахіляе над градкай палівачку і, сам таго не заўважаючы, пачынае прыгаворваць:

— Піце, піце, мае харошыя! Нябось, ужо зачакаліся вадзічкі?

Цурчыць вада, дробнымі пацеркамі зіхацяць на лісці срэбныя кропелькі. Расліны нібы дзякуюць хлопчыку за яго добрую ўсмешку, за ласкавае слова. А непадалёку стаіць дзядуля, глядзіць на Паўліка і хітравата ўсміхаецца ў свае сівыя пракураныя вусы.

Не адзін раз спускаўся Паўлік да калодзежа, не раз адпачываў ля вялікага шэрага каменя. Ён напаіў вадой кожную раслінку, кожнае дрэўца ў дзядулевым садзе. А калі прынёс апошняе вядро, дзядуля сказаў:

— Цяпер пойдзем пад бабульчына акно, пальём яе чабарок.

— Які чабарок? — здзівіўся Паўлік.

— Самы звычайны чабарок, той, што яна калісьці прывезла ў скрыначцы са свайго Палесся.

Апынуўшыся пад бабульчыным акном, Паўлік адразу пачуў знаёмы пах роднага лесу, і сэрца яго ахапіла невыказная пяшчотная радасць.

— Ой, ды тут не толькі чабарок! Тут і наш верасок ёсць! — схіляючыся над зялёным духмяным дыванам, усклік-

4 Зак. 1159

нуў Паўлік і ўзяўся шчодра паліваць бабульчыну плантацыю, як называў гэты куточак саду дзядуля.

— Бабка над гэтай сваёй плантацыяй,— гаварыў тым часам дзед,— дрыжыць, як над малым дзіцем. «Калі памру,— кажа,— дык мой чабарок разам з роднай зямелькай перанясеш на маю магілу...» Так ужо, відаць, павялося на свеце, што свой родны кут, свая зямліца чалавеку мілей за ўсё на свеце, па ёй ён заўсёды сумуе, да яе заўсёды сэрцам горнецца. Родная зямля, яна, унучак...

Не паспеў дзядуля закончыць сваёй думкі, як пачуўся голас бабулі:

— А чабарок мой не забыліся напаіць?

— Не забыліся, не забыліся! — весела гукнуў Паўлік.

Бабуля ўсміхаецца і ідзе на летнюю кухню гатаваць вячэру.

Скончыўшы работу, Паўлік з дзядулем мыюцца, а пасля сядзяць на высокім ганку, дыхаюць чыстай свежасцю вечара, водарам траў і кветак, слухаюць шум мора. Яго зараз не відаць. Яно злілося з цёмным вячэрнім небам і, нібы знямогшыся за дзень, прыцiхла.

— Хадзіце вячэраць, мужчыны,— гаворыць бабуля.— Стаміўся, мабыць, дзіцятка? — пытае яна, кладучы на плячо Паўліка сваю цёплую мяккую далонь.

Плечы і рукі Паўліка і сапраўды ныюць ад непрывычнай работы, ногі баляць ад лазання па горных сцежках, але на сэрцы ў яго лёгка і радасна ад таго, што ён напаіў садок, ад ласкавых слоў бабулі, ад смачнай вячэры, ад харошай усмешкі дзеда.

— Глядзіце, Паўлік ніколі не еў з такім апетытам,— дзівіцца мама, пазіраючы, як Паўлік падчышчае ўсё, што кладзе на яго талерку бабуля.

Паўлік усміхаецца, а дзядуля падміргвае яму і гаворыць:

— Што ж тут дзіўнага? Папрацаваў чалавек, а цяпер сілу сваю патрачаную набірае. Еш, хлопча, еш, наперадзе ў нас з табой яшчэ нямала работы.

Пасля вячэры мама з бабуляй прыбіраюць са стала, а Паўлік з дзядулем зноў сядзяць на ганку.

— Заўтра павязу цябе да рыбакоў,— кажа дзядуля, пыхкаючы люлькай.

Паўлік аж падскаквае ад радасці, пачуўшы гэтую навіну. Пабываць у гасцях у чарнаморскіх рыбакоў, пакатацца на катэры па моры — Паўлік даўно марыў аб такім цікавым падарожжы.

— Хутчэй бы тое заўтра! — уздыхае Паўлік.

— Ну што ж, і на гэтую бяду ёсць лекі,— гаворыць дзядуля.— Пойдзем зараз спаць, вось тое заўтра хутчэй і прыйдзе.

Дзядуля выбівае люльку, хавае яе ў кішэню, і яны ідуць у дом.

Пасцель ужо гатова. Яна вабіць Паўліка свежымі прасцінамі, узбітай клапатлівымі бабульчынымі рукамі падушкай, сваёй жаданай утульнасцю. Паўлік з асалодай выцягваецца на ложку. Цела прыемна ные, у памяці паўстаюць здарэнні пражытага дня, да слыху даносіцца далёкі, прыцішаны шум мора.

## ШУКАЛЬНІКІ СКАРБАЎ

Спёка стаіць страшэнная. Лісце на дрэвах прывяла. Зямля высахла і патрэскалася. Яна такая гарачая, што басаніж ступіць нельга. Куры бабульчыны пахаваліся ў цянёк і сядзяць там, разявіўшы дзюбы і растапырыўшы крылы. Бобік забіўся пад ганак, высунуў ружовы язык і дыхае часта-часта.

А барометр усё пнецца ўгору. Яму ніякай справы няма да таго, што людзі чакаюць дажджу, што кожная раслінка пакутуе ад смагі. На небе ні хмурынкі, ні воблачка. Яно распалілася дабяла і дыхае гарачынёй з ранку да вечара. А цішыня стаіць такая, што нават лісток ніводзін не зварухнецца.

— Паўлік, хадзем купацца! — высоўваючыся з-за нізкай, складзенай з каменняў агароджы, кліча Міколка.

Паўлік з радасцю прымае прапанову, і праз хвіліну сябры ўжо спускаюцца па вузкай сцяжынцы ўніз, туды, дзе, ззяючы ў сонечным бляску, плюскоча мора. Сёння і яно разамлела ад гарачыні: хвалі ляніва б'юцца аб бераг, перабіраючы яркія рознакаляровыя каменьчыкі.

— Цёплая,— акунуўшыся ў ваду, расчаравана гаворыць Міколка. Ён заходзіць крыху глыбей і вядзе за сабой Паўліка, які, навучаны сумным вопытам, цяпер не вельмі давярае мору.

У вадзе ўсё ж добра. Яна змывае з цела гарачыню і зморанасць. Хлопчыкі падстаўляюць спіны набягаючым хвалям, смяюцца, дурэюць. Накупаўшыся ўволю, вылазяць з вады і бягуць у цянёк пад скалу, што навісла над берагам. Каменьчыкі тут не такія гарачыя і ў галаву не пячэ. Некаторы час яны сядзяць моўчкі. Першым парушае маўчанне Паўлік. Гледзячы на шырокі марскі прастор, ён гаворыць:

— Столькі вады, а ўсё навокал гіне ад сушы. Няўжо нельга нічога прыдумаць, каб зрабіць гэтую ваду такой, як рачная? На параходах жа марскую ваду робяць прэснай.

— Колькі там тае вады трэба параходу,— махае рукой Міколка.— А каб напаіць усе сады і вінаграднікі нашы, яе, ведаеш, колькі патрэбна?

— Гэта правільна,— згаджаецца Паўлік.— Але ж нешта трэба рабіць, каб мора дапамагала людзям вырошчваць вінаград. Я ўпэўнены, што калі нашы вучоныя добра падумаюць над гэтым, дык абавязкова што-небудзь знойдуць.

— Я і сам пра гэта часта думаю,— гаворыць Міколка.— Дай толькі мне скончыць школу, дык я, вось пабачыш, што-небудзь вынайду. Пабудую такія спецыяльныя помпы, якія будуць ачышчаць марскую ваду і гнаць яе па трубах проста ў пасёлак. Тады, ведаеш, якія тут будуць сады ды агароды!

Вочы Міколкі летуценна свецяцца, нібы ён ужо бачыць на яве ўсё тое, аб чым марыць. Паўлік глядзіць на ўпартую зморшчынку, якая пралегла між густых чорных броваў сябра, і верыць, што Міколка сапраўды напоіць некалі ўволю

гэтую высушаную сонцам і салёнымі вятрамі зямлю і зробіць яе ўрадлівай і багатай.

«Харошы гэты Міколка,— думае Паўлік.— Ён ніколі не пакеплівае, не зазнаецца і не задзіраецца. Добра мець такога слаўнага сябра!» Усё ў Міколку падабаецца Паўліку. І чорны ў завіточках чуб, і вясёлыя, бліскучыя, нібы абмытыя дажджом спелыя вішні, вочы, і шчырая ўсмешка, і ямачка на падбародку, і нават цёмная радзімка на шчацэ ля правага вуха. Паўлік побач з ім нібы кволая трысцінка. У яго нават сапраўдных мускулаў на руках няма, а ў Міколкі яны вунь якімі тугімі гузакамі пад скурай ходзяць.

— Ты што гэта так глядзіш на мяне? — смяецца Міколка.

— Мускулы ў цябе...— збянтэжана гаворыць Паўлік.

— Гэта ад работы. Бацькі ў мяне няма, памёр. Дома маці ды сястра. Вось я ўсю мужчынскую работу і ўзяў на сябе. Адной вады на агарод колькі трэба перацягаць за лета. Вось яны і дужэюць,— гаворыць Міколка, напружваючы і згінаючы ў локці чорную ад загару руку.— Бачыш, якія цвёрдыя. Памацай.

Паўлік націскае пальцам на Міколкаў біцэпс. Ён і сапраўды нібы са сталі адліты. «Вось бы мне такія!» — уздыхае Паўлік, крадком мацаючы сваю правую руку. «Кісель, а не мускулы»,— засмучана думае Паўлік.

А сонца не стаіць на месцы. Яно падбіраецца і сюды, пад скалу.

Хлопчыкі зашываюцца яшчэ глыбей, але сонца хутка знаходзіць іх і там.

— Каб падкапацца глыбей пад скалу, зрабіць пячору, тады б у любую спякоту можна было ля мора сядзець,— гаворыць Паўлік.— І гульні тут можна было б розныя наладжваць, у партызан ці ў пагранічнікаў. Праўда?

— Гэта ты добра прыдумаў. Толькі ж у такую спякоту шмат не накапаеш,— заўважае Міколка.

— А мы пад вечар прыйдзем. Дык што, дамовіліся?

— Дамовіліся,— адказвае Міколка.— А цяпер пакупаем-

ся і ў пасёлак. Хутка маці з сястрой на абед прыйдуць, а мне трэба яшчэ сёе-тое зрабіць.

Дзядуля сустракае Паўліка ля веснічак.

— Дзе гэта ты, хлопча, у такую спёку бегаеш? — пытае ён.

— З Міколкам купацца хадзіў.— Паўліку не церпіцца хутчэй падзяліцца з дзедам сваёй задумай.— Мы з ім пад скалой на беразе будзем пячору капаць. Ты дасі мне, дзеду, сваю малую рыдлёўку, добра?

— Добра, добра,— усміхаецца дзед.— А цяпер бяжы да бабулі, яна цябе хоча нечым пачаставаць, ды пойдзем у цянёк, адпачнём перад абедам.

Выпіўшы кубак смачнага халоднага кампоту, Паўлік ідзе пад зялёны шацёр вінаградных лоз, дзе стаяць выгодныя плеценыя крэслы-качалкі. Дзядуля ўжо там. Ён набівае тытунём люльку і аб нечым думае. Паўлік чакае, пакуль дзядуля закурыць. Кожны раз перад тым як расказаць штонебудзь унуку, дзядуля бярэцца за сваю старэнькую люльку, і Паўліку часам здаецца, што ў ёй, у гэтай маленькай пракуранай люльцы, схаваны ўсе цікавыя гісторыі.

Так і ёсць. Раскурыўшы люльку, дзядуля нейкую хвіліну маўчыць, пасля ўсміхаецца і пачынае:

— Пячору, кажаш, капаць надумалі, у партызан гуляць будзеце. Я таксама, калі быў вось такім хлапчуком, як ты, любіў выдумляць розныя гульні. Адзін час мы ўсё скарбаў шукалі. Гэта было тады, як паны пасля рэвалюцыі з маёнтка свайго ўцяклі. Помню, як зараз, прыбег аднойчы да мяне мой сябрук Янка Канцавы ды кажа:

— Ведаеш, Антоська, не можа таго быць, каб паны, уцякаючы, усё дабро з сабою забралі. Праваліцца мне на гэтым месцы, калі яны не закапалі дзе-небудзь скрыню з золатам ды з іншымі дарагімі рэчамі. Давай пашукаем. А як знойдзем, аддадзім усё нашым вяскоўцам. Пра нас тады, ведаеш, якая слава пойдзе, ого!

Вельмі спадабалася мне Янкава прапанова.

— Хутчэй за ўсё скарбы схаваны ў парку,— гаварыў

Янка.— Там і пачнём пошукі. Заўтра ўранні пойдзем у парк, агледзім яго добра, а калі заўважым што-небудзь падазронае, ноччу пачнём капаць.

Так мы і зрабілі. Цалюткі дзень шныпарылі па парку, прыглядаліся ды прынюхваліся да кожнага, на нашу думку, падазронага месца. А пасля не адну ноч хадзілі на раскопкі, не адзін мазоль на далонях нацерлі, а скарбу як няма, так і няма. І вось аднойчы, калі ўжо амаль зусім страцілі надзею на поспех, убачылі мы сярод ночы чалавека, які выходзіў з каплічкі, у якой былі пахаваны дзяды і прадзеды паноў Прылуцкіх. Схаваўшыся за дрэва, мы счакалі, пакуль начны госць крыху адыдзецца, а пасля крадком рушылі следам за ім у канец парку. Мы ўжо дайшлі да пралому ў каменнай агароджы, як раптам пачулі ціхае ржанне каня.

— Гэта ж стаеннік маладога паніча, Віхор,— прашаптаў Янка, хапаючы мяне за руку.— Адкуль ён узяўся? Паны ж на ім у Польшчу ўцяклі?

Не паспелі мы падкрасціся бліжэй, каб як след разабрацца, у чым справа, як чалавек ускочыў у сядло і знік з нашых вачэй. Крыху ачухаліся мы і памчаліся да майго бацькі, якому было даручана ў той час вартаваць былы панскі маёнтак з усім яго дабром.

— Шкада, што ўцёк, бандзюга,— уздыхнуў бацька, калі мы расказалі яму пра ўсё.— Але дарма, вернецца яшчэ і нашых рук не міне. А вы, жэўжыкі, нікому пра гэта ні слова, чуеце? Час цяпер такі, што вуха трэба трымаць востра. Вакол нас ворагаў хоць гаць гаці. Яны толькі таго і чакаюць, каб на нас зноў хамут усцягнуць. А каплічку мы праверым, яна ад нас не ўцячэ. Галоўнае, каб таго начнога госця не праваронiць.

Мы пакляліся бацьку, што будзем трымаць язык за зубамі, і пачалі штоночы сачыць за панскай каплічкай. Доўга не з'яўляўся наш госць. Але аднойчы, калі на дварэ ўсхадзілася навальніца і мы, забраўшыся ў старую альтанку, дрыжалі ад страху, зноў пачулася знаёмае ржанне. Неўзабаве не

адзін, а ўжо два коннікі выраслі ў праломе агароджы. Прывязаўшы да дрэва коней і пастаяўшы крыху на месцы, яны накіраваліся да капліцы. Не чакаючы ні хвіліны, мы, нібы за намі гнаўся сам д'ябал, кінуліся ў палац, дзе ўсе гэтыя ночы дзяжурыў узброены атрад сялян. Неўзабаве капліца была акружана і начныя госці схоплены.

— І хто ж яны былі, дзеду? — не вытрымаў Паўлік, які ўвесь час слухаў, затаіўшы дыханне.

— Адзін з іх быў старэйшы сын пані Прылуцкай, а другі — атаман нейкай банды. А прыехалі яны, каб забраць зброю, якая была схавана ў капліцы.

— І шмат было там зброі?

— Ды нямала, унучак. Каштоўная гэта была знаходка. У гады грамадзянскай вайны кожны патрон на вагу золата быў, а там іх знайшлі некалькі скрынак, ды вінтовак з паўсотні... Мы з Янкам адчувалі тады сябе героямі. А ў падзяку за гэта нам прыслалі з горада дзве пары сапраўдных скураных чаравікаў, якіх мы дагэтуль і ў сне не бачылі, і па два фунты цукру...

— Тады кожны мог праславіцца, зрабіць які-небудзь подзвіг! — уздыхнуў Паўлік.

Дзядуля ўсміхнуўся і нічога не адказаў.

## ТАЯМНІЦА ГОРНАЙ ПЯЧОРЫ

Калі сонца павярнула на захад, Міколка і Паўлік зноў пайшлі да мора, капаць пячору. Пад скалой была даволі прыкметная западзіна. Яе вось хлопчыкі і вырашылі паглыбіць і пашырыць. Мясцінка гэтая была вельмі зручная: са сваёй пячоры яны маглі назіраць за ўсім, што рабілася на моры і на ўзбярэжжы.

— Добрая ў нас будзе схованка,— радаваўся Паўлік.— І турбаваць ніхто не будзе, і сонца не дастане пад скалой.

— Сапраўдную партызанскую зямлянку зробім,—падтрымаў Паўліка Міколка.— Тут, у гарах, у вайну іх шмат было.

Капаць пячору ў цвёрдым камяністым грунце было нялёгка, і справа ішла вельмі марудна. Але хлопчыкі, захопленыя сваёй задумай, не адступалі. Там, дзе нельга было нічога зрабіць рыдлёўкай, працавалі старой, вышчарбленай сякерай, якую ўзяў з дому Міколка.

— Глядзі, Паўлік, а цяпер пайшло як быццам лягчэй. Яшчэ з метр які пракапаем, і хопіць,— выціраючы ўспацелы лоб, прамовіў ён.

— Мы тут як у сапраўднай крэпасці будзем, не хапае толькі гарматы ці кулямёта,— пажартаваў Паўлік.— А ўваход замаскіруем, праўда?

І яны зноў узяліся за рыдлёўкі.

— Ой, глядзі, бярвенні нейкія! Адкуль яны ўзяліся? — усклікнуў раптам Міколка.— Сцяна нейкая, ці што? А ну, давай пракапаем тут.

Але не паспелі хлопчыкі капануць і некалькі разоў, як на плечы ім з шумам і шоргатам пасыпалася зямля.

— Уцякайма, а то заваліць! — хапаючы сябра за руку, спалохана крыкнуў Міколка.

Выскачыўшы з пячоры, яны доўга адплёўваліся і абтрасалі з сябе пясок.

— Хадзем паглядзім, што там робіцца,— сказаў нарэшце Паўлік, калі яны крыху апамяталіся.

Падышоўшы да пячоры, хлопчыкі спыніліся і пачалі прыслухоўвацца.

— Ціха,— прашаптаў Міколка і асцярожна ўвайшоў усярэдзіну.

Следам за ім падаўся і Паўлік.

— Глядзі, а гэта ж не сцяна,— праз хвіліну прамовіў ён.— Сцяна вось тут, яна з каменняў складзена. А гэта, відаць, уваход нейкі. Толькі куды ён вядзе?

Крыху ачысціўшы ад зямлі чорныя бярвенні, хлопчыкі

спынілі работу і задумаліся. «Што гэта за дзіўнае збудаванне? І куды вядзе застаўлены бярвеннямі ўваход?»

— Можа, там скарб які схаваны? — прашаптаў Паўлік.

— Эх, была не была! — навальваючыся плячом на адно з бярвенняў, усклікнуў Міколка.

Але бервяно нават не скранулася з месца. Відаць, ніжні канец яго ішоў глыбока ў зямлю.

— Прыйдзецца яшчэ падкапаць,— уздыхнуў Міколка і, папляваўшы на далоні, зноў узяўся за рыдлёўку.

Пакапаўшы крыху, ён сказаў:

— Паспрабуем яшчэ раз. Давай разам.

Хлопчыкі дружна ўперліся рукамі ў бервяно, яно зарыпела, заскрыгатала, асыпаючы іх зямлёй, і ўпала. З чорнага пралому дыхнула холадам і вільгаццю.

— Давай яшчэ адно павалім, тады лепш будзе ўвайсці,— прапанаваў Міколка.— А то як прыйдзецца лататы даваць, дык ушчэмімся ў гэтым праходзе.

З другім бервяном справа пайшла лягчэй. Уваход быў цяпер даволі шырокі, і хлопчыкі, затаіўшы дыханне, увайшлі ў невялікае, складзенае з каменняў, сховішча. Тут панаваў змрок, так што давялося нейкую хвіліну пастаяць на месцы, каб вочы прывыклі да цемры.

— Глядзі, Міколка, кулямёт,— усхвалявана прашаптаў Паўлік, паказваючы на чорнае, прысыпанае зямлёй дула.— Самы сапраўдны кулямёт! — захлёбваючыся ад радасці, усклікнуў ён і кінуўся да сваёй знаходкі.

Прысеўшы ля кулямёта, хлопчыкі пачалі з усіх бакоў абмацваць і аглядаць яго.

— Відаць, ён тут яшчэ ад вайны застаўся,— выказаў здагадку Міколка, зазіраючы ў дула.

— Угу,— згадзіўся Паўлік,— адсюль, з-пад гэтай скалы, нашы і смалілі па фашысцкіх караблях. Здорава прыдумалі, праўда?

— Цікава, колькі іх было і што з імі сталася? — задумена прамовіў Міколка.

— Давай абыдзем пячору, мо знойдзем яшчэ што-небудзь,— прапанаваў Паўлік.

Сябры пачалі ўважліва прыглядацца да сцен і падлогі пячоры.

— Кацялок,— усклікнуў неўзабаве Паўлік.— Глядзі, на ім нешта напісана. Хадзем да святла, прачытаем.

Прысеўшы ля ўвахода ў пячору, сябры пачалі аглядаць знаходку. На кацялку вялікімі няроўнымі літарамі было напісана: «Сёння скончыліся патроны. Не пілі і не елі ўжо тры дні. Кулямёт ад ворага схаваем, а самі пойдзем у горы. Антон Апейка і Рыгор Залівака.

Нейкую хвіліну хлопчыкі моўчкі пазіралі на запіс. А пасля Міколка сказаў Паўліку:

— Бяжы пакліч дзядулю, а я тут пачакаю.

Паўлік кіўнуў галавой і, падхапіўшыся з месца, стрымгалоў памчаўся ў пасёлак.

Задыханы і мурзаты, ён ускочыў у дом і закрычаў з усёй сілы:

— Мама! Дзядуля! Там, у пячоры, мы... Міколка...

— Што з Міколкам? — спалохана ўсклікнула маці.— Заваліла ў пячоры?..

— Ды не! Мы кулямёт знайшлі... Дзядуля, хадзем хутчэй,— кінуўся Паўлік да дзеда.

— Які кулямёт? Што ты пляцеш? Паглядзі на сябе: на каго ты падобны,— брудны, падрапаны...

— Хутчэй, хутчэй!..— не звяртаючы ўвагі на словы маці, прыспешваў дзеда Паўлік і, ухапіўшы за руку, цягнуў яго да дзвярэй.

— Ды раскажы ты толкам, што здарылася? — дзівіўся той.

— Пасля, пасля, дзядуля! Дарогай раскажу. Там Міколка чакае.

Усю дарогу Паўлік то забягаў наперад, то зноў кідаўся назад і хапаў за руку старога, які ледзь паспяваў за ўнукам і ніяк не мог уцяміць, куды і навошта той яго цягне. І толькі

калі яны спусціліся к мору і Паўлік правёў яго ў пячору, старому ўсё стала зразумела.

Агледзеўшы кулямёт, Антон Паўлавіч прысеў на камень і задумаўся.

— Ой, а пра кацялок мы забыліся! — успомніў Міколка.

— Пра які кацялок? — запытаў Антон Паўлавіч.

— Ды вось пра гэты. На ім і надпіс ёсць,— падаючы кацялок, сказаў Міколка.

Прабегшы вачыма напісанае, стары марак уздыхнуў, дастаў сваю люльку і, раскурыўшы яе, звярнуўся да хлопчыкаў:

— Знаходка ваша вельмі цікавая. Трэба паведаміць аб ёй у краязнаўчы музей. Там ведаюць, што з ёю рабіць. Я пайду пазваню ў Феадосію, а вы пакуль пабудзьце тут. Толькі памыйцеся, бо на вас глядзець страшна.

Антон Паўлавіч пайшоў у пасёлак, а хлопчыкі падаліся да мора.

— Ой, Міколка, які ты мурзаты! Цябе зараз і родная маці не пазнала б,— смяяўся Паўлік.

— Ды і ты не лепшы,— падміргнуў Міколка.— Адкуль у цябе гузак на лбе?

Паўлік памацаў лоб і паморшчыўся:

— Гэта ж яшчэ, як ад абвалу ўцякалі, стукнуўся...

Пасля цемры і вільгаці, што панавала ў пячоры, на сонечным беразе было асабліва хораша. Хлопчыкі з прыемнасцю падстаўлялі спіны набягаючым хвалям, давалі нырца пад іх, крычалі, смяяліся.

Накупаўшыся ўволю, яны схавалі ў пячоры свае трафеі і пабеглі дадому.

А пад вечар у пасёлак прыкаціла жоўтая «Пабеда», і Паўлік з Міколкам павялі супрацоўніка музея ў сваю пячору.

Той доўга аглядаў іх знаходкі, запісваў нешта ў блакнот, а пасля сказаў:

— Цяпер дазвольце сфатаграфаваць вас каля гэтай пячоры ды запісаць вашы імёны і прозвішчы. А па кулямёт мы

прыедзем заўтра. Пакідаю яго пад вашу асабістую адказнасць.

Неўзабаве ўвесь пасёлак ведаў пра знаходку Паўліка і Міколкі. А праз дзень у газеце з'явіўся фотаздымак хлопчыкаў і карэспандэнцыя аб іх знаходцы.

З самага ранку Міколку і Паўліка пачалі атакоўваць пасялковыя рабяты, і сябры толькі тое і рабілі, што вадзілі іх у пячору ды паказвалі свой кулямёт.

Амаль да вечара Паўлік з Міколкам не адыходзіліся ад пячоры, і толькі калі кулямёт паставілі на грузавік, які прыйшоў з горада, хлопчыкі нарэшце падаліся дадому.

А яшчэ праз некалькі дзён у пасёлку зноў з'явілася жоўтая «Пабеда», і хлопчыкаў паклікалі ў праўленне калгаса.

— Добры дзень, сябры! — весела прывітаў Міколку і Паўліка ўжо знаёмы ім мужчына.— Па даручэнню супрацоўнікаў музея дазвольце перадаць вам гэты невялікі падарунак.— Ён паказаў рукой на стол, на якім ляжаў фотаапарат «ФЭД» і скрынка з плёнкай і ўсімі неабходнымі для фотааматара рэчамі.— Я думаю, што вы добрыя сябры і сварыцца за яго не будзеце.

— Вядома, не будзем! — усклікнуў Міколка. І, павярнуўшыся да Паўліка, прамовіў: — Цяпер мы, ведаеш, што зробім? Арганізуем пры сваім штабе фотагурток. Спачатку самі падвучымся крыху, а пасля навучым усіх нашых рабят.

— Добра,— з радасцю згадзіўся Паўлік. Яму даўно хацелася бліжэй пазнаёміцца з сябрамі Міколкі.

## АНДРЭЙКА ЗУСІМ НЕ «СКУПЫ РЫЦАР»

Мора сёння злуецца. Яно нахмурылася, пацямнела.

Паўлік стаіць на вялікім камені, што вытыркае з вады каля берага, і сэрца яго замірае ад хвалявання. Які ён маленькі, які кволы перад веліччу магутнай стыхіі!

Белагрывыя хвалі з разгону кідаюцца на бераг, разбіваюцца аб камень, заліваюць яго сваімі салёнымі пырскамі, аглу-

шаюць тысячагалосым гоманам і шумам. І хлопчыку здаецца, што стаіць ён не на камені, а на высокім капітанскім мосціку карабля, які горда плыве сярод раз'юшаных хваль акіяна. Рыпяць высокія мачты пад напорам магутнага ветру, хвалі перакочваюцца цераз палубу, а ён, Паўлік, смела глядзіць уперад і спакойна аддае каманды свайму адважнаму экіпажу.

«Поўны наперад!»

«Ёсць поўны наперад!» — чуецца голас штурвальнага.

«Так трымаць!»

«Ёсць так прымаць!» — адказвае штурвальны.

І карабель бясстрашна плыве наперад, паслушны адважнаму капітану і яго слаўнай камандзе.

«Бераг! Бераг!» — радасна крычыць марсавы.

— Паўлік, зараз жа злезь з каменя! — чуецца раптам голас мамы.— Бачыш, якія вялікія хвалі. Сарвешся — ніхто цябе не выратуе.

Ад гэтага воклічу знікае прыгажун карабель, знікаюць мары аб адважным смелым капітане, аб далёкіх небяспечных падарожжах.

«І чаму гэта мама заўсёды ўсяго баіцца, усюды ёй мрояцца жахі?!» — думае Паўлік, саскакваючы з каменя на мокры, са шматкамі пены, пясок.

— Пойдзем дадому, сынок. Мора сёння такое неспакойнае,— гаворыць маці.

— А мне падабаецца, калі яно сярдзітае, кідаецца на бераг,— кажа Паўлік, і вочы яго блішчаць ад захаплення.— Глядзі, якія высачэзныя хвалі!

Але мама не чуе слоў Паўліка. Яна падымаецца ўверх па камяністай сцежцы. Нічога не зробіш, трэба ісці і Паўліку. Цяжка ўздыхнуўшы, ён акідвае позіркам марскі прастор і пляцецца следам за маці ў пасёлак.

На шашы ён сустракае Андрэйку.

— Андрэйка! Адкуль ты ўзяўся? — радасна вітаецца Паўлік.— Я думаў, што ты ўжо ў Маскву паехаў.

— Гланды, каб на іх ліха,— гаворыць Андрэйка.— Цэлы

тыдзень праз іх у пасцелі валяўся. Думаў, звар'яцею. Ляжыш адзін з ранку да вечара ды глядзіш у столь. Учора толькі з дому выйсці дазволілі. А вы тут з Міколкам, я чуў, кулямёт нейкі знайшлі. Вось шчасліўчыкі!

— Ды яшчэ які кулямёт! З яго нашы па гітлераўскіх караблях смалілі. Нам з Міколкам за гэты кулямёт фотаапарат далі.

— Адзін? — чамусьці здзівіўся Андрэйка.

— Адзін.

— А як жа вы яго дзяліць будзеце?

— Ніяк. Ён будзе ў нас агульны.

— Дык ты ж не тутэйшы, ты ж дадому паедзеш?

— Ну і што з таго? На тое лета зноў сюды прыеду... А куды ты ідзеш? — пытае Паўлік.

— Ды нікуды. Купацца сёння нельга, мора вунь як бушуе. Затое пасля шторму, ведаеш, колькі каменьчыкаў на бераг выкіне. Можа, нават пару агатаў пашчасціць знайсці,— гаворыць Андрэйка. І нечакана прапануе: — Хочаш паглядзець маю калекцыю? Хадзем да мяне.

— Мама, я да Андрэйкі забягу! — гукнуў Паўлік, адразу прымаючы прапанову сябра.

У яго аж дух заняло, калі Андрэйка паставіў перад ім некалькі вялікіх каробак з-пад цукерак, у якіх на разасланай ваце былі раскладзены каменьчыкі самых дзівосных колераў і адценняў. А галоўнае, яны былі яркія і бліскучыя, нібы іх толькі што выхапілі з вады.

— У цябе яны чамусьці блішчаць, а мае, як толькі абсохнуць, адразу робяцца цьмянымі,— заўважыў Паўлік.

— А хіба ты не ведаеш, што трэба рабіць, каб блішчалі? Ты, як прынясеш іх дадому, вытры прамасленай ваткай,— параіў Андрэйка.— Або вось так.

Ён узяў цьмяны каменьчык, пацёр яго аб шчаку, і той адразу нібы ажыў, заблішчаў, паказаў свой колер.

— Хочаш, я табе палову сваіх каменьчыкаў аддам? — запытаў раптам Андрэйка.

— Раздавай, раздавай, а з чым у Маскву паедзеш? — пачуўся голас Андрэйкавай маці, якая сядзела ля акна і нешта вышывала.

Андрэйка пачырванеў, нахмурыўся і прабурчаў:

— Яны ж мае...

— Ну твае, твае. А навошта ж раздаваць?

— Не трэба, я сам назбіраю,— збянтэжана прамовіў Паўлік.— Пасля шторму будзем разам збіраць, добра?

Андрэйка моўчкі кіўнуў галавой.

— Ну, мне дадому пара, абедаць мама чакае,—сказаў Паўлік. Яму не хацелася заставацца болей у гэтым пакоі.

— Я правяду цябе да шашы,— падхапіўся Андрэйка і ўслед за Паўлікам выскачыў з дому.

Нейкі час хлопчыкі ішлі моўчкі, а пасля Андрэйка якімсьці не сваім, глухім голасам пачаў:

— Вось так заўсёды, усяго ёй мала, усяго шкадуе. Веласіпед рабятам не давай, бо зломяць, мяч на двор не выносЬ, бо адбяруць, кніжку з шафы не бяры, вокладку запэцкаеш.

Голас Андрэйкі зрываўся, у кожным яго слове адчувалася крыўда і горыч.

— Вось вы тады на мяне накінуліся, «скупым рыцарам» назвалі. І правільна. Але хіба я вінаваты, што мне забараняюць дзяліцца з дзецьмі сваімі рэчамі...

Паўліку шкада было Андрэйку, і, каб як-небудзь спыніць гэтую непрыемную гутарку, ён сказаў:

— Прыходзь пасля абеду, пойдзем да Міколкі. Толькі не падвядзі, я цябе чакаць буду. А жыву я вунь там, на гары.

— Абавязкова прыйду,— паабяцаў Андрэйка, і позірк яго крыху павесялеў.

Ідучы дадому, Паўлік думаў пра Андрэйку, пра яго маці, пра свайго дзядулю, пра Міколку. Пра тое, якія розныя бываюць на свеце людзі...

Андрэйку доўга чакаць не прыйшлося. Праз якую гадзіну Паўлік пачуў яго голас і выбег з дому. Андрэйка стаяў на камені ля дзядулевай сцежкі.

— Вось добра, што вы прыйшлі! — радасна прывітаў іх Міколка.— Мы тут з Марынкай якраз свой штаб да ладу даводзім, дапаможаце нам крыху.

Штаб «Атрада дружных» размяшчаўся ў альтанцы, густа аплеценай вінаграднымі лозамі. З сярэдзіны сцены альтанкі былі абшыты фанерай. Фанера пацямнела ад часу, і Марынка бяліла сцены, стоячы на высокім табурэце. Дзве сцяны былі ўжо белыя і амаль зусім сухія. На адной з іх Міколка прымацоўваў партрэт Леніна.

— К вечару будзе поўны парадак,— сказаў ён.

— А вы, калі прыйшлі, дык дапамажыце Міколку ўнесці сюды шафу, а то ўдваіх мы ніяк не маглі,— загадала Марынка, прыпыніўшы на хвіліну сваю работу і выціраючы кончыкам хусцінкі запырсканы мелам нос.

Вочы ў Марынкі вялікія, шэрыя. Глядзяць яны на хлопчыкаў строга. Андрэйка ніколі не дазваляў, каб ім камандавалі дзяўчынкі, і ён нават крыху раззлаваўся. Хацеў быў ужо сказаць ёй што-небудзь калючае, але, пачуўшы Міколкава «Пайшлі, хлопцы!», падаўся следам за ім і Паўлікам з альтанкі.

Калі шафа была пастаўлена на вызначанае ёй месца, Марынка сказала:

— А цяпер унясіце сюды скрыню з кніжкамі.

Хлопчыкі выканалі і гэты загад дзяўчынкі.

— Адкуль у вас столькі? Ой, ды тут і дзіцячая энцыклапедыя, і ўвесь Жуль Верн! — дзівіўся Паўлік, разглядаючы кнігі.

— А гэта мы пазносілі са сваіх кніжных паліц. А дзіцячую энцыклапедыю нам выпісаў твой дзядуля.

Дабяліўшы сцяну, Марынка саскочыла з табурэта, і хлопчыкі зноў пачулі яе строгі гаспадарскі голас:

— Міколка, прынясі вады, я падлогу буду мыць, а вы пагуляйце, пакуль яна высахне.

Міколка пабег да калодзежа, а Паўлік з Андрэйкам прыселі на лаўцы.

— Камандзір у спадніцы! — іранічна чмыхнуў Андрэйка.— Не люблю, калі дзяўчынкі ў начальнікі лезуць.

Паўлік крыва ўсміхнуўся. Ён быў згодзен з Андрэйкам, бо таксама не любіў, каб ім камандавалі дзяўчынкі. Але адказаць не паспеў. Вярнуўся Міколка.

— Ну, пайшлі. Пасядзім у нашай пячоры ды паглядзім, што на моры робіцца,— сказаў ён, аддаўшы вядро Марынцы.

Перабегшы шашу, хлопчыкі падаліся да мора.

— Ого, як разгулялася! Балаў восем будзе, не менш,— усклікнуў Міколка, калі хлопчыкі апынуліся на высокім беразе. Глядзі, да самай нашай пячоры дабралася, туды цяпер не пройдзеш, хвалі аж пад скалу шугаюць.

Ад таго, што неба было абложана хмарамі, мора здавалася амаль чорным. Яно раўло і кіпела. Высокія хвалі з лютай злосцю кідаліся на бераг, нібы наважылі змыць і скрышыць усё, што стаяла на іх шляху. Але каменныя гмахі скал маўкліва і непарушна баранілі сваімі магутнымі грудзьмі пасёлак ад раз'юшанай марской стыхіі.

Хлопчыкі крочылі сцяжынкай, якая то падымалася ўгору, то стромка падала ўніз. Салёны вільготны вецер дзьмуў ім у твар, свістаў ля вушэй, упіраўся ў грудзі. Пасля доўгіх спякотных дзён сёння дыхалася лёгка, і здавалася, можна ісці гэтай вузкай сцяжынкай хоць на самы край свету.

— Глядзіце, магіла нейкая! — сказаў Андрэйка, паказваючы на невялікі каменны абеліск, што стаяў на самым краёчку крутога берага.

— Гэта нашы дэсантнікі пахаваны,— спыніўся і Міколка.— Фашысты акружылі іх...

На белым абеліску залатымі літарамі было напісана: «Тут у 1942 годзе смерцю герояў загінулі 23 чарнаморскія маракі». Далей пералічваліся імёны і прозвішчы тых, хто знайшоў свой апошні прытулак на гэтым скалістым беразе.

— А ведаеце, як яны біліся? Да апошняга патрона, да апошняй кроплі крыві! Іх было ўсяго дваццаць тры, а фашыстаў — цэлая процьма,— горача загаварыў Міколка.— Ма-

ракі былі вось тут, дзе мы зараз стаім, а гітлераўцы лезлі з усіх бакоў. Упаў адзін матрос, упаў другі, трэці... А фашысты ўсё пруць і пруць. І вось засталося ўсяго тры маракі. І ўсе трое параненыя. Канчаюцца патроны. Фашыстаў ужо навокал цэлае войска палегла, але на змену ім падыходзяць новыя. І вось застаўся адзін марак, стаіць на самым краёчку берага. Нацельнік увесь у крыві, а ён усё страляе і страляе. Хоча як мага больш палажыць гадаў, адпомсціць за сваіх сяброў...

Міколка гаварыў так усхвалявана, нібы сам быў сведкам гэтага няроўнага паядынку. Паўлік з Андрэйкам слухалі яго, затаіўшы дыханне.

— Ну, а з гэтым апошнім што было? — спытаў Андрэйка.

— Вядома што,— уздыхнуў Міколка.— Убачыў ён, што адзін патрон застаўся, што не вырвацца яму з варожага кальца, прыставіў да сэрца пісталет і стрэліў...

Міколка скончыў свой сумны расказ, а перад вачыма Паўліка і Андрэйкі ўсё яшчэ быццам жывы стаяў той малады акрываўлены марак.

— Ля гэтай магілы мы ў свой атрад прымаем,— сказаў Міколка.

— А нас з Андрэйкам вы прымеце? — запытаў Паўлік.

— Цябе абавязкова прымем, а вось Андрэйку...

— Андрэйка харошы! І ён зусім не «скупы рыцар»! — перабіў Міколку Паўлік.

— Ты на мяне не крыўдуй,— павярнуўся Міколка да Андрэйкі,— але не па-нашаму гэта — «маё, тваё»... Разумееш?

— Я разумею...— глуха прамовіў Андрэйка і адвярнуўся ад хлопчыкаў.

— Сёння ў васемнаццаць нуль-нуль збор. Прыходзьце абодва,— сказаў Міколка, калі яны вярталіся ў пасёлак.

«З пустымі рукамі я да іх не пайду,— думаў Андрэйка.— Прынясу свой настольны тэніс і валейбольны мяч. Хай ведаюць, які я «скупы рыцар».

## ПАСЛЯ ШТОРМУ

Паўлік з Андрэйкам прыйшлі ў штаб задоўга да вызначанага часу. Міколка ўжо быў там, сядзеў ля стала і запісваў нешта ў сшытку. Марынка расстаўляла на паліцах кніжкі.

— Вось, бярыце,— сказаў Андрэйка, кладучы на стол скрынку з настольным тэнісам і валейбольны мяч.— Гэта ад мяне...

Міколка глянуў спачатку на Андрэйку, а пасля на яго падарункі, і ў яго цёмных бліскучых вачах загарэліся вясёлыя агеньчыкі.

— А мы якраз збіраліся набыць тэніс, нават стол падрыхтавалі,— сказаў ён.— Ты нібы адгадаў, што нам трэба.— І раптам спытаў: — А табе не шкада?

— Калі даю, значыцца, не шкада,— хмура адказаў Андрэйка.

— Даюць, дык бяры, а б'юць, дык бяжы,— пажартаваў Паўлік.

У гэты час у альтанку ўвайшоў шчуплы, невысокі хлопчык з ружовым аблупленым носам, вакол якога дружна рассыпаліся вясёлыя буйныя вяснушкі.

— А вось і наш Шэрлак Холмс, наш разведчык Юрка,— адрэкамендаваў новага таварыша Міколка.

— Разведчык? — пацiснуў плячыма Паўлік.— А што ён разведвае?

— Зараз пачуеце самі.

Услед за Юркам прыйшлі яшчэ некалькі хлопчыкаў і дзяўчынак, і ў альтанцы адразу зрабілася шумна.

Калі ўсе паселі вакол стала, Міколка сказаў:

— Ну, Юрка, выкладвай свае навіны.

Юрка ўстаў, абцягнуў выгаралы ад сонца нацельнік, адкашляўся і пачаў:

— Мы з Наташай былі ў парку, што летась увосень пасадзілі камсамольцы. Дрэўцы сохнуць. Ніхто не палівае. Пяць

таполяў зусім засохла...— Юрка гаварыў хутка, нібы гарохам сыпаў. Быццам баяўся, што яго перапыняць і ён не паспее ўсё дагаварыць да канца.— А яшчэ мы надумалі прывесці ў парадак хату і садок дзеда Данілы, бо, як памерла бабка Тадора, у яго ў хаце ніхто не прыбіраў. Днямі калгас пасылае яго на два тыдні ў дом адпачынку, трэба будзе, пакуль ён вернецца, давесці да ладу яго гаспадарку.

— Толькі давайце зробім так, каб дзед Даніла нічога пра нашу задуму не ведаў,— прапанавала Наташа.— Вернецца ён з адпачынку і не пазнае сваёй хаты.

У карых вачах Наташы гарэзлівыя смяшынкі, валасы каштанавымі локанамі спадаюць на плечы, а на загарэлых шчоках — вясёлыя ямачкі.

— А яшчэ трэба магілу маракоў агледзець. Былі мы там сёння. Кветкі новыя трэба пасадзіць, бо тыя ўжо адцвілі, пасохлі,— сказаў Міколка.— Заўтра з раніцы гэтым зоймуцца Марынка з Наташай. А ўвечары ўсе пойдзем паліваць дрэўцы ў парку. А як толькі дзед Даніла паедзе ў дом адпачынку, правядзём у яго сядзібе аўрал...

Калі ўсе пытанні былі вырашаны, Міколка расказаў сябрам пра Паўліка і Андрэйку. Даведаўшыся, што Паўлік прыехаў з новага шахцёрскага горада Салігорска, Юрка папрасіў:

— Ты нам раскажы калі-небудзь пра свой горад.

— Не толькі раскажу, а нават фотаздымкі пакажу. Я дзядулі шмат прывёз.

Наташа ўбачыла настольны тэніс і прапанавала згуляць.

Не прайшло і гадзіны, а Паўлік з Андрэйкам ужо адчувалі сябе так, нібы былі даўнімі сябрамі Міколкавых таварышаў. За гульнёй рабяты не заўважылі, як на двары пацямнела. Над галовамі раптам пракаціўся моцны грукат.

— Навальніца! — усклікнула Марынка.

Рабяты выбеглі з альтанкі і, нібы вераб'і, рассыпаліся па пасёлку.

— Спалохаўся, нябось. У нас у гарах грыміць не так, як

у вас дома. Тут, браце мой, як з сотні гармат смаліць,— сказаў дзядуля, калі Паўлік, аглушаны новым магутным ударам грому, ускочыў на двор.— Ну, калі прыбег, то давай дождж сустракаць.

Дзядуля абярнуў вялікую жалезную бочку, што стаяла пад капяжом, выліў з яе рэшткі бруднай вады і разам з Паўлікам зноў паставіў яе на месца. Бабуля з мамай выносілі на ганак вёдры, тазы, начоўкі — адным словам, усё, што можна было напоўніць вадой, а Паўлік з дзядулем стаўлялі іх пад капяжы і проста пасярод двара.

Усю ноч над пасёлкам грукатаў гром і яркія маланкі вогненнымі пугамі паласавалі чорнае неба. На момант яны выхоплівалі з цемры дзівосныя абрысы скал, золатам расплёскваліся ў моры, блакітным святлом залівалі пакой. Парывісты моцны вецер хістаў і згінаў вяршаліны дрэў, шкуматаў густую лістоту. Буйны дождж біў у шыбы акон, заўзята барабаніў па даху.

Паўлік некалькі разоў прачынаўся ад моцнага грукату і доўга не мог заснуць. Закрываў галаву падушкай, моцна заплюшчваў вочы. А калі нарэшце засынаў, перад яго вачыма паўставалі постаці маракоў у акрываўленых нацельніках. Яны смела біліся з ворагам на высокім камяністым беразе, а з-пад гары, з пячоры, страчыў з кулямёта Міколка.

Пад раніцу вецер заціх, радзейшымі сталі водбліскі маланак і далёкія грымоты. Дождж цяпер быў роўны, спакойны. Пад яго аднастайны шум Паўліку спалася соладка і лёгка.

Два дні неба над пасёлкам было зацягнута хмарамі. Яны ахуталі шэрым вэлюмам вяршаліны гор, спаўзалі ў распадкі. Мора па-ранейшаму шумела і білася аб берагі. Быстрыя шэрыя ручаіны збягалі з гор у нізіны, зліваліся ў бурлівыя мутныя патокі, спяшаліся да мора. У пасёлку ў гэтыя дажджлівыя дні было ціха і пуста, але як толькі дождж крыху заціхаў, да лужын спяшаліся малыя. Яны бегалі басаног па вадзе, крычалі, смяяліся, пакуль новы паток ліўня не разганяў іх па дварах.

Але нарэшце настала зноў сонечная вясёлая раніца. Яна ўсміхнулася яркай прамытай зелянінай дрэў, заіскрылася, заззяла срэбрам дажджавых кропель, рассыпаных на траве, загаманіла, заспявала галасамі птушак.

Паўлік стаяў на высокім ганку і жмурыўся ад яркіх праменняў ласкавага сонца. Пасёлак, які ляжаў перад ім унізе, выглядаў па-новаму. Абмыты шчодрым дажджом, ён, нібы той выхаплены з мора каменьчык, ззяў усімі сваімі фарбамі. Горы, якія яшчэ ўчора танулі ў шэрым клоччы хмар, сёння на фоне чыстага сонечнага блакіту здаваліся менш суровымі і таямнічымі.

— Добрай раніцы, дзядуля! — усклікнуў Паўлік, убачыўшы ў садку дзеда.

— А, прачнуўся, шпачок! — прывітаў яго дзед.— Ідзі снедай, ды пойдзем купацца. Мора сёння спакойнае, ласкавае. Павучу цябе плаваць.

— Я зараз, дзядуля! — стрымгалоў кінуўся на кухню Паўлік.

Стомленае штормам мора прыціхла, палагаднела. Хвалі ласкава ліжуць бераг, напаўняюць спакой раніцы ціхім плюскатам. На каменьчыках доўгімі зялёнымі гірляндамі ляжаць мокрыя водарасці. Сярод іх сям-там блішчаць на сонейку вялікія малочна-вадзяністыя медузы. Маленькі краб, выкінуты хвалямі на бераг, затаіўся пад каменем, дзе засталося крыху вільгаці, і пагражальна варушыць чорнымі клюшнямі.

— Пасядзім трошкі — і ў ваду,— гаворыць дзядуля і, сцягнуўшы з сябе сарочку, садзіцца на камень, пад якім схаваўся краб.

— Паўлік! — чуецца раптам аднекуль зверху.

Па вузкай звілістай сцежцы, хапаючыся за кусты, спускаецца Андрэйка.

— Я да цябе бегаў, каб каменьчыкі разам збіраць,— яшчэ здалёк гукае ён.

— А мы з дзядулем купацца прыйшлі. Буду вучыцца плаваць.

Павітаўшыся з Антонам Паўлавічам і заўважыўшы ў яго на руцэ вышэй локця наколку — сіне-ліловага дракона, Андрэйка ціхенька запытаў:

— Ён марак?

— Самы сапраўдны. Сорак год на моры плаваў. Таму і пасяліўся ў гэтым пасёлку. Я, кажа, без мора жыць не магу. Яно мяне як магнітам да сябе цягне.

— Сорак год! Вось гэта здорава! А наколка якая! Дракон зусім як жывы.

— Гэта яму адзін кітайскі марак на ўспамін зрабіў.

— Вось каб мне такую! Усе нашы хлопцы ад зайздрасці лопнулі б, каб убачылі. Толькі я ніжэй зрабіў бы і з самай вясны да маразоў хадзіў у тэнісцы,— шапнуў Андрэйка.

— Ну пайшлі купацца, маракі,— паклікаў іх Антон Паўлавіч.

Ён некалькі разоў глыбока ўздыхнуў, зайшоў па пояс у ваду і паплыў, перавальваючыся з боку на бок і разразаючы ваду дужымі загарэлымі рукамі.

Андрэйка таксама кінуўся ў мора і паплыў уздоўж берага, моцна б'ючы нагамі па вадзе і ўздымаючы фантаны пырскаў.

— Хваля малая! — крыкнуў ён Паўліку, стаўшы на ногі.— Сёння на дне кожны каменьчык відно. Хадзі сюды, не бойся.

Асцярожна ступаючы, Паўлік падышоў да Андрэйкі, і яны пачалі ўглядацца ў асветленае сонцам марское дно. Праз зеленаватую тоўшчу вады быў відаць кожны каменьчык, кожная самая маленькая ракавінка.

— Ну, Паўлік, давай брацца за навуку,— падплыў да хлопчыкаў Антон Паўлавіч.

Ён узяў Паўліка за руку і павёў на глыбейшае месца.

— Глядзі на мяне,— сказаў дзядуля і павольна паплыў паўз бераг.— Ну, паспрабуй цяпер сам. Ды не бойся, я цябе падтрымліваць буду.

Навучыцца плаваць аказалася не такой лёгкай справай.

Калі Паўлік пачынаў працаваць нагамі — забываў пра рукі, а калі пачынаў заграбаць рукамі — забываў дапамагаць сабе нагамі. Пакуль яго падтрымліваў дзядуля, было яшчэ паўбяды, але як толькі той адводзіў рукі, Паўлік палохаўся, цела рабілася непаслухмяным, і яго цягнула ўніз. Паўлік нямала наглытаўся салёнай вады і набраўся жаху, пакуль авалодаў сакрэтам плавання. Але затое якую гордасць адчуў ён, калі нарэшце ўдалося праплыць некалькі метраў зусім самастойна, без усякай дапамогі дзядулі. Вада цяпер нібы падабрэла і сама трымала яго на паверхні.

— А заўтра паспрабуем нырацъ і плаваць брасам,— сказаў Антон Паўлавіч, калі яны ўсе трое, накупаўшыся ўволю, выйшлі на бераг.

— І мяне навучыце, добра? — папрасіў Андрэйка.— Я толькі «па-сабачаму» плаваць умею.

— І цябе навучу,— паабяцаў дзядуля.

Пагрэўшыся крыху на сонейку, Паўлік з Андрэйкам пачалі збіраць каменьчыкі, а Антон Паўлавіч папярэдзіў хлопчыкаў, каб яны не заходзілі на глыбіню, і падаўся дадому.

Ідучы берагам, хлопцы непрыкметна апынуліся на тым месцы, дзе тры дні назад была іхняя пячора, і не паверылі сваім вачам. Шторм зрабіў сваю справу. Зямля і каменне пад скалой асунуліся, і ад пячоры засталося толькі невялікае, вылізанае вадой паглыбленне. Пастаяўшы крыху перад ім, хлопчыкі рушылі назад. Яны ішлі павольна, прыглядаючыся да каменьчыкаў і падбіраючы самыя прыгожыя.

— Андрэйка, глядзі, які я знайшоў. Сам круглы, плоскі, а пасярэдзіне дзірка! — даганяючы сябра, гукнуў Паўлік.

— Гэта — курыны бог,— сказаў Андрэйка.— Кажуць, як знойдзеш сем такіх каменьчыкаў,— любое тваё жаданне збудзецца. У мяне іх ужо чатыры.

— А што ты загадаў? — запытаў Паўлік.

— Хачу стаць касманаўтам і першым паляцець на Месяц.

— Не паспееш,— безнадзейна махнуў рукой Паўлік.

— Ну тады на якую планету...

— А я хачу быць мараком, як дзядуля. Раней хацеў быць шахцёрам, як тата, а цяпер парашыў стаць мараком.

— А што, каб спачатку пабыць шахцёрам, пасля мараком, потым касманаўтам, а тады яшчэ кім-небудзь? — летуценна прамовіў Андрэйка.

— Так не бывае,— уздыхнуў Паўлік.

— А пры камунізме?

— Пры камунізме? — Паўлік задумаўся на хвіліну, а пасля сказаў: — Пры камунізме, можа, і будзе...

## ЮРКАВА ЗНАХОДКА

На гэты загадкавы кошык з яйкамі Юрка натрапіў зусім выпадкова. Убачыў, што за плотам у суседкі цёткі Дар'і клубніка пачырванела, і захацелася ягад паспытаць. Дар'я была кабета злосная, скнара. Праз гэтую яе сквапнасць ды злосць, кажуць людзі, у яе і сын уцёк з дому. Не любілі Дар'ю людзі, не паважалі. А Юрка і тым больш. Па-першае, за тое, што яна іх ката Дымчыка забіла, прыдумала, нібыта ён у яе смятану злізваў. А яшчэ за тое, што яна футбольны мяч пасекла, калі ён пераляцеў цераз плот у яе грады. І ніякае шкоды гэты мяч у тых градах не зрабіў, і ніхто яго туды спецыяльна не кідаў, а вось пасекла, і ўсё. Юрка ёй гэтага ніколі не даруе. Хіба палез бы ён да каго іншага ў клубніку? Вядома, не. У іх дома і свая клубніка ёсць. А вось да цёткі Дар'і яму залезці прыемна, бо яна над кожнай ягадкай дрыжыць, кожную ягадку на базар цягне ды сем шкур за яе з людзей лупіць. Аднак клубніка клубнікай, але адкуль у градах гэты кош з яйкамі? І яшчэ так старанна лісцем закіданы. Курэй цётка Дар'я не трымае, баіцца, каб яны ягад не падзяўблі. А яек у кашы нямала, відаць, каля сотні будзе. Не выраслі ж яны на градах? А што, калі яйкі гэтыя яна з птушкафермы цягае? Яна ж птушніцай працуе.

«Трэба бегчы і пра ўсё расказаць Міколку»,— вырашыў Юрка і падаўся да сябра.

— Ясная справа — крадзе,— выслухаўшы яго данясенне, сказаў Міколка.— Вось змяя! Маці мая стараецца, працуе, а яна крадзе... Трэба абавязкова падпільнаваць яе з гэтым кошыкам. Падгледзець, як яна будзе ў яго крадзеныя яйкі выкладваць.

— Гэта я магу,— узняўшы на Міколку блакітныя вочы, запэўніў Юрка.— Ты толькі даведайся ў маці, у якой змене Дар'я працуе і калі будзе вяртацца дадому, а рэшта ўжо мой клопат.

Міколка тут жа памчаўся на птушкаферму да маці, а адтуль, даведаўшыся пра ўсё, што яго цікавіла, пабег да Юркі.

— Змена заканчвае работу ў васемнаццаць нуль-нуль,— паведаміў ён.

Яшчэ не было і пяці гадзін, калі Юрка падаўся ў канец агарода і прытаіўся ў кустах пад плотам цёткі Дар'і. Каб сядзець было не так сумна, ён узяў з сабой кніжку.

Юрка і не заўважыў, як мінула гадзіна, і апамятаўся толькі, калі пачуў радасны віск кудлатага Палкана, якім той вітаў прыход сваёй гаспадыні.

Не заходзячы ў хату, Дар'я накіравалася проста ў агарод. Спыніўшыся ля таго месца, дзе стаяў кошык з яйкамі, яна азірнулася па баках, прысела і пачала асцярожна даставаць з-за пазухі яйкі. Юрка налічыў іх ажно шэсць. Паклаўшы яйкі ў кош, Дар'я пакорпалася крыху на градах, вырвала некалькі пустазелін і падалася ў дом.

Як толькі яна знікла за дзвярыма, Юрка пераскочыў цераз невысокую каменную агароджу і пабег да Міколкі.

— Трэба зараз жа пра ўсё расказаць загадчыку птушкафермы. Павел Прохаравіч ведае, што рабіць,— сказаў Міколка.— Пайшлі да яго.

— Толькі хутчэй, а то яна, чаго добрага, перахавае кош, тады лаві ветру ў полі,— заспяшаўся Юрка.

Паўла Прохаравіча хлопцы сустрэлі па дарозе на птушкаферму. Выслухаўшы хлопчыкаў, ён нахмурыўся і нейкую хвіліну маўчаў, а пасля ўсміхнуўся і сказаў:

— Хадзем да цёткі Дар'і ў госці, клубнікай частавацца.

Міколка з Юркам аж вочы вылупілі ад здзіўлення. Цётка Дар'я хутчэй павесіцца, чым каго клубнікай сваёй пачастуе. Асабліва іх. Яна ж проста ненавідзіць хлапчукоў. Кажа, што ўсе яны шыбеніцы варты.

— Не, Павел Прохаравіч, не хочам мы яе клубнікі,— сказаў Міколка.— Вы ідзіце да яе, а мы з Юркавага двара глядзець будзем.

— Хай будзе па-вашаму,— згадзіўся загадчык.

Неўзабаве яны падышлі да дома цёткі Дар'і. Тут хлопчыкі пакінулі Паўла Прохаравіча і падаліся на Юркаў агарод.

Калі Павел Прохаравіч узышоў на двор, цётка Дар'я якраз мылася пад умывальнікам, што вісеў ля ганка. Убачыўшы загадчыка птушкафермы, яна вельмі здзівілася, але праз хвіліну твар яе расплыўся ў шырокай усмешцы.

— Добры дзень, Дар'я Ягораўна,— прывітаўся Павел Прохаравіч.— Іду гэта я каля вашага двара ды думаю: чаму б мне не зайсці праведаць сваю птушніцу, а заадно і клубнічкай свежай паласавацца.

— Калі ласка, калі ласка,— лісліва праспявала цётка Дар'я.— Я зараз, вось толькі на хвілінку ў хату забягу.

Неўзабаве яна зноў паказалася на ганку. Цяпер на ёй была сіняя сукенка ў белыя гарошынкі, у якой яна звычайна выходзіла на людзі. У руках Дар'я трымала невялікую белую місачку.

— Вы тут пасядзіце, Павел Прохаравіч,— паказала яна рукой на лавачку, што стаяла пад высокім разложыстым каштанам,— а я вам самых вялікіх набяру, самых спеленькіх.

— Навошта ж вам турбавацца, Дар'я Ягораўна. Я і сам не зломак, магу назбіраць сабе ягад,— запярэчыў загадчык птушкафермы.

— Што вы, Павел Прохаравіч! Як можна? Такі дарагі госць, ды каб сам у градах корпаўся! — зноў заспявала цётка Дар'я ліслівым галаском.

— Не, не, Дар'я Ягораўна. Я вельмі люблю ласавацца

клубнікай проста з градкі,— сказаў Павел Прохаравіч і, не зважаючы больш на тое, што гаворыць, бегучы ззаду за ім, гаспадыня, рушыў у агарод.

— Не хадзіце далей, Павел Прохаравіч, там у цяньку яна яшчэ зялёная,— спалохана ўсклікнула Дар'я, убачыўшы, што загадчык ідзе проста да таго месца, дзе быў схаваны яе кошык.

Абагнаўшы госця, яна кінулася наперад і, відаць, нічога ўжо не цямячы ад страху, гэпнулася на кош.

— Ой! — крыкнула яна.— Нешта ў нагу кальнула. З месца скрануцца не магу.

— А я вам дапамагу,— ледзь стрымліваючыся, сказаў Павел Прохаравіч.

— Не, не! Трэба хвілінку пасядзець, яно і пройдзе,— запярэчыла цётка Дар'я.— Вы ідзіце сабе ў той канец, там ягады спялейшыя, саладзейшыя.

— А ну, хопіць прыкідвацца, уставайце! Куранят з гэтых патрушчаных яек вы ўсё роўна не выседзіце,— нейкім не сваім, асіплым голасам сказаў Павел Прохаравіч.— Зараз жа ўставайце, а то людзей паклічу.

Цётка Дар'я паспрабавала падняцца, але гэта аказалася не такой лёгкай справай: яна ўшчамілася ў кошыку і ніяк не магла выбрацца з яго. Нарэшце яна сяк-так устала. Убачыўшы, як з сукенкі ў яе сцякае густая, перамешаная з пацёртымі шкарлупкамі жоўтая вадкасць, Міколка з Юркам пакаціліся ад рогату.

Не гаворачы больш ні слова, Павел Прохаравіч узяў кошык з раструшчанымі яйкамі і панёс з агарода. На двары ён гукнуў Міколку.

Крыху апамятаўшыся, цётка Дар'я падбегла да загадчыка фермы і пачала прасіцца, каб ён дараваў ёй і «не сароміў перад людзьмі». Але Павел Прохаравіч не захацеў яе і слухаць.

— Бяжы пакліч сваю маці,— сказаў ён Міколку.— Хай паглядзіць, чаму яе звяно апошні час пляцецца ў хвасце.

Доўга ў гэты вечар гаманілі людзі ля дома цёткі Дар'і. Ніхто не спачуваў гэтай сквапнай жанчыне, ніхто не сказаў аб ёй добрага слова.

— Вось змяя,— абураўся Юрка.— А яшчэ моліцца ўвесь час, крычыць, што ўсе піянеры будуць на тым свеце ў гарачай смале кіпець...

— А ведаеш, куды яна яйкі збывала? — запытаў Міколка.

— Куды?

— У Феадосію. Я на свае вочы бачыў, як яна нейкі абвязаны хусткай кошык везла. Я тады думаў, што ў ім клубніка...

— Я даўно заўважыў, што цётка Дар'я ніколі людзям у вочы не глядзіць, а ўсё неяк бокам, міма цябе пазірае. А мой тата кажа, што гэта першая прыкмета злодзея ды манюкі.

Міколка слухаў сябра, а сам усё думаў пра нешта сваё.

— Ой, глядзі, зорка падае! — усклікнуў Юрка.— Хутчэй задумвай што-небудзь.

Не даляцеўшы да зямлі, зорка пагасла.

— Ведаеш, што я задумаў? — сказаў Юрка.

— Што?

— Каб стаць мне некалі такім сышчыкам, як Шэрлак Холмс.

— А што ты будзеш рабіць, калі ў нашай краіне ўсе злачынцы перавядуцца? — усміхнуўся Міколка.

— І праўда,— уздыхнуў Юрка.— А ўсё ж мне падабаецца Шэрлак Холмс. Памятаеш, як ён...

— Хадзем да Антона Паўлавіча,— перабіў сябра Міколка.— Я адну штуку прыдумаў, трэба параіцца.

Назаўтра ў пасёлку на самым відным месцы ля канцылярыі калгаса з'явіўся вялікі плакат. На ім была намалявана жанчына, якая ўшчамілася ў кошыку з яйкамі. У жанчыне кожны мог лёгка пазнаць цётку Дар'ю.

Пад карыкатурай акуратнымі літарамі было напісана:

Усім, хто ганьбіць лад калгасны,
Скажам мы: «З дарогі прэч!»

Ґруз мінуўшчыны праклятай
Скінем мы як бачыш з плеч.

Ґультаям і спекулянтам
Абвяшчаем мы вайну.
Знішчым мы ў сваім пасёлку
І зладзейства, і ману.

Пад вершыкам замест подпісу стаялі ўсяго дзве літары — АД.

Ля плаката спыняліся людзі. Яны смяяліся, з ухвалойківалі галовамі.

— Ну і малайчына гэты АД. Здорава дае прыкурыць.

А непадалёку, хаваючыся за дрэвамі, стаялі Міколка, Паўлік і Юрка. Яны падміргвалі адзін аднаму і ўсміхаліся. Амаль да самых пеўняў хлопчыкі працавалі над гэтым плакатам у доме Антона Паўлавіча. Стары марак нават сам дапамагаў складаць верш, і ўсе яны вельмі ганарыліся сваім першым паэтычным творам.

— Цётка Дар'я да смерці будзе помніць гэтыя яйкі,— смяяўся Юрка.— А плакат цяпер і ўночы ёй будзе сніцца.

## АЎРАЛ

Домік дзеда Данілы стаяў пад гарой у нізінцы. Зацішнае тут месцейка. Ад паўночных вятроў яго засланяла гара, а ад сонца — высокія старыя таполі. Ля веснічак дзеда Данілы знаходзілася студня, і таму ля двара яго было заўсёды людна і весела. Асабліва, калі жыла яшчэ дзедава жонка бабка Тадора, ветлівая і гаваркая жанчына. Але з паўгода назад старая нечакана памерла, і двор дзеда Данілы адразу неяк асірацеў і прыціх. Прыціх і сам дзед Даніла, які душа ў душу пражыў са сваёй жонкай больш за паўсотні год. Трох харошых сыноў выгадавалі яны на радасць сабе і людзям, і ўсе тры загінулі пад Севастопалем улетку 1942 года.

Але сёння на двары дзеда Данілы гуло, як у вулеі. З самага ранку тут закіпела дружная работа. На нізкай, складзе-

най з каменняў агароджы ляжалі падушкі ў яркіх чырвоных насыпках, віселі коўдры, посцілкі, палавікі. Усё гэта выгравалася і праветрывалася на сонейку. Каля нацягнутай цераз увесь двор вяроўкі пахаджвала Наташа. Яна развешвала толькі што памытую і прапаласканую ля студні бялізну. Юрка з Андрэйкам выносілі з хаты мэблю. Яе таксама трэба было агледзець і працерці ад пылу, пакуль Марынка з Наташай будуць бяліць і мыць хату.

У садку гаспадарылі Міколка з Паўлікам. Яны рыхлілі зямлю вакол дрэўцаў, падвязвалі вінаградныя лозы, падмяталі дарожкі. Двор проста на вачах мяняў свой выгляд і нібы радаваўся, што і ў яго нарэшце знайшліся такія руплівыя гаспадары.

— Прыедзе дзед Даніла і вачам сваім не паверыць. Падумае, што заблудзіўся, трапіў на чужы двор,— смяяўся Міколка.

— Вось каб яшчэ веснічкі ды аканіцы ў які вясёлы колер пафарбаваць,— уздыхнуў, разгінаючыся, Паўлік.

— Пачакай, пачакай,— Міколка адставіў убок матыку.— Нядаўна мы школьны паркан фарбавалі. А што, калі пайсці да дырэктара ды папрасіць, каб ён даў крыху тае фарбы? Я зараз...

Не прайшло і паўгадзіны, як ён ужо вярнуўся назад з вядзерцам светла-зялёнай фарбы і двума пэндзлямі.

К абеду хату дзеда Данілы было не пазнаць. Пабеленая ўсярэдзіне і знадворку, яна ветліва ўсміхалася кожнаму прахожаму сваімі да бляску прамытымі акенцамі і нібы прасіла: «Пастой, падзівіся, якая я стала прыгожая. Прыгажэйшай за мяне цяпер на ўсім пасёлку не знойдзеш».

Марынка з Наташай не маглі нацешыцца са сваёй работы. Сукенкі, шчокі і насы іх былі запырсканы мелам, хусцінкі спаўзлі на патыліцу, але гэта нікольні не турбавала дзяўчынак. Яны радаваліся, што хатка дзеда Данілы памаладзела і павесялела, што стары не будзе больш адчуваць сябе такім адзінокім.

5 Зак. 1159

— Пакуль паабедаем, дык усё крыху прасохне і праветрыцца. А пасля навядзём парадак усярэдзіне,— єцягваючы з галавы хусцінку, сказала Наташа.— Толькі перш давай крыху памыемся.

Следам за Наташай і Марынкай да студні кінуліся і хлопчыкі. Узняўся шум, гоман. Дзеці аблівалі адзін аднаго вадой, крычалі, смяяліся. Пасля, нібы па камандзе, усе разбегліся па дварах, а ля студні засталася толькі вялікая лужына, у якой скакалі вясёлыя сонечныя праменьчыкі.

Пасля абеду двор дзеда Данілы зноў ажыў. Хлопчыкі ўнеслі мэблю і пайшлі фарбаваць веснічкі і аканіцы, а Марынка з Наташай пачалі прыбіраць у хаце. Яны старанна заслалі ложак гаспадара, накрылі свежым абрусам стол, павесілі на вокны адпрасаваныя, накрухмаленыя фіранкі. Працерлі і павесілі на месца партрэты сыноў дзеда Данілы ў шырокіх цёмных рамах. Памылі і спарадкавалі пасуду. Кожная рэч у доме старога рыбака цяпер стаяла на вызначаным ёй месцы і, як калісьці пры бабцы Тадоры, зіхацела чысцінёй.

— Ведаеш, што я надумала, Наташа? — сказала Марынка.— Давай будзем прыходзіць да дзеда Данілы кожны тыдзень. Яму будзе весялей з намі, а то ён зусім людзей цурацца пачаў, як бабка памерла.

— Абавязкова будзем прыходзіць,— згадзілася Наташа.— Глядзі, як хораша, нібы перад святам якім,— дадала яна, папраўляючы ля дзвярэй палавік.

Пастаяўшы з хвіліну на парозе, дзяўчынкі прычынілі дзверы і выйшлі на ганак. Сонца ўжо схілілася на захад і залівала ружовым святлом сцены дзедавай хаціны, садок і высокія старыя таполі.

— Ой, мяне ўжо, мабыць, зачакаліся дома,— усклікнула Наташа.— Міколка, мы сваю работу скончылі і ідзём дадому.

— Мы таксама зараз пойдзем. Вось толькі веснічкі яшчэ...

Дафарбаваўшы веснічкі, хлопчыкі выйшлі з двара і залюбаваліся на дзедаў домік.

— І сапраўды, як у той казцы пра рыбака і залатую рыб-

ку. На месцы старой абшарпанай хаткі стаіць цяпер прыгожы беленькі дом,— сказаў Юрка.

— А цяпер купацца! — прапанаваў Андрэйка.— Глядзіце, якое спакойнае сёння мора. За мной!

— Ой, ды ты ўжо плаваць навучыўся! — здзівіўся Міколка, калі Паўлік следам за ім кінуўся ў ваду і паплыў уздоўж берага.

— Мы з ім і ныраць умеем,— пахваліўся Андрэйка.— Антон Паўлавіч нас навучыў.

Накупаўшыся ўволю, хлопчыкі селі на нагрэтыя сонцам камені.

— Глядзіце, якія прыгожыя горы! Пасля дажджоў яны сталі зусім іншымі. От, мабыць, хораша там! — летуценна прамовіў Паўлік.

— А што, калі заўтра махнуць туды? — павярнуўся да Міколкі Андрэйка.— На ўвесь дзень.

— Цяпер можна. Дождж прайшоў, вады цягаць не трэба, вольнага часу хоць адбаўляй.

— Я не змагу,— адмовіўся Юрка.— Я заўтра з татам еду ў Феадосію. А вы ідзіце...

— Ну дык дамовіліся? Заўтра пасля снедання. Збор у мяне,— сказаў Міколка.

## У ГАРАХ

Раніцай, як і было дамоўлена, Міколка, Андрэйка і Паўлік рушылі ў дарогу. Яны збіраліся прабыць у гарах увесь дзень, таму кожны ўзяў з сабой крыху ежы і пляшку вады.

— Пойдзем спачатку берагам,— прапанаваў Міколка.— Каля вады ісці лягчэй і весялей.

Мора было спакойнае. На пляжы ў гэты ранішні час не відаць ні душы. Толькі дзе-нідзе над амаль нерухомай паверхняй вады тырчалі галовы заўзятых купальшчыкаў.

Хлопчыкі знялі абутак і пайшлі па вадзе. Пясок пад нагамі быў мяккі і прыемна ласкатаў ногі. Вада ля берага —

цёплая, ласкавая. Паветра, пранізанае ранішнім сонцам, пахла водарасцямі. Ціхі шаўковы плюскат хваль зліваўся з дружным стракатаннем цыкад у кустах глогу на схілах гор. Ісці вось так, берагам мора, ведаць, што наперадзе ў цябе доўгі харошы дзянёк, што побач з табой крочаць сябры, было вельмі радасна і прыемна. І хлопчыкі не заўважылі, як пасёлак застаўся далёка ззаду. Бераг пачаў звужацца, і каменныя аграмады скал усё бліжэй і бліжэй падступалі да мора.

Мінуўшы складзеную з каменняў рыбацкую хатку, вакол якой сушыліся разасланыя на зямлі і накінутыя на агароджу сеткі, хлопчыкі спыніліся.

— Давайце пакупаемся, перш чым падымацца ў горы,— сказаў Міколка.

Паўлік з Андрэйкам з радасцю сустрэлі гэтую прапанову.

Паклаўшы на беразе клуначкі з ежай, яны скінулі майкі і следам за Міколкам кінуліся ў ваду.

Пасля купання сябры адчулі сябе зноў бадзёрымі і дужымі. Прайшоўшы яшчэ з паўкіламетра, яны збочылі ўправа і апынуліся перад вялікай круглай гарой, схілы якой зараслі зялёна-рыжай калючкай і нізкім хмызняком.

— Гэта Лысая гара, падымемся спачатку на яе,— паказаў Міколка на вузкую сцежку, што шэрай звілістай стужкай вяла ўгору.

— Можа, пап'ём крыху, а то ў горле перасохла,— прамовіў Андрэйка, беручыся за пляшку.

— Калі з гэтага часу пачнём піць, дык у самую спёку застанемся без вады і прыйдзецца вяртацца ў пасёлак.

Андрэйка аблізаў засмяглыя губы, але пярэчыць Міколку не стаў.

— Хлопцы, ведаеце, што я прыдумаў? Давайце наладзім спаборніцтва. Хто даўжэй вытрымае без вады, таго будзем лічыць героем нашага паходу. Добра? — прапанаваў Паўлік.

— Добра,— згадзіўся Міколка.— Я люблю выпрабоўваць сілу волі. Мы аднойчы з Юркам паспрачаліся, хто даўжэй над агнём руку пратрымае. І я перамог. Во, і знак застаўся,—

Міколка паказаў сябрам белую, падобную на знак ад воспы плямку ніжэй левага локця.

Падняўшыся на Лысую гару, хлопцы зрабілі прывал. Міколка паставіў перад сябрамі кубачак з клубнікай і запрасіў іх частавацца. Свежыя сакавітыя ягады былі вельмі дарэчы. Стомленыя доўгай хадой і спёкай — сонца пачало ўжо добра прыпякаць — хлопчыкі накінуліся на пачастунак, і кубак хутка паказаў сваё белае донца.

Адсюль, з вышыні, пасёлак выглядаў зусім маленькім. З гары вузкімі звілістымі струменьчыкамі збягалі ўніз камяністыя сцежкі. А навокал узнімаліся высокія каменныя гмахі скал. Усе разам яны нагадвалі сабой нейкі фантастычны акамянелы горад.

Паўліку яшчэ ніколі не даводзілася быць так высока ў гарах, і сэрца яго замірала, калі ён глядзеў уніз.

На момант яму нават здалося, што ён ужо ляціць у каменную бездань. Ён зажмурыўся і перасеў далей ад крутога абрыву.

Пасядзеўшы крыху на вяршыні, хлопчыкі пачалі спускацца ўніз, каб пачаць новы пад'ём на яшчэ больш высокую гару, вяршыня якой нагадвала старажытны замак з высокімі зубчастымі сценамі, вежамі і байніцамі.

— А што, калі гэта і сапраўды замак якога-небудзь сярэдневяковага рыцара або хана?! — усклікнуў Андрэйка.— І там схаваны дзе-небудзь старажытная зброя або скарбы? Вось было б здорава!

Падымацца на Замкавую гару, як назвалі яе нашы падарожнікі, было справай нялёгкай. Прыходзілася чапляцца за рэдкія сухія кусты і каменныя выступы. Сонца цяпер стаяла над самай галавой, і ад яго не было куды схавацца. Андрэйка больш не ўспамінаў пра скарбы... Затое ён некалькі разоў нясмела заводзіў гутарку аб тым, што варта вярнуцца назад, што нічога цікавага на гары, напэўна, няма. Але Паўлік з Міколкам не хацелі адступаць ад сваёй задумы, а каб лягчэй было ажыццявіць яе, прапанавалі гульню. Нібыта яны адваж-

ныя воіны, якія ўзяліся вызваліць сваіх таварышаў, што знаходзяцца ў палоне ў гэтым замку. Жыццё таварышаў у небяспецы, і толькі ад іх цяпер залежыць іхні лёс. Захопленыя гульнёй, хлопчыкі забыліся і на гарачыню, і на стому. Хапаючыся за каменныя выступы, за кусты, збіваючы да крыві ногі і рукі, яны крок за крокам пасоўваліся наперад.

І вось нарэшце, стомленыя, галодныя, з перасохлымі ад смагі губамі, яны пад сценамі таямнічага замка.

— Ура! — радасна крычаць сябры і кідаюцца на штурм.

«Ура-а-а!» — паўтарае іх воклічы рэха.

Нейкі час яны азартна шпурляюць камені ў нябачнага ворага, а затым з пераможным клічам захопліваюць «замак».

— Давайце сцяг! — крычыць Паўлік, ускарабкаўшыся на адзін з выступаў скалы.

Міколка разгортвае хусцінку з ежай, прымацоўвае хусцінку да галінкі і падае яе Паўліку. І не бяда, што сцяг не чырвоны, а ружовы, з белымі крапінкамі! Хлопчыкі глядзяць на яго з захапленнем. Яны перамаглі ворага!

— А цяпер будзем балявацы! — весела гаворыць Паўлік.

Андрэйка рассцілае на зямлі белую сурвэтку, у якую мама загарнула яму сняданак, і хлопчыкі складваюць на ёй усё, чым багаты.

Як прыемна падсілкавацца і ўволю напіцца вады пасля доўгага і цяжкага пад'ёму ў горы. Сябры адпачываюць, перакідваюцца жартамі, а пасля пяюць свае любімыя песні пра смелыя паходы, пра Чапаева, пра Валачаеўскія дні... Песні, падхопленыя рэхам, ляцяць далёка-далёка.

А сонца не стаіць на месцы, яно ўжо коціцца на захад. Пара вяртацца дадому, а то сцямнее, і тады не выбрацца з гэтага каменнага царства.

Спускацца з гары куды цяжэй, чым падымацца на яе. Кожную хвіліну можна паслізнуцца на гладкім камені і паляцець уніз. Стомленыя доўгім падарожжам ногі ступаюць ужо не так упэўнена і цвёрда. Усе ідуць моўчкі, не адрываючы вачэй ад сцежкі.

Адолеўшы нарэшце круты камяністы схіл і памахаўшы на развітанне Замкавай гары, не адпачываючы, рушылі далей. Да вяршыні Лысай гары хлопчыкі дабраліся даволі лёгка. Тут крыху пасядзелі і пачалі спускацца да мора.

— Зараз пакупаемся — і дадому! — радаваўся Андрэйка.— Мама ўжо, напэўна, сварыцца на бацьку, што ён дазволіў мне пайсці на ўвесь дзень.

— Ой! — пачуўся раптам спалоханы крык Паўліка.

Учапіўшыся рукой за куст, ён сядзеў на камені і трымаўся другой рукой за нагу. Паспрабаваў устаць і адразу ж са стогнам зноў апусціўся на камень.

— Відаць, вывіхнуў. Ступіць не магу,— крывячыся ад болю, сказаў Паўлік падбегшым сябрам.

— Як жа гэта ты? Дзе?

— Ступіў нядобра, а яна неяк падвярнулася і ажно трэснула...

— Можа, зламаў? — спалохаўся Андрэйка.— Мой тата пазалетась зламаў нагу, дык цэлы месяц у гіпсе ляжаў.

— Што ты каркаеш, як тая варона,— раззлаваўся Міколка.— Трэба нешта рабіць.

— І зусім я не каркаю, а кажу, як з маім татам было,— пакрыўдзіўся Андрэйка.

— Што ж рабіць? — паўтарыў Міколка, прыкідваючы вачыма адлегласць да мора.— Ведаеш, Паўлік, я зараз прысяду, а ты абхопіш рукой мяне за шыю, і паспрабуем спускацца на трох нагах. Толькі хворую падцягні ўгору.

— А я з другога боку буду падтрымліваць. Абапрыся на маё плячо,— прапанаваў Андрэйка.

— Добра, што бераг ужо блізка,— гаварыў па дарозе Міколка,— а каб там, на Замкавай гары, гэта здарылася? От бы пакукавалі...

Вось нарэшце і бераг. Хлопчыкі асцярожна апусцілі Паўліка на зямлю. Нага ў ніжнім суставе апухла, і калі Паўлік паспрабаваў паварушыць ёю, востры боль пранізаў аж да самага сэрца. Было ясна, што ісці далей ён не здолее.

Сонца ўжо схавалася за горы, ад высокіх скал на бераг упалі доўгія чорныя цені, ад мора пацягнула халадком.

— Як жа мы дабяромся дадому? — прашаптаў Паўлік.— Да пасёлка яшчэ далёка.

— Дабяромся, не бядуй. Вось толькі дома будуць хвалявацца...

— Вы ідзіце, навошта вам праз мяне непрыемнасці мець,— сказаў Паўлік.— Зойдзеце да дзядулі, і ён што-небудзь прыдумае. А я пасяджу, пачакаю.

— Як гэта мы цябе аднаго пакінем? — запярэчыў Міколка.— Давайце зробім так: Андрэйка няхай бяжыць да твайго дзядулі, а я каля цябе пабуду.

— Правільна! Я мігам! — не чакаючы згоды Паўліка, падхапіўся Андрэйка.

Змрок насунуўся неяк зусім нечакана. На сінім небе высыпалі яркія далёкія зоркі. Яны ўпалі ў мора і калыхаліся на яго чорнай, амаль нерухомай вадзе.

Незвычайная цішыня агарнула зямлю. Цішыня, ад якой на сэрцы рабілася нявесела і трывожна. Здавалася, што пад гэтым шырокім, усыпаным зоркамі небам Паўлік з Міколкам засталіся адны-адзінюткія.

— А страшна, мабыць, аднаму ў космасе? — прамовіў Паўлік.

— Вядома, страшна,— нікольки не здзівіўся нечаканаму пытанню сябра Міколка. Яны, відаць, думалі аб адным і тым жа.

— Хутка, мусіць, нашы касманаўты на Месяц паляцяць,— летуценна прамовіў Паўлік.— Цікава, што яны знойдуць? Можа, там таксама калісьці жылі людзі?

— На Марсе, мабыць, і цяпер ёсць жывыя істоты,— сказаў Міколка.

І хлопчыкі пачалі расказваць адзін аднаму ўсё, што яны ведалі аб планеце Марс. Фантазія завяла іх так далёка, што яны забыліся пра ўсё на свеце. Паўлік нават пра хворую нагу забыў. І толькі калі пачулася стракатанне матора і сноп

святла асвяціў бераг, Міколка ўсхапіўся на ногі і, размахваючы майкай, закрычаў:

— Сюды! Сюды!

Абдаўшы ўзбярэжны пясок шумлівай хваляй, белы катэр спыніўся ля берага.

## ПАДАРУНАК НЕПТУНА

— Ну, альпініст, як справы? — уваходзячы ў пакой, пытае Антон Паўлавіч.

Ён прысаджваецца на край пасцелі і падае Паўліку вялікую залатую дыню.

— Гэта табе Юрка прынёс раніцай. Ты яшчэ спаў, і мы не хацелі будзіць цябе.

Дыня не вельмі радуе Паўліка. Яму крыўдна, што ён не можа пабегчы да сяброў, разам схадзіць да мора, а павінен валяцца ў пасцелі.

— Дзеду, а колькі мне яшчэ ляжаць з гэтай нагой?

— Ды дзянёк яшчэ прыйдзецца паляжаць.

— Дабегаўся, далазіўся па гарах,— дакорліва гаворыць маці.— Цэлымі днямі не стыкаўся, лётаў, а цяпер вось ляжы...

— Ну што ты на яго нападаеш? — перапыняе яе Антон Паўлавіч.— Грош цана таму хлопцу, які гузакоў ды сінякоў не носіць. Ён жа не дзяўчынка, каб увесь час за тваю спадніцу трымацца... Пакуль жаніцца — усё загаіцца,— усміхаецца дзед Паўліку.— Са мной яшчэ і не тое здаралася, калі быў такім.

— Вось-вось! Вы яшчэ яго навучыце, дык ён заўтра і галаву дзе-небудзь скруціць,— незадаволена бурчыць маці і выходзіць з пакоя.

— Дзядуля, раскажы мне пра свае прыгоды,— просіць Паўлік.

— Ці мала іх было, тых прыгод! Каб пра ўсе расказаць, дык і дня не хопіць.

— А ты мне пра адну якую-небудзь раскажы,— не сунімаецца Паўлік.

— Хіба што пра адну,— згаджаецца дзядуля.— Ну дык слухай. Раскажу табе, як мы мядзведзя ашукалі.

— Сапраўднага мядзведзя? — дзівіцца Паўлік.

— Самага сапраўднага.

І толькі гэта Паўлік выгадней уладкаваўся на ложку, каб слухаць дзядулю, як за акном пачуліся знаёмыя галасы.

— Вы пастойце тут, а я зайду ў дом, а то ўсім няёмка,— гэта гаворыць Міколка.

— Толькі глядзі не забудзь ад нас прывітанне перадаць, чуеш? — папярэджвае Марынка, і Паўлік уяўляе яе строгі твар, шэрыя вялікія вочы.

— А пра вінаград забыўся,— смяецца Наташа.

Дзядуля ідзе, адчыняе дзверы, і ў пакой уваходзіць Міколка. Ён усміхаецца Паўліку і стаўляе на стол міску з вінаградам.

— Гэта наш, самы ранні. Салодкі, як цукар,— кажа Міколка і сядае на крайчык ложка.— Ну, як нага, баліць?

— Ды не вельмі што баліць, але ляжаць яшчэ трэба,— гаворыць Паўлік.— Расцяжэнне сухажылля...

— А мы сёння са старшынёй калгаса гаварылі. Запрашаў нас на ўборку вінаграду. Кажа, работы ўсім хопіць...

— Міколка! — чуецца голас Наташы.

— Ой, ледзь не забыўся. Нашы табе прывітанне перадаюць, жадаюць, каб хутчэй папраўляўся. Ну, я пайшоў. Да заўтра!

Паўлік прыслухоўваецца да галасоў, якія паступова аддаляюцца і нарэшце зусім растаюць недзе там, пад гарой. Ён глядзіць на празрыстыя, нібы налітыя сонцам гронкі вінаграду і ўздыхае: «Хутчэй бы прыйшло тое заўтра!»

Раніцай, агледзеўшы Паўлікаву нагу, дзядуля сказаў:

— Ну можаш уставаць, альпініст, а то назе тваёй, чаго добрага, спадабаецца вылежвацца ў пасцелі, і яна зусім развучыцца хадзіць.

Пачуўшы гэта, Паўлік ускочыў з ложка і кінуўся абдымаць дзядулю.

— Пачакай, пачакай, не скачы гэтак! З нагой тваёй пакуль што трэба абыходзіцца беражна,— папярэджваў Антон Паўлавіч.

— А на мора можна пайсці? — пытае Паўлік.

— Дзень паходзіш каля хаты, а вечарам можна і на мора. Толькі памалу, асцярожна.

Паўлік быў на сёмым небе ад шчасця. А пад вечар да яго прыбег Андрэйка. Угледзеўшы, што Паўлік пахаджвае па двары, ён узрадавана ўсклікнуў:

— Ура! Дык ты ўжо на нагах! Здароў! — прывітаўся ён, працягваючы Паўліку руку.

— Пайшлі на мора,— замест адказу на прывітанне весела сказаў Паўлік.

— Пайшлі! — з радасцю згадзіўся той.— Засумаваўся, відаць, за морам, лежачы ў ложку?

— І не пытай! Думаў, звар'яцею ад нуды. А мора мне па начах снілася,— усміхнуўся Паўлік.

І вось перад вачыма Паўліка зноў шырокі марскі прастор, заліты перадвячэрнім ружовым золатам сонца. Хлопчык стаіць на высокім беразе і як зачараваны глядзіць у сінюю яго далячынь, слухае няспынны плюскат хваль, якія, даганяючы адна адну, набягаюць на бераг. Налюбаваўшыся ўдосталь, ён бярэ пад локаць Андрэйку, і яны асцярожна спускаюцца ўніз.

— Ну як твая нага? Баліць? — спачувальна пытае Андрэйка.

— Балець-то яна не баліць, але хадзіць пакуль што шмат дзядуля забараніў.

— І правільна. Трэба, каб яна ў норму прыйшла, акрэпла. Гэта ж амаль два тыдні ты ляжаў у пасцелі. Дойдзем вунь да таго каменя і будзем адпачываць,— заўважае Андрэйка.

Хлопчыкі ідуць павольна ўздоўж берага, акаймаванага вузенькім белым пояском пены. А вось і камень. Адшліфа-

ваны вадой, ён нагадваў галаву нейкага волата-мядзведзя з шырока разяўленай пашчай.

— Зараз адпачнем крыху і дадому, а то дзядуля будзе гневацца, што я...

Паўлік не дагаварыў. Ён зрабіў некалькі паспешлівых крокаў наперад, нахіліўся і падняў бутэльку, якую проста яму пад ногі выкінула мора.

— Глядзі, Андрэйка, бутэлька нейкая... А ў ёй паперка,— сказаў Паўлік, аглядаючы знаходку.

— Цікава...— Андрэйка ўзяў бутэльку, пакруціў яе ў руках, а пасля, зірнуўшы на Паўліка, прамовіў: — А што, калі мы яе аб камень ды дастанем гэтую паперку? А? Можа, на ёй што напісана?

Ён хацеў было ўжо выканаць сваё жаданне, але Паўлік схапіў яго за руку.

— Нельга. Трэба занесці яе дзядулю, і хай ён сам з ёю разбярэцца.

Андрэйка не пярэчыў. Ён аддаў бутэльку Паўліку, і яны разам заспяшаліся да Антона Паўлавіча.

— Эге! — выгукнуў, усміхаючыся, дзядуля, беражна беручы ад Паўліка бутэльку.— Паглядзім, што за пісьмо прыслаў нам Нептун.

Дзядуля сеў да стала, дастаў з кішэні сцізорык, надзеў акуляры і пачаў асцярожна адкаркоўваць бутэльку. Паклаўшы корак на стол, ён пінцэтам дастаў з бутэлькі скручаную ў трубачку паперку, не спяшаючыся разгарнуў яе і пачаў чытаць.

«Трымаемся да апошняга патрона, да апошняй кроплі крыві. Ужо трэці дзень адбіваем атакі фашыстаў. Нас засталося ўжо толькі чацвёра — механік Якубовіч, малодшы сяржант Пятроў, матрос Астапаў і я, капітан Сініцын. Загінем, але ворагу не здамося! Смерць за смерць! Бывайце, таварышы!»

Прачытаўшы запіску, Антон Паўлавіч усхвалявана ўсклікнуў:

— Сініцын! Сцяпан Сініцын! Мой сябар! А я ўсё гадаў, дзе ён, ці жывы хаця. У вайну мы развіталіся з ім у Севастопалі і болей не сустракаліся. Дык выходзіць, што «Смелы», якім ён камандаваў, патануў разам са сваім капітанам.

Антон Паўлавіч нейкую хвіліну сядзеў моўчкі, час ад часу падносячы да вачэй пісьмо капітана Сініцына. Пасля ён уздыхнуў, дастаў з кішэні сваю запаветную люльку, раскурыў яе і, скруціўшы ў трубачку паперку, пачаў засоўваць яе назад у бутэльку.

— Бутэльку гэтую мы адашлём у Севастопаль. Хай даведаюцца людзі, калі і пры якіх умовах загінула каманда капітана Сініцына. Дзякуй Нептуну, што ён падарыў нам гэта пісьмо. Хоць прыйшло яно да нас з вялікім спазненнем, але мы даведаемся сёння аб лёсе нашых адважных маракоў, аб лёсе капітана Сініцына. Эх, Сцяпан! — сумна прамовіў Антон Паўлавіч, беручыся зноў за сваю люльку.

— Але ж і доўга вандравала ў моры гэта бутэлька. Ад канца вайны мінула ўжо ажно трыццаць гадоў,— заўважыў Паўлік.— Маруда ўсё ж гэты хвалёны бог мора — Нептун.

— Гэта праўда, з дастаўкай на бераг пісьмаў пошта Нептуна не вельмі спяшаецца. Я вылавіў некалі бутэльку з пісьмом, якое было напісана ажно ў 1750 годзе,— заўважыў Антон Паўлавіч.

— Ого! — усклікнуў Андрэйка і, памаўчаўшы хвіліну, дадаў: — Цікава, хто прыдумаў гэтую бутэлькавую пошту.

— На жаль, на пытанне гэтае адказаць пакуль што цяжка. Ёсць, праўда, меркаванне, што вынаходцам яе з'яўляецца Хрыстафор Калумб. У 1493 годзе на шляху ў Еўропу дзве каравелы Калумба трапілі ў жудасны шторм. Калі каравела «Нінья», якой камандаваў Калумб, пачала тануць, вялікі генуэзец перапісаў усе важнейшыя старонкі судовага журнала, адрасаваў іх каралеве Ізабеле Першай і, схаваўшы ў бочачку, кінуў у мора. Праўда, толькі ў 1852 годзе, амаль праз 360 год, капітан амерыканскай шхуны Джон Хайнас вылавіў гэтае «пісьмо» Калумба ля берагоў Гібралтара.

— Ажно праз 360 гадоў? Вось гэта здорава! — усклікнуў Андрэйка.

— Пошта Нептуна, сябры, налічвае ўжо сотні год. Даўней, калі не было яшчэ радыё, яна была адзіным сродкам інфармацыі аб лёсах загінуўшых караблёў. На працягу толькі апошніх шасцідзесяці год людзі вылавілі каля 500 пісьмаў-бутэлек. Цікавая гісторыя адбылася зусім нядаўна, у 1949 годзе, з хлопчыкам аднаго з рэстаранаў у Сан-Францыска. Ён знайшоў бутэльку з вельмі цікавым пісьмом. Вось што было напісана ў ім: «Лондан. 20 ліпеня 1927 года. Я завяшчаю сваю спадчыну чалавеку, які знойдзе гэту бутэльку, і майму адвакату Бары Кохену на аднолькавых умовах». Спачатку хлопчык падумаў, што гэта жарт. Хутка аднак высветлілася, што завяшчанне гэтае належыць былой уладальніцы вядомай на ўвесь свет фірмы Зінгер Дэйзі Аляксандр, памершай у 1940 годзе. Капітал яе складаў 12 мільёнаў долараў.

— Ого! Пашанцавала хлопцу! — не стрымаўся Андрэйка.

— Ды не вельмі, мой хлопча. Праўда, адвакат Бары Кохен быў яшчэ жывы і з радасцю ўхапіўся за завяшчанне сваёй памершай кліенткі. Але прадстаўнікі фірмы выступілі супраць яго, спасылаючыся на тое, што бутэлька, кінутая ў Лондане, ніяк не магла трапіць ажно ў Сан-Францыска, неверагодным здаваўся яе такі далёкі шлях. А між тым некаторыя з гэтых пісьмаў-бутэлек, перш чым трапіць у рукі людзей, зрабілі вельмі далёкае падарожжа. Рэкорд у гэтых адносінах належыць бутэльцы, якую назвалі «Лятучы галандзец». Яе кінулі ў мора ў 1929 годзе англійскія гідрографы каля Тасманіі. Праз шкло быў відаць надпіс на некалькіх мовах: «Таго, хто знойдзе бутэльку, просім паведаміць, дзе і калі ён знайшоў яе, і кінуць зноў у мора». На працягу шасці год «Лятучы галандзец» абышоў зямны шар і дапамог вучоным адкрыць некалькі невядомых марскіх цячэнняў.

Хлопчыкі з захапленнем слухалі Антона Паўлавіча. Шмат цікавых гісторый расказаў ім стары марак у гэты ціхі жнівеньскі вечар.

— Цяпер гэтыя Нептунавы пісьмы-бутэлькі мне будуць сніцца па начах,— развітваючыся з Паўлікам, сказаў Андрэйка.— А дзядуля ў цябе — во! — узняў ён угору вялікі палец.— Не дзядуля, а сапраўдная энцыклапедыя.

## ЯК ЮРКА З ПАЎЛІКАМ ШПІЁНА ЛАВІЛІ

Камень быў вялікі, адшліфаваны марскімі хвалямі і вятрамі. Ён нагадваў сабой гіганцкую казачную чарапаху, што, накупаўшыся ўволю, хацела вылезці на бераг, ды так і застыла ў бухце на доўгія вякі.

— Давай забяромся на яго,— сказаў Паўлік.— Як на востраве будзем, праўда?

— А твая нага! Не баішся? — спытаў Юрка.

— Дзед казаў, я ўжо танцаваць магу. А тут па каменнях, з аднаго на другі — іх вунь колькі! — лёгка дабяромся.

— Тады давай,— згадзіўся Юрка і першы ступіў у ваду.

І вось яны ўжо на спіне каменнай чарапахі. Тут неглыбока, і зверху добра відаць усё, што робіцца на дне. Сярод каменняў поўзаюць нейкія вадзяныя жукі, варушацца маленькія чорныя крабікі. Іх шмат, і назіраць за імі вельмі цікава.

— Ціха, хто гэта? — раптам прашаптаў Юрка.— Чуеш?

Злева з-за скалы пачуліся ўсплёскі вёсел, затым галасы. Хлопцы прыслухаліся. Размаўлялі двое. Адзін голас — густы, басавіты. Другі — мяккі і крыху дзіўны: чалавек дрэнна вымаўляў «р» і нібы глытаў канчаткі некаторых слоў.

— Ну, Джоні, бывай,— сказаў бас.— Можаш вяртацца на базу.

— Калі сустрэнемся? — запытаў картавы.

— Праз тыдзень, як дамовіліся. На гэтым жа месцы. Спадзяюся к таму часу ўсё закончыць...

Юрка схапіў Паўліка за руку і моцна сціснуў яе. Вочы ў яго зрабіліся круглымі, і ўвесь ён у гэты момант чымсьці нагадаў Паўліку іхняга ката Мурзу, калі той, седзячы на падаконніку, цікуе за вераб'ямі.

— Чуеш, якое імя? Джоні! Не наша, замежнае,— горача зашаптаў Юрка ў самае вуха Паўліку.— Можа, гэта шпіёны ад турэцкага берага да нас прыплылі? Схаваемся за камень.

Хлопчыкі спусціліся ніжэй. Аднак галасоў больш не было чуваць. Усплёскі вёсел аддаляліся.

— А можа, гэта рыбакі? — усумніўся Паўлік.

— Якія табе рыбакі! — злосна адмахнуўся Юрка.— Джоні! Дзе ты чуў у нас такое імя?

У гэты час з-за скалы паказаўся чалавек з чамаданчыкам у руцэ. Ён ішоў паўз самую ваду па пяску пляжа і спакойна пыхкаў папяросай. На чалавеку быў матроскі нацельнік, з-пад сіняга берэта выбіваліся чорныя кучаравыя валасы. На грудзях у незнаёмага вісеў бінокль.

Прыпыніўшыся насупраць каменя, на якім затаіліся хлопчыкі, чалавек кінуў папяросу, глянуў у адзін бок, у другі і, не спяшаючыся, пакрочыў далей па беразе.

— Ой, нехта за нагу ўшчыпнуў! — ускрыкнуў раптам Паўлік.

Юрка заціснуў яму рот далонню і злосна прашыпеў:

— Маўчы! Усю справу сапсуеш. Краба спалохаўся.

Ён нахіліўся і адарваў ад Паўлікавай нагі маленькага чорнага краба.

— Эх, каб была зброя! — ледзь не прастагнаў Юрка.— Мы б яго як бачыш затрымалі! Ну, ды нічога, нікуды ён ад нас не ўцячэ. Пайшлі следам! Толькі ціха...

Сябры асцярожна перабраліся зноў на бераг і падышлі да таго месца, дзе толькі што стаяў незнаёмы.

— Вось! — убачыўшы між каменьчыкаў белы муштук папяросы, узрадавана ўскрыкнуў Паўлік. Ён ужо і сам паверыў у тое, што незнаёмы — чужы чалавек.

Юрка коршакам рынуўся да знаходкі.

— Наша, савецкая,— расчаравана прамармытаў ён, прачытаўшы на муштуку выразны надпіс: «Казбек». І тут жа, не задумваючыся, вырашыў: — Маскіруецца. Яны, брат, шпіёны — народ асцярожны. Іх голымі рукамі не возьмеш.

Юрка гаварыў так упэўнена, нібы яму ўжо не раз даводзілася лавіць шпіёнаў.

— На зямлю! — тузануў ён раптам Паўліка за плячо.— Бачыш, спыніўся, азіраецца. Заўважыць нас, адразу сцяміць, што мы сочым за ім, і дасць ходу.

Чалавек з біноклем стаяў зараз на сцежцы, што вяла ў пасёлак, і аглядаў наваколле. Праз хвіліну ён рушыў далей. Хлопчыкі заспяшаліся за ім.

— Глядзі, газіроўку купляе,— штурхнуў Паўліка пад бок Юрка.— Цікава, якімі грашыма ён разлічвацца будзе?

Калі чалавек напіўся і пайшоў, Юрка падбег да кіёска з вадой, што стаяў ля шашы, якраз на паўдарозе паміж пасёлкам і пляжам, і запытаў у прадаўшчыцы:

— Скажыце, калі ласка, як разлічыўся з вамі гэты дзядзька?

Прадаўшчыца нейкі час здзіўлена глядзела на Юрку, потым сказала:

— Звычайна. Даў мне вось гэтыя дваццаць капеек, узяў рэшту і пайшоў.

Юрка доўга і ўважліва разглядаў дваццацікапеечную манету, узважваў яе на далоні, стукаў ёю аб прылавак.

— Ды што табе трэба, хлопча? — падазрона глянула на Юрку прадаўшчыца і, выхапіўшы з яго рук манету, кінула яе ў скрынку.

— Пайшлі,— шапнуў Паўлік,— а то яшчэ праваронім гэтага тыпа.

Хаваючыся за парканы і дрэвы, сябры назіркам падаліся за незнаёмым.

А чалавек ішоў сабе па шашы і нават паціхеньку насвістваў нейкую даволі знаёмую хлопчыкам мелодыю.

— Свішчы, свішчы, галубок. Паглядзім, як ты пасля засвішчаш! — мармытаў сам сабе пад нос Юрка.

— І куды гэта ён ідзе? Няўжо яго хто-небудзь у пасёлку чакае? — дзівіўся Паўлік.

— Зараз даведаемся, з кім ён тут сябруе.

— Вось будзе здорава, калі натрапім на цэлае шпіёнскае гняздо! Гэта будзе цікавей за наш кулямёт, праўда?

— Параўнаў! — зняважліва кінуў Юрка.

— Ой, Юрка, глядзі, чаго гэта ён да дзядулевага дома збочыў? — здзіўлена ўсклікнуў Паўлік, спыняючыся.

— Цікава, цікава...— шматзначна прамовіў Юрка.— А ну пайшлі следам.

Як толькі чалавек з біноклем апынуўся ля веснічак, Паўлік, абганяючы Юрку, кінуўся дадому. Хлопчыкі ўскочылі ў двор і аслупянелі ад здзіўлення. Насустрач незнаёмаму спяшаўся дзядуля.

— Сяргей! Якім ветрам занесла цябе да нас? Адкуль? — радасна прыгаворваў Антон Паўлавіч, абдымаючы чалавека з біноклем.

Яны доўга і шумна віталіся, паціскалі адзін аднаму рукі, смяяліся.

— Маці, глядзі, хто да нас прыйшоў! Ці пазнаеш госця? — весела спытаў у бабулі дзед, калі тая выйшла на ганак.

Усе трое яны пайшлі ў дом.

Паўлік з хвіліну глядзеў на расчараванага і збянтэжанага Юрку, а пасля схапіў яго за руку і пацягнуў за сабой.

— Знаёмцеся, унучкі,— сустрэў іх дзядуля.— Гэта славуты даследчык марскіх глыбінь.

— Навошта так гучна, Антон Паўлавіч,— крыху сумеўся незнаёмы.— Проста вывучаем жыццё нашых марскіх жыхароў.— Ён па-сяброўску падміргнуў хлопчыкам і па чарзе паціснуў ім рукі.— Сяргей Сцяпанавіч Сініцын,— адрэкамендаваўся ён.

— Сініцын?! — здзіўлена перапытаў Паўлік.

— Так, Сініцын. Патомак чарнаморскіх рыбакоў і матросаў Сініцыных. А чаму гэта ты так падазрона глядзіш на мяне?

— А Сцяпан Сініцын вам не сваяк? — запытаў Паўлік.

— Сцяпанам звалі майго бацьку. Ён загінуў недзе ў гэтых мясцінах. Ён...

— Ой, дык я ж ведаю яго! — усклікнуў Паўлік.

— Адкуль жа ты яго можаш ведаць, хлопча, калі ён загінуў больш як трыццаць год назад,— нявесела ўсміхнуўся Сяргей Сцяпанавіч.

— Дзеду, выходзіць, тую запіску, што мы знайшлі ў бутэльцы, пісаў бацька Сяргея Сцяпанавіча? — звярнуўся Паўлік да дзеда.

— Ён самы,— адказаў Антон Паўлавіч.

— Якая запіска? Дзе яна? — усхвалявана запытаў госць.

— Запіска твайго бацькі знаходзіцца зараз у Севастопалі. А як і дзе знайшлі, хай табе раскажа сам Паўлік.

І Паўлік пачаў расказваць, якім чынам трапіла да яго пісьмо капітана Сініцына. А калі ён скончыў свой расказ, Сяргей Сцяпанавіч сказаў:

— Заўтра ж паеду ў музей і папрашу, каб запіску аддалі мне, а сабе пакінулі копію. Запіска бацькі! Я ж быў вось такім хлапчуком, як вы зараз, калі ён на вайну пайшоў...

Паўлік з Юркам і не агледзеліся, як пасябравалі з Сяргеем Сцяпанавічам. Ён расказваў ім пра свайго бацьку, пра навукова-даследчую экспедыцыю, у якой ён удзельнічае і якая вывучае жывёльны і раслінны свет Чорнага мора, пра свайго намесніка з незвычайным імем Джоні...

Да самага вечара хлопчыкі з захапленнем слухалі яго расказы. Развітваючыся ля веснічак з Паўлікам, Юрка папрасіў:

— Ты ж глядзі, не ўздумай толькі рабятам расказваць, як мы шпіёна лавілі, а то жыцця не будзе, засмяюць.

— Не скажу, не скажу,— паабяцаў Паўлік.— Спі спакойна.

## ВІНАГРАД ПАСПЕЎ

У пасёлку сёння ціха і бязлюдна. Затое на вінаградных плантацыях калгаса з самага ранку стаіць вясёлы шматгалосы гоман. Ураджай сёлета багаты, і, каб зняць яго своечасова, патрэбна нямала людзей.

Напярэдадні Міколка сабраў у штабе свой атрад.

— Заўтра ўранні пойдзем на вінаграднік,— сказаў ён.— А табе, Марынка, прыйдзецца над дзіцячым садам шэфства ўзяць. На час уборкі туды прывядуць многа дзяцей, вось і будзеш дапамагаць...

— Добра,— узмахнула доўгімі вейкамі Марынка.

— Я таксама пайду з вамі,— абазваўся Паўлік.— Нага мая ўжо зусім не баліць. Нават бегаць магу, праўда, Юрка?

— Ну, бегаць па вінаградніку надта не трэба,— усміхнуўся Міколка. І ўжо сур'ёзна закончыў: — Значыць, роўна ў шэсць буду чакаць вас. Дамовіліся? Глядзіце толькі не праспіце,— папярэдзіў ён.

— Не праспім! Не бойся,— адгукнуліся сябры.

Наташа прыйшла да Міколкавых веснічак самай першай. Азірнуўшыся навокал, яна ўсміхнулася і схавалася ў кустах бэзу, што рос перад вокнамі.

Неўзабаве бразнулі веснічкі, і з двара, напяваючы песеньку, выйшаў Міколка. Ён прысеў на лаўку, што стаяла пад таполямі, і пачаў чакаць сяброў. Праз нейкі час на шашы паказаліся Андрэйка, Юрка і Паўлік.

— А што, Наташа яшчэ не прыходзіла? — запытаў падыходзячы Юрка.— Дзіўна,— паціснуў ён плячыма.

— А што тут дзіўнага. Усе дзяўчынкі — соні,— зняважліва кінуў Андрэйка.— Хадзем, чаго яе чакаць?

— Не, пачакаем крышку,— не згадзіўся Міколка.

Хлопчыкі паселі на лаўку і пачалі лузгаць семкі, якімі надзяліў усіх Юрка.

— Ну, пайшлі,— сказаў Міколка, калі з рэпрадуктара паліліся пазыўныя Масквы і крамлёўскія куранты адлічылі шэсць udaраў.— Ніколі не думаў, што Наташа нас падвядзе.

— Ку-ку! — пачулася ў кустах бэзу.— Ку-ку!

— Наташка! — усклікнуў Юрка.

Наташа з вясёлым смехам выбегла з кустоў. Праз хвіліну рабяты вясёлай гаманлівай чародкай крочылі па дарозе, што вяла на вінаграднікі.

— Што, арляняты, дапамагаць прыйшлі? — прывітаў дзяцей старшыня калгаса.— Да каго ж мне вас прыкамандзіраваць?

— Не трэба нас прыкамандзіроўваць. Мы самі па сабе працаваць будзем, дзядзька Астап,— запярэчыў Міколка.— Скажыце толькі, дзе нам стаць.

— Ого, якія вы малайцы-ўдальцы! — усміхнуўся Астап Назаравіч і, дастаўшы з кішэні хустачку, пачаў выціраць узмакрэлы лоб.

Правай рукі ў Астапа Назаравіча няма. Ён страціў яе на вайне, недзе пад Смаленскам. З таго часу правы пусты рукаў яго гімнасцёркі заўсёды акуратна запраўлены пад шырокі скураны рэмень з бліскучай спражкай.

— Ну што ж, самі дык самі,— падумаўшы, згадзіўся старшыня і, гукнуўшы ўчотчыцу, загадаў адвесці Міколкавай брыгадзе асобны ўчастак.— У добры час, брыгадзір! — пажадаў ён Міколку.— Кошыкі з вінаградам будзеце зносіць у канец участка, да дарогі, а ўвечары здасце вінаград на прыёмны пункт. Там і ўбачымся.

Пад лёгкім ветрыкам таямніча шэпчуцца аб нечым высокія вінаградныя лозы. Сярод густога лісця вісяць залацістыя, быццам налітыя сонцам, цяжкія гронкі. Міколка, Андрэйка і Наташа знімаюць і складваюць іх у вялікія круглыя кашы, а Юрка з Паўлікам адносяць гэтыя кашы да дарогі.

— Калі зморыцеся — памяняемся месцамі,— сказаў Міколка.

Недзе зусім блізка чуецца вясёлы смех, а праз хвіліну звонкі дзявочы голас запявае песню.

— Гэта наша Аксана,— гаворыць Міколка і ўслухоўваецца ў пяшчотную мелодыю ўкраінскай песні.

А песня, падхопленая дружнымі дзявочымі галасамі, нібы крылатая вольная птушка, плыве над шырокімі прасторамі. Свавольнік вецер нясе яе далёка, далёка, аж да самых гор, што застылі ў задуменні пад сінім купалам неба.

— Выходзіць, побач з намі працуе брыгада камуністыч-

най працы,— кажа Юрка.— Трэба нам паднаціснуць, каб не адстаць.

За працай час бяжыць непрыкметна. Рабяты і не заўважылі, як сонца ўзнялося высока ўгару і павісла гарачым распаленым шарам над іх галовамі. І толькі калі нехта ўдарыў у рэйку, абвяшчаючы абедзенны перапынак, усе адчулі, што ногі і рукі гудуць ад стомы. Аднёсшы кашы з вінаградам да дарогі, рабяты пайшлі пад павець, у цяньку якой стаяў доўгі, збіты з дошак стол і лаўкі. На стале, засланым новенькімі цыратамі, паравалі міскі з духмяным украінскім баршчом, ляжалі высокія, акуратна нарэзаныя стосікі свежага хлеба.

Гаспадарыла пад павеццю маці Юркі, высокая статная кабета з ветлівым загарэлым тварам.

— Вось і памочнікі нашы прыйшлі,— ласкава прывітала яна рабят.— Сядайце, даражэнькія мае, я вас зараз свежым баршчом ды варэнікамі пачастую.

Пасля працы на свежым паветры апетыт ва ўсіх быў цудоўны.

— Мо дабаўка каму патрэбна, дык вы, даражэнькія, не саромцеся, кажыце,— прыгаворвала гаспадыня, завіхаючыся ля стала.

Паўліку яшчэ ніколі не даводзілася абедаць у такой вялікай шумнай кампаніі, і яму прыемна было адчуваць, што ён таксама належыць да гэтай дружнай працоўнай сям'і, жыве яе радасцямі і клопатамі.

Пад павеццю было шумна, як на кірмашы. Вясёлыя жарты і смех перапляталіся з гаворкай аб надзённых калгасных справах. Людзі радаваліся багатаму ўраджаю, параўноўвалі яго з леташнім, нешта падлічвалі, раіліся, як найхутчэй скончыць уборку.

— Пабягу разведаю, колькі сабрала брыгада тваёй сястры,— шапнуў Міколку Юрка і, вылезшы з-за стала, падаўся на вінаграднік.

Падлічыўшы кашы, што стаялі на ўчастку Аксаны, Юрка заклапочана пакруціў галавой і заспяшаўся да Міколкі.

— Справа дрэнь,— паведаміў ён.— Паводле самых дакладных падлікаў, выходзіць, што нашы суседзі вырваліся далёка наперад. Кожны з іх сабраў на пяць кашоў больш вінаграду, чым мы.

— Трэба будзе пастарацца пасля абеду,— пачухаў патыліцу Міколка.

— Але ж і так ніводнай лішняй хвілінкі не адпачывалі,— заўважыла Наташа.— Можа, яны менш у кашы кладуць?

— Ого! Я сам бачыў, у іх усе кашы даверху напоўнены. Ды і навошта ім паўпустыя кашы здаваць. Вінаград жа ўсё роўна на прыёмным пункце ўзважваць будуць.

— А што, калі не чакаць канца перапынку, а ўзяцца за работу зараз? — прапанаваў Андрэйка.

— І праўда! Чаго нам чакаць, калі мы ўжо даўно паабедалі? — згадзіўся Паўлік.

— Хай яны сабе адпачываюць на здароўе, а мы іх даганяць будзем,— хітра падміргнуў Юрка.

Рабяты тут жа падхапіліся і пабеглі на свой участак.

Яны працавалі з невялікімі перапынкамі, аж пакуль сонца, завяршаючы свой шлях, не паружовіла вяршыні гор.

— Ой! Здаецца, скура на спіне зараз лопне,— расправўляючы плечы, усклікнуў Юрка.

— Пакупаемся зараз — і як рукою боль зніме,— супакоіў яго Міколка.

— У цябе ад усіх хвароб адно лякарства — мора,— засмяялася Наташа.

— А што, хіба я няпраўду кажу? Вось зараз сама ўбачыш, як мора з цябе ўсю стому змые. Мора, яно чалавеку сілу вяртае...

Калі ўвесь сабраны рабятамі за дзень вінаград быў пагружаны на грузавік, Наташа села побач з шафёрам у кабіну.

— Глядзі там добра, каб ніякай памылкі не выйшла,— наказваў Міколка.— Мы цябе будзем чакаць у бухце, каля каменнай чарапахі.

— Добра!

Машына кранулася. Хлопчыкі нейкі час пазіралі ёй услед, а пасля рушылі да мора.

З ціхім плюскатам набягалі на бераг хвалі, шапацелі ў каменьчыках, прыемна казыталі ногі. Вада была ласкавая і мяккая, як шоўк, і хлопчыкі з асалодай ныралі і плавалі, пакуль не ўбачылі Наташу. Яна спускалася ў бухту і яшчэ здалёк размахвала хусцінкай і нешта крычала. Хлопчыкі кінуліся ёй насустрач.

— Наша брыгада заняла сёння чацвёртае месца. Астап Назаравіч нас так хваліў, так хваліў, мне аж няёмка было,— задыхаючыся ад хуткай хады, паведаміла Наташа.

— Заўтра зноў пойдзем на вінаграднік,— сказаў Міколка.

— Вядома, пойдзем! — падтрымалі яго Юрка і Паўлік.— І пастараемся дагнаць Аксаніну брыгаду.

— А цяпер — вячэраць!

Андрэйка першы выскачыў з вады і пабег па сцежцы ў пасёлак.

— А што! Хіба няпраўда, што мора сілу чалавеку вяртае? — сказаў Міколка.— Бачыш, як Андрэйка смаліць, толькі пяткі блішчаць.

Наташа засмяялася і кінулася даганяць Андрэйку. Следам за ёю пабеглі Міколка і Юрка.

А Паўлік, развітаўшыся з сябрамі, адразу ж звярнуў на сцяжынку, што вяла дадому.

— З'явіўся нарэшце,— сустрэла яго бабуля.— А мы ўжо збіраліся без цябе вячэраць, думалі, ты заначуеш на вінаградніку.

— Каб яшчэ крыху, дык мы дагналі б брыгаду Міколкавай сястры,— пахваліўся Паўлік.— Па пяць кашоў на брата сабралі б яшчэ — і дагналі б. Ды нічога. Заўтра мы іх абавязкова дагонім.

— Ну, калі сёння апоўначы пойдзеце на вінаграднік, дык, можа, і дагоніце,— пажартавала мама.

«А што, калі і сапраўды выйсці раней. Не апоўначы, вя-

дома, а так за гадзіны дзве да пачатку работы? — думаў за вячэрай Паўлік.— За дзве гадзіны можна вунь колькі зрабіць! Пабягу да Міколкі, параюся».

## ГАРАЧЫ ДЗЯНЁК

Яшчэ толькі-толькі пачало світаць, а Паўлік быў ужо на нагах. Пакінуўшы маме запіску, ён асцярожна вылез праз акно і пабег у пасёлак. Каля хаты Міколкі ён тройчы ціхенька свіснуў.

— А я думаў, што мне прыйдзецца будзіць цябе,— усміхнуўся Міколка, выбегшы на яго сігнал.

— Я калі захачу, дык сярод ночы магу прачнуцца. Мне і будзільнік ніякі не патрэбны. Задумаю звечара а якой гадзіне ўстаць — і абавязкова ўстану,— сказаў Паўлік.

Неўзабаве па дарозе, што вяла на вінаграднікі, ужо крочыла гаманлівая чародка дзяцей. Наперадзе ішлі Юрка з Наташай, а следам за імі Андрэйка, Міколка і Паўлік. Навокал стаяла ўрачыстая перадранішняя цішыня, і толькі недзе справа за гарой цяжка ўздыхала вечна нястомнае мора.

— Хлопчыкі, дзед Тарас- — спалохана ўсклікнула Наташа і шмыгнула ў густыя зялёныя зараснікі.

Следам за ёю кінуліся і хлопчыкі.

— Ён, мабыць, не бачыў нас,— прашаптаў Юрка.— Давайце ціхенька абыдзем...

Але тут вартаўнік вінаградніку падняўся з каменя, на якім дагэтуль сядзеў, і, штосьці мармычучы сабе пад нос, пайшоў па дарозе. Параўняўшыся з тым месцам, дзе схаваліся рабяты, ён крыху пастаяў, паслухаў і рушыў далей.

— Ой, як добра, што ён нас не заўважыў! — з палёгкай уздыхнула Наташа.— А то, чаго добрага, нарабіў бы шуму і сарваў усе нашы планы.

Калі дзед Тарас крыху адышоўся, рабята падаліся глыбей у вінаградныя зараснікі.

— Вось і наш участак,— сказаў Юра.— Зараз як возьмемся, дык да абеду ўсіх абгонім. Вось толькі кошыкаў малавата, а падвозіць іх пачнуць не раней як гадзіны праз дзве. У што ж будзем складваць вінаград?

— Знайшоў аб чым бедаваць,— хмыкнуў Юрка.— Будзем складаць на траву, а як падвязуць кашы, мігам спарадкуем.

У густых, абсыпаных срэбнымі пацеркамі расы, лозах панаваў ранішні халадок. Работа спорылася, і неўзабаве ўсе кашы, што засталіся з вечара, былі даверху напоўнены. Рабяты пачалі складваць вінаград у кучу.

— Я не я буду, калі мы сёння не перагонім Аксану,— хваліўся Юрка.

— Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў,— астудзіў яго запал Міколка.

Рабяты стараліся адзін перад адным. І хутка сярод лоз узвышалася ўжо даволі высокая горка вінаграду.

— Зірніце, як прыгожа! — усклікнуў Паўлік, глянуўшы на пранізаныя першымі праменнямі вінаградныя гронкі.

І тут раптам здарылася тое, чаго ніхто не чакаў. Дзед Тарас, робячы свой апошні перад пачаткам працоўнага дня абход, пачуў галасы рабят і пашыбаваў проста да іх.

— Ні з месца! — грозна закрычаў ён, узнімаючы старэнькую аднастволку.— Страляць буду, разбойнікі!

Спачатку ўсе шуганулі хто куды. Першым апамятаўся Міколка. Ён вярнуўся да вартаўніка і пачаў быў тлумачыць, чаму яны так рана апынуліся на вінаградніку, але той і слухаць яго не захацеў.

— Пайшлі ў праўленне. Астап Назаравіч разбярэцца, што да чаго. Думаеце, як я стары, дык мяне можна вакол пальца абвесці? А ну, марш!

Ён пагражальна наставіў стрэльбу, і рабятам нічога не заставалася, як скарыцца.

Некалькі разоў палонныя спрабавалі пачынаць з дзедам Тарасам перагаворы, але той і гаварыць не даваўся.

— Які гэта злодзей прызнаецца, што ён злодзей,— бурчаў

ён.— Кожны маніць, выкручваецца, як вужака... Не першыя вы ў мяне пад канвоем маршыруеце.

— І як гэта мы забыліся на дзеда! — у роспачы гаварыла Наташа.

— Не бядуйце. Астап Назаравіч ва ўсім разбярэцца. Толькі б хутчэй трапіць да яго,— супакойваў сяброў Міколка.

Настрой ва ўсіх быў сапсаваны. Яны столькі збіраліся зрабіць, пакуль выйдуць на работу калгаснікі, даражылі кожнай хвілінай, а цяпер гэтулькі часу гіне марна. Рабяты скоса пазіралі на дзеда Тараса, які важна крочыў ззаду са сваёй аднастволкай, і дакаралі самі сябе за тое, што былі такімі неасцярожнымі.

Дайшоўшы да таго месца, дзе канчаліся вінаграднікі і дарога збочвала ў пасёлак, дзед Тарас скамандаваў:

— Стойце. Далей не пойдзем. Не магу ж я праз вас пакінуць свой пост. Сядайце, будзем чакаць, пакуль прыйдуць на работу людзі.

— Як гэта чакаць? — абурыліся рабяты.— Мы не можам сядзець склаўшы рукі. Нам трэба вінаград здымаць.

Але дзед Тарас, здавалася, не чуў іх. Ён сеў на камень пры дарозе, дастаў вялікі скураны капшук і пачаў, не спяшаючыся, скручваць цыгарку.

— Ой, глядзіце, Астап Назаравіч едзе! — усклікнула Наташа і кінулася насустрач «Масквічу», які выскачыў з-за павароту дарогі.

Машына спынілася ля дзеда Тараса, і не паспеў стары далажыць старшыні аб сваіх палонных, як тыя, перабіваючы адзін аднаго, пачалі тлумачыць, чаму яны так рана прыйшлі сёння на вінаграднік.

— Дык вы, выходзіць, хацелі перахітрыць Аксану, а самі трапілі ў палон да дзеда Тараса! — пажартаваў Астап Назаравіч.

— А чаго ж яны крадком, без майго дазволу? — прабурчаў дзед.— Адкуль жа я ведаў, што яны задумалі.

— Дык мы ж вам казалі...— пачала была Наташа.

— Казалі, казалі. Ці мала што вы маглі казаць.

— Ну добра, добра. Вы на дзеда не злуйце, рабяты,— прамовіў Астап Назаравіч.— Яго справа — вартаваць, і ён сваю справу ведае. Ідзіце, адпачывайце сабе, Тарас Максімавіч,— глянуўшы на гадзіннік, сказаў старшыня.— А вы бяжыце даганяць Аксану Рыгораўну. Вы ж, мусіць, усю ноч не спалі, думалі аб гэтым.

— Астап Назаравіч, вы толькі нікому не кажыце, як мы ў палон да дзеда Тараса трапілі, добра? — папрасіў Юрка.

— Не скажу, не скажу,— супакоіў яго старшыня, адчыняючы дзверцы «Масквіча».

— Столькі часу змарнавалі,— уздыхнуў Міколка.— Пайшлі хутчэй, пакуль нас ніхто не ўбачыў.

Рабяты вярнуліся на свой участак. Але перш чым брацца за работу, Наташа прапанавала:

— Давайце падсілкуемся крыху, а то есці хочацца.

Хлопчыкі не пярэчылі. Ім і самім ужо даўно хацелася есці, але яны не адважваліся сказаць пра гэта.

Наташа прысела на зямлю, развязала свой клуначак і пачала раскладаць на хусцінцы лустачкі хлеба з маслам, брынзу, памідоры і соль.

— А на закуску будзе вінаград,— сказала яна, выбіраючы ў кошыку самыя буйныя гронкі.

Запрашаць асабліва нікога не трэба было. Усе прагаладаліся і елі з апетытам.

Паснедаўшы, рабяты зноў узяліся за работу. Неўзабаве ад дарогі пачуліся галасы.

— Вінаградары ідуць,— абвясціла Наташа.— Хай цяпер нас даганяюць!

Да самага вечара на вінаградніку кіпела дружная работа. З усіх бакоў чуліся вясёлыя жарты, смех, песні. Па дарозе, што шэрай стужкай вілася паўз вінаграднік, адна за адной беглі машыны, нагружаныя вінаградам і парожняй тарай. А калі сонца апусцілася за горы і падвялі вынікі, аказалася, што брыгада Міколкі заняла другое месца.

— Гэта ж падумаць толькі — з чацвёртага адразу на другое пераскочылі! Глядзі, Аксана, яны, чаго добрага, абгоняць і цябе,— жартаваў Астап Назаравіч.

— І абагналі б, каб не дзед Тарас,— пачаў быў Юрка, але Міколка тузануў яго за кашулю, і ён адразу змоўк.

— Ой, глядзіце, як пажаўцеў наш школьны сад! — усклікнула Наташа, калі яны, вяртаючыся дадому, праходзілі каля школы.

Дрэўцы ў садзе і сапраўды пачалі апранацца ў восеньскі ўбор. Здавалася, нябачны мастак размаляваў іх лісце ў дзівосныя казачныя колеры.

— Як хутка прамінула лета,— уздыхнуў Міколка, пазіраючы на яркае чырвонае палотнішча над уваходам у школу. Знаёмы, зроблены ім самім вялікімі белымі літарамі надпіс напамінаў аб тым, што да першага верасня засталіся лічаныя дні.

— Заўтра мы ад'язджаем,— сумна прамовіў Паўлік.

— Мы абавязкова прыйдзем цябе праводзіць,— паабяцала Наташа.

Развітаўшыя з сябрамі, Паўлік збочыў з шашы і падаўся да мора.

Сонца ўжо зайшло, але захад усё яшчэ палаў расплаўленым золатам. Косыя хвалі адна за адной набягалі на бераг і разбіваліся аб камяні. Непадалёк ад берага на грабянях хваль лёгка пагойдваліся чайкі. Шырокі ветразь, нібы казачны легкакрылы птах, вынырнуў з-за скалы і паплыў над вадой. З распадкаў гор нячутнымі крокамі спускалася ноч. Неакрэслены смутак агарнуў раптам Паўліка.

Намацаўшы ў кішэні манетку, хлопчык кінуў яе ў набегшую хвалю. «Бывай, мора!» — ціха сказаў ён і павольна пакрочыў дадому.

# АНДРЭЙКАВА БАРАЗНА

Перш чым ісці на аблогі, адкуль даносіцца стракатанне трактара, Андрэйка накіроўваецца ў лясок, да крыніцы. Набраўшы халоднай як лёд, крыштальна-празрыстай вады, ён асцярожна стаўляе гладыш у зрэбную торбачку, абкладае лісцем і толькі пасля гэтага выходзіць на дарогу.

Ужо далёка за поўдзень, але сонца пячэ яшчэ моцна. Цішыня. Ні адзін лісток, ні адна травінка не зварухнецца. Толькі чуваць, як над лугам гудуць руплівыя пчолкі ды ў блакітным бяздонні нябёсаў звіняць жаваранкі.

Вось і аблогі. Шмат гадоў ляжалі яны некранутымі, параслыя хмызняком ды рэдкай сухой травой. Ні карысці, ні радасці не было ад іх людзям. Але сёлета прыйшоў канец іх спячцы. Так парашылі калгаснікі.

Насустрач Андрэйку цяжка паўзе трактар. Вострыя, адпаліраваныя да бляску лемяшы плугоў уразаюцца ў зямлю. Цёмнай шырокай паласой кладзецца за імі свежаўзнятая ралля.

— Дзядзька Сцяпан! — гукае яшчэ здалёк Андрэйка, прыкрываючы далонню ад сонца вочы.— Вадзіцы крынічнай прынёс!

Сцяпан спыняе трактар, спрытна саскаквае на зямлю і, усміхаючыся шырокай яснай усмешкай, крочыць насустрач.

Андрэйка дастае з торбачкі гладыш. Ад сцюдзёнай вады збан пакрыўся халодным потам.

— Вось дзякую табе, хлопча! — гаворыць Сцяпан, падыходзячы да Андрэйкі.

6 Зак. 1159

Ён бярэ гладыш шырокімі прамазучанымі далонямі і прагна прыпадае да яго губамі. Напіўшыся, трактарыст выцірае вусы і гаворыць:

— Ох і вада! Колькі па свеце хадзіў, а такой, далібог, піць не даводзілася. Нездарма ж, відаць, людзі кажуць: «Няма смачнейшае вадзіцы, як з роднае крыніцы».

Андрэйка задаволена ўсміхаецца і з замілаваннем пазірае на трактарыста.

Усё ў гэтым чалавеку падабаецца хлопчыку: і дужыя шырокія плечы, і шэрыя, пад колер сталі, вочы, і палінялая на сонцы чупрына, і роўныя моцныя зубы, і нават шрам на загарэлым абветраным твары.

Сцяпан сядае на раллю і, дастаўшы з кішэні камбінезона кісет з махоркай, пачынае круціць цыгарку.

— Ну, якія навіны? — пытаецца ён у Андрэйкі і, чыркаючы запалкай па карабку, глядзіць на хлопца ўважлівым праніклівым позіркам.— Мо перадумаў?

— Ды што вы, дзядзька Сцяпан! — ні то спалохана, ні то пакрыўджана ўскліквае Андрэйка.— Гэтае пытанне ў мяне канчаткова вырашана. Хутчэй бы толькі здаць апошні экзамен, скончыць школу. Люблю я трактар.

— Ну, калі любіш, значыць, і трактарыст з цябе будзе добры. Толькі тады чалавек і можа стаць майстрам сваёй справы, калі па-сапраўднаму любіць яе. Ты не глядзі, што трактар — машына. Да яго таксама трэба мець сэрца. Ён тады ўсе свае сакрэты адкрые табе.

Андрэйка слухае трактарыста, абхапіўшы рукамі каленкі і паклаўшы на іх галаву. Час ад часу яго смуглявы твар асвятляе ціхая летуценная ўсмешка.

— А што ў трактарысты вырашыў падацца — хвалю,— гаворыць дзядзька Сцяпан.— Трактарыст на сяле — першы чалавек, авангард калгасны, так сказаць. Трак-та-рыст! Гучыць як, чуеш? Пра трактарыстаў і песні пяюць, і вершы складаюць.— Сцяпан усміхаецца і задуменна глядзіць некуды за раку.

— І кіно ёсць. Так і называецца — «Трактарысты»,— дадае Андрэйка.

— Правільна: і кінафільм ёсць,— згаджаецца Сцяпан, пускаючы дым кольцамі.

Нейкі час яны абодва маўчаць, думаючы кожны аб сваім.

— Дзядзька Сцяпан, а як вы надумаліся стаць трактарыстам? — пытаецца Андрэйка.

— Гэта, хлопча мой, доўгая гісторыя.

— Раскажыце, дзядзька,— просіць Андрэйка і падсоўваецца бліжэй да трактарыста.

— Расказаць, кажаш? Ну што ж, яно можна і расказаць.

Сцяпан робіць апошнюю доўгую зацяжку, кідае на раллю акурак і пачынае:

— Ты ж, мабыць, чуў, што даўней, калі цябе і на свеце не было, па нашай рацэ праходзіла граніца, якая дзяліла Беларусь на дзве часткі, і зямля, што ляжала на гэты бок ракі, належала панам.

Будучы вось такім хлапчуком, як ты, я ўпершыню ў сваім жыцці ўбачыў трактар. Ён выйшаў на зарэчныя палі, каб заараць усе межы і ўсе палеткі злучыць у адно шырокае калгаснае поле.

Пачуўшы стракатанне трактара, я, крадучыся,— да ракі падыходзіць сурова забаранялася пагранічнай вартай — прабраўся амаль на самы бераг і, схаваўшыся ў алешніку, як зачараваны, глядзеў я на ніколі раней не бачаную машыну. «Колькі аратых патрэбна, каб зрабіць за дзень тое, што зрабіла яна! — думаў я ў захапленні.— Вось каб сесці на яе ды прайсціся па нашых палях, каб не мучыліся людзі, з усходу да захаду за плугам ходзячы ды паліваючы зямлю сваім потам».

З таго часу і пачалося. Як пачую стракатанне трактара — душа гарыць. Нібы ён голас мне падае, кліча мяне за раку.

«Эх, каб мне крылы, як той птушцы! Паляцеў бы на той бок і ніколі сюды не вяртаўся»,— думаў я. І так мне горка, так крыўдна было, што і сказаць табе не магу.

Але крылаў у чалавека няма. Яны толькі ў казках ды ў сне за нашымі плячыма вырастаць могуць. Мне заставалася адно: бегаць тайком у алешнік ды пазіраць на той бок ракі.

— Ой, сынок, пападзешся ты калі-небудзь у лапы жаўнерам, наклічаш бяду на сваю галаву,— казала часамі маці.

Здарылася так, што таго ж году маці мая нечакана памерла, і застаўся я зусім адзін, бацькі ў мяне даўно не было. Пахаваў я маці, паплакаў на магілцы і рашыў на той бок уцячы.

Быў ужо канец кастрычніка. З дрэваў ападала апошняе лісце, ад ракі дзьмулі сцюдзёныя вятры, з сумным крыкам спяшаліся на поўдзень птушкі. Выбраў я цямнейшую ноч і паплыў.

Як даплыў — не памятаю. Памятаю толькі, што недалёка ад таго берага пачаў траціць апошнія сілы і дубянець ад холаду. Выбраўся я сяк-так з вады і страціў прытомнасць. Знайшлі мяне савецкія пагранічнікі, і апамятаўся я ўжо на заставе. Ну, а далей, як кажуць, зусім іншае жыццё ў мяне пачалося. Узялі мяне ў дзіцячы дом, падвучыўся я там, а потым і мара мая збылася — стаў трактарыстам. Калі наша сяло савецкім стала, прыйшоў сюды межы заворваць, калгас будаваць...

— Вось так яно было, хлопча,— кладучы сваю шырокую далонь на плячо Андрэйкі, закончыў свой расказ трактарыст.

— Цікава...— нібы прачнуўшыся ад сну, прамовіў Андрэйка.

— Ну, паехалі! — падняўся з зямлі Сцяпан.

Андрэйка толькі гэтага і чакаў.

Праз хвіліну ён ужо сядзеў побач з трактарыстам і плыў насустрач сонцу, насустрач ясным шырокім прасторам. І здавалася яму, што гэта не дзядзька Сцяпан, а ён, Андрэйка, вядзе трактар, што гэта ён, Андрэйка, адваёўвае ў зямлі яе доўга хаваныя ад людзей скарбы.

Неўзаметку закацілася сонца, аблііўшы на развітанне расплаўленым золатам кусты, аблогі, раку. Пацягнула свежай вільгаццю і водарам веснавых траў. Недзе над ракой, у

алешніку, рассыпаў сваю серабрыстую трэль салавейка. Яму адгукнуўся другі, трэці...

— Яшчэ адзін раз пройдзем — і дамоў,— гаворыць дзядзька Сцяпан.— А ну, трактарыст, правядзі апошнюю,— звяртаецца ён раптам да Андрэйкі і весела падміргвае.

Андрэйка нейкі момант недаверліва глядзіць на трактарыста яснымі блакітнымі вачыма. Ці не дражніцца, ці не смяецца з яго дзядзька Сцяпан?

— Давай, давай,— гаворыць трактарыст.

І хлопчык раптам падаецца ўвесь уперад, кладзе побач з дужымі далонямі Сцяпана свае загарэлыя шчуплыя рукі.

Ад радасці сэрца яго, здаецца, вось-вось выскачыць з грудзей. Яно стукае так моцна, як ніколі ў жыцці.

— Лягчэй, лягчэй, сынок,— падбадзёрвае Сцяпан.— Сілу, яе таксама на вецер кідаць не варта.

Вурчыць і ўздрыгвае трактар, кладзецца за ім шырокай чорнай паласой свежаўзнятая ралля, яснай, невыказнай радасцю поўніцца сэрца Андрэйкі.

— Ну, час і нам на адпачынак,— гаворыць Сцяпан, спыняючы трактар і акідваючы вачыма ўзаранае чорнае поле.— Норму сваю мы да-а-лёка ззаду пакінулі,— весела дадае ён.

Неўзабаве яны крочаць па дарозе. Сцяпан ідзе шырокім, размашыстым крокам, а побач з ім, стараючыся не адставаць, спяшаецца Андрэйка.

На зямлю апалі вячэрнія шчодрыя росы — прадвеснікі добрага надвор'я на заўтра. На спакойнай сіні нябёсаў загарэліся першыя трапяткія зоркі. Ад вёскі даляцелі задушэўна-сумныя пералівы баяна.

«Маці зноў будзе сварыцца, што спазніўся вячэраць»,— думае Андрэйка.

Але што яму тая вячэра, што яму зараз папрокі маці, калі там, ля ракі, на ўзараных аблогах, ляжаць і яго, Андрэйкавы, барозны, калі побач з ім крочыць лепшы трактарыст калгаса дзядзька Сцяпан.

# ПАЧАТАК СЯБРОЎСТВА

— Вось вам новенькая,— сказала Вера Паўлаўна, уваходзячы ў клас.

Новенькая ў канцы лютага?!. Па партах праляцеў лёгкі шэпт здзіўлення, і трыццаць пар цікаўных вачэй нацэліліся на тонкую бялявую дзяўчынку ў сінім пушыстым світэры.

Але дзяўчынка не пачырванела, не апусціла вачэй. На твары яе не было і следу збянтэжанасці і разгубленасці, як гэта бывае звычайна з усімі новенькімі. Наадварот, яна глядзела на нас смела, нават крыху насмешліва, нібы хацела сказаць: «А я вас ніколечкі не баюся, можаце пазіраць на мяне, колькі вам хочацца».

— Завуць яе Люда Арловіч. Яна выдатніца,— дадала настаўніца.

— Адразу відаць, што задавака,— парашыў чамусьці мой сусед па парце Віця Савіч. Словы «выдатнік», «выдатніца» заўсёды вельмі злавалі яго, і гэта, мабыць, таму, што сам ён ніколі не атрымліваў пяцёрак.

— Чаму задавака? — спытаў я паціху.

— Бачыш, як глядзіць. Нібы яна Гулівер, а мы ліліпуты.

— Паглядзім яшчэ, якая яна выдатніца,— надзьмуўшыся, прашаптала сваёй суседцы Оля Голуб. Оля не магла ўявіць сабе, каб хто-небудзь у класе вучыўся лепш за яе.

Тым часам Вера Паўлаўна прабегла вачыма па партах і, звярнуўшыся да Любы Захарэвіч, сказала:

— Люба, табе прыйдзецца перасесці да Соні Верас, а на тваё месца сядзе новенькая. Яна не зусім добра бачыць.

— А хіба я вінавата, што нехта дрэнна бачыць,— прабурчала Люба.— Мы з Алай сябруем з трэцяга класа...

— Люба!..— дакорліва прамовіла Вера Паўлаўна.— Гэта так сустракаюць новых сяброў?

Люба пачала збіраць свае кнігі і, скоса пазіраючы на новенькую, усё яшчэ бурчала нешта сабе пад нос.

— Прапалі мы!..— штурхануў мяне ў бок Віця.

— Чаму? — здзіўлена спытаў я.

— Чаму, чаму? А хто цяпер будзе падказваць?

Трэба шчыра прызнацца, што наш шосты «Б» не карыстаўся ў школе добрай славай. Большасць вучняў у нас — хлопчыкі, народ неспакойны і менш старанны, чым дзяўчынкі. Асабліва не ладзілася ў нас з матэматыкай, і каб не Люба Захарэвіч, то шмат каму не раз прыйшлося б вельмі туга. Справа ў тым, што Люба ўмела добра падказваць, і для многіх гэта быў паратунак, што іменна яна, а не хто іншы сядзіць на першай парце, перад самай дошкай.

Новенькая заняла сваё месца і, не звяртаючы ніякай увагі на калючыя позіркі суседкі, пачала па-гаспадарску ўладкоўвацца за партай.

Вера Паўлаўна адзначыла ў класным журнале адсутных і выклікала Віцю. Віця разгубіўся, пачырванеў і падаўся да дошкі. Глянуўшы на новенькую, ён цяжка ўздыхнуў і ўзяўся за крэйду.

Вера Паўлаўна прадыктавала задачу. Віця паўтарыў яе, запісаў на дошцы патрэбныя лічбы і паспрабаваў рашаць. Ён некалькі разоў нешта запісваў, сціраў, зноў запісваў і скончыў тым, што ўтаропіўся ў дошку няўцямлівым позіркам.

— Ну што? — павярнулася ад стала Вера Паўлаўна.— Не ведаеш, з чаго пачаць? Хто з вас, сябры, можа дапамагчы Віцю? — спытала настаўніца.

— Я магу,— пачуўся голас Люды Арловіч.

Адкінуўшы назад свае доўгія бялявыя косы і папраўіўшы світэр, новенькая накіравалася да дошкі.

— Падліза,— прашаптаў ёй услед Міша Паўловіч.— На чужой бядзе хоча пяцёрку зарабіць.

Люда тым часам падышла да Віці, узяла з яго рук крэйду і пачала спакойна рашаць задачу.

— Хопіць,— усміхаючыся, сказала Вера Паўлаўна, калі Люда скончыла першае дзеянне і збіралася прыступіць да другога,— далей прадоўжыць сам Віця.

Але і на гэты раз Віця аказаўся бездапаможным, і Вера Паўлаўна вымушана была пасадзіць яго на месца. Праходзячы каля Люды, Віця злосна тузануў яе за касу. Новенькая акінула яго зняважлівым позіркам.

— Ну, а цяпер мы папросім суседа Віці,— глянуўшы на мяне з-пад акуляраў, сказала Вера Паўлаўна.

Я пакорна пакрочыў да дошкі.

Калі гаварыць праўду, у матэматыцы я адчуваў сябе не дужа моцна. Ідучы да дошкі, я часта больш спадзяваўся на Любу Захарэвіч, чым на свае веды. Цяпер на месцы Любы сядзела новенькая, якая, відаць, зусім не збіралася ратаваць мяне ад двойкі.

«Паспрабую ўсё ж»,— вырашыў я і, выбраўшы хвіліну, калі Арловіч нарэшце глянула на мяне, недвухсэнсоўна падміргнуў ёй. Але яна адвяла вочы, нібы нічога не разумеючы, і пачала пісаць нешта ў сшытку. Абураны гэтым халодным раўнадушшам новенькай, я закіпеў ад злосці і зусім перастаў разважаць. Калі б у той мамант настаўніца запытала ў мяне, колькі будзе пяццю пяць, я не адказаў бы нават на такое пытанне.

— Ну што ж, ідзі на месца,— пачуў я дакорлівы голас Веры Паўлаўны.— Раю табе і Віцю менш захапляцца боксам і больш сур'ёзна заняцца матэматыкай,— дадала яна і, паставіўшы ў маім дзённіку двойку, зноў звярнулася да Арловіч: — Люда, ты, здаецца, ужо скончыла? Раскажы рабятам, як ты рашыла задачу.

Новенькая ўстала і пачала адказваць.

Як я ненавідзеў яе тады! Ды хіба толькі я адзін?

Нарэшце празвінеў званок. І не паспела Вера Паўлаўна схавацца за дзвярыма, як у класе загуло, зашумела:

— Задавака!

— Сядзіць ля самай дошкі і маўчыць як рыба.

— Рабяты, можа, яна нямая?

— Не будзем з ёю дружыць,— заявіў Міша Паўловіч.

— Ты будзеш падказваць ці не? — грозна закрычаў над самым вухам дзяўчынкі Віця.

— Не буду! — смела адказала Люда.— Не буду! — паўтарыла яна.

Ну пачакай жа!

З гэтага дня мы стараліся на кожным кроку паказаць Людзе сваю варожасць. Але яна, здавалася, зусім не звяртала на нас увагі. Застаўшыся на перапынку адна, яна або чытала кніжку, або, калі было цёплае надвор'е, выходзіла на школьны двор.

Усе настаўнікі, нібы згаварыўшыся, хвалілі новенькую і ставілі яе нам у прыклад, чым яшчэ больш распальвалі нашу злосць.

— Ведаеце, што я прыдумаў?..— хітра падміргваючы мне і Віцю, сказаў неяк раз Міша Паўловіч, атрымаўшы чарговую двойку.

Ён адвёў нас у куток і раскрыў свой план наступлення на Люду Арловіч.

— Пакляніцеся, што ні адна душа не будзе ведаць аб гэтым,— пранізваючы нас позіркам, сказаў Міша.

— Клянёмся! — не разважаючы ні хвіліны, у адзін голас адказалі мы.

І наступленне пачалося.

Назаўтра была кантрольная дыктоўка. Настаўнік раздаў сшыткі і пачаў дыктаваць. Мы запісалі сказ і скоса зірнулі на Люду. Яна важдалася са сваім пяром і вельмі хвалявалася.

— Чаму ты не пішаш, Арловіч? — спытаў Віктар Платонавіч.

— У мяне з пяром нешта здарылася, не піша яно...— чырванеючы, адказала Люда.

— А ну, пакажы.

Праз хвіліну настаўнік вярнуў ёй ручку і сказаў:

— Ручку трэба трымаць у пенале, а не разам з бутэрбродамі. Ты запэцкала пяро ў масла.

— Я і трымаю яе ў пенале,— яшчэ больш пачырванеўшы, адказала Люда.

— У каго ёсць лішняе пяро? — звярнуўся да нас Віктар Платонавіч.

Наташа Ваўчок памкнулася падняць руку, але Міша тузануў яе ззаду за касу, і ў дзяўчынкі адразу адпала ахвота выручаць Люду.

Так і прасядзела новенькая да самага званка.

Мы радаваліся: першая наша помста ўдалася.

На другі дзень у Люды Арловіч зноў здарылася непрыемнасць: хтосьці разліў у яе парце чарніла, і Люда запэцкала ўсе свае кнігі.

І так амаль кожны дзень з Людай Арловіч здаралася штонебудзь незвычайнае. Але яна нікому не жалілася і трымала сябе па-ранейшаму: выдатна рыхтавалася да ўрокаў і быццам не заўважала нашай непрыязнасці.

«Няўжо ёй не сумна адной? — думаў я.— Няўжо не хочацца пагуляць разам з усімі?»

Не ведаю, як доўга працягвалася б наступленне нашай тройкі на Люду, каб з Віцем не здарылася бяда.

Неяк у пачатку апошняй чвэрці Віця зламаў нагу і вымушаны быў надоўга развітацца са школай. Узнікла сур'ёзная небяспека, што са сваімі поспехамі па матэматыцы яму давядзецца застацца на другі год.

— Рабяты, хто з вас будзе займацца з Віцем па алгебры і геаметрыі? Можа, ты, Оля? — звярнулася аднойчы да нас Вера Паўлаўна.

— Я займаюся з Наташай Ваўчок,— адказала Оля.

— Я дапамагу Віцю,— пачуўся раптам голас Люды.

Я быў бы менш здзіўлены, калі б у класе разарвалася бомба. І не толькі я: усе глядзелі на Люду, не верачы сваім вушам.

— Добра, Люда,— сказала Вера Паўлаўна.— Сёння пасля ўрокаў мы сходзім да Віці разам.

Я ледзь дачакаўся вечара, каб хутчэй пабегчы да сябра і даведацца, ці была ў яго Люда.

— Ведаеш, як яна добра растлумачыла мне задачу! — з захапленнем расказваў Віця.— Я амаль адразу рашыў.

— Ты, мабыць, здзівіўся, калі яна прыйшла да цябе?

— Вядома! Але яна так проста, па-свойску, узялася за ўрокі, што я і адумацца не паспеў, як пасябраваў з ёю. І ведаеш, што яна сказала мне?

— Што?

— Яна сказала: «Я ведала, што гэта ты з Мішам і Толем сапсавалі мне пяро і залілі чарнілам «Тайну двух акіянаў». Я ведаю, што вы ненавідзіце мяне».

— Дык чаму ж яна маўчала? — не вытрымаў я.

— Вось, вось! — расказваў далей Віця.— І я аб гэтым у яе адразу спытаў, а яна кажа: «Каб я скардзілася на вас, вы б яшчэ больш не любілі мяне, а мне і так было вельмі цяжка».

Хутка я і Міша таксама пасябравалі з Людай. Мы прыходзілі да Віці, і ўсе разам рыхтавалі ўрокі.

— А чаму ты не хацела падказваць нам? — спытаў неяк у Люды Міша.

— Чаму? — Люда пачырванела, апусціла вочы і пачала перабіраць кончыкі піянерскага гальштука.— Мая мама была настаўніцай,— неяк вельмі ціха загаварыла Люда.— Яна вельмі любіла школу, дзяцей. Але я ніколі не забуду, як маму абурала і крыўдзіла, калі хто-небудзь з вучняў спрабаваў ашукаць яе. Я вельмі любіла маму і дала ёй слова, што заўсёды буду паважаць сваіх настаўнікаў і сяброў.

— А дзе твая мама? — спытаў я.

— Яна памерла...— прашаптала Люда.

— Даўно... памерла?

— Зімой... Тады вось я і прыехала сюды да бабулі.

— А таты ў цябе таксама няма? — асцярожна спытаў Міша.

— І таты няма. Ён загінуў пад Берлінам, калі мне было ўсяго тры месяцы. Ён лётчыкам быў...

Ад гэтых слоў Люды ўсім нам зрабілася не па сабе. Нам было вельмі шкада Люду і сорамна за сябе, за тое, што мы былі такімі жорсткімі і несправядлівымі да яе.

— А бабулька ў цябе добрая? Яна не крыўдзіць цябе? — парушыў раптам няёмкае маўчанне Віця.

— Крыўдзіць? Не, бабулька ў мяне вельмі добрая, толькі яна часта хварэе,— адказала Люда.

Пазней мы даведаліся, што Люда выконвае дома амаль усю хатнюю работу. Яна прыбірае кватэру, носіць ваду, а калі бабулька адчувае сябе зусім дрэнна, Люда нават паліць у печы і гатуе абед.

З гэтага дня мы пакляліся быць вернымі сябрамі Люды і ва ўсім дапамагаць ёй.

— Мы табе і ваду насіць будзем, і дроў насячэм, і ў магазін збегаем, і ў печы выпаліць дапаможам,— запэўніў дзяўчынку Віця.

— Ты толькі загадвай, гавары нам, што трэба рабіць, і мы заўсёды зробім,— дадаў Міша.

Адзін перад адным мы стараліся цяпер загладзіць сваю віну перад Людай.

# НА ЛЫЖНАЙ СЦЕЖЦЫ

Напярэдадні лыжных спаборніцтваў у Аліка здарылася вялікая непрыемнасць. Вяртаючыся ўвечары з трэніроўкі, ён наскочыў на прысыпаны снегам корч і зламаў правую лыжу.

«Што цяпер рабіць? — думаў у роспачы Алік.— Хлопцы заўтра раніцай выйдуць абараняць гонар школьнай каманды, а ён, лепшы лыжнік, будзе сядзець дома склаўшы рукі, нібы гэтыя спаборніцтвы не маюць да яго ніякага дачынення».

— Дзе ўзяць лыжы? — ужо каторы раз голасна задаваў сам сабе адно і тое ж пытанне Алік, ходзячы па пакоі.

— Схадзі да Веры Галубовіч. Яна захварэла і ўсё роўна на лыжах заўтра не пойдзе,— параіла брату яго малодшая сястра Оля.

— Прыдумала! Буду я кланяцца дзяўчынцы. Толькі гэтага яшчэ не хапала,— адказаў Алік.— Ты ж ведаеш, што я з дзяўчынкамі не сябрую.

— І вельмі дрэнна, што не сябруеш,— сказала маці.— А яшчэ піянер.

— Калі я піянер, дык ужо не маю права мець сваіх прынцыпаў? — паспрабаваў запярэчыць Алік.

— Якія там прынцыпы? Дурасць, і толькі,— кінула маці, выходзячы на кухню.

Оля палічыла за лепшае на гэты раз змоўчаць і не даводзіць брату, што дзяўчынкі нічым не горшыя за хлопчыкаў. Гэта была іх даўняя спрэчка, і пераконваць Аліка, што ён

памыляецца, асабліва зараз, было бескарысна. Сястра разгарнула кніжку і пачала чытаць.

— Вось асёл! — усклікнуў праз нейкі час Алік.— У Юркі ж Бельскага ёсць дзве пары лыжаў. Пайду зараз і папрашу.

Ён схапіў з вешалкі паліто і выскачыў з дому.

Не мінула і дзесяці хвілін, як Алік ужо ўзыходзіў на высокі ганак Юркавай кватэры. Была палова адзінаццатай, Юрка збіраўся спаць і вельмі здзівіўся, убачыўшы на парозе Аліка.

— Выручай, Юрка, у мяне бяда! — засопшыся ад шпаркай хады, выпаліў Алік.

— Якая бяда? — устрывожана спытаў Юрка.

— Лыжу адну зламаў.

— Як гэта зламаў?

— Ды наскочыў упоцемку на корч, а яна трэсь... і разляцелася. Цяпер уся надзея на цябе. Пазыч мне на заўтра свае лыжы, у цябе ж дзве пары.

— Свае паламаў, а цяпер хочаш паламаць мае? — нахмурыўся Юрка.

— Ды што ты пляцеш? Ты ж ведаеш, што я хаджу на лыжах лепш за ўсіх у класе. Чаго ты спалохаўся? — не адступаўся Алік.

— Лепш, лепш...— перадражніў яго Юрка.— Мае ж лыжы новыя. Зломіш, а тады што? Гэта ж падарунак дзядулі.

— Ды не зламлю я твае лыжы, не бойся.

— А свае зламаў?

— Дык гэта ж папацёмку, на корч,— апраўдваўся Алік.

Юрка хмура маўчаў.

— Ну што, не дасі? — не вытрымаў нарэшце Алік.

Юрка і на гэты раз нічога не адказаў.

— Эх ты, скнара! — зняважліва прашаптаў Алік і, грукнуўшы дзвярыма, выбег на вуліцу.

На двары было ціха. З чорнага неба паволі сыпаўся густы снег. Алік глядзеў скрозь яго жывую белую сетку на вясёлыя агні ліхтароў, і сэрца яго сціскала пякучая крыўда.

«Скнара! Спадзяецца, што калі заўтра мяне не будзе на спаборніцтвах, дык ён першы прыйдзе да фінішу. Ён заўсёды зайздросціў і цяпер, мабыць, радуецца маёй бядзе. Таварыш называецца!» — думаў Алік, крочачы па прыціхлай вуліцы.

— Ну што? Даў табе лыжы Юрка? — спытала Оля, адчыняючы брату дзверы.

— Адчапіся ты са сваімі лыжамі! — скідаючы паліто і праходзячы ў пакой, агрызнуўся Алік.

— Не даў? А яшчэ на адной парце седзіцё, сябруеце. Вось табе і хлопчыкі! — падкалола Оля брата.

— Сціхнеш ты нарэшце ці не? — крыкнуў на сястру Алік і падаўся ў спальню.

Сон у гэты вечар доўга не прыходзіў да хлопчыка. Думкі аб заўтрашнім спаборніцтве, крыўда на Юрку не давалі яму спакою. Ён доўга варочаўся на ложку, уздыхаў і заснуў толькі пасля таго, як гадзіннік у сталовай адлічыў два звонкія ўдары. Уночы Аліку снілася, што ён згубіў свае лыжы, доўга шукаў іх і што лыжы схаваў ад яго Юрка. Алік крычаў на яго, схапіўся з ім біцца. У гэты момант ён якраз і пачуў голас сястры.

— Уставай, уставай, а то спознішся,— гаварыла Оля, сцягваючы з брата коўдру.

Алік падхапіўся з ложка і хацеў быў ужо накінуцца на сястру за тое, што яна не дала яму дагледзець да канца сон, але замест гэтага радасна і здзіўлена закрычаў:

— Олечка, што гэта?!

Оля трымала ў руках амаль зусім новыя, адпаліраваныя да бляску лыжы і весела ўсміхалася брату.

— Хіба не пазнаеш? — спытала яна і гарэзліва падміргнула.

— Адкуль ты ўзяла іх? — не верыў сваім вачам Алік.

— Шмат будзеш ведаць — хутка старым станеш,— адказала Оля любімымі слоўцамі брата.— Глядзі на гадзіннік, а то спознішся.

— Ой, і праўда! — усклікнуў Алік і пачаў хутка апранацца.

На месца спаборніцтваў Алік прыбег якраз у той момант, калі прагучала каманда: «Падрыхтавацца!» Ён выпрастаўся на ўвесь рост, гатовы ў любы момант сарвацца з месца і кінуцца ў белы, заліты сонцам прастор. Пачуўся голас стартэра: «Марш!» Алік узмахнуў палкамі, адштурхнуўся і памчаўся наперад.

Алік ляцеў, нібы птушка, па снежнаму полю, пакідаючы за сабой лёгкае белае воблачка. Марозны ветрык пашчыпваў шчокі і нос, лёгкія паслухмяныя лыжы весела шалясцелі па снезе.

Вось, нарэшце, і самы цяжкі, самы адказны кавалак трасы — стромкі схіл. «Трымайся, брат, трымайся!» — падбадзёрвае сам сябе Алік, і сэрца яго б'ецца моцна і часта.

Алік ужо быў амаль на сярэдзіне схілу, калі міма яго куляй праляцеў лыжнік. Гэта быў Юрка.

— Абагнаць, абавязкова абагнаць! — усхвалявана прашаптаў Алік і рвануўся наперад.

Усё бліжэй і бліжэй сіні світэр Юркі. Алік ужо чуе яго перарывістае дыханне. Яшчэ хвіліна, і ён дагоніць. І раптам... Што гэта? На павароце Юрку раптам кінула ўбок, ён упаў і пакаціўся ўніз па схілу. Цяпер перад Алікам куляўся аблеплены снегам ком. Вось ён ужо зусім блізка, усяго некалькі метраў падзяляе хлопчыкаў. «Лявей, лявей!» — камандуе сам сабе Алік, і сэрца яго калоціцца так моцна, што, здаецца, вось-вось вырвецца з грудзей.

Абмінуўшы нарэшце Юрку, Алік з палёгкай уздыхнуў і зірнуў наперад.

Усё бліжэй і бліжэй чырвонае палотнішча фінішу і шумлівы натоўп рабят.

— Алік! Ура Аліку! — чуе ён звонкія галасы сяброў. Яны бягуць яму насустрач, абнімаюць, віншуюць з перамогай. Крыху воддаль ён бачыць сваю сястру, а побач з ёю захутаную ў цёплую хустку Веру.

«Дык вось чые гэта лыжы»,— мільгае ў галаве Аліка. Ён падыходзіць да дзяўчынак і весела, па-сяброўску гаворыць:

— Твае лыжы, Вера, вельмі шчаслівыя, дзякую табе за іх.

Вера смяецца. Яна цяпер упэўнена, што Алік больш ніколі не будзе глядзець на яе звысоку, што яго недарэчнай варожасці да дзяўчынак прыйшоў канец.

Але дзе ж Юрка? Пра яго ўсе забыліся. Алік азіраецца і бачыць, як Юрка, злёгку накульгваючы, паволі ідзе з-пад гары. Алік вырываецца з гаманлівага натоўпу рабят і спяшаецца насустрач сябру.

— Што з нагой? — пытаецца ён у Юркі.

— Ды нічога, ударыў крыху,— апусціўшы вочы, гаворыць Юрка.

— Баліць? — спачувальна пытае Алік.

— Баліць.

— Абапрыся на мяне. Вось так,— гаворыць Алік, беручы Юрку пад локаць і стараючыся ступаць з ім у нагу. Нейкі час яны ідуць моўчкі. Першым парушае маўчанне Юрка.

— Ты даруй мне, Алік...— гаворыць ён, і голас яго дрыжыць і зрываецца.

— Глупства,— абыякава кідае Алік і праз хвіліну пачынае расказваць сябру нешта вельмі смешнае.

# МАМІН ГАЛЬШТУК

Як хутка бяжыць час! Здаецца, яшчэ зусім нядаўна да бялюткага фартушка Зосі была прышпілена маленькая акцябрацкая зорачка, а сёння яна ўжо піянерка.

А вось і родная, змалку знаёмая вуліца. Зося шырэй расхінае паліто, каб кожны здалёк мог убачыць яе піянерскі гальштук.

— Віншую цябе, дачушка,— усміхаецца мама, расчыняючы перад Зосяй дзверы.

Зося скідае паліто, спяшаецца да вялікага люстра, што вісіць на сцяне, і доўга глядзіцца ў яго.

— Мамачка, а ты была піянеркай? — пытае раптам Зося.

— А як жа, дачушка, вядома, была,— усміхаецца мама.

— І гальштук вось такі насіла?

— І гальштук насіла,— адказвае мама.— Праўда, ён быў не такі прыгожы, як твой, але я захоўваю яго як самую дарагую памятку свайго дзяцінства.

— Ой, мамачка, а можна мне паглядзець на твой гальштук? — просіць Зося.

— А чаму ж нельга, дачушка!

Мама дастае з шафы скрутачак, беражна разгортвае яго і садзіцца ў крэсла. Прымошчваецца побач з мамай і Зося.

— Вось ён, мой піянерскі гальштук,— гаворыць мама, распраўляючы на каленях трохкутнік рудай, выгаралай ад сонца тканіны.

— Ой, які ж ён...— Зося хацела сказаць «непрыгожы», але стрымалася, каб не пакрыўдзіць мамы.

— Ты хацела сказаць «непрыгожы», праўда, дачушка? — нібы чытаючы думкі Зосі, запытала мама.

Зося пачырванела і моўчкі кіўнула галавой.

— Гэта праўда,— працягвала тым часам мама.— Але ў гальштука гэтага не зусім звычайная гісторыя. Аб ёй я і хачу расказаць табе сёння...

Мама села выгадней, прыгарнула да сябе Зосю і пачала свой расказ:

— Гэта было, дачушка, у гады Вялікай Айчыннай вайны. Наша вёска стаяла непадалёк ад граніцы. У першы ж дзень вайны яе захапілі гітлераўцы. Не паспелі мы добра ўцяміць, што здарылася, як на вуліцы з'явіліся фашысты і пачалі чыніць сваю жорсткую расправу. Бацьку майго — сакратара калгаснай партыйнай арганізацыі — расстралялі за тое, што ён адмовіўся назваць імёны камуністаў, а нас з мамай зачынілі ў хаце і падпалілі яе з усіх чатырох кутоў. На шчасце наша, у сенцах быў пограб, у якім мы схаваліся і прасядзелі аж да самага вечара. Калі мы вылезлі з пограба, дык ад хаты нашай засталася толькі печ, некалькі датляваючых бярвенняў ды груда гарачага попелу. І не адных нас напаткала гэткае гора. Уся вёска была ў агні і папялішчах. Жахлівы гэта быў вечар. Галашэнне кабет і плач дзяцей зліваліся са стралянінай і незнаёмай варожай гаворкай, падобнай на злосную лаянку. Зрабіўшы сваю агідную справу, немцы рушылі далей, у суседнюю вёску. Вось тады і прыйшоў да нас дырэктар нашай школы Апанас Фёдаравіч Паддубны, якому пашчасціла ў гэтую ноч заначаваць на леснічоўцы ў свайго бацькі. Сабраў ён усіх каля клуба і сказаў:

— Ну, людцы добрыя, плакаць ды чакаць, пакуль гэтыя бандыты ізноў вернуцца сюды, няма чаго. Збірайце хуценька свае манаткі ды пойдзем у лес, за Чорнае возера. Там і будзем думаць, як нам жыць далей.

Усю ноч ішлі мы лясною чашчобай ды балатамі. А раніцай, калі першыя праменні сонца рассыпаліся срэбнымі пырскамі па травах і лісці, Апанас Фёдаравіч спыніў людзей.

— Вось тут мы і будзем жыць цяпер,— сказаў ён, зняўшы шапку і абціраючы хусцінкай свой узмакрэлы лоб.

Прайшло колькі дзён, і сярод лесу, пад старымі вялізнымі соснамі ды елкамі, вырас наш партызанскі лагер. Высока над лесам лёталі фашысцкія самалёты, у навакольных гарадах і вёсках гаспадарылі фашысты, а тут, у гушчары лесу, пад аховай волатаў-елак жыла наша родная Савецкая ўлада, жылі савецкія людзі. І не проста жылі і чакалі, калі скончыцца гэтая праклятая вайна, а бясстрашна змагаліся з ворагам.

Нялёгка жылося нам у партызанскім лагеры, дачушка. Цяжка было з харчаваннем, з вопраткай, з медыкаментамі. Улетку было яшчэ паўбяды, а зімой і зусім дрэнна. Асабліва яна давалася ў знакі нам, дзецям. Хацелася бегаць у школу, хадзіць на лыжах, гуляць у снежкі, а тут сядзі босы ды голы ў цёмнай сырой зямлянцы ды чакай, пакуль прыйдзе тая вясна.

Доўга цягнулася наша першая партызанская зіма. Ой, як доўга! Затое як жа радаваліся мы, калі на лясных прагалінках з'явіліся першыя веснавыя праталінкі, якім вясёлым дружным «ура!» віталі першую чараду гусей, што плыла над лесам! У лесе было яшчэ багата снегу, калі мы пакінулі свае змрочныя зямлянкі і высыпалі дружна на сонейка. З кожным днём рабілася ўсё цяплей і цяплей. Лес ажываў, напаўняўся птушыным гоманам, вясёлым веснавым шумам.

— Ну, жэўжыкі, хутка пойдзеце ў школу,— сказаў аднойчы Апанас Фёдаравіч.

Мы ажно раты разявілі ад гэтай навіны. Глядзім на Апанаса Фёдаравіча і не ведаем, ці то ён праўду кажа, ці жартуе з нас.

— Ну чаго вы глядзіце на мяне? Вось падсохне крыху, і пачнём будаваць школу,— дадаў ён.

І тут усе адразу абступілі яго, зашумелі, загаманілі. На другі дзень мы разам з настаўнікамі, якіх таксама ў лагеры было нямала, пачалі будаваць школу.

— А колькі паверхаў было ў вашай школе? — запытала Зося.

— Якія там паверхі, дачушка. Пад разложыстым волатам-дубам мы расчысцілі пляцоўку, абнеслі яе агароджай з тонкіх бярозавых бярвенняў, зверху на жэрдкі накідалі яловых лапак, і школа была гатова. Замест партаў наш калгасны сталяр дзядзька Сцяпан зрабіў доўгія сталы і лаўкі. Адным словам, праз якія дні тры мы пачалі займацца.

Пісалі мы на самаробных, зробленых з нейкіх нямецкіх бланкаў, сшытках, а то і проста на бяросце. Кожны аловак дзялілі на двух вучняў і берaглі, як самую вялікую каштоўнасць.

Партызаны вельмі клапаціліся аб нашай школе і, чым толькі маглі, дапамагалі ёй. Вяртаючыся з задання, яны часта прыносілі нам паперу, алоўкі, кніжкі і нават крэйду. Ды і мы не заставаліся ў даўгу: вучыліся ўсе вельмі старанна. Непаспяваючых і гультаёў сярод нас не было. У канцы кожнага месяца да нас у школу заходзіў Апанас Фёдаравіч, і мы рабілі падрабязную справаздачу аб нашай вучобе, аб нашых школьных справах.

Напярэдадні свята Вялікага Кастрычніка многія з нас рыхтаваліся ўступіць у піянеры. Рыхтавалася да гэтай урачыстай падзеі і я. І ўсё ў нас ішло добра, адно толькі трывожыла: дзе ўзяць піянерскія гальштукі. З гэтым клопатам мы і пайшлі да камандзіра атрада. Апанас Фёдаравіч выслухаў нас, падумаў хвіліну і сказаў:

— Не бядуйце, што-небудзь прыдумаем. Гальштукі ў вас будуць.

А назаўтра партызаны прынеслі ў школу трафейны парашут.

— Дык ён жа не чырвоны, а белы,— заўважыла Зося.

— І мы тое самае сказалі, калі ўбачылі парашут. А адзін з партызанаў, ведаеш, што нам на гэта адказаў? «На тое вы і піянеры, каб зрабіць яго чырвоным. У лесе фарбаў багата».

— І вы знайшлі яе, гэтую фарбу?

— Вядома, знайшлі. Падарыла нам яе крушына. Надралі мы з яе кары, наварылі і пафарбавалі свае гальштукі. Праўда, атрымаліся яны, як бачыш, не зусім чырвоныя, але гэта нас нікольκі не бянтэжыла. Раніцай сёмага лістапада ўсім партызанскім лагерам мы сабраліся на святочны мітынг, а пасля яго давалі ўрачыстае абяцанне. Вось тады Апанас Фёдаравіч Паддубны і павязаў мне на шыю гэты гальштук. З ім я не расставалася ўсю вайну і зняла толькі тады, калі ў 1945 годзе ўступіла ў камсамол. А зараз я дару яго табе, дачушка. Хай ён напамінае табе аб маім партызанскім дзяцінстве, аб мужных і высакародных людзях — партызанах.

— Дзякую табе, мамачка, за твой падарунак. Я пакажу яго ўсім нашым піянерам і раскажу ім пра тваю партызанскую школу.

Зося беражна ўзяла ў рукі мамін гальштук, прытулілася да яго тварам, і ёй здалося, што ў пакоі раптам запахла лесам, кастрамі і свежымі ранішнімі росамі.

# МІХАСЁВЫ ПРАЛЕСКІ

Міхась старанна выцірае ногі, сцягвае з галавы шапку-вушанку і ўваходзіць у прапахлы лякарствамі бальнічны калідор.

— Ізноў прыйшоў? — сустрэла яго цёця Паша.— Я ж табе казала — да мамы цяпер яшчэ нельга. Сямён Рыгоравіч забараніў. Слабая яна. Убачыць цябе, пачне хвалявацца, плакаць. Ды і каранцін у нас. Пацярпі трошкі.

Міхась апускае галаву, камечыць у руках шапку.

— Ну што ж ты стаіш? Нельга значыць нельга,— спагадліва пазіраючы на хлопчыка, кажа цёця Паша.— А за маму сваю ты не трывожся. Сямён Рыгоравіч не такіх, як яна, на ногі падымаў. І тваю маму падыме. Ну, ідзі ўжо, ідзі.

Міхась пераступае з нагі на нагу.

— Цёця Паша, мне хоць бы адным вокам на яе глянуць. Хоць здалёку. Я ж цэлы тыдзень не бачыў яе.

Голас Міхася дрыжыць, зрываецца, калючы камячок застрае ў горле, а ва ўсёй яго маленькай постаці столькі пакуты і смутку, што цёця Паша нарэшце не вытрымлівае:

— Ну добра, паглядзі ўжо на сваю маму. Толькі ўгавор у нас будзе такі: глянеш на яе — і назад. Чуеш?

— Ага,— Міхась згодна ківае галавой і пазірае на цёцю Пашу ўдзячным, пасвятлелым ад радасці позіркам.

— Скідай хутчэй свой кажушок ды хадзем, а то, бывае, Сямён Рыгоравіч наскочыць — гневацца будзе.

Міхась скідае кажушок, прыгладжвае рукой валасы і ідзе следам за цёцяй Пашай па зялёнай дывановай дарожцы ў ка-

нец бальнічнага калідора. Спыніўшыся ля зашклёных да палавіны дзвярэй, цёця Паша паціху кажа:

— Налева глядзі, каля акна.

Міхась прыціскаецца носам да шыбы, зазірае ў палату, а сэрца ў яго б'ецца, нібы злоўленая ў сіло птушка.

— Мама... Мамачка...— усхвалявана шэпча хлопчык. І столькі любві, столькі пяшчоты ўкладвае ён у гэта простае, змалку знаёмае слова, столькі цяпла і светлай дзіцячай радасці, што цёця Паша не адважваецца вось так, адразу, спудзіць гэту радасць.

Але служба службай. Можа прыйсці Сямён Рыгоравіч, тады не абярэшся бяды.

— Ну, досыць, досыць, пайшлі,— асцярожна дакранаючыся да шчуплага хлапчуковага пляча, кажа яна прыцішаным голасам.

Міхась кідае на маці апошні позірк, адрывае ад шыбы нос і пакорна ідзе за цёцяй Пашай.

— А заўтра можна?..— зашпільваючы кажушок і пазіраючы на цёцю Пашу, пытае Міхась.

— Бач, які настырны,— усміхаецца цёця Паша,— Ну, прыходзь, прыходзь,— кажа яна, адчыняючы дзверы.

— Дзякую,— узрадавана адказвае Міхась, і яму здаецца, што на ўсёй зямлі няма чалавека лепшага за гэту кабету ў белым бальнічным халаце.

На душы ў Міхася і радасна і трывожна. Радасна ад таго, што ён убачыў маму. Але ж як яна змянілася! Вочы зрабіліся яшчэ большымі і запалі глыбока-глыбока.

Міхась выходзіць за вароты бальніцы, і на яго, нібы той раз'юшаны звер, накідваецца вецер. Ён імкнецца збіць з ног, засыпаць сухім калючым снегам. Але Міхась нібы не заўважае яго. Думкамі сваімі ён усё яшчэ там, у ціхім, прапахлым лякарствамі бальнічным калідоры, ля ложка сваёй хворай матулі.

Вайна сагнала людзей з родных гнёздаў, параскідала па ўсім свеце. Вось і Міхась з мамай прыехалі з Беларусі ажно

сюды, у Забайкалле. Тут, у гэтым далёкім паселішчы, ён і пачуў упершыню слова «эвакуіраваныя». Так называлі людзей, якія, ратуючыся ад вайны, ад фашысцкай няволі, ехалі на ўсход краіны. Узяў іх тады да сябе дзед Ягор, які некалькі гадоў таму аўдавеў і жыў цяпер адзін.

Дзед Ягор — вядомы на ўсю акругу паляўнічы. На яго ліку дзесяткі забітых мядзведзяў, собаляў, вавёрак, лісіц. Нягледзячы на свае семдзесят год, ён ходзіць лёгкай нячутнай хадой і мае вострае вока і слых.

У дзеда Ягора ёсць некалькі стрэльбаў. Адну з іх ён абяцаў падарыць Міхасю, калі той падрасце крыху ды навучыцца добра страляць. А колькі цікавых гісторый ён расказвае Міхасю пра сваё роднае Забайкалле — пра звяроў, пра птушак, пра розныя расліны і дрэвы! Адным словам, у Міхася з дзедам Ягорам дружба моцная. І жывецца ім у старога паляўнічага як у роднага бацькі. Міхась нават не ўяўляе, як бы яны жылі без яго.

— Скончыцца вайна, прыедзе да нас татка, і мы будзем жыць усе разам з дзедам Ягорам,— казаў ён.— Бацька ж таксама любіць і паляваць, і рыбу лавіць, і ў грыбы хадзіць. А тут, у Забайкаллі, і звера markнага, і птушкі, і рыбы, і грыбоў вунь колькі.

Аднак не суджана было спраўдзіцца гэтым Міхасёвым задумам. Толькі паспелі нашы выбіць фашыстаў са Сталінграда, як прыйшла пахаронная, у якой паведамлялася, што бацька Міхася, танкіст Лугавы Сцяпан Іванавіч, загінуў. Тады і захварэла Міхасёва маці. Яе і без таго кволае сэрца не магло пагадзіцца з гэтай бядой.

Горка плакаў Міхась, калі маці, ледзь жывую, павезлі ўночы ў бальніцу. Ён нават выбег у адной сарочцы на вуліцу і кінуўся следам за санямі. Дзед Ягор ледзь дагнаў яго тады. Прывалокшы ў хату, захутаў у кажух, паклаў на ложак і пачаў ушчуваць за гэткія немужчынскія паводзіны.

— Я думаў, што ты сапраўдны мужчына, хацеў з цябе паляўнічага зрабіць, а ты разрумзаўся, —строга казаў ён,

прысеўшы на ложак.— Маці твая ачуняе. Гора, яно, хлопча, толькі напачатку валіць чалавека з ног, а пасля чалавек сам яго за чуб зграбе, на тое ён і чалавек. У мяне было трое сыноў, і ўсе трое ў грамадзянскую вайну палеглі. Ды якія сыны! А я вось жыву, працую,— уздыхнуў стары.

Дзед Ягор доўга расказваў у тую ноч Міхасю пра тое, які чалавек дужы, які ён разумны, а пасля напаіў яго настоем з лясных малін, ухутаў кажухом і сядзеў ля ложка, пакуль Міхась не заснуў. А раніцай стары пайшоў у бальніцу даведацца, як там маецца хворая, і пераказаць ёй, каб папраўлялася і была спакойная за сына, якога ён дагледзіць не горш за яе.

— Хутка маці твая паправіцца. Доктар сказаў, што падрамантуе як след яе сэрца,— усміхаючыся сваёй добрай усмешкай, суцяшаў ён Міхася.

— А мне пайсці да яе можна? — запытаў Міхась.

— Не раней як праз тыдзень. Пакуль што прасілі не турбаваць.

«Ого, чакаць цэлы тыдзень!— падумаў Міхась.— Сёння ж пасля ўрокаў я пабягу да яе».

І пабег. І бегаў цяпер штодзень.

— І дзе ты, хлопча, валэндаешся ў гэткую непагадзь? — строга запытаў дзед Ягор, калі Міхась, заснежаны з галавы да ног, уваліўся ў хату.

— У мамы быў,— ледзь пераводзячы дыханне, пахваліўся Міхась.

— У мамы?! — здзівіўся стары.

— Ну, не зусім у мамы, але бачыў яе.

І Міхась расказаў пра ўсё, што адбылося ў бальніцы.

— Кажаш, схуднела? — выслухаўшы Міхася, прамовіў дзед Ягор.— Хвароба, яна, хлопча, чалавека не песціць. Але дарма. Падгадуем мы тваю маці, хай толькі хутчэй дадому вяртаецца. Вось і зіме хутка канец, бачыш, як яна злуе, як шалее. Чуе, старая, што вясна блізка, сакавік ужо на парозе. А сакавік, сам ведаеш, месяц весні, сонечны.

Сакавік! Міхась успомніў, як штогод восьмага сакавіка ён з таткам прыносіў маці кветкі. Як радавалася яна гэтым першым вясновым краскам! Асабліва яна любіла пралескі. А дзе ж ты возьмеш тыя кветкі сёлета ў гэтым суровым заснежаным краі?

Павялося ўжо так, што калі Міхась меў які-небудзь клопат, то заўсёды звяртаўся за дапамогай да дзеда Ягора, і не было яшчэ выпадку, каб стары паляўнічы не выручыў яго. Але цяпер, мусіць, і дзед Ягор не здолее памагчы.

Міхась уздыхнуў, насупіўся і прыціх.

— Што гэта ты нос павесіў? — глянуўшы на спахмурнелы твар Міхася, запытаў стары.— Які клопат цябе даймае?

— Пралескі мне патрэбны, дзед Ягор,— шчыра прызнаўся Міхась.

— Пралескі? — здзівіўся стары паляўнічы.— Дзе ж ты іх возьмеш зараз? З кветкамі прыйдзецца пачакаць, хлопча.

— Чакаць нельга. Мы з таткам заўсёды прыносілі маме на восьмае сакавіка кветкі. Таткі цяпер няма, і гэта павінен зрабіць я... Вось я і думаю, дзе мне ўзяць хоць бы некалькі кветак.

Дзед Ягор памаўчаў нейкую хвіліну, папыхкаў люлькай, а потым сказаў:

— Вось што, хлопча, заўтра нядзеля, у школу ісці не трэба, і мы пойдзем з табой па пралескі.

Міхась са здзіўленнем паглядзеў на дзеда Ягора. Дзе ён збіраецца шукаць іх?

— Ну чаго ты на мяне так глядзіш? Думаеш, жартуе стары, га? — засмяяўся дзед Ягор.— Пойдзем заўтра на цёплую крыніцу. Толькі баюся я, што ты прытомішся, бо дарога туды няблізкая.

— Не бойцеся, дзед Ягор! — узрадавана ўсклікнуў Міхась.— Я куды хочаце пайду, абы толькі маме пралескі прынесці...

Цёплая крыніца. Міхась ніколі яшчэ не бачыў, каб сярод снягоў біла з-пад зямлі гэткая цёплая вадзіца. Над крыніцай

узнімалася пара, а па беражках зелянела травіца, жывая, вясёлая.

— А цяпер пашукаем пралесак,— асцярожна разграбаючы вакол крыніцы падталы снег, сказаў дзед Ягор.— Ды вось і яны! — усміхнуўся стары і пачаў асцярожна падразаць ладны кавалак дзёрну.

— Дзе?! — узрадавана ўсклікнуў Міхась.

— А вось. Бачыш раслінкі ў срэбным пушку? Гэта і ёсць забайкальскія пралескі. Прынясём іх у хату, у цяпло, пачнём паліваць вадзіцай, і яны як бачыш пойдуць расці і зацвітуць.

Міхась не верыў свайму шчасцю. «Гэты дзед Ягор сапраўдны чараўнік»,— думаў ён, замілавана пазіраючы на старога, які беражна захутваў зрэзаны кавалак дзёрну ў хусціну.

Непрыкметна міналі дні. Сямён Рыгоравіч ужо дазволіў Міхасю наведваць маці. Два разы на тыдзень яны разам з дзедам Ягорам прыходзілі да яе ў адведкі і прыносілі свае няхітрыя перадачы.

І вось нарэшце надышоў дзень, якога з такой нецярплівасцю чакаў Міхась. Мама ляжала ў ложку і, пазіраючы на прамерзлыя шыбы вокан, успамінала сваё роднае Палессе, калі дзверы раптам расчыніліся і ў палату ўвайшоў Міхась, несучы перад сабой букет сініх пралесак.

— Міхасёк, сынок мой, адкуль у цябе гэты цуд?! — усклікнула маці. Яна беражна ўзяла з рук Міхася кветкі і пяшчотна прытуліла да сваіх паружавелых ад радаснага хвалявання шчок.

— Гэта мы з дзедам Ягорам на цёплую крыніцу па іх хадзілі. Далёка! — усміхаючыся, сказаў Міхась і расказаў маці, як яны з дзедам Ягорам даглядалі гэтыя кветкі, каб падарыць ёй на свята.

— Дзякую, дзякую вам, мае родныя,— шаптала маці, пазіраючы шчаслівымі вачамі то на Міхася, то на пралескі, то на дзеда Ягора.

# ЧЫРВОНЫЯ КАРЭНЬЧЫКІ

Айна, нібы зачараваная, стаяла пасярод цяпліцы.

— Ой, як хараша! — каторы ўжо раз паўтарала дзяўчынка.

Абапал праходу на доўгіх стэлажах весела зелянелі толькі што палітыя раслінкі. Сонца кідала праз шкляны дах яркія веснавыя праменні, і яны ўспыхвалі рознакаляровымі агеньчыкамі ў празрыстых кроплях вады на маленькіх лісточках.

Ці думала Айна, што вось тут, у яе родным заснежаным чукоцкім краі, магчымы такі цуд?

Рабяты шумнай гаманлівай чародкай прайшлі ў глыб цяпліцы, і толькі Айна ўсё яшчэ стаяла на месцы. Яна нібы баялася, што варта ёй скрануцца з месца, і гэтае цудоўнае відовішча знікне.

— Што, падабаецца? — ветліва спытала ў яе жанчына ў сінім халаце і белай касынцы, з-пад якой выбіваліся светлыя завіточкі валасоў. Вочы ў жанчыны вялікія, шэрыя, нібы тундравыя азёры ўлетку.

Жанчына абняла Айну за плечы, і яны павольна пайшлі па праходу.

— Зараз я вас пачастую нашай першай радыскай,— сказала жанчына і спынілася ля аднаго са стэлажоў.

І вось на гарачых далонях Айны ляжыць некалькі чырвоных вільготных радысак. Яна не спяшае частавацца гэтымі прыгожымі карэньчыкамі. Айна глядзіць на іх замілаванымі вачыма, і шчаслівая ўсмешка блукае на яе смуглым твары...

На дварэ бушавала пурга. Шостыя суткі ўсё навокал кружылася ў шалёным снежным танцы. Здавалася, што зіма

ўсе свае апошнія сілы, усю сваю лютасць кінула на гэты невялікі пасёлак, наважыўшы пахаваць яго навечна ў халодных белых сумётах.

Рабяты сядзелі ў інтэрнаце і сумавалі па школе, па вясёлых гульнях на свежым паветры. Часамі здавалася, што і сам будынак інтэрната з яго ўтульнымі і цёплымі пакоямі імчыцца невядома куды сярод успененых снегавых хваль.

— І калі яна ўжо сціхне? — усё часцей паўтаралі дзеці.

Больш за ўсіх у гэтыя дні хвалявалася Айна. Увечары, калі рабяты засыналі і ў пакоях інтэрната рабілася зусім ціха, яна доўга ляжала з расплюшчанымі вачыма, прыслухоўваючыся да рогату і посвісту ветру, і трывожна думала: «А як там раслінкі? Ці не холадна ім пад высокім шкляным дахам сярод сумётаў?»

І пры думцы аб тым, што раслінкі могуць загінуць ад сцюдзёных подыхаў пургі, сэрца дзяўчынкі сціскалася ад роспачы.

«Як толькі сціхне, абавязкова пабягу паглядзець»,— думала, засынаючы, Айна.

І вось надышоў нарэшце дзень, калі на двары ўсё супакоілася. Прачнуўшыся раней за ўсіх, Айна лёгка саскочыла з ложка, падбегла да акна і адхінула штору. Вочы самі зажмурыліся ад яркіх праменняў майскага сонца. Прыкрыўшы іх далонямі, Айна пачала аглядаць пасёлак.

Пурга да непазнавальнасці змяніла яго аблічча. Увесь ён тануў у сумётах, а на месцы некаторых будынкаў цяпер узвышаліся белыя волаты-курганы, над якімі сям-там дыміліся чорныя коміны. Недзе злосна вурчаў бульдозер, упарта тарахцелі трактары, гучна пераклікаліся людзі. Зноў на вуліцах пракладваліся доўгія снегавыя траншэі, адкопваліся дамы. Аўрал па ўпарадкаванню пасёлка пасля пургі ішоў поўным ходам.

І ад усяго гэтага Айне зрабілася раптам так весела, што яна падбегла да суседняга ложка і пачала тармасіць сяброўку:

— Тэюнэ, Тэюнэ, уставай! Сонца свеціць!

Але дзяўчынка нешта замармытала праз сон, усміхнулася і, павярнуўшыся на другі бок, зноў моцна заснула. Тады Айна асцярожна прымасцілася побач, прыгрэлася каля цёплага боку сяброўкі і таксама задрамала.

— Айна! Дзе Айна? — пыталася ў рабят Тэюнэ, калі пасля заняткаў яны выбеглі пагуляць у снежкі.

Але колькі дзяўчынка не клікала сваю сяброўку, тая не адгукалася.

У гэты час Айна падыходзіла да будынка цяпліцы. Яна старанна абабіла з кухлянкі снег, адкінула з галавы малахай, выцерла рукавом успацелы лоб і ўзялася за клямку. Нейкі час Айна стаяла ў нерашучасці, прыслухоўваючыся да моцных і частых удараў сэрца. Нарэшце асмелілася і асцярожна адчыніла дзверы.

— Хто там? — даляцеў да яе знаёмы голас.

— Гэта я, Айна...

З-за стэлажоў паказалася Анна Ягораўна і, убачыўшы Айну, весела сказала:

— А, гэта ты. Ну праходзь, праходзь.

— Выбачайце, што я прыйшла... Але мне так хацелася паглядзець на вашы раслінкі. Я так непакоілася...— збянтэжана прамовіла Айна, прывітаўшыся з Аннай Ягораўнай.

З гэтага дня Айна амаль штодзень наведвала цяпліцу. Яна дапамагала Анне Ягораўне і з захапленнем слухала яе цікавыя расказы аб жыцці раслін, аб іх вялікай карысці для чалавека.

— Анна Ягораўна, а я магу навучыцца сама вырошчваць розныя расліны? — спытала аднойчы Айна.

— А чаму ж не? Вядома, можаш,— сказала Анна Ягораўна.

— А што для гэтага патрэбна?

— Што?..

Анна Ягораўна хвілінку памаўчала, абводзячы позіркам доўгія стэлажы цяпліцы, потым прамовіла:

7 Зак. 1159

— Па-першае, трэба добра вучыцца, а па-другое, любіць расліны, умець іх даглядаць... Вось, мабыць, і ўсё! — усміхнулася яна.

— Я вельмі, вельмі люблю...— прыціскаючы да грудзей далоні, прашаптала Айна.

Напярэдадні летніх канікул Айна забегла да Анны Ягораўны развітацца.

— А я табе падарунак падрыхтавала,— хітра пазіраючы на дзяўчынку, сказала Анна Ягораўна і, нахіліўшыся, дастала з-пад стэлажа невялікую драўляную скрынку з зямлёй.

— Што гэта? — спытала Айна.

— У гэтай скрынцы спяць маленькія зярняткі радыскі. Калі прыедзеш дадому, скрынку пастаў на акно і даглядай за пасевамі, як я вучыла цябе. Гэта будзе твой першы экзамен.

Усю дарогу Айна проста дрыжала над скрынкай. Хоць на дварэ свяціла яркае майскае сонца, але ад снегу, што ляжаў навокал, ад мора, закаванага ў моцны ледзяны панцыр, дыхала холадам.

Прыехаўшы дамоў, Айна асцярожна разгарнула аленевую шкуру, у якую была закручана скрынка, і паставіла падарунак на акно.

— Як добра, мама, што мы жывём цяпер не ў цёмнай яранзе, а ў такім прасторным доме з вялікімі вокнамі,— гаварыла дзяўчынка.

Калі ў скрынцы паказаліся першыя лісцікі — радасці Айны не было канца. Яна адразу ж паведаміла аб гэтым усім сваім сябрам.

Сабраўшыся ў пакоі Айны, рабяты шчаслівымі вачыма пазіралі то на маленькія зялёныя лісточкі, то на сваю старэйшую сяброўку.

Нарэшце і на Чукотку прыйшло лета. Сонца цяпер ужо свяціла і ўдзень і ўночы. Пад яго цёплымі праменнямі пачарнеў і растаў снег, а мора, разарваўшы цяжкія ледзяныя ланцугі зімы, зашумела, забурліла ўспененымі хвалямі. Сопкі і

тундра апранулі свой летні маляўнічы ўбор, напоўніліся вясёлым птушыным гоманам.

У ціхія цёплыя дні Айна выносіла свае раслінкі на свежае паветра, «на прагулку». Яна руплівa даглядала іх, сачыла, каб ім хапала сонца і вады, разам з сябрамі радавалася, што яе «гадаванцы» з кожным днём убіраюцца ў сілу.

І вось настаў дзень, калі Айна паклікала ўсіх рабят і абвясціла:

— Сёння я пачастую вас чырвонымі карэньчыкамі.

З гэтымі словамі яна асцярожна зняла з акна скрынку і паставіла яе на стол, вакол якога паселі госці. У пакоі запанавала ўрачыстая цішыня. Нават гаманлівая звычайна Оля прыціхла і зрабілася сур'ёзнай.

— Матлю, Атык, Оля, Этай...— называла Айна па імені сяброў і падавала кожнаму радыску.

Дзеці любаваліся прыгожымі чырвонымі карэньчыкамі, каштавалі іх на смак і з удзячнасцю пазіралі на маленькую гаспадыню.

— Ну, усе атрымалі? — спытала Айна, абводзячы гасцей шчаслівымі вачыма.

— Усе! Усе! — дружным хорам адказалі рабяты.

Тады Айна вырвала яшчэ адну радыску і, спаласнуўшы яе вадой, паклала ў рот. І хоць радыска, што трапілася ёй, была крыху гаркаватая, Айне яна здавалася смачнейшай за ўсе прысмакі, якія толькі ёсць на свеце.

# ЦІКАВАЯ СУСТРЭЧА

На зямлю павольна, нібы нехаця, падалі буйныя калматыя сняжынкі. Яны лёгка кружыліся ў паветры, чапляліся за валасы, за вейкі, усцілалі ўсё навокал свежай святочнай беллю.

— Глядзі, Косцік, які вясёлы снег! — спыняючыся пасярод тратуара, усклікнуў Генка.— А ў скверы, у скверы як прыгожа! Ну зусім, як у тым казачным царстве. Вось каб узяць ды намаляваць гэтак.

— А ты паспрабуй. Увосень вунь якія пейзажы маляваў. Сам Ігнат Ціханавіч цябе Левітанам тады назваў. А ён жа на пахвалу не вельмі шчодры.

— Не, не, ты толькі паглядзі, як прыгожа ў скверы! А бярозы, бярозы якія красуні. Ад іх проста вачэй не адвесці,— не сунімаўся Генка.

— Ды і вербы не горшыя,— заўважыў Косцік. Помніш у Паўлюка Труса:

Расчасалі вербы шоўкавыя косы,
Уранілі долу снегавы вянок.

— А ў Паўлюка Труса зусім не вербы, а вішні,— засмяяўся Генка.

Усё сёння здавалася хлопчыкам нейкім адметным, святочным. І вуліца, і прахожыя, што крочылі насустрач, і нават тралейбусы, якія беглі адзін за адным. Так, напэўна, заўсёды бывае з людзьмі, калі збываецца іх даўняя мара. А яна сёння якраз і збылася: Генку і Косціка прынялі ў камсамол. Хлопчыкі яшчэ ніколі не адчувалі сябе такімі шчаслівымі.

Ім хацелася дурэць, спяваць, смяяцца. І таму Косцік зусім не здзівіўся, калі Генка раптам пачаў на ўвесь голас падпяваць рэпрадуктару.

Налюбаваўшыся ўдосталь харастбом зімовага парку, хлопчыкі рушылі да тралейбуснага прыпынку. Але не паспелі яны зрабіць і двух крокаў, як Генка раптам усклікнуў:

— Глядзі, Косцік, што я знайшоў.

Ён хуценька нахіліўся і падняў з зямлі ўжо даволі пацёрты кашалёк.

— Зараз праверым, што ў ім ёсць,— паспешна засунуўшы знаходку за пазуху, сказаў Генка і пацягнуў Косціка да бліжэйшага пад'езда. Апынуўшыся ў пад'ездзе, Генка дастаў кашалёк і ўзяўся за яго рэвізію.

— Рубель. Траячка. Яшчэ рубель. Пяць рублёў! — радаваўся Генка, перабіраючы дрыжачымі рукамі грошы.— А вось нейкі рэцэпт і паведамленне на атрыманне пасылкі. Яшчэ адна траячка. Вось гэта здорава! Столькі грошай! Пачакай, пачакай... Гэта ж дзесяць рублёў. Цэлы капітал! Я куплю сабе новы набор фарбаў, альбом з рэпрадукцыямі Трэцякоўкі. А яшчэ... а яшчэ...

Косцік як аслупянелы глядзеў на свайго сябра і не пазнаваў яго. Ён нагадваў яму зараз драпежніка. Нешта хцівае, прагнае было ў яго вачах і рухах.

— Што гэта ты вярзеш? Хіба гэта твае грошы? — задыхаючыся ад абурэння, запытаў Косцік.

— А то чые ж яшчэ? — здзіўлена пазіраючы на Косціка, запытаў Генка.— Я іх знайшоў, і выходзіць, што яны цяпер мае.

Генка закрыў кашэль, засунуў яго глыбей за пазуху і, зірнуўшы на Косціка, злосна запытаў:

— Ды чаго ты глядзіш на мяне, як тая каза на афішу? Не пазнаеш, ці што?

А Косцік сапраўды не пазнаваў зараз свайго сябра. Яму нават хацелася, каб гэта быў не Генка, без якога ён і дня пражыць не мог, а нехта іншы.

— Грошы гэтыя чужыя, і мы павінны зараз жа аддаць іх гаспадару. Чуеш? — ледзь стрымліваючы свой гнеў, сказаў Косцік.

— Што? — прыжмурыўшы вочы, іранічна запытаў Генка.

— Тое, што ты чуеш,— адрэзаў Косцік.

— Бач, што прыдумаў. Дзе гэта мы будзем шукаць таго гаспадара?

— А яго і шукаць не трэба. Адрас напісаны на паштовым бланку, які ляжыць у кашальку,— спакойна адказаў Косцік.

Генка надзьмуўся. Яму, відаць, вельмі не хацелася расставацца з грашыма.

— Ну скажы, Косцік, які гэта дурань вяртае знойдзеныя грошы? — міралюбіва запытаў ён праз хвіліну.

— Мяне не цікавіць, як у такіх выпадках робяць дурні, але я ведаю, што павінны рабіць камсамольцы. Мы зараз жа вернем гэтыя грошы гаспадару. Або... або... ты больш не камсамолец,— рашуча закончыў Косцік.

— Ну, ты, асцярожней! — збянтэжана прамовіў Генка.— Я...

Генка не дакончыў. Нейкі час ён моўчкі стаяў перад Косцікам. Пасля ўзняў на сябра свае вінаватыя вочы, дастаў з-за пазухі кашалёк, падаў Косціку і глуха сказаў:

— Глядзі той адрас ды пойдзем.

Гаспадар кашалька жыў далёка, на другім канцы горада. Хлопчыкі доўга блукалі па вуліцах, пакуль знайшлі нарэшце патрэбны дом. Дзверы адчыніла высокая немаладая жанчына.

— Нам патрэбен Павел Сцяпанавіч Лазавы,— сказаў Генка.

Жанчына запрасіла ўвайсці ў дом і, прыадчыніўшы дзверы ў адзін з пакояў, паклікала:

— Паўлуша, тут да цябе нейкія маладыя людзі прыйшлі.

За дзвярыма пачуліся крокі. Неўзабаве з пакоя выйшаў высокі шыракаплечы чалавек. Ён акінуў хлопчыкаў гарэзлівым позіркам і гучна, нібы даўні знаёмы, прывітаў іх.

— Добры дзень, сябры! Добры дзень! Уваходзьце, калі ласка!

— Вы Павел Сцяпанавіч Лазавы? — адказаўшы на прывітанне і стараючыся напусціць на сябе строгасць, запытаў Генка.

— Я самы! — у тон Генку сур'ёзна адказаў мужчына.

— У нас да вас справа ёсць,— працягваў Генка.

— Справа? — здзіўлена перапытаў мужчына.— Тады распранайцеся ды праходзьце ў пакой.— І гаспадар шырока расчыніў перад імі дзверы.

Генка з Косцікам зірнулі адзін на аднаго, скінулі сваю заснежаную вопратку, прыгладзілі валасы і падаліся ў пакой.

Пакой, у які яны трапілі, быў увесь застаўлены карцінамі. Адны з карцін былі ўжо зусім гатовы, другія толькі-толькі пачаты.

Гаспадар паказаў хлопчыкам на шырокую канапу, а сам сеў насупраць у крэсла і падрыхтаваўся слухаць.

— Вы нічога не згубілі сёння? — запытаў Генка, уважліва ўглядаючыся ў Лазавога.

— Я — не. А маці згубіла кашалёк.

— А які ён? Ну... якога колеру?

— Некалі быў карычневы, а цяпер пастарэў, пацёрся. А хіба вы знайшлі яго? — запытаў ён.

— А што ў ім было? — не звяртаючы ўвагі на пытанне гаспадара, працягваў свой допыт Генка.

— Ды было ў ім рублёў дзесяць грошай і паведамленне на пасылку.

— Выходзіць, ваш,— усё так жа паважна і строга сказаў Генка і запытальна паглядзеў на Косціка. Той кіўнуў галавой у знак згоды і працягнуў Лазавому кашалёк. Лазавы ўсміхнуўся і паклаў кашалёк на стол.

— Праверце, ці ўсё на месцы,— сказаў Генка.— Ды другі раз не губляйце, а то, бывае, знойдзе хто, ды не верне. Ёсць яшчэ і такія.

Косціку аж горача зрабілася ад гэтых Генкавых слоў, ад яго разважлівасці і строгасці.

— Вы не ўяўляеце, хлопчыкі, як я вам удзячны,— усхвалявана прамовіў Лазавы.— У пасылцы той знаходзяцца фарбы, якіх мне так не хапае, каб закончыць карціну. Хадзем я пакажу вам яе.

Генка з Косцікам усталі з канапы і пайшлі за гаспадаром у другі канец пакоя.

— Генка, глядзі, а ў яго ж адной рукі няма,— штурхнуўшы сябра ў бок, прашаптаў Косцік.

І праўда, правы рукаў гімнасцёркі Лазавога быў акуратна запраўлены за шырокі вайсковы рэмень. Бязрукі мастак? Гэтага хлопчыкі яшчэ ніколі не чулі.

Тым часам гаспадар падвёў іх да вялікай, амаль на ўсю сцяну, карціны. На ёй была намалявана партызанская ноч у зімовым лесе. Карціна была выканана з такім майстэрствам, што хлопчыкам на нейкі момант здалося, быццам яны самі знаходзяцца ў сапраўдным лесе, сярод партызан. Нейкі час яны стаялі як зачараваныя і не маглі вымавіць слова.

— І ўсё гэта малявалі вы самі? — нарэшце парушыў маўчанне Генка.

— Вядома сам. Што, падабаецца?

— Вельмі...— узрушана прамовіў Генка.— Толькі як жа гэта... без рукі?

— Без рукі...— усміхнуўся Лазавы.— Марэсьеў страціў абедзве нагі і застаўся лётчыкам, дык чаму ж гэта я, страціўшы толькі адну руку, мушу адмовіцца ад сваёй любімай справы?

— Маляваць без рукі...— нібы сам да сябе прамовіў Генка і праз хвіліну, звярнуўшыся да Лазавога, запытаў: — А што сталася з вашай рукой?

— Руку я страціў у вайну. Яе адсеклі фашысты.

— Як гэта — адсеклі? Чаму? — уражаны словамі Лазавога, запытаў Косцік.

— Было гэта, сябры мае, у нямецкім палоне. Крадком ад

гітлераўцаў, я рабіў замалёўкі з нашага лагернага жыцця. Я хацеў, каб яны некалі расказалі людзям пра жудасныя пакуты ваеннапалонных. Сшыткі з гэтымі замалёўкамі я вельмі старанна хаваў ад лагернай адміністрацыі, бо ведаў, што за іх мяне па галоўцы не пагладзяць. Знайшоўся аднак нягоднік, які паведаміў фашыстам пра мае замалёўкі. Іх знайшлі. А мяне збілі, вывелі на пляцоўку і перад строем усяго лагера адсеклі правую руку. «Гэта, каб ты ніколі больш не маляваў»,— яхідна ўсміхаючыся, сказаў начальнік лагера. Але я рашыў застацца мастаком і, як бачыце, слова сваё стрымаў. Мінула шмат часу, пакуль я навучыў сваю левую руку слухацца мяне. Бывалі хвіліны, калі я ў адчаі гатоў быў адступіцца ад сваёй задумы. Але настойлівасць і вернасць слову перамаглі. Я выратаваў свой талент.

Да позняга вечара заседзеліся ў Лазавога Генка з Косцікам. Яны любаваліся яго цудоўнымі карцінамі, распытвалі пра вайну, вялі з ім шчырую сяброўскую гутарку, пілі чай. А калі нарэшце пачалі збірацца дадому, Генка, хвалюючыся, прызнаўся:

— Я таксама мару стаць мастаком. Дазвольце мне прыходзіць да вас маляваць. Па выхадных. У вас так добра.

— Прыходзь, абавязкова прыходзь! Я буду вельмі рады табе,— весела сказаў Лазавы, выходзячы следам за хлопчыкамі на ганак.

На дварэ ўсё яшчэ ішоў снег. Буйныя калматыя сняжынкі павольна, нібы нехаця, падалі на зямлю, лёгка кружыліся ў паветры, чапляліся за валасы, за вейкі, усцілалі ўсё навокал свежай святочнай беллю.

# ЯК МЫ З ПАЎЛІКАМ БЫЛІ РАБІНЗОНАМІ

Улетку мы з Паўлікам паехалі ў піянерскі лагер. Мы ведалі, што лагер знаходзіцца ў лесе, на беразе Дняпра, і таму ехалі з вялікай ахвотай.

Лес і рака! Што яшчэ трэба чалавеку? А самае галоўнае — свабода! Не будзе побач бацькоў, якія ўсё яшчэ лічаць нас маленькімі.

Усю дарогу мы толькі і гаварылі аб тым, якое цікавае жыццё чакае нас наперадзе.

— Любата! — усміхаўся Паўлік, пазіраючы праз акно аўтобуса на лясы, якія то расступаліся, то зноў цёмнай сцяной абступалі шашу.

— У лясах гэтых, мабыць, у вайну партызаны хадзілі,— заўважыў я.— Вось каб нам пашчасціла знайсці хоць адну партызанскую зямлянку.

— І знойдзем! — упэўнена сказаў Паўлік, бліснуўшы на мяне сваімі чорнымі, нібы пераспелыя вішні, вачыма.— У лясах, калі добра пашукаць, яшчэ і не тое можна знайсці. Зброю розную, танк, а то і самалёт...

— Самалёт? — недаверліва паглядзеў я на Паўліка.

— А што? Збівалі ж самалёты? Збівалі. А думаеш, усе яны пагарэлі?

Ад думкі, што мы з Паўлікам можам знайсці самалёт, у мяне нават сэрца замерла. Гэта ж мы адразу праславіліся б на ўсю рэспубліку. Ды што на рэспубліку — на ўвесь Савецкі Саюз! А калі б нас запыталі, што мы хочам атрымаць за сваю знаходку, мы сказалі б: «Нічога нам не трэба.

Пашліце нас вучыцца на лётчыкаў, бо ў школе нам ужо вельмі надакучыла». І нас бы, вядома, паслалі. А тады... Тады б мы з Паўлікам паказалі, чаго варты. А пасля нас паслалі б вучыцца на касманаўтаў, і мы першыя паляцелі б на Месяц...

І толькі гэта я «апынуўся» на Месяцы і пачаў выдумляць розныя дзівосныя прыгоды, якія там маглі адбыцца з намі, як аўтобус раптам з усяго ходу спыніўся, і я так чмякнуўся носам аб Паўлікава плячо, ажно іскры з вачэй пырснулі.

— Прыехалі! — абвясціў шафёр, і мы высыпалі з аўтобуса.

— А паветра якое! Чысты кісларод! — уцягваючы ў сябе водар лесу і скошаных траў, летуценна прамовіў Паўлік.

Я таксама пацягнуў носам і пачаў разглядацца на ўсе бакі.

Лагер нам спадабаўся. Ён стаяў на высокім беразе Дняпра, з трох бакоў цёмнай сцяной яго абступаў лес.

На першым часе, пакуль мы ўладкоўваліся на новым месцы ды знаёміліся з наваколлем, усё ішло добра. Але мінуў тыдзень, другі, і мы з Паўлікам засумавалі. Справа ў тым, што гульні, якія прапанавала важатая, былі нам добра знаёмы, і гуляць у іх не было ніякай ахвоты. Нам хацелася пайсці ў далёкі паход, начаваць ля вогнішча ў лесе. Пабудаваць свой піянерскі плыт і зрабіць падарожжа па Дняпры з прывалам на якім-небудзь неабжытым востраве. Адным словам, мы прагнулі нечага новага, марылі аб цікавых знаходках і адкрыццях.

Не пашанцавала нашаму атраду і з важатай. Яна ўвесь час не зводзіла з нас вачэй, не дазваляла без нагляду хадзіць у лес і на раку, і ўвесь час толькі тое і рабіла, што як цень хадзіла следам за намі і напамінала аб тым, што піянеры павінны быць дысцыплінаванымі і паказваць прыклад малодшым. Да ўсяго яшчэ наша важатая баялася вужоў і навальніцы і зусім не ўмела плаваць.

— Ёй толькі малых у дзіцячым садзе забаўляць,— бурчаў

Паўлік, калі важатая прапанавала нам якую-небудзь даўно знаёмую гульню.

І вось аднойчы ўвечары, калі да ад'езду з лагера заставаліся лічаныя дні, Паўлік адвёў мяне ўбок і сказаў:

— Слухай, Юрка, давай уцячом заўтра з лагера і хоць адзін дзень правядзём так, як нам захочацца. Возьмем лодку і паплывём па Дняпры далёка-далёка.

— Дык нас жа адразу пачнуць шукаць,— запярэчыў я.

— Ну і што з таго? Затое мы прычалім да якога-небудзь вострава і папагуляем уволю, а то з нашай важатай можна ашалець з нуды. Ну дык як, махнём? — запытаў Паўлік, нацэльваючы на мяне свой звадыяцкі позірк.

— Я і сам не ведаю...

— Не ведаю, не ведаю! — перадражніў мяне Паўлік.— Ну і сядзі тут, кісні, а з мяне хопіць.

Паўлік устаў, засунуў у кішэні рукі і, глянуўшы на мяне так, нібы перад ім была нейкая нікчэмная казяўка, сказаў:

— Ну што ж, пагавару з кім-небудзь другім, калі ты гэткі слімак.

— Сам ты слімак,— ускіпеў я.— Хіба я супраць? Толькі што мы будзем есці на тым востраве?

— Не бядуй. У мяне засталося яшчэ з паўкіло цукерак і дзве пачкі пячэння. Раніцай за снеданнем напіхаем за пазухі хлеба. Не памром. Партызаны ў вайну па некалькі дзён не елі, а ты спалохаўся.

Амаль да самага світанку мы з Паўлікам абмяркоўвалі план свайго падарожжа. А раніцай, добра паснедаўшы, пакінулі лагер і рушылі ў бок дома адпачынку, пры якім была лодачная станцыя. Падышоўшы да маленькага зялёнага доміка, над уваходам у які вісела шыльда з надпісам «Лодачная станцыя», мы спыніліся і пачалі старанна вытрасаць свае кішэні. Але колькі мы іх ні трэслі, усяго капіталу ў нас набралася толькі семдзесят чатыры капейкі. Аб тым, каб узяць лодку на цэлы дзень, не магло быць і гаворкі. Ды і стары, які загадваў усім на лодачнай станцыі, сказаў, што лодкі выда-

юцца толькі дарослым і ў заклад за іх трэба пакідаць які-небудзь дакумент.

Мы з Паўлікам былі ў адчаі. Нас клікаў Дняпро, залітыя сонцам прасторы абяцалі нам шмат нязведаных цудаў і радасцей, і раптам... Не, ніякая сіла не магла зараз прымусіць нас адмовіцца ад сваёй задумы. Прыпыніўшыся пад зялёным разложыстым клёнам, мы ліхаманкава шукалі выйсце.

— Эх, была не была! — усклікнуў раптам Паўлік.— Пайшлі да старога.

Ён схапіў мяне за руку і рашуча пакрочыў да зялёнага доміка.

— А, гэта зноў вы, жэўжыкі? — глянуўшы на нас з-пад калматых броваў, прамовіў стары.

— Дзядзечка, дайце нам лодку хоць на паўгадзінкі, мы толькі ля самага берага трошкі паплаваем,— умольна пазіраючы на старога, пачаў Паўлік.

— Ля самага берага, кажаш? — усміхнуўся лодачнік.

— От паглядзіце, ля самага берага! — паўтарыў Паўлік.

— Ну, калі так, то бярыце. Ды глядзіце, каб праз гадзіну лодка была на месцы,— злітаваўся нарэшце стары.— Бярыце вунь тую, крайнюю,— падаючы вёслы, сказаў ён.

Мы з Паўлікам ледзь не танцавалі ад радасці. Нас зараз зусім не турбавала ні тое, што будзе з намі, калі мы не вернем праз гадзіну лодку, ні тое, колькі клопату наробім мы людзям, знікшы з лагера.

— Поўны наперад! — скамандаваў Паўлік, як толькі мы ўзяліся за вёслы.

Нейкі час мы, як і абяцалі лодачніку, плылі паўз бераг, але як толькі зялёны домік лодачнай станцыі знік з вачэй, павярнулі на сярэдзіну ракі і рушылі ўніз па цячэнню.

Раскинулось море широко,
И волны бушуют вдали...
Товарищ, мы едем далеко,
Подальше от нашей земли,—

на ўвесь голас заспяваў Паўлік.

Я далучыўся да яго.

— З гэтай хвіліны мы з табой адважныя падарожнікі, якія выйшлі на сваім караблі ў акіян адкрываць новыя, дасюль не нанесеныя на карту, землі! — урачыста прамовіў Паўлік.

Аддаўшыся сваім лятункам, мы забыліся пра ўсё на свеце. Лодка наша, пагойдваючыся на хвалях, плыла ўсё далей і далей ад лагера. На душы ў нас было лёгка і весела.

— Зямля! Бачу зямлю! — пераможна абвясціў я, угледзеўшы на павароце ракі зялёны чубок невялікага вострава.

Паўлік, які ляжаў у лодцы, падставіўшы сонцу голыя плечы, ускочыў, схапіў вясло і рэзка павярнуў лодку да вострава.

— Кінуць якары! — загадаў ён, калі наш «карабель» уткнуўся носам у бераг.

Пакінуўшы лодку, мы пайшлі аглядаць востраў. Зарослы густой лазой і акружаны з усіх бакоў вадою, ён нам вельмі спадабаўся, і мы парашылі правесці на ім увесь гэты пагодлівы ліпеньскі дзянёк.

Перш-наперш мы ўзяліся рабіць будан. Траціць шмат часу на такую дробязь нам не хацелася, а таму, выбраўшы ўтульнае месцейка, мы наламалі тонкіх галінак, звязалі імі паміж сабой верхавінкі двух лазовых кустоў, і будан быў гатовы.

Пасля мы змайстравалі сабе лукі, стрэлы і, як сапраўдныя падарожнікі, рушылі ў глыб «джунгляў».

Мы то палявалі на «тыграў», то распачыналі крывавыя бai з «піратамі», то дапамагалі «індзейцам» змагацца з «белымі», якія хацелі захапіць іх у рабства.

Пасля мы гулялі ў вайну. Засеўшы на востраве, мы смалілі з гармат па гітлераўскіх караблях, якія стараліся прарвацца ў наш савецкі порт.

Захапіўшыся гульнёй, мы не заўважылі, як схавалася за воблакамі сонца, і апамяталіся толькі тады, калі над галавой загрукатаў гром. З захаду проста на наш востраў паўзла

вялікая чорная хмара, якую раз-пораз паласавалі вогненныя бічы маланак.

— Уцякайма ў будан! — закрычаў Паўлік, калі над нашымі галовамі з трэскам раскалолася неба і буйныя кроплі дажджу дружна залапаталі ў лісці дрэў і кустоў.

Выпярэджваючы адзін аднаго, мы кінуліся ў лазовы гушчар да нашай схованкі.

Навальніца з кожнай хвілінай убіралася ў сілу. Будан наш быў разлічаны на сонечнае надвор'е і ані не ратаваў ад дажджу, якому, здавалася, не будзе канца. Прытуліўшыся адзін да аднаго, мы пазіралі на зацягнутае хмарамі неба і на ўсе лады праклiналі навальніцу.

Толькі пад вечар неба нарэшце ачысцілася ад хмар і засвяціла сонейка.

— Ну, пайшлі, а то сонца зойдзе, тады ўпоцемку прыйдзецца дабірацца да лагера,— сказаў Паўлік, выціскаючы калашыны трусікаў.

— Давай пакупаемся перад дарогай,— прапанаваў я.— Пасля навальніцы вада, ведаеш, якая цёплая.

Мы з асалодай паплюхаліся ў цёплай, бы сырадой, вадзе і рушылі берагам да таго месца, дзе пакінулі лодку, у якой ляжаў наш правіянт і вопратка.

— Ой, Паўлік, а дзе ж лодка? — устрывожана ўсклікнуў я, убачыўшы здалёк сваю блакітную майку, якую мы павесілі замест сцяга на месцы стаянкі нашага «карабля».

Апынуўшыся ля старой алешыны, на якой матлялася мокрая майка, мы нейкі час стаялі моўчкі, не даючы веры сваім вачам.

— А можа, мы яе не тут пакінулі? — прамовіў нарэшце Паўлік.

— Ты што, аслеп? — раззлаваўся я.— Вось жа і майка вісіць. Тут яна была, ля гэтай крывой алешыны.

— Куды ж яна падзелася? На востраве, апрача нас, здаецца, нікога не было? А можа, яе вадой знесла? Ці...

— Якая нам розніца, куды яна падзелася,— ускіпеў я.—

Ты лепш скажы, што нам цяпер рабіць? Як выбрацца адсюль?

Нейкую хвіліну Паўлік моўчкі пазіраў за раку, а пасля спакойна, нібы нічога і не сталася, сказаў:

— Ну што ж, сядзем на беразе і будзем чакаць. Мо лодка ці катэр які сюдой паплыве.

Мы селі на вільготны ад дажджу пясок і прыціхлі. Настрой у нас быў канчаткова сапсаваны. У галаву лезлі невясёлыя і трывожныя думкі. У жываце папісквала ад голаду. А тут яшчэ накінуліся на нас камары. Здавалася, яны зляцеліся сюды з усяго вострава, каб высмактаць з нас усю кроў.

Насоўваўся змрок. Ад ракі падзьмула халадком. З адзежыны, апрача маек і трусікаў, у нас нічога не было. Усё засталося ў лодцы. Мы, як маглі, адбіваліся ад камароў, ляскалі зубамі ад холаду і дакаралі сябе за тое, што забыліся выцягнуць лодку на бераг і прывязаць яе да алешыны.

— Цяпер мы сапраўдныя рабінзоны,— пажартаваў Паўлік, пляскаючы з усёй сілы сябе па патыліцы.

«Яму яшчэ хаханькі ў галаве»,— злосна падумаў я, дрыжучы ад холаду.

Чым гусцейшым рабіўся змрок, тым больш безнадзейным здавалася мне наша становішча.

Я з жахам думаў аб тым, што нас чакае наперадзе, і з зайздрасцю пазіраў на вясёлыя агеньчыкі, якія загараліся ў дамах на тым баку Дняпра.

Відаць, не лягчэй на сэрцы было і ў Паўліка, бо ён прыціх і толькі час ад часу ўздыхаў.

— Што там зараз у лагеры робіцца. Важатая, мабыць, з ног збілася, нас шукаючы. Ну і ўсыплюць жа нам, як вернемся,— скоса зірнуў я на Паўліка.

— Ды не ный ты, і без цябе моташна,— адмахнуўся ён.

— І навошта толькі я цябе паслухаў. Цяпер сораму і непрыемнасцей не абярэшся.

— Спалохаўся? — падхапіўся Паўлік.— Паплач, мо палягчэе крыху.

— Глядзі, каб самому яшчэ не давялося плакаць. Рабінзон! — падкалоў я Паўліка.

Сварку, як гэта звычайна бывае, варта толькі пачаць, а тады ўжо яе не спыніш. Яна раскручваецца, нібы той клубок, калі яго пацягнеш за нітку. Мы пачалі прыпамінаць адзін аднаму даўно забытыя крыўды, абвінавачваць адзін аднаго ў бядзе, якая напаткала нас. Невядома, чым бы ўсё нарэшце скончылася, калі б раптам не пачулася вуркатанне катэра, які паказаўся з-за павароткі ракі. Забыўшыся на сварку, мы як па камандзе на ўсё горла пачалі клікаць на дапамогу. І нас пачулі: катэр рэзка павярнуў да вострава, асвятляючы сваім зіркастым вогненным вокам бераг, на якім, нібы звар'яцеўшы ад радасці, скакалі я і Паўлік.

Першым, каго мы ўгледзелі, апынуўшыся на катэры, была наша важатая.

— Знайшліся! Жывыя! Здаровыя! — выціраючы далонню слёзы і смеючыся, прыгаворвала яна, абнімаючы то мяне, то Паўліка.

— Мы вас з самага абеду шукаем. Добра яшчэ, што на старога з лодачнай станцыі натрапілі, у якога вы лодку ўзялі,— хмурачы бровы, гаварыў начальнік лагера Андрэй Пятровіч.— А што, дарэчы, з вашай лодкай?

Збіваючыся і папраўляючы адзін аднаго, мы пачалі былі расказваць яму пра нашу сумную прыгоду.

— Прыехалі,— перапыніў нас раптам Андрэй Пятровіч.— Заўтра вы раскажаце пра ўсё на піянерскай лінейцы. А зараз — мыцца, вячэраць і спаць! — строга загадаў ён і, звяртаючыся да важатай, ужо больш лагодна дадаў: — Глядзіце, каб гэтыя рабінзоны зноў не надумалі ад вас уцячы.

А раніцай, на піянерскай лінейцы... Ды што пра гэта расказваць? Вы, напэўна, і самі здагадваецеся, як дасталося нам за наша самавольства. Добра яшчэ, што лодка знайшлася,— яе раніцай прыгналі на лодачную станцыю рыбакі з суседняй рыбалавецкай арцелі,— а то за яе нашым бацькам давялося б разлічвацца.

# ЯК МЫ СВАЮ КАМАНДУ ВЫРУЧАЛІ

У час летніх канікул мы з Юркам паехалі адпачываць у спартыўны піянерскі лагер. Ну, вы самі разумееце, у спартыўным лагеры сабраліся тыя, хто захапляецца спортам. Лагер наш неўзабаве быў падзелены на дзве каманды: каманду «зуброў» і каманду «ласёў».

Мы з Юркам трапілі ў каманду «ласёў» і пачалі разам з усімі «ласямі» змагацца за першынство ў спаборніцтвах. І трэба вам сказаць, што змагаліся нядрэнна. Па шахматах, напрыклад, выйшлі на першае месца, па валейболу — таксама, спаборніцтвы па тэнісу закончылі з нічыйным лікам. Адным словам, мы адчувалі сябе героямі, пакуль не былі абвешчаны спаборніцтвы па футболу. З футболам справа ў нас не ладзілася. І ўсё праз Віцьку Навіцкага — варатара каманды «зуброў». Колькі мы ні гулялі з «зубрамі», ён ніколі ніводнага нашага мяча ў свае вароты не прапусціў.

Праўда, у нашым атрадзе таксама быў неблагі варатар, але да Віцькі Навіцкага яму далёка. Адным словам, у нас не было ніякай надзеі на тое, што мы выйграем сустрэчу па футболу. І чым бліжэй была гэта сустрэча, тым больш мы непакоіліся.

— А што, калі я пагавару з Віцькам? Ён збірае маркі. У мяне ёсць дзве вельмі рэдкія маркі. Віцька даўно ходзіць за мной і просіць памяняцца. А я аддам яму проста так, без абмену, пры ўмове, што заўтра ён прапусціць у свае вароты наш мяч,— прамовіў Юрка, абводзячы нас пытальным позіркам.

— Не, Віцька ніколі на гэта не пойдзе. Я добра ведаю яго,— уздыхнуў Толік Шпілеўскі.— Ён жа камандзір «зуброў». А які камандзір згодзіцца падвесці сваю каманду? Гэта ж... Гэта ж, калі ты хочаш ведаць, самая сапраўдная здрада. Не, трэба прыдумаць нешта іншае.

— Давайце накормім яго марожаным,— пасля некаторага маўчання падаў новую прапанову Юрка.— Я як толькі з'ем лішнюю порцыю марожанага, адразу пачынаю хварэць ангінай. А Віцька таксама ангіны баіцца.

— Марожанае, марожанае! — перадражніў Юрку Вадзік Высоцкі.— Ну падумай толькі, дзе ты возьмеш у лесе тое марожанае?

— І праўда,— згадзіўся Юрка і, ссунуўшы свае выгаралыя на сонцы бровы, задумаўся.

— Прыдумаў! Прыдумаў! — усклікнуў ён раптам.

— Што прыдумаў? — ухапіўшы Юрку за штаніну, закрычаў я.— Кажы хутчэй, не цягні!

Юрка падсеў да нас, акінуў усіх змоўніцкім позіркам і таямніча зашаптаў:

— Заўтра Віцька не будзе стаяць у варотах «зуброў».

— Як гэта — не будзе? — падазрона зірнуўшы на Юрку, запытаў Толік.

— Вельмі проста,— усміхнуўся Юрка.— Вы ж ведаеце, які ён заўзяты грыбнік. Дзеля аднаго баравіка гатоў цэлы дзень лазіць па лесе. Дык вось я скажу яму, што ведаю адно месцейка, дзе баравікоў тых, хоць возам вазі. Віцька, вядома, пачне прасіць, каб я паказаў яму тое запаветнае месца. Я спачатку буду аднеквацца, цягнуць, а калі ён разгарачыцца, скажу:

«Ну што ж, бяры ладны мех. Заўтра пасля абеду пойдзем на маю грыбную плантацыю. Толькі глядзі, нікому не кажы, куды ідзеш. За якія паўтары-дзве гадзіны мы вернемся ў лагер з поўным мехам адборных баравікоў...» У лесе Віцька слаба арыентуецца. Я завяду яго далей ад лагера, а пасля скажу, што збіўся з дарогі, і пачну блукаць з ім па лесе. Паваджу

яго, а як сцямнее, прывяду ў лагер. Футбольны матч будзе ўжо скончаны і «зубры» пабіты.

Мы слухалі Юрку, затаіўшы дыханне. Задума яго ўсім нам вельмі спадабалася.

— Я таксама пайду з вамі. Утрох будзе весялей і больш надзейна,— сказаў я, калі прапанова Юркі была канчаткова абмеркавана і прынята.

Назаўтра пасля абеду я, Юрка і Віцька цішком пакінулі лагер і накіраваліся ў лес. Бесклапотна мармычучы сабе пад нос песню пра адважнага капітана, які аб'ездзіў шмат розных краін, Юрка наўмысна, каб збіць з панталыку Віцьку, пятляў ляснымі сцяжынкамі, прадзіраўся праз гушчар, адыходзячы ўсё далей ад лагера.

— Юрка, а ты часам не заблудзішся? — устрывожана запытаў Віцька, калі пачалі спускацца па сцежцы ў глыбокі, зарослы алешнікам яр.

— Я? — усміхнуўся Юрка.— Ды я табе з любога лесу дарогу дадому знайду. Я сакрэт такі ведаю.

— Ну, глядзі. У пяць гадзін пачнецца сустрэча па футболу. Не пазней як у чатыры гадзіны я павінен быць у лагеры,— папярэдзіў Юрку Віцька.

— Усё будзе ў парадку,— запэўніў Юрка, і мы, выбраўшыся з яру, пайшлі далей.

— Юрка, а ты ведаеш, у якім баку наш лагер? — праз колькі часу спытаў я шэптам.

— А ліха яго ведае. Ды гэта зараз мяне не цікавіць. Галоўнае — не выпускаць з рук Віцьку. Хай за яго пастаіць сёння ў варотах Сашка Качан. З ім нашы «ласі» дадуць сабе рады.

— Дзе ж твая баравіковая плантацыя? Ідзём ужо амаль гадзіну, а яе ўсё няма,— пачаў непакоіцца Віцька.

— Ужо недалёка,— супакоіў Юрка.— Праз якія мінут дваццаць будзем на месцы.

Але мінула яшчэ з паўгадзіны, а абяцаных грыбоў не было і блізка.

— Вы сабе як хочаце, а я мушу вяртацца ў лагер,— не вытрымаў нарэшце Віцька.— Не магу я падводзіць сваю каманду. Кажы, кудой тут бліжэй да лагера? — спытаў ён у Юркі.

— Каб жа я ведаў сам, дзе той лагер,— заклапочана прамовіў Юрка.— Відаць, сёння я перагрэўся на сонцы і галава мая зусім не варыць. Нічога не памятаю, у галаве ўсё кругам ідзе. Заблудзіўся я, хлопцы,— сказаў Юрка і апусціўся на аброслы мохам пень.

— Заблудзіўся?! — прастагнаў Віцька.— Абяцаў цэлы мех адборных баравікоў, а цяпер — заблудзіўся. Алесь, можа, ты ведаеш, як нам з гэтага лесу выбрацца? — звярнуўся ён да мяне.

— Не, не ведаю...— шчыра прызнаўся я.— Я спадзяваўся на Юрку.

— Што ж цяпер нам рабіць? — ледзь не плакаў Віцька.— Што падумаюць пра мяне мае сябры па камандзе?

— Падумаюць, падумаюць! — злосна перадражніў Юрка Віцьку.— Ты лепш скажы, куды нам ад навальніцы схавацца. Бачыш, якая чорная хмара сунецца,— задраўшы ўгору галаву, спалохана прамовіў Юрка.

Нібы ў адказ на яго словы, над лесам успыхнула яркая маланка, а следам за ёю грымнуў гром. У лесе зрабілася адразу змрочна, ціха. Усё стаілася ў чаканні нечага незвычайнага. А неўзабаве сыпануў дождж. Спачатку рэдкія буйныя кроплі яго залапаталі ў лісці дрэў і кустоў, а пасля з неба на зямлю лінулі струмені вады, ад якіх не было дзе схавацца. Прытуліўшыся адзін да аднаго, мы ціхком сядзелі пад старой разложыстай елкай і чакалі канца навальніцы. А яна ўсё не сунімалася, нібы ёй не было ніякай справы да таго, што на дварэ ўжо вечар, што мы пачынаем «прадаваць дрыжыкі», а жываты нашы даўно просяць есці. Але ўсякаму ліху бывае канец. Навальніца нарэшце пачала сціхаць. Мы выбраліся з-пад сваёй яліны і сталі раіцца, што рабіць далей, як шукаць дарогу ў лагер.

— Трэба знайсці паляну і раскласці вялікі касцёр, каб яго заўважылі з лагера,— параіў Віцька.

— А дзе ўзяць запалкі? — пачуўся голас Юркі.

— А што, каб узлезці на гэтую яліну? З яе вяршаліны далёка відаць,— заўважыў я.

— Лезь,— абыякава сказаў Юрка.— Я не верхалаз, і вочы ў мяне не каціныя, каб поцемкам па дрэвах лазіць.

— Хлопцы, цішэй, здаецца, нас нехта гукае! — узрадавана ўсклікнуў Віцька.

Мы сцішыліся. І сапраўды, не мінула і хвіліны, як недзе спераду пачуўся голас нашай важатай.

— Юра! Алесь! — клікала яна.

— Ірына Паўлаўна! — склаўшы рупарам далоні, хорам пачалі крычаць мы.

Неўзабаве сярод дрэў замільгалі агеньчыкі кішэнных ліхтарыкаў. Гэта наша важатая з атрадам хлопчыкаў шукала нас.

— Ура! — закрычалі мы, кідаючыся насустрач агеньчыкам.

Самае смешнае было тое, што мы заблудзіліся ўсяго за тры кіламетры ад лагера і ўвесь час кружылі вакол яго.

— Чыя каманда выйграла матч? — ледзь апамятаўшыся ад радасці, запытаў Юрка ў важатай.

— Які матч? З-за навальніцы і адсутнасці варатара каманды «зуброў» сустрэча па футболу адкладзена на заўтра,— сказала важатая.

Мы з Юркам пераглянуліся, цяжка ўздыхнулі і разам з усімі накіраваліся ў лагер.

# ДАНІЛКАЎ БУНТ

«Цікава, адкуль гэта ўзялася ў клеці ласіная шкура?» — думае Данілка. Ён сядзіць пад павеццю на шырокай дубовай калодзе. Паміж палінялымі ад сонца бровамі пралегла глыбокая маршчынка, сінія вочы хлопчыка прыжмураны. Так бывае заўсёды, калі Данілка чым-небудзь моцна заклапочаны.

«А можа, бацька знайшоў гэтую шкуру ў лесе ці адабраў у якога браканьера? Дык чаму ён не расказаў тады пра гэта Данілку? Ён жа ведае, што Данілка — першы памочнік лесніка дзядзькі Яўхіма. А што, калі бацька сам? Не, не!» — Данілка адганяе ад сябе гэтую думку. Ён любіць свайго бацьку і не хоча думаць аб ім дрэнна. Бацька — лепшы трактарыст у калгасе, яго паважаюць людзі. Ён вясёлы, дужы, смелы. І як толькі Данілка мог падумаць такое пра свайго бацьку? Але адкуль жа ўзялася ў клеці ласіная шкура?

Трывожна на душы ў Данілкі. Не радуе яго, што на дварэ так весела свеціць сонца, што ў буслíхі на старой высокай таполі з'явіліся маленькія бусляняты, што сёння ўвечары яны з Андрэйкам, лесніковым унукам, збіраюцца пайсці на рыбалку. Не дае яму спакою гэтая схаваная ў клеці ласіная шкура.

— Ты чаго гэта сёння такі надзьмуты, сынок? Мо з Андрэйкам чаго не падзялілі? — пытае маці.— Такі харошы дзянёк, а ты сядзіш тут ды кіснеш.

Дзянёк і сапраўды харошы. Толькі для Данілкі ён пачаўся нявесела.

— Не кісну я, мама, а думаю,— кажа Данілка.

— Аб чым жа гэта ты так моцна думаеш, сынок? Якую загадку разгадаць хочаш? — усміхаецца маці.

Данілка ўзнімае сінія вочы і гаворыць:

— Хачу разгадаць, адкуль у нашай клеці ласіная шкура ўзялася? Хто яе там схаваў?

Маці спалохана азіраецца, падступае бліжэй да сына і сярдзіта шэпча:

— Ціха ты, дурніца! Пачуе хто, дык і сораму і бяды не абярэшся праз гэтую шкуру. Ты ж ведаеш, чым гэта пахне.

— Дык гэта бацька забіў лася? — пытае Данілка і адчувае, як грудзям яго раптам не стае паветра.— Няўжо бацька? — пытае ён ледзь чутна, і ў пытанні гэтым такая роспач, такая крыўда.

— Ён незнарок,— гаворыць маці.— Ён не хацеў, не збіраўся нават...

Але Данілка ўжо не чуе яе слоў. Уся яго істота паўстае супраць такога ўчынку.

А вось і бацька. Ён заходзіць на двор, весела ўсміхаецца і, як звычайна, яшчэ здалёк вітае сына:

— Салют! Што новага, лясны гаспадар?

Але Данілку сёння не да жартаў, не да ўсмешак. Ён спадылба пазірае на бацьку, а калі той, здзіўлены нязвыклымі паводзінамі сына, падыходзіць да яго і хоча ўзяць за чуб, каб зазірнуць у вочы, хлопчык адводзіць яго руку і пытае:

— Скажы, навошта ты лася забіў?

— Якога лася?

— А таго, чыя шкура ў нашай клеці схавана? — глуха гаворыць Данілка.

Бацька нейкую хвіліну маўчыць, хмурыцца, а пасля, нібы апраўдваючыся, гаворыць:

— Яна ж у балота ўскочыла, нагу зламала. Калі б не прыстрэліў, дык яе б багна засмактала або ваўкі разарвалі.

— А хіба нагу нельга было вылечыць?

Голас Данілкі задрыжаў, пырснулі слёзы.

— Ну годзе, сынок. Не падумаў бацька, пагарачыўся. Пашкадаваў, што жывёліна мучыцца будзе. Не трэба крыўдаваць на яго,— ласкава абнімаючы сына за плечы, прамовіла маці.— Пайшлі абедаць.

Данілка ўстаў з калоды, скоса зірнуў на бацьку і падаўся ў хату.

Яшчэ ніколі за сталом у іх не было так ціха, як сёння. Бацька сядзіць нахмураны. Данілка маўчыць і глядзіць паўз яго некуды ў кут.

«Вось яна, тая ласіха»,— думае Данілка, калі маці стаўляе на стол вялікую патэльню смажанага мяса. Ён адсоўвае ўбок талерку, на якую маці збіраецца пакласці падрумянены кавалак, і нейкім чужым голасам гаворыць:

— Я не буду есці гэтага мяса, мама. Дай мне кубак малака з бульбай.

— А не дуры, хлопец! — злосна крычыць бацька.— Бач ты яго. Ён яшчэ бунтаваць будзе. Еш, кажу, а не то — папружку зніму!

Але Данілку чамусьці ані не боязна. Ён скоса пазірае на бацьку і не дакранаецца да ежы.

Невядома, чым бы скончылася гэтая сутычка, каб за акном не пачуўся голас Андрэйкі. Задыхаўшыся ад хуткага бегу, ён вісне на падаконніку і пачынае сыпаць, нібы гарохам:

— Данілка, бяжым хутчэй да нас! Дзядуля з лесу малое ласянятка прынёс. Знайшоў яго ля балота. А якое прыгожанькае, каб ты бачыў. Відаць, ад маткі адбілася. Мы з табой яго гадаваць будзем.

Пачуўшы гэта, Данілка выскаквае з-за стала і бяжыць з хаты.

— Данілка, зараз жа вярніся назад! — гукае ўслед яму бацька.

Але Данілка ўжо нічога не чуе. Разганяючы перапалоханых курэй і пакідаючы за сабой шызае воблака пылу, ён з усіх ног імчыцца ў другі канец вёскі, дзе на ўзлессі стаіць

леснікова хата. Следам, ледзь паспяваючы за ім, бяжыць яго верны сябар Андрэйка.

Бразнуўшы веснічкамі, хлопчыкі ўскочылі ў двор. У сенцах яны ўбачылі дзеда Яўхіма. Ён сядзеў ля маленькага танканогага ласяняці і торкаў яму ў рот соску, надзетую на бутэльку з малаком.

— Ну бяры, бяры, дурненькае,— пяшчотна прыгаворваў дзед Яўхім.

Ласянятка спалохана пазірала на яго вялікімі бліскучымі вачыма і ніяк не хацела смактаць соску. Тады дзед Яўхім злаўчыўся і пырснуў на ружовы язычок крыху малака. Адчуўшы яго смак, ласянятка ўхапілася за соску мяккімі аксамітнымі губамі і пачало так прагна смактаць, што глядзець было люба.

— Ну вось і добра, вось і малайчына,— прыгаворваў дзед Яўхім.— От каб нам злавіць таго паганца, які загубіў тваю маці, мы б з яго самога скуру злупілі,— злосна сказаў ляснік.

— Мы з Данілкам яго абавязкова падпільнуем, дзеду,— паабяцаў Андрэйка.

— А мо ён незнарок? — глуха прамовіў Данілка.

— Як гэта незнарок? — абурыўся ляснік.— Мяса ласінага, гад, захацеў. А тое, што малое асіраціў, красу лесу загубіў, яму і гора мала.

Цяжка было на сэрцы ў Данілкі, калі ён увечары вяртаўся дадому. Ён чамусьці адчуваў сябе зусім маленькім і асіроцелым, як тое кволае ласянятка. Бацька, з якім ён так добра сябраваў, з якім заўсёды яму было так цікава і весела, стаў раптам нейкім чужым, і Данілку не хацелася з ім сустракацца.

Апынуўшыся ля свайго двара і пачуўшы голас бацькі, Данілка стаіўся пад старой высокай таполяй, што расла ля веснічак. Сэрца яго трапятала, як злоўлены ў сіло птах. Са сваёй схованкі ён добра бачыў усё, што рабілася на двары. Вось бацька, зняўшы спяцоўку, пайшоў мыцца, вось ён аб нечым гаворыць у сенцах з маці, вось выйшаў на ганак і, кінуў-

шы акурак, адразу закурыў другую папяросу, пасля трэцюю... Данілку здаецца, што бацькавы шырокія плечы неяк паніклі, абвялі, што ўвесь ён сёння не такі дужы і статны, якім прывык яго бачыць штодзень. Данілку робіцца раптам не па сабе, і хоць ён моцна крыўдуе на бацьку, яму становіцца шкада яго.

Час вячэраць. На ганак выходзіць маці.

— Дзе ж ён дагэтуль бегае, не еўшы? — пытае бацька, і ў голасе яго чутна трывога.

— Данілка! — кліча маці.— Данілка-а!

— Пайду хіба да дзеда Яўхіма,— кажа бацька.— Можа, ён там з ласянём забаўляецца.

— Нідзе не дзенецца, есці захоча — прыбяжыць,— бурчыць маці.

— Перажывае хлопец, крыўдуе на мяне за ласіху,— нейкім не сваім, ахрыплым голасам гаворыць бацька.— Мо адзін дзе туляецца папацёмку, дадому ісці не хоча.

Не, гэтага ўжо вытрымаць Данілка не можа! Ён пакідае сваю схованку, адчыняе веснічкі і ідзе насустрач бацьку, які выбраўся на яго пошукі.

— Данілка, сынок! — радасна ўскліквае бацька і, абхапіўшы яго сваімі дужымі рукамі, прыгортвае да сябе. Пад вухам Данілкі ўсхвалявана стукае бацькава сэрца і, захлынаючыся ад слёз, хлопчык горача шэпча:

— Татка, ты ніколі больш не будзеш крыўдзіць лясных жыхароў? Праўда, татка?

— Ніколі, сынок, ніколі!

Голас бацькі гучыць цвёрда, як клятва, і ў Данілкі на сэрцы адразу робіцца лягчэй.

— Ну, збірай, маці, вячэру, мы з сынам сёння галодныя, як ваўкі ў піліпаўку,— кажа бацька.

— Вячэра ўжо даўно на стале. Толькі вось мяса з печы дастану,— ідучы ў хату, гаворыць маці.

— Ніякага нам мяса не трэба! Нясмачнае яно,— падміргвае Данілку бацька.

Павячэраўшы, Данілка з бацькам выходзяць на ганак і садзяцца побач на высокіх прыступках. Нейкую хвіліну яны маўчаць, угладаючыся ў чарнату ночы, услухоўваючыся ў яе насцярожаную цішыню. Данілка назірае, як то ўспыхвае, то нікне ў цемры агеньчык бацькавай папяросы, і туліцца бліжэй да цёплага дужага пляча.

— За ласіху з табой разлічуся,— нібы дадумваючы ўголас сваю думку, гаворыць бацька.— Каля Чорнага балота высачыў ваўчыху з ваўчанятамі. Воўчае логава знішчу — тваіх лясных жыхароў ад пагібелі выратую. А за ласіху — даруй. З кім не здараецца, сынок? Памыліцца кожны можа. Важна толькі, каб ты сваю памылку выправіў, каб яна на тваім сумленні каменем не ляжала. А за тое, што ты вайной на мяне пайшоў, што зла не цэрпіш,— хвалю. Зла нікому нельга спускаць, сынок. Нікому!

# ТРЫЦЦАЦЬ ШЭСЦЬ ГВАЗДЗІК

Вестка пра тое, што Ганна Паўлаўна больш не будзе працаваць у нашай школе, была для нас нечаканай. Асабліва цяжка было пагадзіцца з гэтай навіной нам, вучням сёмага «Б». Амаль тры гады Ганна Паўлаўна была нашым класным кіраўніком і вясёлым завадатарам. Разам з ёю мы бегалі на каньках і лыжах, гулялі ў валейбол, хадзілі ў паходы.

— Цікава, каго нам прышлюць замест Ганны Паўлаўны? — сказала Люба Саковіч.

— А якая розніца, каго? — адазваўся Казік Ракітніцкі.— Няўжо ты думаеш, што нехта іншы можа замяніць нам Ганну Паўлаўну?

— Другой такой настаўніцы няма і не будзе! — усклікнуў Уладзік Касцюшка.

І вось нарэшце надышоў дзень, якога з такой трывогай і нецярплівасцю чакаў сёмы «Б». Празвінеў званок на ўрок гісторыі, і ўсе трыццаць шэсць вучняў застылі на сваіх месцах.

— Ідзе! — адскочыўшы ад дзвярэй, усклікнуў Казік Ракітніцкі.

Дзверы адчыніліся, і, прапускаючы перад сабой сівую хударлявую жанчыну ў строгай цёмнай сукенцы, увайшоў дырэктар. Мы шумна ўзняліся са сваіх месц, адказалі на прывітанне Мікалая Антонавіча і нацэлілі свае насцярожаныя позіркі на новую настаўніцу.

Як жа яна была непадобна да нашай Ганны Паўлаўны! Тая была маладая, прыгожая, зграбная. А гэта маленькая, хударлявая і амаль зусім сівая. На правай шчацэ чырванеў глыбокі шрам.

— І адкуль толькі яе выкапалі на нашу галаву? — прашаптаў, нахіліўшыся да мяне, Уладзік.

— Знаёмцеся, сябры. Гэта ваша новая настаўніца гісторыі і класны кіраўнік Юлія Міхайлаўна Лазоўская. Прашу не засмучаць яе і сябраваць з ёю так, як вы сябравалі з Ганнай Паўлаўнай. А цяпер сядайце,— сказаў Мікалай Антонавіч і, акінуўшы нас доўгім строгім позіркам, выйшаў з класа.

Як толькі за дырэктарам зачыніліся дзверы і ў класе ўсталявалася цішыня, Юлія Міхайлаўна абвяла нас уважлівым позіркам і сказала:

— Ну што ж, давайце знаёміцца і працаваць.

Аказалася, што гісторыю Юлія Міхайлаўна выкладае не горш за Ганну Паўлаўну, а нават лепш, бо тыя ці іншыя гістарычныя падзеі Юлія Міхайлаўна ілюстравала ўрыўкамі з мастацкіх твораў і вершаў, якія чытала цудоўна.

Аднак сімпатыі нашы па-ранейшаму былі на баку Ганны Паўлаўны, разлуку з якой мы перажывалі вельмі балюча і не таіліся з гэтым ад нашай новай настаўніцы. І чаго граха таіць, былі сярод нас і такія, якія не саромеліся крадком рабіць ёй розныя прыкрасці. Але Юлія Міхайлаўна, здавалася, не заўважала іх. Яна ніколі не крычала на нас, не жалілася ні бацькам, ні дырэктару, калі паводзіны таго ці іншага вучня выходзілі за межы школьнага этыкету. Яна чакала і нібы ведала, што гэтыя нашы адносіны да яе з'ява часовая. Што рана ці позна яна заваюе нашу сімпатыю, нашу да яе прыхільнасць. І трэба прызнацца, што гэта яе цярплівасць і гэта чаканне пастунова рабілі сваю добрую справу.

Аднойчы да нас зайшоў дырэктар школы і сказаў:

— Сёння ўвечары раю вам паглядзець тэлеперадачу, прысвечаную героям-партызанам. Магчыма, сярод іх вы ўбачыце каго-небудзь з вашых знаёмых.

Хто з нас мог адмовіцца паглядзець такую перадачу?

— Хлопцы, прыходзьце ўвечары да мяне, будзем разам глядзець,— сказаў Казік.— У нашага тэлевізара во які экран,— развёўшы шырока рукі, пахваліўся ён.

Увечары я, Уладзік Касцюшка і Казік яшчэ за паўгадзіны да пачатку перадачы сядзелі ля тэлевізара.

— «Слова аб подзвігу» — так называецца наша чарговая тэлеперадача,— абвясціў дыктар, і мы замерлі ў чаканні.

За вялікім круглым сталом, які праз хвіліну ўзнік на экране тэлевізара, мы ўбачылі людзей, грудзі якіх былі ўпрыгожаны баявымі ордэнамі, медалямі і зоркамі герояў.

— Хлопцы, глядзіце, Юлія Міхайлаўна! — усклікнуў раптам Казік.

І сапраўды, у самым цэнтры стала, побач з сівавалосым плячыстым палкоўнікам сядзела наша новая настаўніца. На грудзях яе ззялі Залатая Зорка Героя, ордэны Леніна, баявога Чырвонага Сцяга і некалькі медалёў. Мы аслупянелі ад нечаканасці і здзіўлення.

— Пра адважную партызанскую разведчыцу Юлію Міхайлаўну Лазоўскую раскажа Герой Савецкага Саюза палкоўнік Іван Паўлавіч Рудкоўскі,— паведаміў дыктар.

— Юлія Міхайлаўна — мая першая настаўніца і баявы таварыш,— пачаў палкоўнік.— Яна прыехала да нас у вёску пасля таго, як Заходняя Беларусь увайшла ў склад нашай рэспублікі. Прыехала, каб арганізаваць школу і вучыць нас грамаце. Тады яна была яшчэ зусім маладзенькая, крыху старэйшая за некаторых сваіх першакласнікаў. Мне, напрыклад, у тую пару ішоў ужо шаснаццаты год.

Школа наша размясцілася ў двух вялікіх пакоях былога панскага палаца, які стаяў на высокім крутым беразе Нёмана, воддаль ад вёскі. Сюды ішлі вучыцца не толькі малыя. Вельмі часта побач з сямігадовай дзяўчынкай або хлопчыкам можна было ўбачыць рослага юнака, які старанна выводзіў у сшытку сваімі нязвыклымі да гэткай далікатнай работы пальцамі першыя палачкі і кручочкі.

Аднак вучыцца нам давялося нядоўга. Пачалася вайна. Неўзабаве наша вёска была захоплена гітлераўцамі, а ў панскім маёнтку, у нашай школе, размясціліся нямецкі гарнізон і камендатура на чале з афіцэрам, сынам нашага былога па-

на. Чырвоны сцяг, які яшчэ зусім нядаўна палымнеў над школай і радаваў вочы і сэрцы людзей, быў сарваны. Яго месца заняў варожы сцяг з чорнай злавеснай свастыкай. Для народа нашага настаў час жудасных выпрабаванняў і жорсткай барацьбы з акупантамі.

Мінула трывожная восень, следам за ёю — і галодная, поўная пакут зіма, і ў наш паднявольны зняважаны ворагам край завітала вясна: з бурлівымі ручаямі, са срэбнай песняй жаваранка, з пралескамі.

— Няўжо і заўтра над нашай школай будзе вісець гэты паганы сцяг? — гнеўна прамовіў нехта з хлопцаў, калі мы вярталіся ўвечары, напярэдадні Першага мая з лесу, са сваёй падпольнай камсамольскай сходкі, якую праводзіла наша маладзенькая настаўніца — камсамолка Юлія Міхайлаўна Лазоўская.

— Не будзе! — рашуча сказаў Міхась Панасюк.— Не будзе!..

Мы нічога не адказалі Міхасю, але па тону, якім было сказана гэта «не будзе», адчулі, што жартаваць ён не збіраецца...

Урачыстую цішыню першамайскай раніцы абарвалі стрэлы і злосныя воклічы гітлераўцаў. Вакол панскага палаца сноўдалі фашысты і іх памагатыя — паліцаі. Збялелы афіцэр сядзеў на сваім буланым кані і, размахваючы бізуном, падаваў ім нейкую каманду. А над нашай школай на месцы варожага сцяга са свастыкай горда і весела палымнела пад сонцам вялікае чырвонае палотнішча.

Апоўдні насельніцтву вёскі — і старым і малым — загадана было з'явіцца на панскі двор. Гітлераўцы акружылі людзей і нацэлілі на іх свае аўтаматы.

— Я лічу да трох, і калі вы не скажаце, хто асмеліўся зняважыць сцяг вялікага фюрэра і на яго месцы павесіць гэты чырвоны, усе, як адзін, будзеце расстраляны,— звяртаючыся да натоўпу на ламанай рускай мове, абвясціў афіцэр.— Я пачынаю,— пазіраючы на гадзіннік, дадаў ён і пачаў павольна лічыць.

Загаласілі жанчыны, заплакалі дзеці.

І раптам, калі фашыст гатоў быў сказаць «драй», з натоўпу выйшла наша маладзенькая настаўніца і, узняўшы на афіцэра свае вялікія вочы, сказала:

— Гэта зрабіла я.

У першы момант афіцэр аслупянеў ад здзіўлення, але тут жа апамятаўся і з усяго размаху выцяў яе па твары бізуном, след ад якога застаўся на ўсё жыццё.

Я агледзеўся і пашукаў вачамі Міхася Панасюка. Яго ў натоўпе не было. Відаць, пасля начной аперацыі яму ўдалося ўцячы да партызан.

Людзям загадана было разысціся па хатах, а збітую да паўсмерці дзяўчыну, нашу любімую настаўніцу, павялі ў камендатуру. І хто ведае, што зрабілі б з дзяўчынай азвярэлыя фашысты, каб той ноччу партызаны не выратавалі яе.

Усю вайну Юлія Міхайлаўна была разведчыцай у нашым партызанскім атрадзе. Пра выключную кемлівасць і мужнасць маладой разведчыцы складалі легенды. Ну, а пасля вайны Юлія Міхайлаўна зноў вярнулася да сваёй любімай прафесіі. І вось ужо дваццаць пяць год працуе настаўніцай. Заўтра ваш дзень нараджэння, Юлія Міхайлаўна. Я віншую вас і дару вам гэтыя тры гваздзікі,— сказаў палкоўнік і пацалаваў руку нашай настаўніцы.

— А мы падорым ёй у дзень нараджэння трыццаць шэсць гваздзік! — усклікнуў весела Казік.— Ад кожнага вучня па кветцы. Здорава, праўда?

На другі дзень у нашай школе толькі і гаворкі было, што пра Юлію Міхайлаўну. А на нас, вучняў сёмага «Б», глядзелі, як на імяніннікаў, і не без зайздрасці казалі:

— Ну і пашанцавала вам! Класны кіраўнік — Герой Савецкага Саюза!

Назаўтра, як толькі празвінеў званок на ўрок гісторыі і Юлія Міхайлаўна ўвайшла ў клас, мы павіншавалі яе з днём нараджэння і падарылі ёй трыццаць шэсць чырвоных гваздзік — ад кожнага па кветцы.

# КАЛІ ПОБАЧ СЯБРЫ

У старшыні атрада шостага «Б» Міхася Залуцкага клопатаў — не пералічыць. Да канца чвэрці застаецца ўсяго якіх два тыдні, а ва Уладзіка Адамчыка аніякіх зрухаў у вучобе. Ён па-ранейшаму прапускае заняткі, вучыцца дрэнна, супраць яго прозвішча ў класным журнале стаяць амаль адны тройкі ды двойкі. У класе ён трымаецца асобна, ні з кім не сябруе, а калі яго пачынаюць ушчуваць за чарговую двойку і прапануюць дапамогу, адмаўляецца або ўцякае. Вось і ўчора ён зноў схапіў двойку па матэматыцы.

«І адкуль толькі зваліўся на нашу галаву гэты абібок?» — заклапочана думае Міхась, цярэбячы свой выгаралы чуб.

А тут яшчэ, як на тую бяду, Вера Мікалаеўна захварэла, а без класнага кіраўніка Міхасю і зусім цяжка. Вера Мікалаеўна параіла б што-небудзь, падказала. Праўда, ёсць у школе піянерважаты, але ж у яго і без шостага «Б» клопату хапае. «Трэба сёння ж выклікаць Адамчыка на савет атрада і прымаць у адносінах да яго нейкія тэрміновыя меры!» — рашыў Міхась, адклаўшы ўбок кніжку пра адважнага салдата Швейка.

Неўзабаве савет атрада шостага «Б» у поўным складзе быў ужо ў альтанцы на Міхасёвым двары. Толькі Уладзік на пасяджэнне не з'явіўся.

— Каб не гэты Уладзік, мы былі б ужо даўно на першым месцы ў школе! — уздыхнула Оля Заяц, калі гутарка зайшла аб паспяховасці.

— Давайце напішам усім класам заяву дырэктару, каб яго перавялі ў іншы клас,— абводзячы сяброў сур'ёзным позіркам, рашуча сказаў Толік Кубліцкі.

— І што ён за чалавек такі? Ні з кім не гуляе, нікога не прызнае. Няўжо яму не сумна без сяброў? — пачуўся зноў голас Олі.— Цікава, як ён жыве?

— І праўда, як ён жыве? Чым займаецца пасля заняткаў у школе? Ніхто ж з нас дома ў яго не быў? — акідаючы сяброў запытальным позіркам, прамовіў Міхась.

На нейкую хвіліну ў альтанцы стала ціха. Відаць, кожны думаў над тым, з якога боку падступіцца да Уладзіка, што зрабіць, каб ён нарэшце ўзяўся за розум.

— Я сёння ж пайду да яго,— сказаў Міхась.

Дом, у якім жыў Адамчык, стаяў у самым канцы ціхай зялёнай вулачкі, што абрывалася на стромым беразе Дняпра. За Дняпром, як акінуць вокам, зелянеў шырокі лугавы прастор, на якім, падпіраючы восеньскі блакіт неба, стаялі высозныя стагі.

Міхась спыніўся каля веснічак дома нумар 38, у якім жыла сям'я Адамчыкаў, і нейкую хвіліну з цікаўнасцю аглядаў двор.

Няўтульна, нявесела было на гэтым двары. Усё,— пачынаючы ад агароджы, якая ледзь ліпела, і канчаючы перакошанымі прыступкамі ганка,— сведчыла аб тым, што гаспадар гэтага двара зусім не цікавіцца справамі сваёй гаспадаркі, і ніяк не вязалася з тым, што бацька Адамчыка быў сталяр і дасканала валодаў сякерай, пілой і рубанкам.

Міхась хацеў было ўжо адчыніць веснічкі і ўвайсці на двор, як на ганак раптам выйшаў Уладзік. На руках у яго была малая дзяўчынка. Яна, відаць, толькі што плакала, бо Уладзік падалом сукенкі выціраў ёй тварык, туліў да сябе і пяшчотна прыгаворваў:

— Ну, годзе, годзе, Марынка. Зараз я пакажу табе маленькіх трусянятак, а пасля накармлю цябе кашкай і раскажу казачку пра коціка.

Сышоўшы з ганка, Уладзік накіраваўся ў глыб двара і знік пад паветкай.

Уладзік у ролі нянькі! Гэта ніяк не ўкладвалася ў Міхасёвай галаве. Ён не ўяўляў, каб Уладзік мог некага любіць, шкадаваць. Ён прывык яго бачыць заўсёды злосным, насмешлівым. Асцярожна прычыніўшы за сабой веснічкі, Міхась пакрочыў следам за Уладзікам.

Нейкі час Уладзік не бачыў Міхася. Ён апусціў малую на зямлю і цяпер завіхаўся каля клетак з трусамі. Дастаўшы маленькае белае трусянятка, Уладзік пяшчотна прытуліў яго да шчакі, а пасля, прысеўшы перад малой на кукішкі, усміхнуўся і сказаў:

— А ну, патузай яго за вушкі, пагладзь па спінцы. Не бойся, не бойся, ён харошы.

Малая асцярожна пачала гладзіць шаўковую поўсць трусяняці, а Уладзік глядзеў на яе замілаванымі вачамі і ўсміхаўся. І тут раптам ён убачыў Міхася. Твар яго адразу спахмурнеў, і замест лагоднай усмешкі на ім з'явілася злосная іранічная ўхмылка. Цяпер перад Міхасём стаяў той самы Уладзік Адамчык, калючы, дзёрзкі, непрыступны.

— Ого, сам старшыня атрада! Чым я заслужыў такі высокі гонар, калі не сакрэт? — запытаў Уладзік.

— Прыйшоў паглядзець на тваіх гадаванцаў,— нібы не заўважыўшы з'едлівага тону гаспадара, спакойна прамовіў Міхась.— О, ды ў цябе тут цэлая трусаферма! І маленькія ёсць,— падыходзячы да клеткі, у якой мясціліся трусяняткі, усклікнуў Міхась.

Расчулены сімпатыяй Міхася да сваіх гадаванцаў, Уладзік адразу памякчэў. Ён ішоў разам з Міхасём уздоўж клетак з трусамі і, спыняючыся то ля адной, то ля другой, з захапленнем расказваў госцю шмат цікавых, а часамі смешных падрабязнасцей з жыцця сваіх даўгавухіх гадаванцаў. Так непрыкметна для сябе яны дайшлі да апошняй клеткі, і тут, нібы ўспомніўшы нешта, Уладзік раптам спыніўся і паглядзеў на Міхася.

— Ну, а цяпер скажы, чаго ты да мяне прыйшоў? Ды толькі не хітры, бо я гэтага не люблю.

І тут раптам у галаву Міхася прыйшла шчаслівая думка:

— Прыйшоў, каб ты дапамог нашаму класу арганізаваць трусятнік. Хочам, як і ты, гадаваць трусоў.

— А адкуль жа ты даведаўся, што я гадую трусоў? — не адступаўся Уладзік.

— Даведаўся,— коратка кінуў Міхась.— Ну як, дапаможаш?

Уладзік паглядзеў на Міхася, які зноў прыліп вачамі да клеткі, памаўчаў нейкую хвіліну, а потым сказаў:

— Вядома, памагу. Для пачатку дам нават сваіх трусянят.

— Праўда?! — узрадаваўся Міхась.

— А чаго? Вунь колькі сёлета ў мяне моладзі! — пахваліўся Уладзік.— Будуйце трусятнік і бярыце любую пару або нават і дзве.

— Тады прыходзь заўтра ды пара́й, як і дзе будаваць трусятнік,— сказаў Міхась.

— Гэта я магу. У мяне і інструмент патрэбны знойдзецца. Бацька ж мой сталяр,— заўважыў хлапчук.

І не паспеў ён гэтага сказаць, як раптам веснічкі адчыніліся і ў двор, хістаючыся, увайшоў пажылы п'янаваты чалавек.

Убачыўшы бацьку, Уладзік збялеў так, што з твару яго зніклі амаль усе вяснушкі. Кінуўшы Міхасю: «Чакай мяне тут!», ён заспяшаўся за бацькам у дом. Неўзабаве вярнуўся, узяў на рукі сястрычку, якая пачала румзаць, і, звяртаючыся да Міхася, глуха прамовіў:

— Глядзі, нікому не кажы пра тое, што бачыў. Чуеш? Бацька мой харошы... Ён не п'яніца, не. Гэта ён нядаўна. Пасля смерці мамы... Я не хачу, каб у школе пра гэта ведалі... Сорамна мне, разумееш... А ён харошы...

Міхась глядзеў на Уладзіка, слухаў яго сумную споведзь і не мог вымавіць у адказ аніводнага слова. Яму да слёз было шкада сябра, які хаваў ад усіх сваю сумную таямніцу.

— Буду маўчаць. Чэснае піянерскае! — горача прамовіў Міхась.

Ідучы дадому, Міхась увесь час думаў пра Уладзіка. Тое, што ён расказаў яму аб сваім жыцці, вялікім цяжарам лягло на яго сэрца. Маці Уладзіка памерла мінулай восенню, і пасля смерці яе ўсе хатнія справы ляжаць на яго плячах. Ён і прыбірае, і мые бялізну, і даглядае сястрычку, і нават гатуе ежу. «Што рабіць? Як дапамагчы сябру?» — у роспачы думаў Міхась. Каб не даў Уладзіку чэснае піянерскае, Міхась мог бы расказаць пра яго бяду маці, бацьку, сябрам, Веры Мікалаеўне. А так... На пытанне сваіх сяброў, чым скончыўся яго візіт да Уладзіка, Міхась толькі цяжка ўздыхнуў і сказаў:

— Уладзік вельмі няшчасны... Вельмі... У яго няма маці...

На другі дзень Уладзік у школу не з'явіўся. Не прыйшоў ён і на трэці дзень. Гэта акалічнасць вельмі занепакоіла Міхася, і ён рашыў пайсці да хлопчыка яшчэ раз.

Апынуўшыся на знаёмым двары, Міхась убачыў Уладзікавага бацьку. Той сядзеў на ганку, унурыўшы ў плечы сваю прыцярушаную сівізной галаву, і курыў. Па ўсім было відаць, што думаў ён невясёлую думу. Міхася ён заўважыў толькі тады, калі той падышоў да самага ганка і ветліва прывітаўся.

— А, гэта ты, хлопча? — нібы ўзрадаваўшыся Міхасю, усміхнуўся Адамчык.— Ты, мабыць, да Уладзіка. Ён у хаце. Малая наша нешта захварэла. Вось ён і не адыходзіць ад яе ні на хвіліну. Хадзем у хату,— запрасіў ён Міхася, адчыняючы перад ім дзверы.

Гэтым разам Міхась заседзеўся ў Адамчыкаў да самага вечара. Бацька Уладзіка аказаўся вельмі цікавым чалавекам. Ён расказаў хлопчыкам пра тое, як яшчэ юнаком будаваў у Маскве метро, як у вайну партызаніў у брыгадзе славутага Бацькі Міная, як пасля вайны адбудоўваў беларускую сталіцу.

— Можа, вы дапамаглі б нам пабудаваць школьны тру-

сятнік? — нясмела запытаў Міхась.— Мы надумалі гадаваць трусоў. А яшчэ нам хочацца зрабіць альтанку ў сваім школьным парку.

— Ну, вядома, дапамагу,— згадзіўся Адамчык.— У пятніцу перад выхадным проста з фабрыкі прыйду да вас у школу і пачнём.

Міхась ледзь не танцаваў ад радасці, вяртаючыся дадому. Ён быў ужо каля сваіх веснічак, калі раптам пачуў знаёмы голас.

— Вера Мікалаеўна! — узрадавана ўсклікнуў ён, убачыўшы настаўніцу.— Як добра, што вы нарэшце вярнуліся з бальніцы. Без вас нам так сумна.

— Ну, а што новага ў нашым шостым? Ці шмат у нас троек? Давай сядзем вось тут, і ты мне пра ўсё раскажаш,— сказала яна, апускаючыся на лаўку, што стаяла ля веснічак Міхасёвага дома.

«Усё, усё раскажу! — рашыў Міхась.— Яна ж не чужая. Яна для нас самая харошая».

— Малайчына, што не пакінуў сябра ў бядзе,— сказала Вера Мікалаеўна, выслухаўшы Міхася.— Я заўтра пагавару з дырэктарам. Магчыма, мы запросім Адамчыка працаваць у нашай школьнай сталярні.

— Вось гэта было б здорава! — узрадаваўся Міхась.

Доўга ў гэты вечар сядзеў Міхась з Верай Мікалаеўнай на лавачцы пад старым разложыстым клёнам. На неба ўжо даўно высыпалі яркія мігатлівыя зоркі. На вуліцах успыхнулі ветлівыя вясёлыя ліхтары, а размове яшчэ не было канца.

— Ой і заседзеліся ж мы з табой, Міхасёк! Гэта ж хутка ўжо адзінаццаць,— спахапілася нарэшце Вера Мікалаеўна, зірнуўшы на гадзіннік.

У пятніцу, яшчэ задоўга да канца змены, савет атрада шостага «Б» на чале з Міхасём ужо стаяў ля прахадной фабрыкі.

Угледзеўшы Адамчыка, піянеры акружылі яго вясёлай гаманлівай чародкай і разам з ім накіраваліся ў школу.

— Адамчык, ты куды? Хіба не пойдзеш з намі? — пачуўся раптам хрыплаваты голас.

Да Адамчыка, рассоўваючы людзей, спяшаўся высокі хударлявы мужчына з чорнымі, ліхаманкава паблісквабючымі вачыма.

Уладзік гнеўным позіркам змераў яго з галавы да ног і да болю сціснуў далонь Міхася.

— Сёння ён пойдзе з намі! — заступаючы дарогу мужчыну, сказаў Міхась.

— І наогул ён з вамі больш ніколі не пойдзе,— дадала Оля.— Ні-ко-лі!

* * *

Працаваў Адамчык спорна. Час ад часу даваў каманду сваім памагатым, і тыя навыперадкі кідаліся выконваць тое ці іншае яго даручэнне. Сонца яшчэ не зайшло, а палова работы была ўжо зроблена.

— Заўтра яшчэ папрацуем, і трусятнік ваш будзе гатовы,— выціраючы ўзмакрэлы лоб, сказаў Адамчык.— А там і за альтанку возьмемся.

Усім атрадам праводзілі ў гэты вечар Адамчыка дадому. Па дарозе Уладзік забег у дзіцячы сад па сястрычку. Оля тут жа падхапіла малую на рукі і сказала, што з гэтага дня яна разам са сваімі сяброўкамі бярэ над ёю шэфства.

— Мы і па гаспадарцы будзем вам дапамагаць,— сказала яна Адамчыку.— Без жаночых рук у доме вельмі кепска,— тонам спрактыкаванага чалавека дадала яна.

— А мы з Толікам будзем памагаць Уладзіку ў вучобе! — весела выгукнуў Міхась.

Адамчык з удзячнасцю паглядзеў на дзяцей, і ў яго вачах успыхнулі радасныя агеньчыкі.

— Ну, сынок, цяпер мы з табой не загінем,— паклаўшы на Уладзікава плячо сваю дужую, загарэлую далонь, сказаў ён.— З такімі сябрамі любая бяда — не бяда.

# НЯЎДАЛЫ ДЭБЮТ

З Вадзімам у апошні час адбываецца нешта дзіўнае. Стаў ён нейкі разгублены, задуменны. Пачнеш яму што-небудзь расказваць, ён глядзіць на цябе і нібы слухае, а думкі яго блукаюць недзе далёка, і нічагусенькі ён не чуе.

Было б яшчэ паўбяды, калі б ён паводзіў сябе так у адносінах да мяне, дык і на ўроках ён не лепшы. Вось хоць бы і сёння на хіміі. Іван Паўлавіч тлумачыў хімічны склад вады, а пасля, каб праверыць, як засвоены матэрыял, выклікаў Вадзіма і пытае:

— Скажы, Жураўскі, што трэба зрабіць, каб атрымаць ваду?

— Трэба адкруціць кран,— кажа Вадзім.

У класе ажно шыбы зазвінелі ад рогату, а Вадзім стаіць і хоць бы што.

— Ты што, Жураўскі, жартаваць надумаў?

— Ды не, Іван Паўлавіч, я сур'ёзна,— спакойна адказвае Вадзім.

— Ну, калі сур'ёзна, дык дай мне свой дзённік.

Вадзім схапіў падручнік хіміі, што ляжаў на парце, і падаў настаўніку.

— А гэта яшчэ што? — абурыўся Іван Паўлавіч.

— У яго тэмпература,— заспяшаўся я на дапамогу Вадзіму.— З галавой нешта.

Іван Паўлавіч уважліва з-пад акуляраў паглядзеў на Вадзіма і, аддаўшы яму падручнік, сказаў:

— Сядай, а на перапынку Маеўскі — гэта значыцца я — адвядзе цябе дадому.

Калі Вадзім сеў побач са мной, я проста ўскіпеў:

— Ты што, звар'яцеў? Толькі месяц, як пачаўся навучальны год, а ты — «адкруціць кран».

— Эт, адчапіся! — адмахнуўся ад мяне Вадзім.— Нічога ты не разумееш,— уздыхнуў ён і адвярнуўся да акна.

«Што з ім сталася? — думаў я, седзячы побач.— Сябруем мы ўжо чацвёрты год, а гэткім, як цяпер, я яго яшчэ ніколі не бачыў. Можа, ён і сапраўды захварэў? — устрывожыўся я.— А можа, якую таямніцу ад мяне хавае? Толькі ж паміж намі сакрэтаў ніколі не было. Аднак трэба нешта рабіць. Калі я сапраўдны друг Вадзіма, я мушу тэрмінова выкрыць прычыну яго дзіўных паводзін».

— Сёння я прыйду да цябе і будзем разам рыхтаваць урокі. Чуеш? — сказаў я, калі празвінеў званок на перапынак.— А зараз ідзі дадому, а то яшчэ адну двойку схопіш.

— Лепш я да цябе прыйду,— сказаў Вадзім.

— Добра,— згадзіўся я.— Толькі глядзі не пазніся. Каб роўна ў чатыры быў у мяне,— строга папярэдзіў я.

Вярнуўшыся са школы і паабедаўшы, я пачаў чакаць Вадзіма. А каб дарэмна не марнаваць час, узяўся паўтараць англійскую мову. За заняткам час бег непрыкметна, а калі я нарэшце глянуў на гадзіннік, дык убачыў, што чатыры даўно ўжо мінула і малая стрэлка набліжаецца да пяці. Чакаць далей не выпадала. Урокаў на заўтра было багата, і трэба было з імі спяшацца. Я схапіў патрэбныя падручнікі і сшыткі і пайшоў да Вадзіма.

Узбегшы на трэці паверх, я спыніўся і хацеў было націснуць на гузічак званка, калі заўважыў, што дзверы ў кватэру Жураўскіх прыадчынены. Я ўвайшоў у калідор і пачуў раптам голас Вадзіма.

Ён гаварыў з некім горача, узнёсла. Я затаіў подых, спыніўся і зазірнуў у пакой. Вадзім стаяў перад люстрам, энергічна размахваў рукой, калмаціў сваю чупрыну і нараспеў, як гэта звычайна робяць паэты, чытаў верш, трымаючы перад вачыма сшытак.

«Што гэта ён? У артысты меціць, ці што?» — падумаў я, назіраючы крадкам за Вадзімам.

— Не, тут нешта не тое,— прамовіў Вадзім і, схапіўшы са стала аловак, пачаў нешта мармытаць сабе пад нос і запісваць у сшытак.— Не, усё гэта не тое.

«А можа, ён красворд разгадвае? Ён жа як возьмецца за той красворд, дык яго ніякая сіла не адцягне»,— падумаў я.

— Вядома, не тое,— сказаў я, уваходзячы ў пакой.— Замест таго каб красворд разгадваць, лепш бы за алгебру ўзяўся.

— Красворд! — іранічна ўсміхнуўся Вадзім.— Я рыфму шукаю, а ён — «красворд».

— Якую яшчэ рыфму? — здзівіўся я.— Ты што, у вершы ўдарыўся? Надумаўся стаць паэтам? — запытаў я.

— Так, хачу стаць паэтам! — адказаў Вадзім, змераўшы мяне з галавы да ног ганарыстым позіркам.

— Летась, здаецца, ты хацеў стаць фігурыстам і праз гэтыя свае канькі ледзь на другі год не застаўся, а цяпер, значыцца, у вершы ўдарыўся.

— А што? Паэту на алгебру, на хімію ці на геаграфію напляваць. Трэніруйся сабе ў рыфмах ды страчы вершы. Лёгкая, цікавая гэта штука — пісаць вершы,— летуценна ўсміхнуўся Вадзім.— Асабліва, калі ў цябе талент ёсць і прыходзіць натхненне. Вось як сёння ў мяне. З самага ранку гэтае натхненне захапіла мяне. Прачнуўся, а ў галаве адны толькі рыфмы. Так і чую, як яны мітусяцца, на волю просяцца, на паперу. Таму і з хіміяй недарэчна атрымалася, не да яе мне было. Разумееш?

— Разумею, разумею, толькі скажы, што з урокамі будзе? Ты думаеш іх сёння вучыць? — запытаў я Вадзіма.

— Не магу, браток, сёння, не магу. Галава занята вершамі, для ўрокаў у ёй зараз няма месца,— адказаў Вадзім і зноў пачаў мармытаць пад нос нейкія словы.

— Ну, рыфмуй, рыфмуй. Паглядзім, што ты будзеш рабіць, калі заўтра да дошкі настаўнік цябе пакліча,— сказаў

я.— Ды не забудзься, што ў панядзелак трэба здаць сачыненне на тэму «Як я правёў летнія канікулы».

— Што мне тое сачыненне? — усміхнуўся Вадзім.— Ды я цэлую паэму табе магу напісаць пра гэтыя самыя летнія канікулы. Не верыш? Вось сяду сёння і настрачу. Усе ад зайздрасці пазелянеюць, калі Ніна Адамаўна пачне чытаць яе ды расхвальваць.

— Ну, страчы, страчы, а я пайшоў урокі рабіць, бо і так праз цябе шмат часу змарнаваў.

Назаўтра я ў школу не пайшоў: да мяне зноў прычапілася мая злашчасная ангіна. А ў нядзелю ўвечары да мяне з'явіўся Вадзім. Твар яго ззяў, нібы гузік на кіцелі сувораўца. Забыўшыся нават прывітацца, ён спыніўся на парозе пакоя, дастаў з кішэні сшытак і абвясціў:

— Маё сачыненне гатова. Я напісаў яго вершамі. Садзіся і слухай.

І Вадзім, ускалмаціўшы і без таго сваю калматую чупрыну і прыняўшы адпаведную позу, пачаў:

Адпачываў я — лепш не трэба,
Выдатна я адпачываў.
Пад сонцам, што смаліла з неба,
На Чорным моры загараў.
Я плаваў ў шторм і ў непагоду
З дэльфінамі ўперагонкі...

— Пачакай, пачакай! — перапыніў я Вадзіма.— На якім гэта Чорным моры ты загараў, калі ўлетку адпачываў у піянерскім лагеры «Зубронак»?

— Дзіўны ты чалавек, Косцік. Я ж не звычайны чалавек. Я — паэт, і мая фантазія можа занесці мяне ў любы куток зямлі. Нават на Венеру. І наогул, не перапыняй мяне, калі ласка. Я гэтага не люблю,— незадаволена заўважыў Вадзім.

— Ну, валяй, валяй,— сказаў я і даў сабе слова цярпліва даслухаць да канца Вадзімаву паэму.

Аднак, калі ён адкашляўся і зноў пачаў нараспеў чытаць яе і дайшоў да радкоў:

Я ў джунглях быў,
Хадзіў на тыгра.
З мядзведзем белым сябраваў...—

я ўжо не вытрымаў:

— Ой, ой, трымайце мяне! — зарагатаў я.— Што гэта ты вярзеш? Дзе ты вычытаў, што белыя мядзведзі жывуць у джунглях? Яны ж жыхары Арктыкі, а не Афрыкі. Каб Зоя Сямёнаўна прачытала гэту тваю паэму, яна паставіла б табе па геаграфіі двойку. А ты кажаш, што паэту напляваць на геаграфію!

— Дык што, далей не чытаць? — счакаўшы нейкую хвіліну, упаўшым голасам запытаў Вадзім.

— Схавай ты гэту сваю паэму ды бярыся за сачыненне, бо з ёю ты набярэшся такога клопату, што пасля і сам будзеш не рады,— параіў я.

— А калі ж я цяпер паспею напісаць тое сачыненне? Заўтра раніцай яго трэба здаць Ніне Адамаўне, а зараз ужо дзесятая гадзіна,— уздыхнуў Вадзім, засоўваючы ў кішэню сшытак.

— Паспееш. Да раніцы вунь колькі часу. Цэлая ноч наперадзе,— сказаў я.

Вадзім паглядзеў на мяне, а пасля запытаў:

— А ты ўжо напісаў?

— Вядома напісаў.

— А ў школу ты заўтра пойдзеш?

— Не, не пайду. Доктар не дазволіў.

— Слухай, Косцік, будзь сябрам, дай мне на гэты вечар тваё сачыненне. Для арыентацыі, так сказаць, для прыкладу,— папрасіў Вадзім.

— Не ўздумай толькі спісваць, бо Ніна Адамаўна адразу зловіць, і тады не толькі табе, але і мне не мінаваць двойкі,— папярэдзіў я, аддаючы Вадзіму сшытак.— Ды глядзі, прынясі заўтра.

— Прынясу, прынясу. Са школы забягу да цябе і аддам,— узрадавана прамовіў Вадзім і пабег дадому.

У панядзелак Вадзім да мяне не прыйшоў. Не з'явіўся ён і ў аўторак. А ў сераду я сам пайшоў у школу. У гэты дзень якраз у нас была беларуская мова, і я сказаў Вадзіму, каб ён аддаў мой сшытак. Вадзім пачаў корпацца ў партфелі, а пасля пляснуў сябе па лбе і ўсклікнуў:

— Вось разява! Я забыўся яго дома.

— А што ж я цяпер скажу Ніне Адамаўне, калі яна папросіць, каб я аддаў ёй сваё сачыненне?

— Скажы, што забыўся дома,— параіў Вадзім.

— А можа, лепш сказаць, што сшытак я пакінуў у цябе, калі мы разам рабілі ўрокі? — сказаў я.

— Ты што, ашалеў?! — спалохана ўсклікнуў Вадзім.— Яна ж можа падумаць, што я спісаў у цябе.

— Чаму ж гэта яна падумае, калі сачыненні ў нас зусім розныя. Мы ж адпачывалі ў розных месцах — я на леснічоўцы ў дзядулі, а ты ў піянерскім лагеры,— заўважыў я.

Нашу гаворку абарваў школьны званок. Перапынак скончыўся, і ў клас увайшла Ніна Адамаўна. Убачыўшы мяне, яна запытала:

— Бечык, ты, вядома, напісаў сачыненне пра свае канікулы?

— Напісаў, Ніна Адамаўна. Толькі я заспяшаўся і забыў яго дома,— схлусіў я.

— Як гэта — забыў? На цябе, Бечык, гэта зусім непадобна. Заўтра абавязкова прынясі,— папярэдзіла яна.

Пасля абеду я пайшоў да Вадзіма, каб узяць свой сшытак. Вадзім пачаў корпацца ў стале, палез чамусьці пад ложак, а пасля, запінаючыся, пачаў тлумачыць:

— Твой сшытак, Косцік... Я сам не ведаю, як гэта здарылася... Ты толькі не сварыся... Я нават не ведаю...

— Кажы нарэшце, куды ты падзеў маё сачыненне? — злосна запытаў я.— Што ты цягнеш?

— Ну, як бы табе гэта сказаць,— ізноў пачаў Вадзім.— Твой сшытак... Ну, я яго згубіў... Толькі ты не сярдуй... Ён знойдзецца, чэснае піянерскае...

— Ты хлусіш! — абурана ўсклікнуў я.— Калі ты зараз жа не скажаш, куды падзеў мой сшытак, я заўтра пра ўсё раскажу настаўніцы.

— Не губі мяне, Косцік! — узмаліўся Вадзім.— Зараз я раскажу табе ўсё, што здарылася.

Аказваецца, сачыненне сваё Вадзім напісаць не паспеў і, баючыся чарговай двойкі, аддаў Ніне Адамаўне мой сшытак, замяніўшы на ім вокладку, на якой стаяла маё прозвішча.

— Ты — друг і павінен выручыць мяне,— уздыхнуўшы, закончыў сваё прызнанне Вадзім.

— Ніякі я табе больш не друг! — гнеўна закрычаў я.— Заўтра пра ўсё гэта ты сам раскажаш у класе.

Вадзім аж збялеў, пачуўшы гэта.

— Друг называецца! Замест таго каб дапамагчы ў бядзе, ты капаеш мне яму. Я...

— Ну, ведаеш, гэта ўжо нахабства. Я даў табе свой сшытак, паверыў табе, а ты...

— Не выдавай мяне, Косцік. Я аддам табе ўсё, што ты пажадаеш. Ну, хочаш, калекцыю марак аддам? Хочаш? — умольна, пазіраючы мне ў вочы, запытаў ён.

— Адчапіся ад мяне са сваёй калекцыяй. Я не спекулянт, каб...

— Ну, добра! — ні то з пагрозай, ні то з адчаем усклікнуў Вадзім і, падбегшы да стала, пачаў у гневе шкуматаць і кідаць на падлогу свае сшыткі і падручнікі.

— Усё! Усё! Не пайду больш у школу! І наогул мне нічога не трэба. Ідзі! Данасі! Ты мяне больш ніколі не ўбачыш. Ніколі! — захлынаючыся ад роспачы і слёз, крычаў Вадзім.

Гэтай сцэны я ўжо сцярпець не мог. Я падбег да Вадзіма, схапіў яго за рукі і, хвалюючыся, сказаў:

— Супакойся, Вадзім. Ліха з ім, з гэтым сачыненнем... Я напішу сёння новае. Я нікому не скажу пра гэты злашчасны сшытак. Нікому!

# А ЎСЁ ПРАЗ ГЭТАГА ТОЛІКА

— Рабяты, калі заўтра будзе добрае надвор'е, мы пойдзем ў лес, а пасля будзем пісаць сачыненне «У асеннім лесе»,— сказала Вера Мікалаеўна.— Вазьміце з сабой паесці, бо мы прабудзем там да самага вечара. Ды не забудзьцеся падрыхтаваць усе ўрокі на заўтра.

О, каб вы толькі ведалі, што тут пачалося! Нашто ўжо выдатніцы нашы і тыя ад радасці, што заўтра не будзе заняткаў, узнялі такі віск, ажно шыбы ў вокнах зазвінелі. Вера Мікалаеўна спачатку спрабавала нас уціхамірыць, а пасля махнула рукой і пачала чакаць, пакуль мы накрычымся ўволю і супакоімся.

Неўзабаве мы і сапраўды сціхлі. У клас увайшоў Антон Рыгоравіч, наш дырэктар. Ну і мы... Адным словам, вы ж ведаеце, як ціха робіцца ў класе, калі з'яўляецца раптам дырэктар. Мы ўсе, як адзін, ускочылі з месца і аслупянелі. Затое цяпер крычаў Антон Рыгоравіч. Дырэктар нарэшце пайшоў, а мы з палёгкай уздыхнулі, селі на месцы і хацелі цяпер толькі аднаго: каб хутчэй празвінеў званок. І ён празвінеў. Мілы школьны званок! Як часта ён прыходзіць нам на дапамогу, як часта ратуе нас ад немінучай двойкі!

Пачуўшы званок, мы загаманілі, зашумелі і, развітаўшыся як мага ветлівей з Верай Мікалаеўнай, рушылі з класа.

— Ой, як добра, што сёння не трэба вучыць верш і рашаць задачкі,— сказаў Толік, калі мы выйшлі са школы.— Сёння ўвесь вечар буду глядзець тэлевізар.

— А калі надвор'е сапсуецца і мы не пойдзем заўтра ў лес?

— Ты падумаў пра гэта? — запытаў я.

— Надвор'е не сапсуецца, гэта я па ўсіх прыкметах бачу,— зірнуўшы на захад, аўтарытэтна заявіў Толік.— Я табе лепш за барометр магу прадказаць, якое заўтра будзе надвор'е. Адным словам, можаш сёння займацца чым хочаш і спаць спакойна.

І я паверыў Толіку. Відаць, чалавек заўсёды верыць у тое, што яму па душы.

— Калі так, дык сёння я дачытаю да канца «Конніка без галавы». Міравецкая кніжка, ніяк не адарвешся ад яе, калі ў рукі трапіць,— сказаў я.

На гэтым мы і рассталіся.

А раніцой я прачнуўся, глянуў у акно, і па спіне маёй мурашкі забегалі. Дождж ліў як з вядра, і ніякай надзеі не было на тое, што ён калі-небудзь спыніцца. Аб экскурсіі ў лес не было чаго і думаць.

— Уставай, сынок, а то спознішся ў школу,— сказала мама, падаючы мне свежаадпрасаваную кашулю.

Я зірнуў на маму, уздыхнуў і пачаў апранацца. «Што сёння будзе? Што будзе? — у роспачы думаў я, ідучы ў школу.— Хоць бы не выклікала мяне Вера Мікалаеўна расказваць верш».

Але я ўжо даўно заўважыў, што настаўнікі выклікаюць цябе спецыяльна тады, калі ты гэтага не хочаш. Так было і сёння. Не паспеў адзвінець званок, як у клас увайшла Вера Мікалаеўна і выклікала мяне. І я пачаў:

— Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Вазьмі ты з сабою мяне!..

Далей гэтых слоў я нічога не ведаў, а таму схапіўся за горла і пачаў кашляць. Вера Мікалаеўна пачакала, пакуль я перастану кашляць (і адкуль толькі ў настаўнікаў столькі цярплівасці?), а пасля спакойна сказала:

— Пачні яшчэ раз.

І я пачаў:

— Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Вазьмі ты з сабою мяне!

Дайшоў да гэтых слоў і зноў закашляўся.

Нарэшце Вера Мікалаеўна не вытрывала і кажа:

— Што гэта ты, Смоліч, усё просішся ды просішся ў таго лётчыка. А далей?

— А што далей? Далей мы паляцелі,— ні з таго ні з сяго выпаліў я.

Пачуўшы гэта, увесь клас так і пакаціўся ад рогату. І гучней за ўсіх смяяўся... Ну, хто б вы думалі? Толік. Мой сябра Толік, які запэўніваў мяне, што ён не горш за барометр можа прадказваць надвор'е на заўтра.

— Скажы, Смоліч, і табе не сорамна несці дадому двойку? — уздыхнуўшы, запытала Вера Мікалаеўна, беручыся за мой дзённік.

Дзіўныя гэтыя настаўнікі: самі стаўляюць двойкі, і самі над імі ўздыхаюць.

— А хіба я ў гэтым вінаваты? Вы ж самі сказалі, што сёння мы пойдзем у лес, а тут раптам гэты дождж паліў. А яшчэ Толікаў прагноз... Ён жа абяцаў, што сёння будзе добрае надвор'е.

— У цябе заўсёды хто-небудзь вінаваты, Смоліч,— уздыхнула зноў Вера Мікалаеўна, выводзячы ў маім дзённіку акуратную кругленькую двойку.

Я нічога не адказаў ёй на гэта, узяў дзённік і пайшоў на сваё месца.

— Эх ты, барометр...— злосна прашаптаў я, сядаючы побач з Толікам.— Усё гэта праз цябе.

— Бюро прагнозаў і тое, бывае, памыляецца, а ты хочаш, каб я ніколі не памыляўся,— спакойна адказаў Толік, засоўваючы ў рот цукерку.

А ўчора зноў гэты Толік...

Не паспеў я запісаць у сшытку сказ, які прадыктавала настаўніца, і падкрэсліць у ім суфіксы, як Толік раптам прашаптаў:

— Лёнь, а Лёнь, што б ты зрабіў, каб ператварыўся раптам у чалавека-невідзімку?

Я глянуў на Толіка і, не задумваючыся, адказаў:

— Я б ніколі не вучыў граматыкі, а як толькі Вера Мікалаеўна заходзіла ў клас, знікаў бы з яе вачэй.

— А я кожную раніцу, ідучы ў школу, заходзіў бы ў наш гастраном і, зрабіўшыся невідзімкай, набіраў поўныя кішэні самых смачных цукерак. Страшэнна люблю шакаладныя цукеркі. Яны мне нават уначы сняцца,— уздыхнуў Толік.— А яшчэ я кожны дзень хадзіў бы ў кіно і глядзеў усе фільмы, нават тыя, якія дзецям да шаснаццаці гадоў глядзець забараняецца, бо кантралёр ніколі не бачыў бы, як я праходжу ў зал. Здорава, праўда?

— А я, ведаеш, што зрабіў бы?

Толік нацэліў на мяне свой цікаўны позірк.

— Калі б я мог ператварыцца ў чалавека-невідзімку, я залез бы ў ракету, якая рыхтуецца ў палёт, і разам з касманаўтам паляцеў у космас. Абляцелі б разоў сто вакол зямлі, а пасля пачалі прызямляцца. І як толькі апынуліся б на зямлі, я тут жа адрэкамендаваўся: «Леанід Міхайлавіч Смоліч, вучань пятага «Б» класа. Лятаў з вамі ў ракеце, плаваў па кабіне, а калі вы спалі, запісаў у вашым бартавым журнале сваё імя і прозвішча. На апошняй старонцы. Можаце паглядзець, калі не верыце».

— Вось здорава! — не вытрымаў Толік.— Я таксама з табой палячу, добра? Удвух жа весялей будзе, праўда? І не так страшна.

І мы пачалі, перабіваючы адзін аднаго, расказваць, як мы будзем лётаць у космасе, як пасля пасябруем з касманаўтамі і разам з імі паедзем у Маскву і будзем рапартаваць аб нашым смелым палёце.

— І людзі будуць несці нашы партрэты і кідаць нам кветкі,— захлынаючыся ад радасці, шаптаў Толя.— А мы будзем расказваць, як сыпаліся метэарыты і розныя там касмічныя пачвары намагаліся напасці на нашу ракету.

— А пасля нам прышпіляць залатыя зорачкі і Вера Мікалаеўна будзе пісаць у газеце «Піянерская праўда», што мы былі самымі лепшымі яе вучнямі і вучыліся толькі на «пяцёркі»,— у захапленні шаптаў я.

— А што будзе рабіцца ў нашай школе! — заплюшчыўшы вочы, шаптаў мне на вуха Толік.— Нас запросяць на збор дружыны, прымуць у ганаровыя піянеры, партрэты нашы павесяць на самым відным месцы...

— І Лёнька Жук з сёмага «Б» пашкадуе тады, што не хацеў прыняць мяне ў сваю футбольную каманду, і пазелянее ад зайздрасці,— дадаў я.

— Не толькі пазелянее. Яму адразу забаліць жывот.— І Толік так смешна скрывіўся, што я не вытрымаў і пакаціўся ад смеху.

Усе вучні зашумелі, пачалі дакараць нас, а Вера Мікалаеўна пачырванела (калі яна злуецца, дык заўсёды чырванее), выклікала мяне і папрасіла паўтарыць правіла, якое толькі што тлумачыла. Я, вядома, правіла гэтага не чуў, і таму стаяў і маўчаў.

— Ну што ж,— сказала Вера Мікалаеўна.— Стаўлю табе двойку.

Я сеў. А Толя, каб суцешыць мяне, прашаптаў:

— Не бядуй. Што тая двойка ў параўнанні з палётам у космас?

Але мне чамусьці ўжо не хацелася ляцець у космас. Настрой быў сапсаваны. Я думаў аб тым, што хутка Новы год і я цяпер не атрымаю ў падарунак абяцаны мне бацькам фотаапарат і не паеду на канікулы да свайго дзядулі, а ён жа абяцаў гэтай зімой павесці мяне на зайцоў і навучыць страляць з сапраўднай стрэльбы. І ўсё праз Толіка, якому космас не дае супакою.

Сёння зноў гэты Толік. Уляцеў да мяне ў пакой, нібы тая бомба, якая вось-вось гатова выбухнуць, і яшчэ ад парога:

— Кідай ты дзяўбці гэтую алгебру. Калі не вучыў яе як след на працягу года, дык цяпер ужо позна за яе хапацца.

Сам у гэтым пераканаўся. Лепш паслухай, што я зараз табе скажу.

І пачаў плесці пра тое, што нібыта чалавек, калі захоча, можа прымусіць іншага рабіць усё, што захоча. Можа нават на адлегласці ўнушыць некаму сваё жаданне, свой загад. Пра гэта нават у кніжках і газетах пішуць. І называецца гэта з'ява тэлепатыя.

— Тэ-ле-патыя,— паўтарыў я.

— Адным словам, кідай ты гэтую алгебру ды зоймемся трэніроўкай,— сказаў Толік.— Толькі з чаго нам пачаць? На каго накіраваць сваю волю? — Толік пацёр свой лоб, а потым весела ўсклікнуў.— Ага, прыдумаў! Давай на адлегласці ўнушаць Валерку, каб ён зараз жа прыйшоў гуляць з намі ў тэніс. Пачынаем. З гэтай хвіліны думай толькі пра Валерку, угаварвай яго прыйсці да нас і, галоўнае, глядзі ў адну кропку. Вось так.

Толік сеў на крэсла, утаропіўся вачыма ў каляндар, што вісеў перад ім на сцяне, і пачаў злавесна шаптаць:

— Валерка, я загадваю табе зараз жа кінуць усе свае справы і прыйсці да нас гуляць у тэніс...

Я таксама далучыўся да Толіка і пачаў унушаць сябру тое ж самае.

Амаль цэлую гадзіну сядзелі мы за гэтым заняткам, забыўшы пра ўсё на свеце. У нас ужо даўно перасохла ў горле, звінела ў вушах, а мы ўсе ўнушалі і ўнушалі Валерку, каб ён ішоў да нас.

І што б вы думалі? Раптам адчыняюцца дзверы, і ўваходзіць Валерка.

Не паспеў ён прамовіць і слова, як мы з вясёлымі воклічамі кінуліся да яго, схапілі ў абдымкі і заскакалі па пакоі. Наша ўзяла!

— Хлопцы, што з вамі?! Пусціце! — адбіваючыся ад нас, крычаў Валерка.

Нарэшце мы адпусцілі яго і расказалі яму пра гэту самую тэлепатыю.

— Вось дзівакі! — засмяяўся Валерка.— Я ж вам яшчэ ўранку сказаў: зраблю алгебру і прыйду гуляць у тэніс.

Але мы не слухалі Валерку. Мы так былі ўпэўнены ў сабе, так верылі ў сілу свайго ўнушэння, што ніхто не мог пераканаць нас у адваротным.

— Заўтра зробім спробу ў школе. На першым уроку. Унушым Ганне Міхайлаўне, каб яна не выклікала нас па гісторыі, а калі нават і выкліча, дык няхай пытае толькі тое, што мы добра ведаем,— шапнуў мне Толік, калі мы, нагуляўшыся ўволю ў тэніс, развіталіся з ім каля веснічак.

Назаўтра, ледзь толькі празвінеў званок і ў клас увайшла Ганна Міхайлаўна, мы з Толікам утаропіліся ў яе вачыма і пачалі ўнушаць. У час урока настаўніца некалькі разоў кідала ў наш бок вокам. Часамі нам здавалася, што яна вось-вось выкліча каторага з нас адказваць урок. Але ў апошні момант, нібы і сапраўды падуладная нашаму ўнушэнню, яна адводзіла свой позірк і называла прозвішча іншага вучня. А ў канцы ўрока Ганна Міхайлаўна нават усміхнулася нам.

— Ну, Лёнька, калі так і далей пойдзе, ды у нас з табой будзе не жыццё, а маліна. Будзем гуляць, колькі душа пажадае,— сказаў Толік.

На другім уроку была алгебра, і мы з Толікам зноў заняліся ўнушэннем. Але як мы ні ўнушалі Паўлу Раманавічу, каб ён нас не выклікаў, перад самым званком ён назваў маё прозвішча і запрасіў да дошкі.

Алгебру ўчора я не рыхтаваў, спадзяваўся на гэту самую тэлепатыю, а таму, пачуўшы сваё прозвішча, так разгубіўся і спалохаўся, што замест таго каб ісці да дошкі, палез пад парту.

— Смоліч, што з табой? — здзівіўся Павел Раманавіч.

Што можа быць горш, як адказваць урок каля дошкі, калі ты яго не вывучыў і ў галаве тваёй пуста, нібы ў пустыні Сахары. Адказваць з месца яшчэ паўбяды. Тут у цябе шмат розных магчымасцей, глядзі толькі, каб не падвяло вуха ды вока. А каля дошкі, адрэзаны ад класа, ад сяброў, якія ў кры-

тычны момант могуць прыйсці табе на дапамогу, ты нібы той Рабінзон на бязлюдным востраве.

А Павел Раманавіч спакойна разглядае свае пазногці, нейкі час цярпліва чакае, а пасля і кажа:

— Ці не надумаўся ты, Смоліч, яшчэ адну зіму зімаваць у шостым класе?

Ну і... Адным словам, па алгебры я атрымаў двойку.

— Відаць, мы дапусцілі нейкую памылку,— сказаў Толік, калі я вярнуўся на месца.— На наступным уроку будзем больш настойлівымі і сканцэнтраванымі. Галоўнае, трэба ні на хвіліну не адводзіць позірку ад настаўніка, трымаць яго ўвесь час на прыцэле.

Урок англійскай мовы прайшоў удала: нас не выклікалі. А на геаграфіі зноў здарылася бяда. Колькі я ні ўнушаў Ніне Рыгораўне, каб яна не выклікала мяне,— не памагло.

Дзве двойкі ў адзін дзень! І гэта перад самымі зімовымі канікуламі! А ўсё гэта Толікава тэлепатыя.

# МАЛЕКУЛА

Гісторыя гэтая здарылася пасля таго, як мы з Міхасём пабывалі ў цырку. Ад усяго мы былі ў захапленні: і ад спрытных акрабатаў, якія пад самым купалам выконвалі свае смелыя нумары, і ад чараўнікоў жанглёраў, і ад клоунаў, якія выраблялі розныя смешныя штучкі. Але больш за ўсё нам спадабаліся маленькія дрэсіраваныя сабачкі. Такіх маленькіх сабачак мы з Міхасём яшчэ ніколі не бачылі. Некаторых з іх можна было засунуць у рукавіцу. А як прыгожа яны танцавалі, як кланяліся публіцы! Мы з Міхасём проста далоні паадбівалі, апладзіруючы ім.

— Я за такога сабачку аддаў бы ўсе свае маркі,— сказаў Міхась, калі мы выходзілі з цырка.

Я ажно прыпыніўся. Маркі! Ды Міхась за гэтымі маркамі гатоў бегчы на край свету! А тут раптам: «аддаў бы ўсе свае маркі». Я, вядома, не вельмі паверыў яму, разумеў, што сказаў гэта ён, пагарачыўшыся, але ў сваю чаргу дадаў:

— І я нічога не пашкадаваў бы за такого маленькага сабачку. Сказалі б аддаць веласіпед — і аддаў бы. Але ж дзе яго возьмеш такога?

З хвіліну мы ішлі моўчкі, а пасля Міхась і кажа:

— Ведаеш, Воўка, а мы можам і самі яго выгадаваць.

— Як гэта?! — здзівіўся я.

— Вельмі проста. Возьмем дзе-небудзь шчаня, пасадзім яго ў маленькую скрыначку і хай сабе там жыве. У скрыначцы яму не будзе куды расці, вось ён і застанецца назаўсёды маленькім.

— Здорава! — усклікнуў я, спыняючыся пасярод вуліцы.— І як толькі ты дадумаўся да гэтага!

Са скрынкай усё вырашылася даволі лёгка. У школьнай майстэрні ў гэты час рабілі шпакоўні, і мы самі маглі змайстраваць скрыначку патрэбнага памеру. Але дзе ўзяць маленькага сабачку,— вось задача.

Ды неўзабаве і гэтае пытанне вырашылася само сабой. У Міхасёвага суседа Юркі ашчанілася Пальма, і ён паабяцаў нам даць шчанятка, калі яно крыху падужэе і расплюшчыць вочкі.

— Толькі самае маленькае, разумееш? — папярэдзіў Міхась.

— Возьмеце сабе любое,— важна сказаў Юрка.

З гэтага дня мы пачалі з нецярплівасцю чакаць, калі шчаня расплюшчыць вочы і цвёрда стане на ножкі. Па некалькі разоў на дзень мы бегалі да Юркі і, выбраўшы момант, калі ў будцы не было Пальмы, правяралі, ці не час ужо забіраць шчаня. Нас вельмі непакоіла, каб яно часам не перарасло.

Праўду кажа прыказка, што няма нічога горшага, як чакаць ды даганяць. У мудрасці яе мы самі пераканаліся. Нам здавалася, што дні ніколі не цягнуліся так марудна, як цяпер.

Аднак кожнаму чаканню бывае канец. Аднаго разу да мяне ў пакой уляцеў Міхась і яшчэ з парога закрычаў:

— Расплюшчыла! Расплюшчыла!

Мы, як тыя дзікуны, пачалі скакаць па пакоі і выкрыкваць немаведама што. А як наскакаліся ўволю, Міхась сказаў:

— Дамо яму яшчэ два дні пабыць каля маці, агледзецца крыху, а пасля пасадзім у скрыначку.

Скрыначка наша даўно была гатова, і вось аднаго дня Юрка ўрачыста абвясціў:

— Прыходзьце сёння ўвечары па свайго шчанюка.

Мы з Міхасём ледзь дачакаліся вечара. Зрабіўшы сяк-так урокі і рашыўшы задачы, каб заўтра не схапіць двойкі, мы пабеглі да Юркі.

Юрка зачыніў у сенцах Пальму і падвёў нас да будкі, у якой, прытуліўшыся адно да аднаго, соладка спалі малыя шчаняткі.

— І навошта вам гэты заморак? Бярыце большае,— сказаў Юрка, здзіўлены нашым недарэчным выбарам.— Вось дзівакі! — пацiснуў ён плячыма.

Юрка нічога не ведаў пра нашы планы. Мы парашылі да часу трымаць іх у сакрэце, каб пасля здзівіць усіх сваім маленькім дрэсіраваным сабачкам.

Ідучы дадому, мы з Міхасём дамовіліся, што шчаня будзе адзін дзень жыць у яго, а другі — у мяне. І каб нікому не было крыўдна, кінулі жэрабя, у каго яно будзе начаваць сёння. Пашчасціла мне.

Пасадзіўшы малое ў скрынку (мы ледзь уціснулі яго туды), я падаўся дадому. Але не паспеў прайсці і паловы дарогі, як пачуў за спіной голас Міхася. Ён бег да мяне і яшчэ здалёк гукаў:

— А імя, імя ж мы яму не далі!

Мы прыселі на краёчку тратуара і адзін перад адным пачалі выкрыкваць:

— Тузік!

— Муха!

— Жук!

— Бобік!

І нарэшце:

— Малекула! — выгукнуў Міхась.

— Малекула! — паўтарыў я.

Імя гэтае нам спадабалася, і мы разышліся.

Тата і мама ў гэты вечар былі ў тэатры. Маленькая Настачка, цмокаючы соскай, спала ў бабульчыным пакоі. Не ўключаючы святла, я прайшоў у спальню і паставіў скрыначку з Малекулай пад свой ложак. Затым павячэраў на кухні разам з бабуляй і падаўся спаць.

Сярод ночы я прачнуўся ад таго, што тата і мама, уключыўшы святло, хадзілі па пакоі і час ад часу да нечага пры-

слухоўваліся. А з-пад майго ложка чулася жаласнае скавытанне.

— Не хвалюйцеся, гэта мая Малекула,— падхапіўся я на пасцелі.

— Якая малекула? — здзіўлена запытаў тата.

— Не звяртай на яго ўвагі,— сказала мама.— Налётаецца, надурэецца за дзень, а пасля трызніць немаведама што.

Я тым часам кінуўся пад ложак, схапіў скрыначку, адсунуў вечка і дастаў свайго палонніка. Ён увесь калаціўся і туліўся да маёй цёплай рукі.

— Глядзі, бацька, што гэта робіцца?! — з абурэннем усклікнула мама.— Узяць жывое бездапаможнае стварэнне і ўпіхнуць яго ў скрынку. Яно ж магло задыхнуцца. Вось цябе б самога гэтак. Пакладзі яго на гэтую анучку,— загадала мама і падала маю старую кашулю.

— На анучку нельга! — запярэчыў я.— Яно павінна жыць толькі ў скрыначцы.

Мама ўзяла ў мяне з рук шчаня, загарнула яго і паклала ў куток за шафу.

— Заўтра раніцай мы высветлім, чаму ты без майго дазволу прынёс дадому шчаня і чаму яно павінна жыць толькі ў гэтай скрыначцы. А цяпер — спаць! — загадала мама і выключыла святло.

На нейкі час у доме ўсталявалася цішыня. Але не паспеў я заснуць, як з кутка зноў пачулася скавытанне Малекулы. «Вазьму да сябе пад коўдру»,— падумаў я, асцярожна устаў з ложка і на дыбачках пракраўся ў кут. Намацаўшы ўпоцемку шчаня, я занёс яго ў ложак.

Яно прыгрэлася ля майго боку, заціхла, але неўзабаве зноў пачало скуголіць і торкацца вільготным носам у маю далонь. Знайшоўшы палец, Малекула пачала прагна смактаць яго.

«Ой, ды яна ж галодная! Што рабіць? Як накарміць яе? — падумаў я. І тут у галаву мне прыйшла геніяльная думка: Дам Малекуле Настаччына малако!» Я кінуўся на кухню,

дзе ў каструлі з цёплай вадой звычайна стаяла бутэлечка з соскай.

Каб вы толькі бачылі, як прагна ўхапілася Малекула за соску. Сэрца маё замірала ад радасці, калі я слухаў яе заўзятае цмоканне.

Малекула апаражніла бутэлечку і заснула. Задаволены сваім вынаходствам, неўзабаве заснуў і я.

Прачнуўся я ад прарэзлівага крыку Настачкі. Тата бегаў па пакоі, гушкаў яе на руках, а мама з бабуляй, зазіраючы ва ўсе куткі, штосьці шукалі.

— І куды толькі яна магла дзецца? Я ж сама паставіла, як заўсёды, у каструлю з вадой. Дзіва нейкае, ды годзе,— мармытала бабуля.

Я адразу скеміў у чым справа і, моцна заплюшчыўшы вочы, з жахам чакаў, што будзе далей. Парожняя бутэлька з соскай ляжала на самым краёчку ложка побач з падушкай. Баючыся, што мама можа заўважыць яе, я вырашыў схаваць бутэлечку пад коўдру. І тут здарылася тое, чаго я ніяк не чакаў: бутэлька ўпала на падлогу і з грукатам выкацілася на сярэдзіну пакоя. Усе кінуліся да яе. А пасля ўзяліся за мяне.

— Навошта ты браў Настаччыну бутэльку? — строга спытала мама.

— Гэта Малек... Не, гэта я... Мне захацелася ўночы малака і...— пачаў маніць я.

— Хлусіш! — закрычаў тата.

— Нягоднік! Ты карміў з Настаччынай соскі шчаня!

А тут яшчэ пад мой бок пацякло нешта мокрае і цёплае.

Аднеквацца было бескарысна. І я расказаў усё пра нашу з Міхасём задуму.

Бацька засмяяўся з мяне, а назаўтра ўвечары, прыйшоўшы з работы, прынёс кніжку, з якой я даведаўся, што памер сабакі залежыць выключна ад яе пароды і што парод гэтых на зямлі існуе вялікае мноства.

А з нашай Малекулы вырас з часам вялікі і разумны сабака.

# ЗМЕСТ

## АПОВЕСЦІ



## АПАВЯДАННІ

**Бяганская Я.**

Б 99 **Нечаканая сустрэча: Аповесці і апавяданні. Для сярэдняга ўзросту.— Мн.: Маст. літ., 1978.—256 с., іл., 1 л. іл.**

Аповесць «Далёка на Поўначы» раскрывае суровую прыгажосць Чукоткі, знаёміць з працалюбівымі і мужнымі людзьмі, якія жывуць у гэтым далёкім краі нашай Радзімы. Другая аповесць — «Сустрэча з морам» — расказвае пра жыццё дзяцей чарнаморскага ўзбярэжжа.

У апавяданнях, якія ўвайшлі ў зборнік, апісваюцца вясёлыя, сумныя і павучальныя гісторыі, што адбываюцца з дзецьмі.

Б $\frac{70803-185}{М\ 302(05)-78}$ 143—78 Бел 2

Ядвига Иосифовна Беганская

НЕОЖИДАННАЯ ВСТРЕЧА

Повести и рассказы

Для среднего школьного возраста

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар А. П. Чаркасаў. Мастак Л. М. Мітурыч. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічныя рэдактары Л. М. Шлапо, С. А. Абрамчук. Карэктар В. В. Шарамета.

ІБ № 164

Здадзена ў набор 17.04.78. Падп. да друку 28.09.78. АТ 09831. Фармат 60×84¹/₁₆. Папера друк. № 1. Гарнітура балтыка. Друк высокі. Ум. друк. арк. 15. Ул.-выд. арк. 12,16. Тыраж 14 000 экз. Зак. 1159. Цана 55 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.